## Rada Naukowa



## Recenzenci

# Tom jubileuszowy dedykowany
## Prof. Aleksandrowi Barszczewskiemu
## z okazji 90. rocznicy urodzin

## OD REDAKCJI

Na dwudzieste jubileuszowe wydanie tomu rocznika „Acta Albaruthenica" składają się prace autorów pragnących uczcić 90-lecie urodzin Profesora dra hab. Aleksandra Barszczewskiego – wybitnego polskiego białorutenisty i literata, związanego z warszawską białorutenistyką od początków jej istnienia do dnia dzisiejszego.

Oddając do rąk Czytelnika 20. numer rocznika białorutenistycznego, redakcja tomu w imieniu wszystkich Autorów, którzy zechcieli uhonorować Czcigodnego Jubilata, składa Profesorowi A. Barszczeskiemu życzenia zdrowia, szczęścia i wszelkiej pomyślności.

Аляксандар Баршчэўскі (літ. псеўданім – Алесь Барскі) нарадзіўся 2 лістапада 1930 г. у вёсцы Бандары Беластоцкага ваяводства ў сялянскай сям'і. Скончыў аддзяленне расейскай філалогіі Лодзінскага ўніверсітэту (1955). З 1956 г. працаваў на кафедры беларускай філалогіі (беларусістыкі) Варшаўскага ўніверсітэту, з 1975 па 2004 г. – загадчык гэтае кафедры. У 1959–1980 гг. – старшыня праўлення Беларускага літаратурнага аб'яднання "Белавежа". Доктар філалагічных навук, прафесар. Аўтар зборнікаў вершаў *Белавежскія матывы* (Беласток 1962), *Жнівень слоў* (Беласток 1967), *Мой бераг* (Мінск 1975), *Блізкасць далёкага* (Беласток 1983), *Лірычны пульс* (Мінск 1987), *"І толькі ў мове роднай буду вечны..."* (Варшава 2015). Перакладае на польскую мову беларускія казкі і беларускую паэзію. Апублікаваў больш за сто навуковых артыкулаў, а таксама манаграфіі: *Historia literatury białoruskiej. Folklor* (Warszawa 1976), *Historia literatury białoruskiej. Okres Rusi Kijowskiej i Wielkiego Księstwa Litewskiego* (Warszawa 1981), *Białoruska obrzędowość i folklor wschodniej Białostocczyzny* (Беласток 1990), *Ignacy Dworczanin – białoruski polityk i uczony* (Warszawa 1990, współautorstwo z A. Bergman i J. Tomaszewskim), *Творцы беларускага літаратурнага руху ў Польшчы* (Мінск 2001), *Беларуская эміграцыйная пісьмовасць* (Варшава 2004).

**Tom 20 • 2020 ACTA ALBARUTHENICA ISSN 1898-8091**

# Spis treści

## STUDIA i ARTYKUŁY

### LITERATURA



### JĘZYK

## VARIA

### MATERIAŁY



### RECENZJE

# Contents

**ACTA ALBARUTHENICA 20: 2020**
DOI: 10.32612/uw.18988091.2020.20.pp.13–23

**Ванда Бароўка / Vanda Barouka**
Віцебскі дзяржаўны ўніверсітэт імя П.М. Машэрава /
Vitebsk State University named after P.M. Masherov
ORCID: https://orcid. org/0000-0002-1838-7691
e-mail: dvkessibar@mail.ru

# Вытокі і функцыі паэзіі ў лірыцы Алеся Барскага

*Origins and functions of poetry in the lyrical works of Ales Barski*
*Geneza i funkcje poezji w tekstach Alesja Barskiego*

У асобе Алеся Барскага ўдала спалучаюцца аматар літаратуры, яе высокапрафесійны знаўца і паэт-творца. Юбілей слыннага Аляксандра Баршчэўскага – добрая нагода яшчэ раз звярнуцца да яго мастацкай спадчыны. Агульнавядома, што творчасць любога аўтара грунтуецца на канкрэтных імператывах. У паэзіі А. Барскага відавочная ўстаноўка на спавядальнасць, шчырасць.

Паэзія – дастаткова складаная форма літаратурнай творчасці. Паэтычны твор, як правіла, лаканічны, а лірыка ёсць надзвычай сэнсава і эмацыйна напоўнены род літаратуры. Кожны элемент у мастацкай прасторы паэтычнага твора спраўджвае пэўную функцыю ў агульнай эстэтычнай сістэме, у вершаваным творы важную ролю выконвае кожнае слова, парадак слоў, гукапіс, элементы паэтычнага сінтаксісу, што спрыяюць выказванню аўтарскай думкі. Лірыку як род літаратуры вылучае эмацыйнае выяўленне гісторыі чалавечых перажыванняў, меркаванняў і роздумаў. Лірыцы ўласціва наяўнасць медытатыўнасці, унутраны свет чалавека ў лірыцы раскрываецца не толькі праз прадметна-лагічны лад маўлення, але і праз выразнасць і эмацыйнасць паэтычнага маўлення. Прадмет лірыкі – перажыванні, найперш перажыванні паэта як асобы пэўнага часу, пэўнай культуры, пэўных мастацкіх прынцыпаў. Непаўторнасць лірычным творам надае выбар мастацкай формы, у творчасці А. Барскага ў гэтым сэнсе відавочнае перасячэнне традыцый сусветнай культуры, а таксама беларускай і польскай паэтычных культур.

Лірыка А. Барскага, прысвечаная асэнсаванню вытокаў і функцый паэзіі, адрозніваецца тым, што аб’ектам асваення ў ёй аказваецца рэчаіснасць, адбітая ў плыні адчуванняў і перажыванняў паэта, але гэта не значыць, што знешнія рэаліі ў ёй не адбіваюцца. Лірыка ўвогуле і лірыка канкрэтнага аўтара здольная ўсебакова пазнаваць і мадэляваць свет, для А. Барскага – гэта свет інтэлігента другой паловы ХХ ста-

годдзя. У лірычных творах падзеі і з'явы паказваюцца праз глыбока асабістае ўспрыманне. Суб'ектыўнасць – бясспрэчная вартасць лірыкі, што мімаволі нараджае да яе давер. Момант аб'ектыўнага ў лірыцы адмысловы, бо за глыбока асабістым у таленавітага паэта заўсёды знаходзіцца агульначалавечае, агульнае. У лірыцы таксама непаўторна спалучаюцца рацыянальнае і эмацыянальнае. Трэба зазначыць, што лірыцы А. Барскага таксама далёка не чужы рацыяналізм. Выяўленне ў яго вершах пачуццяў і перажыванняў чалавека другой паловы XX стагоддзя ўгрунтавана на думках, асацыятыўных супастаўленнях з'яў, падзей, адчуванняў, а не толькі на эмоцыях. Вартасць эмацыянальнага ў лірыцы А. Барскага сцвярджаецца на рацыянальным фундаменце. Нярэдка паэт падключае апавядальніцкія элементы, але яны напаўняюцца пачуццямі і перажываннямі, роздумамі, з дапамогай якіх аўтар даследуе складаны свет чалавека-сучасніка.

Лірыка А. Барскага адкрывае адмысловае духоўнае самаадчуванне чалавека другой паловы XX стагоддзя, што разумее памежнасць свайго існавання ў розных кантэкстах: гістарычным, этнакультурным, псіхалагічным. Пэўнае месца ў ёй займае праблематыка эстэтычная з акцэнтаваннем аксіялагічных установак пісьменніка. Верш *Маці казала*, відаць, угрунтаваны на ўспамінах ранняга дзяцінства. Паводле мікрасюжэта падчас гарачай і рупнай пары жніва маці ўзяла з сабой на поле калыску з маленькім хлопчыкам, хлопчык убачыў валошку, выпаўз з калыскі, каб узяць кветку ў свае малыя ручкі. Пераказ эпізоду з далёкага маленства ў дадзеным вершы суправаджаецца ёмістай аўтарскай сентэнцыяй пра загадкавасць вытокаў паэзіі і таямнічасць прыцягнення паэзіі:

Хто ведае, дзе і калі,
Хто ведае, як
Зацвітае паэзіяй сэрца.
[Барскі 1975: 56]

Для беларускай паэзіі XX стагоддзя з лёгкай рукі М. Багдановіча стаў характэрным зварот да антанімічных вобразаў каласоў, што сімвалізуюць спажытак, і васількоў, што сімвалізуюць красу, а таксама выкарыстанне вобраза васілька як ўвасаблення някідкай прыгажосці роднай зямлі. Васількі (на Берасцейшчыне іх звычайна называюць валошкамі) апеты ў заходнееўрапейскай паэзіі, дзе звычайна з'яўляюцца ўвасабленнем не толькі прыгажосці, але і гарманічнасці, адначасовага спалучэння прастаты і выкшталцонасці. Паводле аўтара верша *Маці казала*, сэрца *зацвітае паэзіяй* непрадказальна, інтуітыўна, але прыгажосць, найперш прыгажосць роднай прыроды, навакольнага свету, спачатку нараджае паэзію ў душы, а потым прыводзіць чалавека да творчасці, напрыклад, да творчасці паэтычнай. Арганічным працягам размовы з чытачом пра фундамент паэзіі, пра пабуджальныя сілы паэтычнай творчасці стаў верш з запамінальнай метафарычнай назвай

*Ногі ў агні па калені*. Дружнае цвіценне верасоў нагадвае лірычнаму герою полымя, пажар. Ногі, што патанулі ў верасах, падобныя да ног у сіне-ружовым полымі. Прыгажосць прыроды, лічыць А. Барскі, цалкам палоніць чалавека:

Іду пажарам верасоў
І чую, як красой
Мне напаўняе восень жмені.
Вядзе мяне, як каня.
Пайду, куды хоча,
Заплюшчыўшы вочы.
[Барскі 1975: 37]

Апантаны прыгажосцю восеньскай прыроды, лірычны герой А. Барскага параўноўвае сябе з рускім паэтам Сяргеем Ясеніным, які быў надзвычай эмацыйным чалавекам, тонка адчуваў прыроду і памастацку ўзнаўляў незабыўныя пейзажныя малюнкі ў сваіх вершах:

Душа, як паляна
Ад верасу п’яная.
Я сёння ніякі,
Я сёння асенні,
Я сёння Ясенін,
Без розуму, без галавы…
[Барскі 1975: 37]

А. Барскі ў вершы не проста эпізадычна згадвае Сяргея Ясеніна, ён звяртаецца і да матываў творчасці гэтага паэта, і да яго выяўленчай стылістыкі, у прыватнасці, да запамінальных метафар, што ўзнікаюць у выніку збліжэння розных, часам аддаленых адна ад адной з’яў. Прыгажосць, у трактоўцы аўтара верша, духоўна перараджае чалавека, музыка красы не толькі палоніць чалавека, але прымушае асобу, што судакранулася з прыгажосцю прыроды, па-новаму сябе ідэнтыфікаваць, прызнаць імператыўную і крэатыўную волю прыгажосці і навакольнага свету:

Я палявы,
Я баровы,
Я верасовы.
[Барскі 1975: 37]

Іншымі словамі, краса натхняе на творчасць, ненавязліва і ў той жа час катэгарычна нагадвае, што чалавек – частка прыроды. Анафары ў вершы падмацоўваюць яго ідэю.

У творы *Калі заглушыш гоман гарадоў* паэт дзяліўся сваімі думкамі пра тое, як пішуцца вершы, з чаго яны складаюцца. А. Барскі на пачатку звяртаецца да матыву адзіноты, апетага еўрапейскімі рамантыкамі, як умовы паэтычнай дзейнасці і раіць працаваць над мастацкімі творамі, адасобіўшыся ад жыццёвага тлуму, але паэт не літаральна паўтарае думкі іншых, а дадае свае высновы:

Калі заглушыш гоман гарадоў
Сваім маўчаннем, цішынёй,
І як аддзелішся
Ад свету занавесам,
І як прыліпнеш да Айчыны ўспамінам,
Тады, напэўна, створыш верш.
[Барскі 1975: 66]

Напісанне твора – рэч нялёгкая, аднак вынік паэтавай працы сваім існаваннем абавязаны не толькі самому паэту, ён полігенетычны і шматзначны; ён у прынцыпе не можа быць вынікам адной толькі аўтарскай фантазіі ды працы:

Але што цалкам ёсць ён твой,
Не вер:
Заглянь у глыбіню яго –
Убачыш карагоды зор,
Убачыш трапяткі агонь, віно ў крыштальных чарках,
Палічыш верша элементы:
Адзін – плод сэрца і душы,
Другі – чар роднае зямлі,
І трэці – дар Пятраркі.
[Барскі 1975: 66]

Паэтычны твор як народжаны дарам Пятраркі – полісемантычная аўтарская дэфініцыя, што прымушае згадаць знакамітага паэта эпохі Рэнесансу, што лічыцца майстрам высокамастацкіх твораў і апантаным песняром кахання ды зямнога хараства. У разуменні А. Барскага паэзія заснавана на рэху, на адгалосках жыцця, літаратурных твораў папярэднікаў, на водгуллі цяперашніх і ранейшых настрояў і ацэнак аўтара. Выдатны беларускі паэт другой паловы XX – пачатку XXI стагоддзя Алесь Разанаў слушна адзначыў:

> Літаратура развіваецца не лінейна, а пасоўваючыся ў папярэдняе, у мінулае, ушчыльняючыся. Жывое шукае жывое, і новыя творцы знаходзяць пад напластаваннем дзесяцігоддзяў, а то і стагоддзяў, сваіх папярэднікаў, каб узаемадзейнічаць з імі і, працягваючы іх, расці далей. Адтуль расці. Гэтак садоўнік, ходзячы пасадзе, абразае засохлае голле, вяртаючы заўтрашнім атожылкам жывую аснову, вяртаючы сапраўднасць [Разанаў 1995: 233].

Падобныя меркаванні не чужыя і для А. Барскага. Сябе паэт адносіць да тых аўтараў, што моцна знітаваныя з роднай зямлёй, што ніколі не выходзяць з яе прыцягнення, калі верыць адначасова аўтапсіхалагічнаму і аўтабіяграфічнаму лірычнаму герою верша *Я так блізка к зямлі*, дзе гучыць думка пра моцную ўкаранёнасць у родную глебу:

Я так блізка к зямлі
Як сасна,
Як колас,
Як травы.
[Барскі 1975: 58]

Зямля – выток, вечная калыска, вечны прыстанак, крыніца творчасці, і гэта трэба ўспрымаць як экзістэнцыйную наканаванасць:

Зямля мая ўчора,
Сягоння і заўтра.
У ёй ёсць мой хлеб,
Мая песня і сіла,
У ёй мая смерць
І зацішак магілы.
[Барскі 1975: 58–59]

Мудрымі высновамі пра ўзаемаадносіны паэта і мовы прасякнуты верш *Урастайце, паэты, у словы*:

Урастайце, паэты, у словы
Па пояс, па грудзі,
Як дрэва ў глебу,
Карэнні трымайце
Ў крыніцах глыбінных.
[Барскі 1975: 68]

А. Барскі заўважае, што слова дае магчымасць рэалізавацца паэту як творцу, калі паэт унутрана гатовы да творчасці:

Слова ёсць хлебам,
Слова ёсць бацькам
І сынам, турмой
І святыняй.
Бывае гняздом, дзе стуліць кожны крылы
І зноў распасцерці
Да лёту,
Калі грудзі
Шчасця не месцяць,
Калі радасць у сэрцы, як готык.
[Барскі 1975: 68]

Паэт, на думку А. Барскага, павінен усведамляць кругазварот слова ў прыродзе, бо паэт бярэ гатовыя словы для творчасці, а потым вяртае іх мове, але абноўленымі, ці прыдумвае свае, паэт адначасова і палоннік мовы, і яе творца:

І гэта павінна быць мэтай
Імкненняў паэта –
Узняцца з гнязда сваёй мовы
І вярнуцца са знойдзеным словам.
[Барскі 1975: 68]

Дарэчы, ідэя пра паэта-палонніка і творцу мовы, што стала папулярнай з пачатку XX стагоддзя ў еўрапейскай літаратуры, з'яўлялася асноватворнай у лірыцы надзвычай таленавітага беларускага паэта Рыгора Барадуліна. У творы А. Барскага *Верш – згартанне характва ў пракосы* прысутнічае арыгінальнае параўнанне верша з хвалямі пахучых траў, з заплятаннем і расплятаннем кос. Сам верш з'яўляецца

паклонам Бацькаўшчыне. Добры верш радуе аўтара, як даводзіць А. Барскі, але прымушае пакутаваць перад і пасля яго напісання, на значную частку мастацкі твор складаецца з аўтарскага болю, стварэнне верша без аўтарскіх пакутаў праблематычнае:

Верш, як ружы жнівеньскіх аблокаў,
У анёльскай рэзблены майстэрні,
Калі лічыш прыгажосць пялёсткаў,
Палічы ў ім таксама церні.
[Барскі 1975: 67]

Удала выкарыстанае проціпастаўленне пялёсткаў ружы і церняў акцэнтуе ўвагу на складанасці псіхалагічных момантаў творчасці.

Адзін з вершаў А. Барскага пра вытокі паэзіі пачынаецца імператыўным радком *Мая паэзія – мой абавязак*. Для паэта, па яго сцвярджэнні, самыя высокія абавязкі – абавязкі перад зямлёй і родным словам:

Перад зямлёй і перад родным словам.
Стаяць паэмы і бяроз і вязаў,
Складаюцца на вечную аснову.
[Барскі 1987: 120]

Паколькі паэзія разліта ў прыродзе:

Вялікаю паэзіяй ёсць поле
І чыстыя, бясхмарныя нябёсы.
[Барскі 1987: 120],

то паэт абавязаны быць майстрам сваёй справы. Крыж і місія паэта ў аўтарскім разуменні раскрываліся ў вершы з яркай назвай *Паэт – удовін сын*. Словазлучэнне *ўдовін сын* выклікае асацыяцыю з беларускай народнай казкай пра фізічна і духам моцнага ўдовінага сына. Параўнанне паэта з удовіным сынам выкарыстоўваецца для таго, каб сцвердзіць, што шлях творцы самаахвярны і цярністы, што творцу неабходна вялікая сіла для пераадолення перашкод, што ў жыцці дзеля дасягнення абранай мэты ён павінен разлічваць толькі на сябе самога:

Шчаслівым быць не можаш,
Ты горкі працаўнік,
А не герой удалы.
А верш пісаць –
Што ў жорнах
Малоць збожжа:
Малоць,
Малоць,
Малоць
І мець мукі ўсё мала.
І што б ты ні сказаў,
Напэўна, будзе блага,
Бо можна было б лепш –
Так многія параяць.
[Барскі 1987: 127]

Аўтар верша артыкулюе думку пра важнасць ў паэзіі заставацца самім сабой, быць верным сваім мастацкім ідэям і не спадзявацца на ўдзячнасць чытацкай публікі:

Ты не шукай, аднак,
Узнагароды ці павагі,
А толькі думай,
Як сабе не здрадзіць.
[Барскі 19875: 127]

У А. Барскага сваё ўяўленне пра ролю літаратуры, у прыватнасці, паэзіі. Так, у вершы *Каменныя бабы інкаў* ён падкрэслівае шматаблічнасць культуры чалавецтва, што ўключае самыя розныя элементы, артэфакты, ад самых простых да складаных.

Старагрэчаскія вазы,
Фрэскі з полацкіх сабораў,
Танцы з афрыканскіх бушаў,
Вершы Багдановіча Максіма
І казкі цёткі Паланеі
Складаюцца на вечную
Мазаіку,
Названую культурай чалавецтва.
[Барскі 1987: 125]

Культура чалавецтва сапраўды мазаічная. У пералічаным паэтам коле элементаў культуры чалавецтва заслугоўвае ўвагі згадванне фальклору (*казкі цёткі Паланеі*) і вершаў Максіма Багдановіча як паўнавартасных частак культуры чалавецтва.

Любы аўтар задумваецца над функцыямі мастацтва слова. А. Барскаму ў гэтым плане ўласцівы дастаткова ўзважаны, філасофскі падыход. У лірыцы А. Барскага істотныя функцыі абуджэння чалавечай фантазіі і рэпрэзентацыі рэчаіснасці ды роднага краю. Верш *Нарач* сённяшні шаноўны юбіляр прысвяціў выдатнаму беларускаму паэту другой паловы XX стагоддзя Максіму Танку, бліскучаму знаўцу мастацтва слова і яго законаў, сыну нарачанскай зямлі, натхнёнаму песняру гэтага знакамітага возера, якое нярэдка называюць беларускім морам. А. Барскі прызнаецца:

Мне Нарач сінім вокам не маргала,
Слядоў я не пакінуў на пяску азёрным,
Не бачыў яе буйных, сакавітых хваляў,
Кануўшых у бяздонне светаў зорных.
[Барскі 1975: 18]

Аднак уяўленне А. Барскага пра возера Нарач, яго прыгажосць, пра насельнікаў гэтага краю сфарміравалі натхнёныя радкі песняра Нарачы:

Цудоўны кут краіны роднай,
Людзей, прыроду, вечары і ранкі
Знайшоў у гордай і прыгожай
Паэзіі Максіма Танка.
[Барскі 1975: 18]

Творы пісьменства і сама творчая дзейнасць, як зазначае А. Барскі, дапамагаюць чалавеку адчуць значнасць слова, высокамастацкая і змястоўная паэзія дае сілы пераносіць жыццёвыя нягоды. Беларускаму і ўсходнеславянскаму першадрукару, перакладчыку Бібліі, паэту прысвечаны верш *Францішак Скарына*. У мастацкім увасабленні А. Барскага Францыск Скарына – самаадданы працаўнік, асветнік, патрыёт, гуманіст, аптыміст, што працуе дзеля будучыні і славы роднай зямлі:

Вокны на каменні бляскі скупа сочаць.
Скарына схіліўся над лістом паперы.
Невымоўнасць веры напаўняе вочы,
Кніга ў роднай мове радасці не змерыць.
І дрыжаннем шчасця сэрца яго поўна.
Праца і надзеі не прапалі дарам!
На ўсход, на захад, поўдзень і на поўнач
Пойдуць "Падарожнай кнігі" экзэмпляры.
І глядзіць пяшчотна на рады адбіткаў
З вылажаных кніжак на шырокай лаве:
"Звыклым людзям кнігі прынясуць пажытак" –
І краіне роднай павялічаць славу.
[Барскі 1975: 12]

*Сціплы і вялікі Скарына Францішак* – увасабленне служэння слову і людзям у дадзеным вершы, чалавек, што разумее вялікую сілу пісьмовага слова, якое адукуе чалавека, выхоўвае яго этычна і эстэтычна. Гэты верш – прыклад герменеўтычнага твора, дзе паэт рэпрэзентуе сваё бачанне дзеяча культуры эпохі Адраджэння.

Еўрапейскія асветнікі верылі ў здольнасць літаратуры выхоўваць чалавека, рамантыкі практычна не сумняваліся ў тым, што творца ўзвышаецца над натоўпам, над грамадзянствам, што ён належыць да абраных, здольных прадчуваць ці ведаць будучыню. Верш *Паўлюк Багрым* А. Барскага – спроба асэнсаваць сугестыўную і рэалізаваць рэпрэзентатыўную, герменеўтычную і мнеманічную функцыі літаратуры. Асоба і дзейнасць П. Багрыма ў сучасным літаратуразнаўчым дыскурсе дастаткова спрэчная, на момант напісання А. Барскім верша спецыялісты па беларускай літаратуры ХІХ стагоддзя практычна не сумняваліся ў рэальным існаванні гэтай асобы. Уласна, у вершы А. Барскага размова ідзе найперш пра ролю мастацкага слова, пра мастацкае слова як заклік да дзеяння. Герой верша – стары чалавек, што працуе ў кузні. Ён з жалем бачыць, што

Над краінай забітай, сонна
Кружыць свабода прывідам.
Не выгарнеш думак-іскар
У звонкую верша форму.
Патанула паэзія ў прысак
Цяжкага жыццёвага горну.
[Барскі 1987: 34]

Фізічная праца П. Багрыма, каваля вясковай кузні, не прыносіць яму асаблівага задавальнення, але ён, нягледзячы на шаноўны ўзрост, яшчэ поўны сіл і прагне перамен, пераважна сацыяльных:

Хай бурай краіна грымне,
Заірдзіцца маланкай-волатам!
Можа, грэбенем кос сялянскіх
Прычэша натоўп разлогі.
Можа, загад атаманскі
Запоўніць батрацтвам дарогі.
[Барскі 1987: 34]

Па духу П. Багрым у мастацкім увасабленні А. Барскага – гэта свабодалюбівы чалавек, змагар. У звароце паэта да П. Багрыма ёсць напамін пра смерць, пра трагічны лёс мастацкай спадчыны паэта-самавука XIX стагоддзя. Лёс спадчыны даў паэту нашага часу сумныя падставы назваць П. Багрыма мёртвым паэтам. Паводле аўтара верша *Паўлюк Багрым,* якраз лёс мастацкай спадчыны – жывое сведчанне прысутнасці ў літаратуры асобы-творцы.

Ты станеш мёртвым паэтам,
Іскры пырскаюць рыфмамі оды.
[Барскі 1987: 34]

Іншымі словамі, напісанае захоўвае памяць пра аўтара, функцыя паэзіі – засведчыць прысутнасць аўтара ў літаратуры. Напісанае П. Багрымам страчана, памяць пра яго як пра творцу надзвычай хісткая, сведчыць паэт А. Барскі.

У вершы *Імкненне* А. Барскі выказаў сваю запаветную мару аб сапраўдным, ідэальным вершы:

Стварыць верш прыгожы:
Як неба бязмежжа,
Як мары дзяўчыны,
Як спеў Белавежы.
Верш просты і шчыры:
Як сонца праменні,
Як слёзы дзіцяці,
Як маці жаданні.
[Барскі 1987: 129]

Ідэал, безумоўна, настройвае на працу, але дасягнуць ідэала цяжка. Паэт потым удакладняе, што творцу важна яшчэ

Даць верш справядлівы:
Як песні сумленне,
Як мара шчаслівых,
Як сонца гарэнне.
[Барскі 1987: 129]

Лірыка паэта сведчыць, што мары напісання *прыгожых* і *справядлівых* вершаў А. Барскі быў верны ўвесь свой творчы шлях. Літаратуразнаўцы да гэтага часу не могуць вызначыцца, якое насамрэч кола функцый выконвае мастацкая літаратура. Звычайна ў ліку першых называюць такія функцыі, як пазнавальная, выхаваўчая, камунікатыўная, эстэтычная, а потым ідзе мноства іншых. А. Барскі зрабіў сваё ўдакладненне, вызначыў новую функцыю літаратуры, а канкрэтней, паэзіі, калі ў адным са сваіх вершаў заявіў: "Я буду з песняй маладзець" [Барскі 1975: 9]. Меладычныя вершаваныя творы ў беларускай літаратуры многія аўтары да сярэдзіны 1920-х гадоў нярэдка называлі песнямі, маладзець з песняй азначае маладзець са сваімі вершамі. Гэта надзвычай смелае, арыгінальнае, дасціпнае і прадуктыўнае вызначэнне яшчэ адной функцыі паэзіі, прапанаванае знаўцам прыгожага пісьменства і таленавітым творцам.

## Бібліяграфія

Barski Ales. 1975. *Moj berah: verŝy*. Minsk: Mastackaâ litaratura [Барскі Алесь. 1975. *Мой бераг: вершы*. Мінск: Мастацкая літаратура].

Barski Ales. 1987. *Liryĉny puls: verŝy*. Minsk: Mastackaâ litaratura [Барскі Алесь. 1987. *Лірычны пульс: вершы*. Мінск: Мастацкая літаратура].

Razanaù Ales. 1987. *Palâvannē u rajskaj dalinē*. Minsk: Mastackaâ litaratura [Разанаў Алесь. 1995. *Паляванне ў райскай даліне*. Мінск: Мастацкая літаратура].

**ABSTRACT**: A. Barski's lyrical works approach different themes. The understanding of aesthetic issues is not the least important among them. A. Barski sees the origins of poetry in general in life, and bases his own poetry on the beauty of the surrounding nature and the cultural monuments that stimulate his creative activity. A. Barski's poems are autopsychological, that is to say, the poet's lyrical hero is spiritually close to the author. A. Barski appreciates the truthfulness and sincerity of the author-creator. The range of functions of poetry, from the point of view of A. Barski, is wide. The poet singles out such functions as the function of awakening the human imagination, the representation of reality, evaluation, mnemonics and hermeneutics, as well as the original poetic function – the function of preserving youth in the creative process.

**KEYWORDS**: poetry, lyrical hero, aesthetic issues, functions of poetry, axiological attitudes of the writer.

**STRZESZCZENIE**: Liryka A. Barskiego jest różnotematyczna. Zrozumienie zagadnień estetycznych jest jednym z ważnym aspektów interpretacyjnych. A. Barski źródła poezji upatruje w życiu, a swojej w pięknie otaczającej przyrody i zabytków kultury, które stymulują twórczość. Liryka A. Barskiego jest autopsychologiczna, podmiot liryczny to osoba bliska duchowo autorowi. A. Barski docenia prawdziwość i szczerość autora-twórcy. Zakres funkcji poezji z punktu widzenia A. Barskiego jest szeroki. Poeta wyróżnia takie funkcje, jak rozbudzanie ludzkiej wyobraźni, reprezentowanie rzeczywistości, ewaluacyjne, mnemoniczne i hermeneutyczne, a także funkcję oryginalną – funkcję zachowania młodości człowieka w procesie twórczym.

**SŁOWA KLUCZOWE**: poezja, podmiot liryczny, zagadnienia estetyczne, funkcje poezji, postawy aksjologiczne pisarza.

**РЭЗЮМЭ**: Лірыка А. Барскага шматтэмная. Асэнсаванне эстэтычнай праблематыкі займае ў ёй не апошняе месца. Вытокі паэзіі ўвогуле А. Барскі бачыць у жыцці, а сваёй паэзіі – у прыгажосці навакольнай прыроды і ў помніках культуры, што стымулююць яго творчую актыўнасць. Лірыка А. Барскага аўтапсіхалагічная, лірычны герой паэта – асоба, духоўна блізкая аўтару. А. Барскі высока ацэньвае праўдзівасць і шчырасць аўтара-творцы. Спектр функцый паэзіі, з пункту гледжання А. Барскага, шырокі. Паэт вылучае сярод іх такія функцыі, як абуджэння чалавечай фантазіі, рэпрэзентацыі рэчаіснасці, ацэначную, мнеманічную і герменеўтычную, а таксама арыгінальную функцыю – функцыю захавання чалавекам маладосці ў працэсе творчасці.

**КЛЮЧАВЫЯ СЛОВЫ**: паэзія, лірычны герой, эстэтычная праблематыка, функцыі паэзіі, аксіялагічныя ўстаноўкі пісьменніка.

**ACTA ALBARUTHENICA 20: 2020**
DOI: 10.32612/uw.18988091.2020.20.pp.25–66

**Мікола Хаўстовіч/ Mikałaj Chaustowicz**
Uniwersytet Warszawski / University of Warsaw
ORCID: https://orcid.org/0000-0002-3007-0603
e-mail: m.khaustovich@uw.edu.pl

# Выданні і рукапісы *Гутаркі старога Дзеда*

*Editions and Manuscripts of* CONVERSATIONS OF THE OLD GRANDFATHER
*Wydania i rękopisy* GAWĘDY STAREGO DZIADA

З даследаванняў Генадзя Кісялёва і Зінаіды Тальвірскае мы ведалі, што *Гутарка старога Дзеда* была дастаткова папулярнаю ў першай палове 1860-х гадоў, што захаваліся “шматлікія” (sic!) друкаваныя асобнікі, а таксама рукапісныя копіі ў бібліятэках і архівах. Вядома таксама, што “парыжскае” выданне твора мелася ў зборах Вінцэнта Мяніцкага: у чэрвені 1889 г. Браніслаў Эпімах-Шыпіла перапісаў *Гутарку…* у Селігорах, а пазней уключыў яе ў сваю *Biełarusskuju Chrestomatiju* [Хаўстовіч 2017: 217–222, 269–270]. У 1890-я гады (пра час мяркуем на падставе матэрыялаў, якія знаходзяцца побач) атрымаў у свае зборы копію (у самаробным сшытку) таго самага “парыжскага” выдання” Аляксандар Ельскі [AGAD 378, $140_1$, k. 184–194]. Два друкаваныя выданні – “парыжскае” і “пазнанскае” – ведаў Яўхім Карскі: пра іх ён паведаміў (і коратка ахарактарызаваў) спачатку ў першым томе *Бѣлоруссовъ* [1903: 443–445], а пасля ў трэцяй частцы трэцяга тома [1922: 86–87]. На жаль, навуковец не паінфармаваў пра месцазнаходжанне выкарыстаных асобнікаў твора.

Згадка Рамуальда Зямкевіча пра Вінцэся Каратынскага як аўтара *Гутаркі…* [Земкевіч 1918: 17], згаданыя публікацыі Я. Карскага, а таксама (мажліва) архіў Гальяша Леўчыка сталіся для Максіма Гарэцкага падставаю дзеля ўключэння твора ў раздзел *Вінцэсь Каратынскі* ў *Хрыстаматыі беларускае літаратуры* [1922: 172] і, вядома, у *Гісторыю беларускае літаратуры* [Гарэцкі 1920: 93–94]. Больш дакладна гісторык літаратуры крыніцаў не называе, але не складана здагадацца, што дзеля *Гісторыі…* ён выкарыстаў цытаты з кніг Я. Карскага, а вось на патрэбы *Хрыстаматыі*... адаптаваў нейкі невядомы сёння рукапіс (магчыма, са збораў Г. Леўчыка)[1]. Характарыстыка твора ў М. Гарэцка-

[1] У *Хрыстаматыі* [1922: 172] М. Гарэцкі падае катрэн “Там лоб голяць і муштруюць...”, які ёсць толькі ў двух даступных нам сёння тэкстах *Гутаркі*…: у “Dzienniku Literackim” і г. зв. “уроцлаўскім” рукапісе.

га – у духу сацыялістычных ідэалаў эпохі; падкрэсліваецца таксама адсутнасць у творы ўласнабеларускага патрыятычнага складніка:

> Заданьні брошуркі – рэволюцыйна-агітацыйныя, але ня столькі беларускія, сколькі польскія. Аўтар кажа аб дужа цяжкой долі беларускага народу пад маскальскім уціскам, пералічвае, колькі ёсьць рознага ліха і бяды ад яго: як падаткі, рэкруцкая павіннасьць, чыноўнікі, адбіраньне касьцёлаў на цэрквы і г. д.; даводзіць, што ў Сэвастопальскую вайну французы ішлі ратаваць палякоў і беларусаў; засьцерагае, каб ня мелі веры папом, быццам маскалі скасуюць паншчыну і г. д., – а ўсё гэта робіць дзеля таго, каб усе беларусы пашлі разам з палякамі, як толькі на вясну “гранець пранцуз, паляк з жаўнярамі”[1]. Ён пацяшае, што пайшоўшы з палякамі, “будзем роўныя з панамі” [Гарэцкі 1926: 140].

Наступнае пакаленне беларускіх гісторыкаў і літаратуразнаўцаў амаль не згадвала ў сваіх працах *Гутарку…*, бо ў эпоху вульгарнага сацыялагізму падобныя тэксты ўспрымаліся адназначна негатыўна:

> Польскія памешчыкі ў саюзе з апалячанымі беларускімі памешчыкамі і інтэлігентамі ў імя таго, каб у барацьбе з Расіяй схіліць на свой бок беларускіх сялян, выдаюць рад “беларускіх твораў” антырускага характару[2]. У перыяд падрыхтоўкі да польскага паўстання ў 1861–1862 гг. былі распаўсюджаны на беларускай мове такія “творы”, як: *Гутарка двух суседаў*, *Гутарка старога дзеда*, *Перадсмяротны разгавор Пустэльніка Пятра, які жыў пушчы дзевяцьдзесяць год, а памёр маючы сто сорак год*, *Крыўда і праўда*, *Гутарка беларуская* і іншыя. Усе гэтыя “творы” напісаны па спецыяльнаму заказу польскіх памешчыкаў і адыгрывалі пэўную социяльную ролю. Гэта роля заключалася ў тым, каб пасеяць нацыянальную варожасць паміж рускім і беларускім народамі, узбудзіць нянавісць да Расіі і рускага народа і ўнушыць беларускаму селяніну ілжывую думку, што ён не знойдзе сабе нідзе для сябе лепшай ўлады, чым улада польскіх памешчыкаў. Тут часам знешне робіцца спроба выкрыцця царызма, але дзесяткі разоў паўтараемае слова “маскаль” выдае яго аўтараў з галавой як прагніўшых нацыяналістаў, змешваючых царскае, урадавае з усім рускім [Лушчыцкі 1958: 167].

Вяртанню *Гутаркі…* ў кантэкст беларускае літаратуры паспрыялі юбілейныя мерапрыемствы, звязаныя з угодкамі Powstania Styczniowego – Восстания 1863 года, якія ў 1963 годзе адзначаліся на дзяржаўным узроўні і, апрача таго, мелі шырокую навукова-даследчую і выдавецкую праграму, што распрацавалі Акадэмія навук СССР, Polska Akademia Nauk, а таксама Акадэміі навук ЛітССР, БССР і УССР.

---

[1] Гэты радок ёсць толькі ў “парыжскім” выданні *Hutarki…*.

[2] Іван Лушчыцкі размяжоўваў, аднак, “беларускія творы” “польскіх памешчыкаў” і “Мужыцкую праўду” Кастуся Каліноўскага. Сённяшнія прарасейскія публіцысты і “гісторыкі” Беларусі гэтага ўжо не робяць: “«Мужицкая правда» <…> призывала к борьбе против русских. Причем не только против русской администрации, а против всех русских. Листовка обращалась к крестьянам не с этнических позиций, в ней не было упоминания, что местные крестьяне – белорусы или литвины”. Гл.: [Гронский 2005: 224–233].

У 1961 г. у беларускамоўным друку з'явіліся два надзвычай важныя артыкулы, у якіх – згодна з трактоўкай Паўстання 1863 года як вызваленчай барацьбы народаў былое Рэчы Паспалітае – давалася цалкам станоўчая характарыстыка *Гутаркі...* і рабіліся спробы атрыбуцыі твора. Абодва даследнікі не былі звязаныя з беларускім акадэмічным асяродкам: Мацей Канапацкі працаваў у беластоцкай "Ніве", а Генадзь Кісялёў – у Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве Літоўскай ССР. Склалася парадаксальная сітуацыя: тэкст "прагніўшых нацыяналістаў", ужо, хіба, канчаткова асуджаны на забыццё[1], раптам займеў ажно двух – і не абыякіх! – аўтараў: Г. Кісялёў падаваў важкія аргументы на карысць таго, што *Гутарка...* належыць пяру Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча [Кісялёў 1961: 119–138], а М. Канапацкі не менш пераканаўча сцвярджаў, што напісаная была яна Вінцэсем Каратынскім [Канапацкі 1961].

Гіпотэза М. Канапацкага, асцярожна[2] падтрыманая шэрагам публікацый маладога, але ўжо аўтарытэтнага Адама Мальдзіса [1968: 73–74], стала дамінавальнай у беларускім літаратуразнаўстве: укладальнікі ўніверсітэцкае хрэстаматыі ўключылі ў сваё выданне [*Беларуская літаратура XIX стагоддзя* 1971: 119–120] фрагменты тэксту *Гутаркі...* з *Хрыстаматыі...* М. Гарэцкага, а Уладзімір Мархель змясціў 72 радкі з "парыжскага" выдання ў таміку твораў В. Каратынскага (у раздзеле *Творы, якія прыпісваюцца В. Каратынскаму*) [1981: 153–155, 171].

Упершыню цалкам у беларускім друку[3] *Гутарка...* была ўзноўленая ў часопісе "Спадчына" ў 1999 г. [Хаўстовіч 1999: 86–105]. Тэкст падаваўся паводле "парыжскага" выдання з далучэннем у спасылках варыянтаў львоўскае газеты "Dziennik Literacki" і "кракаўскага" рукапісу.

У 2008 г., як твор В. Дуніна-Марцінкевіча, *Гутарку...* ўключыў Язэп Янушкевіч у *Збор твораў у двух тамах* (раздзел *Dubia*) Беларускага Дудара. Тут выкарыстоўваецца "парыжскае" выданне[4]; укладальнік падае тэкст як лацінкаю[5], так і транслітараваны яго варыянт [Дунін-Марцінкевіч 2008: 500–512]. Дадзеная публікацыя была перадрукаваная

---

[1] Мяркуем па тым, што *Гутарку...*, а таксама шэраг іншых паўстанцкіх твораў нават не згадаў у сваёй манаграфіі тагачасны дырэктар Інстытута літаратуры Акадэміі навук БССР Васіль Барысенка [1957].

[2] *Гутарка...* аднесена даследнікам да "твораў польскай арыентацыі", якія, нягледзячы на тое, што ў іх "асабліва выразна праявіліся шляхецка-нацыяналістычныя і рэлігійна-містычныя погляды правага крыла польскага вызваленчага руху", "нельга адносіць <...> да твораў выключна рэакцыйных. Крытыкай існуючых парадкаў яны ўзмацнялі ў сялян пачуццё варожасці да прыгонніцтва і самадзяржаўя" [Гл.: Мальдзіс 1969: 53–54].

[3] У 1925 г. Аўгусцінас Янулайціс перадрукаваў літаграфію паводле рукапісу, які захоўваўся ў Бібліятэцы Урублеўскіх [Гл.: Janulaitis 1925: 216–219].

[4] Каментар, праўда, адсутнічае, але "парыжскі" тэкст лёгка "пазнаецца".

[5] З заўважаных мадэрнізацый тэксту адзначым выкарыстанне літары ***ŭ***, хоць у выданні 1862 г. яна амаль не ўжывалася: толькі некалькі разоў гук [ў] друкар, не маючы адпаведных графем, перадаў адметным чынам – як ***ù***, ***ü*** ці ***u'***.

ў адным з тамоў *Залатой калекцыі беларускай літаратуры* [2013: 562–569, 838–839].

На жаль, нягледзячы на шэраг важных публікацый[1], што з'явіліся ў друку за апошнія 50 гадоў, *Гутарка...* усё яшчэ застаецца на перыферыі літаратуразнаўчага даследавання. Галоўная прычына заключаецца ў тым, што ў Беларусі фактычна адсутнічаюць першакрыніцы – і самі выданні, і рукапісныя копіі твора. А гэта значыць, што навукоўцы не валодаюць самым неабходным.

Часткова праблему вырашыў доктар Тамаш Настульчык, супрацоўнік Даследніцкага цэнтра Польскай бібліяграфіі Эстрайхераў (Centrum Badawcze Bibliografii Polskiej Estreicherów), які здолеў сабраць выяўленыя раней, а таксама выявіць у розных архівах Літвы, Расеі, Польшчы і Беларусі дваццаць два дакументы з тэкстамі *Гутаркі...*. Вынікі сваіх даследаванняў навуковец апублікаваў у працы, а ў дадатку да яе змясціў фотакопіі ўсіх вядомых яму друкаваных выданняў і рукапісных копій беларускага ананімнага твора [Nastulczyk 2017].

Т. Настульчык грунтоўна разгледзеў гісторыю вывучэння *Гутаркі...* беларускімі, польскімі, літоўскімі і расейскімі навукоўцамі. Ён уніклíва прааналізаваў непаразуменні ды недакладнасці, якія маюцца ў публікацыях пра выданне твора, і прыйшоў да высновы, што амаль ніхто з даследнікаў (як выключэнне – З. Тальвірская і Г. Кісялёў) не меў магчымасці параўнання друкаваных і рукапісных тэкстаў *Гутаркі...*, што твор характарызаваўся пераважна з ідэйна-палітычнага боку, але не звярталася ўвага на пытанні кнігазнаўчыя. (Недастаткова, на нашую думку, разгледжаны і тэксталагічны аспект). Гіпотэзы навукоўцаў і публіцыстаў адносна часу і месца выдання *Гутаркі...* Т. Настульчык аналізуе крытычна, выяўляе шматлікія хібы і нават, як ён называе, спекуляцыі. Сваіх гіпотэз ён не прапануе, але схіляецца да таго, што “парыжскае” выданне рыхтаваў Браніслаў Шварцэ ў Беластоку, “пазнанскае” – асоба, якая не ведала беларускае мовы, а поўная адсутнасць інфармацыі пра “літаграфію” не дазваляе нават на вылучэнне гіпотэзаў.

Разглядае таксама навуковец праблему аўтарства *Гутаркі...*. Дакладней: канспектыўна аналізуе гіпотэзы фактычна ўсіх сваіх папярэднікаў. Аніводная з іх, на яго думку, не пацвярджаецца фактамі; яны заснаваныя ці то на перакананнях іх аўтараў, ці то на чутках, якія кружлялі ў пэўную эпоху і былі занатаваныя сучаснікамі.

Усіх тых, каго “вылучалі” на аўтарства папулярнага ў свой час твора, Т. Настульчык старанна фіксуе, а ў высновах сцвярджае, што спробы ідэнтыфікацыі паэта не прынеслі канчатковага адказу. Следам за польскім навукоўцам і мы пералічым усіх тых, хто называўся аўтарам *Гутаркі...*:

1. Кастусь Каліноўскі (Аскар Авейдэ ў матэрыялах следства) [1965: 99].

---

[1] Самая значная з іх – у акадэмічнай *Гісторыі беларускай літаратуры*. Гл.: [Кісялёў 2007: 291–296].

2. Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч (даносы жандарскіх агентаў і афіцэраў, Г. Кісялёў) [1961: 126–130].

3. Ян Героўскі (Аляксандар Ельскі ў матэрыялах да бібліяграфіі беларускае літаратуры) [AGAD 378, $140_1$, k. 395].

4. Вінцэсь Каратынскі (Я. Карскі [1922: III–3, 86–87], Р. Зямкевіч [1918 ], М. Гарэцкі [1920: с. 93–94 ], М. Канапацкі [1961] і інш.).

5. Уладзіслаў Сыракомля (З. Тальвірская) [1967: 59].

6. Браніслаў Шварцэ (Вольга Марозава) [1982: 49–50].

7. Вынік калектыўнай творчасці (Г. Кісялёў) [1961: 128].

8. Пераклад з польскае мовы (З. Тальвірская) [1967: 55–56].

9. Нехта з маладзейшых паэтаў з кола В. Дуніна-Марцінкевіча, У. Сыракомлі, Арцёма Вярыгі-Дарэўскага, В. Каратынскага (М. Хаўстовіч) [1999: 31].

На думку Т. Настульчыка,

> пытанне аўтарства застаецца сёння нявырашаным з прычыны недастатковае колькасці крыніц. Наступны матэрыял могуць прынесці перш за ўсё новыя даследаванні <…>. Спробы спекулятыўнага множання ўяўных аўтараў альбо таксама суб'ектыўны пошук усялякіх супадзенняў варта трактаваць вельмі асцярожна, памятаючы, што мы маем справу з стылізаваным тэкстам, які захаваўся ў шматлікіх варыянтах з нявызначанай да канца храналогіяй [Nastulczyk 2017: 32].

Але найважнейшае, як ужо казалася, у публікацыі Т. Настульчыка, – гэта фотакопіі 22 варыянтаў *Гутаркі…*. У сувязі з тым, што кніга польскага навукоўца адсутнічае ў бібліятэках Беларусі, лічым патрэбным назваць і дэталёва ахарактарызаваць усе пададзеныя ў ёй дакументы.

### 1. *HUTORKA STAROHO DZIEDA*, nakładem A. Kurnatowskiego z Imbierowa pod Obornikami; czcionkami N. Kamieńskiego i Spółki w Poznaniu, 1861 r.

Г. зв. "пазнанскае" выданне. Кніжачка без вокладкі. 12 нумараваных старонак памерам 11 см у шырыню і 19 см у вышыню. Друк выразны, паўтлусты, высокае якасці.

Захаваўся адзін асобнік[1]; выяўлены на пачатку (?) 1960-х гадоў Г. Кісялёвым у Дзяржаўным архіве Расейскае Федэрацыі: фонд 109 [*Третье отделение Собственной Его Императорского Величества канцелярии*], вопіс 36 [*1 экспедиция. 1861 г.*], справа 322 [*О девице Марцынкевич в Минске, которая чрезмерно выказывала польский патриотизм*] (Государственный архив Российской Федерации[2], ГАРФ, ф. 109, оп. 36, 1 экспед. 1861, д. 322). Справа змяшчае шэраг дакументаў пра дачку

---

[1] Іншы (?) асобнік выдання захоўваўся калісь у бібліятэцы Б. Эпімаха-Шыпілы. [Гл.: *Старонка вопісу бібліятэкі…*, online]. Цікава, што для *Biełarusskoj Chrestomatiji* ён перапісваў *Гутарку…* з асобніка В. Мяніцкага.

[2] У савецкі час: Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў Кастрычніцкае рэвалюцыі ў Маскве.

В. Дуніна-Марцінкевіча[1]. Яна была заведзеная 1 ліпеня 1861 года адначасна са справаю 323 [*О пении гимнов в Минске, о панихиде Лелевелю и о книгопродавце Валицком*]. Абедзве справы апавядаюць пра антыўрадавыя выступленні ў Мінску, пачынаючы ад сярэдзіны чэрвеня 1861 г. Калі і чаму "пазнанскае" выданне было далучана да справы 322, нам высветліць не ўдалося. Але вельмі верагодна, што жандары канфіскавалі яго падчас арыштаў і ператрусаў менавіта ў Мінску (ці Мінскай губерні) у 1861–1862 гг. У справе, якая налічвае 83 аркушы, *Hutorka staroho dzieda* змешчана як апошні дакумент (арк. 78–83v).

**2. *HUTARKA STAROHO DZIEDA*, Paryż 1862 r. Lutego 27 (15) dnia.**

Г. зв. "парыжскае" выданне. Кніжачка з вокладкай. 24 ненумараваныя старонкі памерам 7,5 см у вышыню і 9,5 см у шырыню. Друк не вельмі выразны, асобныя радкі ў катрэнах не выраўненыя па вертыкалі.

Асобнік захоўваецца ў Дзяржаўным гістарычным архіве Літвы[2] ў фондзе 1248 [*Временный полевой аудиториат при штабе командующего войсками Виленского военного округа (1863–1911)*], вопіс 2 [*Следственные дела участников восстания 1863 г.*], справа 1497 [*Дѣло временнаго полеваго аудиторіата виленскаго военнаго округа о дворянинѣ Минской губерніи Алоизіи Витковскомъ*], арк. 234–247v (Lietuvos valstybės istorijos archyvas, LVIA, f. 1248, ap. 2, b. 1497, l. 234–247v).

**3. *HUTARKA STAROHO DZIEDA*, Paryż 1862 r. Lutego 27 (15) dnia.**

Г. зв. "парыжскае" выданне. Кніжачка без вокладкі. 24 ненумараваныя старонкі памерам 7,5 см у вышыню і 9,5 см у шырыню. Друк не вельмі выразны, асобныя радкі ў катрэнах не выраўненыя па вертыкалі.

Асобнік захоўваецца ў Дзяржаўным гістарычным архіве Літвы ў фондзе 438 [*Виленская следственная комиссия по политическим делам при Виленском генерал-губернаторе для разбора дел об участниках восстания 1863*], вопіс 1, справа 290 [*Справа пра ксяндза Дусьмінскага касцёла Гаплевіча і былога ксяндза віленскага Святаянскага касцёла Бішэўскага*], арк. 16 (1–12v)[3] (LVIA, f. 438, ap. 1, b. 290, l. 16 [1–12v]).

---

[1] Справу ўпершыню выкарыстаў Г. Кісялёў [1961: 119–138].

[2] У савецкі час: Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў Літоўскай ССР.

[3] Да справы далучаны аркуш паперы, на якім напісана: "*Разсказы Старика. Гутарка Старага Дзеда*. Стихотвореніе въ родѣ поэмы написанное Бѣлорусскимъ языкомъ латинскими буквами, напечатано въ Парижѣ въ 1862 г. февр 27 (15). По бумагѣ и шрифту можно заключить, что стихотвореніе это напечатано въ Варшавѣ, Вильно или въ какомъ нибудь другомъ городѣ Западной Россіи. Содержаніе его возмутительное: въ немъ поносятся Русскіе власти и чиновники, представляются бедствія крестьянъ отъ Русс. чиновниковъ и проч. Начинается оно такъ: «Эй добрые люди, скажите мнѣ // Что это на светѣ будетъ. // Развѣ Богъ не змилоется надъ нами // И дозволитъ пропасть подъ Москалями», т. е. подъ владельчествомъ Русскихъ" (арк. 12).

**4. *HUTARKA STAROHO DZIEDA*, Paryż 1862 r. Lutego 27 (15) dnia.**

Г. зв. "парыжскае" выданне. Ненумараваныя старонкі памерам 7,5 см у вышыню і 9,5 см у шырыню. Друк не вельмі выразны, вялікая колькасць радкоў у катрэнах не выраўненая па вертыкалі. Тут знаходзяцца асобныя аркушы двух асобнікаў, сшытых разам: старонкі 1–12 і 19–24 аднаго ды 1–6 і 13–24 старонкі другога.

Захоўваюцца ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ў Гродне, фонд 1 [*Канцелярия Гродненского губернатора*], вопіс 22 [*1851–1870*], справа 1121 [*Дело о обезоруживании местного населения, об освобождении от занимаемых должностей "неблагонадежных" лиц, приближении к г. Гродно батареи и принятии других мер для борьбы с готовящимся восстанием. 14 апреля 1861 – 8 июля 1866 г.*], арк. 401–418v (НГА РБ у Гродне, ф. 1, воп. 22, спр. 1121, арк. 401–418v).

**5. *Od staraho dzieda. Hutorka staraho Dzieda na Biełarusi***, [без м. і г., літаграфія].

Кніжачка без вокладкі. 16 нумараваных старонак памерам 13 см у шырыню і 23,5 см у вышыню. Адбітак выразны, даволі высокай якасці.

Асобнік захоўваецца ў Дзяржаўным гістарычным архіве Літвы ў фондзе 1248 [*Временный полевой аудиториат при штабе командующего войсками Виленского военного округа (1863–1911)*], вопіс 2 [*Следственные дела участников восстания 1863 г.*], справа 1497 [*Дѣло временнаго полеваго аудиторіата Виленскаго военнаго округа о дворянинѣ Минской губерніи Алоизіи Витковскомъ*], арк. 61–68v (LVIA, f. 1248, ap. 2, b. 1497, l. 61–68v).

Літаграфію ў архіве выявіла ў 1960-я гады (?) З. Тальвірская. У сваім артыкуле яна згадала пра яе: "При обысках <…> обнаруживали <…> как печатные, так и литографированные и в рукописных копиях" [1967: 44], падаючы пры гэтым архіўны адрас – ЦГИА ЛитССР, ф. 1248, оп. 2, д. 1497, лл. 61–66 (насамрэч: 61–68v). Даследніца меркавала, што літаграфію выдала рэвалюцыйная арганізацыя Мінскай губерні [1967: 50]. Яна апісала выданне, якое "имеет как бы введение, которое называется *Од стараго дзеда*" [1967: 51], і працытавала ў перакладзе (не зусім дакладным!) асобныя ягоныя фрагменты. Звярнуўшы ўвагу, што гаворка ва ўступе ідзе пра замену "маскалямі" ў беларускіх гутарках слова "ojczyzna" на "pańszyzna", яна прывязала датаванне публікацыі да падзей лета 1861 г., калі, як сцвярджае, назіралася "натравливание мужиков на помещиков" [1967: 52]. Апрача таго, З. Тальвірская палічыла літаграфію (разам з г. зв. "кобрынскім" рукапісам) "наиболее ранними", бо "в текстах печатных имеются значительные дополнения о крестьянской реформе", а таксама і тое, што дадзены варыянт *Гутаркі старога Дзеда* створаны і выдадзены прыхільнікамі Людвіка Мераслаўскага, бо толькі тут (у перадапошняй страфе) згадваецца гэты дзеяч эміграцыі [1967: 58, 62].

На жаль, беларускія даследнікі не звярнулі ўвагі ні на тэкст, змешчаны ў літаграфіі, ні на архіўную справу, дзе яна (літаграфія) захавалася. У справе, праўда, няма звестак ні пра аўтара (-ў) твора, ні пра яго выдаўцоў, але з яе можна сёе-тое даведацца пра тых, хто распаўсюджваў розныя выданні *Гутаркі*…, а магчыма, і выдаваў іх. Прынамсі, варта больш пільна прыгледзецца да жыцця і дзейнасці былога студэнта Маскоўскага ўніверсітэта і актыўнага ўдзельніка рэвалюцыйных падзей на Міншчыне і Магілёўшчыне Ігната Пякарскага, які перадаваў праз Алаіза Віткоўскага "литографированные тетради, возмутительнаго содержанія" Альфрэду Ратынскаму, што жыў у маёнтку Краснае Вілейскага павета. Што цікава: і І. Пекарскі, і А. Ратынскі ўдзельнічалі ў паўстанні. Але нягледзячы на тое, што першы з іх быў пад судом у Магілёве, а другі "ушелъ въ шайку и пропалъ без вести", у вядомых нам спісах паўстанцаў 1863–1864 гг. яны не значацца [*Genealogia Polaków*, online].

Т. Настульчык сцвярджае, што Г. Кісялёў ведаў архіўную справу, у якой захавалася літаграфія, але палічыў выданне за "рукапісны варыянт" [Nastulczyk 2017: 10]. Аднак гэта не так. Вядомы беларускі даследнік, безумоўна, ведаў гэтую справу, але не працаваў з ёю грунтоўна. Пра гэта сведчыць тое, што ён працытаваў у кнізе *Сейбіты вечнага* (у артыкуле *В. Дунін-Марцінкевіч і паўстанне 1863 г.*, апублікаваным у пятым нумары часопіса "Полымя" за 1961 год, цытата адсутнічае) фрагмент прадмовы *Od staraho dzieda* паводле іншае справы, пазначаючы, што гэты тэкст захоўваецца ў ЦДГА ЛітССР, фонд 1248, вопіс 1, спр. 22, а. 10[1]. У дадзенай справе ідзе гаворка (сярод іншага) пра тое, як прыператрусе 9 сакавіка 1863 г. у маёнтку Эміліі Бандзінскае Шыласяды, што ў Трокскім павеце, быў знойдзены аркуш, відаць, з літаграфаванага выдання *Hutorki staraho dzieda na Biełarusi*, уласна, прадмова да выдання – *Od Staraho dzieda*. Прычым, тэкст прадмовы займае дзве поўныя старонкі аркуша[2], а г. зн., што ў маёнтку Э. Бандзінскае захоўвалася картка з нейкага іншага, невядомага нам літаграфаванага выдання. Тое, што гэта літаграфія, не выклікае сумнення, хоць падчас ператрусу яна і названая рукапісам:

> 9 Марта произведенъ былъ у помѣщицы Бондзинской обыскъ, причемъ въ занимаемыхъ ею комнатахъ найдено: 1). рукопись *Слово стараго дѣда*, написанная для крѣстьянъ съ цѣлію возбудить въ нихъ враждебныя чувства къ правительству, которому приписывается по этой рукописи намереніе поссорить въ здешнемъ крае крѣстьянъ съ помѣщиками и, пользуясь этимъ, погубить обѣ стороны [LVIA 1248–1–22, l. 6].

---

[1] Сёння – LVIA.

[2] У вядомай нам літаграфіі прадмова займае першую старонку (24 радкі) і 7 радкоў на другой старонцы. У літаграфіі, знойдзенай у доме Э. Бандзінскае, на першай старонцы размешчаны 21 радок, а на другой – 22, г. зн., што выданні друкаваліся на паперы featureрознага фармату.

Зусім верагодна, што ў маёнтак Шыласяды аркуш з літаграфіі трапіў выпадкова: у гэтым рэгіёне славянскага насельніцтва было няшмат. І нават сама гаспадыня маёнтка не зразумела, калі верыць сказанаму ёю падчас следства, сэнс твора: “найденное у нее возмутительное сочиненіе она получила отъ неизвестнаго крестьянина и сама не поняла его содержанія” [LVIA 1248–1–22, l. 164v].

Звернем яшчэ ўвагу на тое, што “літаграфія Э. Бандзінскае” не з’яўляецца дакладнаю копіяю прадмовы з вядомае “літаграфіі А. Віткоўскага–І. Пякарскага”. Мы налічылі амаль два дзясяткі адрозненняў. Прычым, “літаграфія Э. Бандзінскае” больш “пісьменная” (асабліва гэта датычыць расстаноўкі знакаў прыпынку і ***ў*** кароткага), правільная з пункту гледжання мовы. Напрыклад, яўная апіска ў рукапіснай копіі літаграфіі з Бібліятэкі акадэміі навук Літвы імя Урублеўскіх “chachoczyć naruhajuczy***c***ia” ў ёй адсутнічае: “chachoczyć naruhajuczy***s***ia”.

Цікава і тое, што ўсе вядомыя сёння тэксты прадмовы *Od staraho dzieda* з’яўляюцца копіямі “літаграфіі А. Віткоўскага–І. Пякарскага”, а не “літаграфіі Э. Бандзінскае”. Мяркуем, што “літаграфія Э. Бандзінскае” (калі сапраўды існавала такая літаграфія, а не толькі аркуш-улётка прадмовы да выдання двух гутарак і малітвы *Boże szto Polszcze*…) магла быць тым выданнем (хутчэй: часткай выдання), з якога царская адміністрацыя Мінскай губерні зрабіла дзве транслітараваныя копіі.

**6. *Hutorka staroho dzieda*, „Dziennik Literacki” (Lwów) 1861, nr 89 (8 listopada), s. 714–716.**

Апрача тэксту твора ў газеце ў зносцы даецца кароткі моўны каментар.

**7. *Od staroho dzieda. Hutorka staraho dzieda na Biełarusi*.**

Г. зв. “рукапісная копія літаграфіі”. Сшытак на 28 нумараваных старонак памерам 17 см у вышыню і 11 см у шырыню.

Тэксты твораў, на нашую думку, скапіраваныя з літаграфіі – назавём так – “А. Віткоўскага”, але маюць шэраг адрозненняў. Пададзім важнейшыя: прапушчаныя словы, знакі прыпынку, а таксама не заўсёды паслядоўнае адлюстраванне акання. Захоўваецца ў Бібліятэцы акадэміі навук Літвы імя Урублеўскіх, ф. 22, спр. 2 [*Дѣло по донесенію Начальника Ковенской Губерніи, съ предоставленіемъ тетрадей возмутительнаго содержанія, представленныхъ однодворцемъ Гацевичемъ*], арк. 34–48 (LMAVB, f. 22, b. 2, l. 34–48). Выяўлены У. Абрамавічусам (з пазначэннем архіўнага адрасу справы наступным чынам: “в секретном деле Канцелярии Виленского военного губернатора, Бх 89, с. 11–26)” [Абрамавичюс 1949:80].

Дакументы справы сведчаць, што сшытак быў скрадзены ў падарожных аднадворцам Вікенціем Гацевічам у снежні 1861 г. у карчме Лупянка блізу Новаалександраўска [да 1836 г. называлася Езяросы, даўняе мястэчка гістарычнае Браслаўшчыны; пераіменаванае на загад Мікалая I у гонар сына Аляксандра. Сёння – Зарасай (літ.: Zarasai)].

**8.** ***Hutarka staroho Dzieda***.

Г. зв. "лепельскі" рукапіс. Аркуш паперы памерам 33,5 см у вышыню і 22 см у шырыню, запісаны з абодвух бакоў.

Захоўваецца ў Дзяржаўным архіве Расейскае Федэрацыі ў фондзе 109 [*Третье отделение Собственной Его Императорского Величества канцелярии*], вопіс 36 [*1 экспедиция. 1861 г.*], у справе 303, ч. 6 [*О политических беспорядках в Западных губерниях. По Витебской губернии*], арк. 121–121v (ГАРФ, ф. 109, оп. 36, 1 экспед. 1861, д. 303, ч. 6, л. 121–122v), якая была заведзена 29 сакавіка 1861 г. *Hutarka staroho Dzieda* была далучана да "отношенія"[1] полацка-віцебскага архіепіскапа Васіля Лужынскага ад 15 мая 1862 г. обер-пракурору Сінода Аляксею Ахматаву, у якім паведамлялася, што твор шырокавядомы ў Лепельскім павеце. Рукапіс выявіў у 1960-я гады Г. Кісялёў, хоць адно толькі згадаў пра яго ў сваёй публікацыі ў часопісе "Полымя" (1961, № 5, с. 127).

**9.** ***Hutoryka staroho dzieda 1861 r. z Kobrynia***.

Г. зв. "кобрынскі" рукапіс. Два аркушы паперы памерам 28,5 см у вышыню і 22,5 см у шырыню, запісаныя з абодвух бакоў. Угары першага аркуша дата: "13 cerwca".

Захоўваюцца ў Дзяржаўным гістарычным архіве Літвы ў фондзе 378 [*Канцелярия Виленского, Ковенского и Гродненского генерал-губернатора. 1768–1915. Политический отдел. 1864]*, справа 106 [*О дворянинѣ Радомской губерніи Опочинскаго уѣзда Константинѣ Лопатецкомъ*], арк. 12–13v (LVIA, f. 378, PS. 1864, b. 106, l. 12–13v). Копію выявіў у 1960-я гады Г. Кісялёў [1963: 140].

**10.** ***Гуторка старого Дзіеда***.

Г. зв. першая мінская транслітараваная копія літаграфіі. Сем аркушаў паперы памерам 31 см у вышыню і 19,5 см у шырыню; тэкст запісаны каліграфічным грамадзянскім пісьмом з абодвух бакоў.

Захоўваецца ў Дзяржаўным архіве Расейскае Федэрацыі ў Маскве ў фондзе 109 [*Третье отделение Собственной Его Императорского Величества канцелярии*], вопіс 36 [*1 экспедыцыя. 1861 г.*], у справе 322 [*О девице Марцынкевич в Минске, которая чрезмерно выказывала польский патриотизм*], арк. 16–22v (ГАРФ, ф. 109, оп. 36, 1 экспед. 1861, д. 322, л. 16–22v).

Транслітараваная копія літаграфіі[2] (без празаічнага ўступу *Od staraho dzieda*) змешчана ў дадатку да рапарту (арк. 10–15) мінскага губернскага жандарскага штаб-афіцэра палкоўніка Б. Рэйхарта ад 17 лютага 1862 года, у якім даводзілася, што ў напісанні *Гутаркі старога Дзеда* на падставе падабенства з *Ідыліяй* можна падазраваць В. Дуніна-Марцінкевіча:

---

[1] Праваслаўныя святары (благочинные) мелі абавязак сачыць за ўчынкамі палякаў-католікаў і дасылаць рапарты архіепіскапу, які на аснове гэтых рапартаў пісаў "отношенія" обер-пракурору Сінода.

[2] Мае шэраг адрозненняў ад вядомае літаграфіі.

> Вредна эта девица Марцинкевич здесь и не мешало бы ее удалить, а между тем высшее местное начальство дозволило ей заниматься обучением детей нежного возраста, и можно себе вообразить, что она им проповедует. От роду ей около 26 лет, характера дерзкого и решительного, а идеи унаследовала от отца. Этот мелкопоместный помещик Минского у. пишет и распространяет патриотические сочинения, недавно ездил в Варшаву, а возвратившись, отправился, с дозволения временного военного губернатора Минской губ., в губ. Ковенскую, Виленскую и Витебскую: цель этой поездки, как полагать надобно, – распространить революционные идеи, особенно в губ. Витебской. Между изданными им сочинениями одно на местном наречии под заглавием *Селянка* весьма сходно в слоге с представляемыми при сем в копии появившимися тут литографированными стихами и, наверное, принадлежащими ему же, дерзко противу правительства и возмущающие крестьян написаны собственно для простого народа их языком, которым Марцинкевич хорошо владеет [*Революционный подъем*... 1964: 542].

Інфармацыю пра рукапіс падае З. Тальвірская [1967: 43].

**11. *Гуторка старого Дзњда*.**

Г. зв. другая мінская транслітараваная копія літаграфіі. Восем аркушаў паперы памерам 37 см у вышыню і 23 см у шырыню; тэкст запісаны каліграфічным грамадзянскім пісьмом з абодвух бакоў.

Захоўваецца ў Расейскім дзяржаўным гістарычным архіве ў Пецярбурзе ў фондзе 1282 [*Канцелярия министра внутренних дел*], вопіс 1 [*1812–1917 гг.*], справа 25 [*Переписка с генерал-губернатором, военными и гражданскими губернаторами Западных губерний о принятии мер к прекращению <...> антиправительственных выступлений и пропаганды в этих губерниях*], арк. 232–239v (Российский государственный исторический архив, РГИА, ф. 1282, оп. 1, д. 25, л. 232–239v).

Транслітараваная копія літаграфіі (без празаічнага ўступу *Od staraho dzieda*) зроблема, магчыма, з тае самае літаграфіі, што і папярэдняя, хоць прынцыпы транслітарацыі розныя. Копію заверыў мінскі віцэ-губернатар Аляксандар Лучынскі. Інфармацыю пра рукапіс падае З. Тальвірская [1967: 43].

**12. *Hutorka staraho dzieda*.**

Г. зв. кракаўскі рукапіс. Чатыры аркушы паперы памерам 20,5 см у вышыню і 13 см у шырыню; тэкст запісаны з абодвух бакоў (адварот апошняга аркуша без тэксту).

Захоўваецца[1] ў Ягелонскай бібліятэцы, сігнатура 9288$^{III}$ [*Wiersze różne przesłane Józefowi Bohdanowi Zaleskiemu*], k. 85–88 (Biblioteka Jagiellońska w Krakowie, BJ, sygn. 9288$^{III}$, k. 85–88). Дасланы ці перададзены невядомым Юзафу Багдану Залескаму (1802–1886).

---

[1] У складзе сшыта-склеенага збору рукапісных, друкаваных і літаграфаваных аркушаў паперы featureрознага фармату. Пераважна копіі твораў Уладзіслава Сыракомлі, Вінцэнта Поля, Севярына Гашчынскага, Юльяна Нямцэвіча, Юльяна Кор-

**13. *Hutorka staroho dzieda*.**

Г. зв. уроцлаўскі рукапіс. Два аркушы паперы памерам 26,5 см у вышыню і 21 см у шырыню; тэкст запісаны з абодвух бакоў (адварот апошняга аркуша без тэксту).

Захоўваецца ў Бібліятэцы Нацыянальнага інстытута імя Асалінскіх, сігнатура 14708/III: *Wiersze różne zebrane przez Marcelego Michała (ojca) i Stanisława Marcelego (syna) Nałęcz-Dobrowolskich*, k. 133–135 (Biblioteka Zakładu Narodowego im. Ossolińskich we Wrocławiu, ZNiO, sygn. 14708/III, k. 133–135).

*Hutorka staroho dzieda* не перапісаная, а ўкладзеная ў “анталогію”[1], г. зн. аркушы рукапісу паходзяць, магчыма, нават з 1860-х гадоў. Звяртае на сябе ўвагу дата на доле трэцяе старонкі – “1861 г. 9 Maia”.

Рукапіс выявіў Т. Настульчык.

**14. *Hutarka staroha dzieda*.**

Рукапіс Б. Эпімаха-Шыпілы. Перапісаўшы ў 1889 годзе *Гутарку старога Дзеда* паводле “парыжскага” выдання, Б. Эпімах-Шыпіла ўключыў яе ў рукапісную анталогію *Biełarusskaja chrestamatyja*.

Захоўваецца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва (БДАМЛіМ) у фондзе 66 [*Бэндэ Лукаш Апанасавіч*], вопіс 1, адзінка захавання 1256 [*Б.І. Эпімах-Шыпіла. Беларуская хрэстаматыя. Аўтограф*], арк. 3г–10г.

**15. *Hutorka Staroha dzieda*.**

Рукапіс А. Ельскага. Сшытак на дванаццаці старонках, папера памерам 17,5 см у вышыню і 11,5 см у шырыню (адварот апошняга аркуша без тэксту). На вокладцы рукою Аляксандра Ельскага: “*Hutorka Staroha dzieda.* 1862 r. była drukowana w Paryżu”.

Захоўваецца ў Галоўным архіве даўніх актаў у Варшаве: фонд 378 [*Archiwum Prozorów i Jelskich*], № $140_1$ [*Materyały bibliograficzne z zakresu literatury białoruskiej zbierane przez Al. Jelskiego*], арк. 184–194 (Archiwum Główne Akt Dawnych w Warszawie, AGAD, sygn. 378, nr $141_1$, k. 184–194).

---

сака (*Wiersz na śmierć Dominika Moniuszki*), Гераніма Кайсевіча, Нарцызы Жміхоўскае, Дэатымы; пераклад на польскую мову *Слова пра паход Ігаравы*; шэраг украінскамоўных твораў, а таксама народных песняў. Апрача *Гутаркі старога Дзеда* ў зборніку змешчаны гімн *Boże, szto Polszy*… (s. 68–69) – варыянт “парыжскага” выдання, але без апошняе страфы.

[1] Складаецца з трох частак (тамоў), усяго 440 старонак (t. I – 144 c., t. II – 74 c, t. III – 222 c.). Аркушы рознага памеру з тэкстамі вершаваных твораў, лістоў і нататак сшыты-склеены ў тры сшыткі. Шмат якія тэксты датаваныя: самы ранні паходзіць з 1846 г., найпазнейшы – 1950 г. Пераважная большасць твораў ананімная, але ёсць і вядомых аўтараў XIX стагоддзя: Адама Міцкевіча, Вінцэнта Поля, Зыгмунта Красінскага, Уладзіслава Сыракомлі, Аляксандра Пушкіна (фрагмент *Яўгена Анегіна*), а таксама шэраг украінскіх народных песняў (*Oj w mesteczku Beresteczku*). Даволі шмат дакументаў паходзіць з 1860-х гг. Храналагічны прынцып размяшчэння дакументаў складальнікамі не выкарыстоўваўся.

**16.** ***Od staryha dzieda. Hutorka staroha dziada na Białorusi***.

Рукапіс Беларускага музею ў Вільні. Тэкст занатаваны (з невялікімі зменамі) паводле літаграфіі (аднак адсутнічае *Malitwa dzisiejszaja: Boże szto Polszcze*…) напрыканцы XIX – у пачатку XX стагоддзя[1] ў зборніку польскіх, беларускіх, украінскіх і расейскіх вершаваных твораў і фальклорных тэкстаў (арыгінальная нумарацыя: с. 84–102). Выяўлены У. Абрамавічусам [1949: 80].

Захоўваецца ў Бібліятэцы акадэміі навук Літвы імя Урублеўскіх, фонд 21 [*Vilniaus baltarusių fondas*], справа 927, арк. 42r–51r (Lietuvos mokslų akademijos Vrublevskių biblioteka, LMAVB, f. 21, ap. 927, l. 42r–51r).

**17.** ***Hutorka staraho Dzieda na Biełarusi***.

Машынапіс Т. Урублеўскага. Дакумент на падставе рукапіснае копіі літаграфіі (гл. пазіцыю 7) з праўкамі Тадэвуша Урублеўскага (1858–1925), падрыхтаваны, на нашую думку, дзеля публікацыі ў зборніку *Karo Archyvas*. Гл.: A. Janulaitis, *Spausdintieji ir nespausdintieji 1863–64 m. sukiłimo raštai* [w:] *Karo Archyvas*, t. 1, Kaunas 1925, s. 216–219. Выяўлены У. Абрамавічусам [1949: 80].

Захоўваецца ў Бібліятэцы акадэміі навук Літвы імя Урублеўскіх, ф. 9, спр. 146, с. 1–12 (LMAVB, f. 9, b. 146, l. 1–12).

**18.** ***Skažéće dóbryie luʒi…***

Запіс Э. Кліха. Фрагмент (32 радкі) *Гутаркі старога Дзеда*, запісаны Эдвардам Кліхам на пачатку XX стагоддзя на Наваградчыне.

Надрукаваны Эдвардам Кліхам [1907:65–66].

**19.** ***Hutarka staroha dzieda***. *1863 hodzie było paustannie proci Maskałoй*. Drahuny, dn. 16/VIII – 33 hodu.

Рукапіс Язэпа Малецкага. Фрагмент (38 радкоў) *Hutorki staroha dzieda*, запісаны Я. Малецкім у 1933 годзе на Дзісненшчыне.

Рукапіс захаваўся ў архіве этна-музыколага Антона Грыневіча ў папцы *Сборы фольклорных материалов неизвестных авторов*: Інстытут літоўскае літаратуры і фальклору, фонд *Фальклорныя калекцыі Беларускага музею ў Вільні* (Vilniaus baltarusiq muziejaus tautosakos rinkiniai, LTR), сігнатура 7579 III–9, с. 7–7v (Lietuviq Literatures ir Tautosakos Institutes, LLTI, b. 7579–III–9, l. 7–7v). Выяўлены Вячаславам Мартысюком.

**20.** ***Хутёръ Старого дѣдя***: ***Писалъ бѣлорусскій мужикъ***.

Расейскі пераклад гутаркі. Два аркушы паперы памерам 35 см у вышыню і 22 см у шырыню; тэкст з абодвух бакоў. Мае шматлікія праўкі, нанесеныя іншаю рукою.

Захоўваецца ў Дзяржаўным гістарычным архіве Літвы ў фондзе 439 [*Архив музея графа Михаила Муравьева. 1830–1915*], вопіс 1, справа 11 [*Повстанческие документы периода восстания 1863 года*], арк. 54–55v (LVIA, f. 439, ap. 1, b. 11, l. 54–55v).

[1] Уладас Абрамавічус датуе зборнік канцом XIX ст. [Абрамавичюс 1949: 80]. Т. Настульчык – другой паловай XIX ст. [Nastulczyk 2017: 12].

Рукапіс выявіла З. Тальвірская, не звярнуўшы, аднак, увагі, што гэта пераклад твора на расейскую мову. Даследніца (хіба, правільна) залічыла яго да дакументаў, канфіскаваных паліцыяй падчасператрусаў, хоць аніякія матэрыялы архіўнае справы[1] гэта і не пацвярджаюць. Т. Настульчык справядліва падкрэсліў, што “nie stanowi on prostej transkrypcji jednej ze znanych wersji białoruskich, lecz jest to raczej niezbyt udana próba adaptacji czy przekładu tekstu na język rosyjski (być może zabawa literacka, ciekawostka oparta na próbach stylizacji językowej?)” [2017: 13].

**21. [Mikalojus Akelaitis],** ***Gromata Wylniaus Senelio. Pasaka Senelio Surasze Wargdienelis isz Lietuwos***.

Арыгінал літоўскага варыянта *Гутаркі…* (а таксама *Ліста Старога з Вільні*). Рукапіс на чатырнаццаці аркушах паперы памерам 18 см у вышыню і 11,5 см у шырыню; тэкст з абодвух бакоў.

Захоўваецца ў Дзяржаўным гістарычным архіве Літвы ў фондзе 378 [*Канцелярия Виленского, Ковенского и Гродненского генерал-губернатора. 1768–1915. Политический отдел. 1861*], справа 16, частка 2, арк. 5–18v (LVIA, f. 378, PS. 1861, b. 16–2, l. 5–18v). У дадзенай справе знаходзяцца матэрыялы следства пра спробу надрукаваць у Мемелі (Прусія, сёння: Клайпеда, Літва) *Гутарку старога Дзеда* ў перакладзе М. Акялайціса на літоўскую мову. Чатыры дакументы з гэтае справы надрукаваныя ў зборніку *Революционный подъем в Литве и Белоруссии в 1861–1862 гг.: Материалы и документы* (Москва 1964, с. 22–27, 30).

**22. [Mikalojus Akelaitis],** ***Gromata Wylniaus Senelio. Pasaka Senelio Surasze Wargdienelis isz Lietuwos***.

Копія літоўскага варыянта *Гутаркі…* (а таксама *Ліста Старога з Вільні*). Рукапіс на чатырнаццаці аркушах паперы памерам 17 см у вышыню і 10,5 см у шырыню; тэкст з абодвух бакоў.

Захоўваецца ў Дзяржаўным архіве Расейскае Федэрацыі: фонд 109 [*Третье отделение Собственной Его Императорского Величества канцелярии*], вопіс 36 [*1 экспедиция. 1861 г.*], справа 165 [*О предупреждении к провозу из-за границы в Западные губернии возмутительного воззвания, напечатанного в Мемеле на литовском языке в типографии Борха и о прикосновенных к этому делу студенте Буцкевиче, помещике Монтвилле, Катутисе и женщине Гицене*], арк. 91–104v (ГАРФ, ф. 109, оп. 36, 1 экспед. 1861, д. 165, л. 91–104v).

Справа распачатая 22 мая 1861 года. У ёй – матэрыялы следства пра спробу надрукаваць у Мемелі *Гутарку…* у перакладзе М. Акялайціса

[1] У дадзенай справе сабраны разнастайныя дакументы і матэрыялы (77 аркушаў), якія былі канфіскаваныя ў паўстанцаў. На жаль, не захавалася ніякіх сведчанняў пра іх уладальнікаў, пра тое, калі і пры якіх абставінах яны трапілі ў рукі жандараў ці паліцыі.

на літоўскую мову. Два дакументы з гэтае справы надрукаваныя ў зборніку *Революционный подъем в Литве и Белоруссии в 1861–1862 гг.: Материалы и документы*, Москва 1964, с. 21–22, 27–29.

З дваццаці двух варыянтаў *Гутаркі…*, якія захаваліся і выяўленыя даследнікамі, найбольшую каштоўнасць дзеля тэксталагічных, крыніцазнаўчых і атрыбуцыйных даследаванняў маюць толькі дванаццаць (1–13[1], 20). Бо пазнейшыя копіі ды вусныя ўзнаўленні канца XIX – першае трэці XX стагоддзя могуць адно пасведчыць, што твор быў вядомы калекцыянерам ды навукоўцам[2], а таксама тое, што і праз некалькі дзесяцігоддзяў захоўваўся ў народнай памяці.

Перш за ўсё мы выключаем з нашага аналізу рукапісныя копіі Б. Эпімаха-Шыпілы, А. Ельскага, рукапіс Беларускага музею ў Вільні, машынапіс Т. Урублеўскага, а таксама запісы Э. Кліха і рукапіс Я. Малецкага. Бо яны ўзноўлены паводле друкаваных выданняў[3]; памылкі альбо свядомае перайначванне тэксту не можа "паспрыяць" справе даследавання гісторыі напісання твора. У кантэксце нашае працы не маюць важнага значэння і фальклярызаваныя пераказы *Гутаркі…* у XX ст.

Па-за межамі нашага даследавання, на жаль, застаецца і літоўскі пераклад твора. Наколькі нам вядома, апрача цалкам няўдалага тлумачэння на расейскую мову, выкананага на патрэбы следства і надрукаванага ў *Зборніку дакументаў музея графа Мураўёва* [*Литовскія письма*… 1906: 33–35], а таксама падрадковага перакладу 50 радкоў твора, змешчанага ў артыкуле З. Тальвірскае [1967: 32], ні па-беларуску, ні па-расейску *Pasaka Senelio* не друкавалася. Сёння патрэбны як пераклад літоўскага твора, так і параўнальна-тэксталагічны аналіз беларускага і літоўскага варыянтаў. Гэта можа дапамагчы ў вырашэнні атрыбуцыі *Гутаркі…*. А сёння відавочна толькі тое, што асноўны тэкст беларускае *Гутаркі…* ўзнік да сярэдзіны сакавіка 1861 г., а найбольш верагодна – яшчэ ў 1860 г.

Варта таксама колькі слоў сказаць пра ўкраінскія вершаваныя пракламацыі часоў Паўстання. Прафесар Нацыянальнага педагагічнага ўніверсітэта імя М. Драгаманава Людміла Іванова сцвярджае, што было іх шмат: "У 1861–62 рр. це були такі відозви: *Знайте, люди, для чого цар*

---

[1] Пазіцыі 2–4 – гэта "парыжскае выданне *Hutarki…*.

[2] У Беларускім дзяржаўным архіве літаратуры і мастацтва [БДАЛіМ 66–1–993, с. 3–8] захоўваецца машынапісная копія *Гутаркі…*, а таксама копія гутаркі *Ці знаеце, мае дзеці…*, якія на падставе сваіх ранейшых запісаў выканаў у 1950-я гг. (датаванне архівістаў) Л. Бэндэ. Архіўны адрас адсутнічае, але пазнака "№ 232" на першай старонцы дазваляе меркаваць, што вядомы вульгарызатар карыстаўся матэрыяламі Канцылярыі міністра ўнутраных спраў [РГИА 1282–1–25]. Параўнанне тэксту Л. Бэндэ з г. зв. другой мінскай транслітараванай копіяй літаграфіі пацвярджае нашае дапушчэнне.

[3] Копіі Б. Эпімаха-Шыпілы і А. Ельскага – паводле "парыжскага" выдання; рукапіс Беларускага музею ў Вільні і рукапіс Т. Урублеўскага – літаграфіі ці яе копій.

*військо тримає*, *Хмара часів минулих і сучасних*, *Поради старого діда*, *До козаків, які нині селяни*, *Голос Шевченка із Сибіру*, *Всім і кожному передаючи в волості*, *Польща наша нашим царством буде*, *Русинський народе*, *Рекрути*” [Іванова 2013: 183]. Крыху ніжэй яна падае цытату з украінскага твора, на якую не можам не звярнуць увагі: “Крикнем всі в одні слова: нехай Польська буде знова, бо як станем поляками, будем рівні із панами” [Іванова 2013: 183]. Пры гэтым яна спасылаецца на архіў III аддзялення: “ДАРФ в Москві, фонд 109, І експ., оп. 1862, спр. 62–65”. Тут, відаць, нейкая памылка: наўрад ці вершаваны тэкст, працытаваны даследніцаю, можа знаходзіцца ажно ў чатырох архіўных справах. Да таго ж, паводле *Электронных вопісаў ДАРФ* у фондзе 109 (воп. 37 [*1862*]) маюцца толькі справы 63 [*О беспорядках, допущенных в Киевском Кадетском Корпусе Св. Владимира*] і 65 [*По поводу распространившегося по всему Новороссийскому краю слуха о переводе из г. Одессы в г. Николаев Университета*] [*Электронные описи*, online]. На жаль, мы не змаглі спраўдзіць інфармацыю Л. Івановае, ці сапраўды існаваў украінскі пераклад *Гутаркі старога Дзеда*? Аднак ведаем, што ўкраінскія творы, шмат у чым блізкія беларускім, сапраўды пашыраліся. Маем на ўвазе гутаркі *Знайте, люде, для чого цар висько трымаѣ* і *Наступаѣ туча: Туча прошедшых и настоящых времен*, выяўленыя ў сакавіку 1862 г. у в. Расошкі Уманскага павета [ГАРФ 109–37–228; ЦДІАК України 442–812–4, арк. 43–44, 37–42]. Гэта, вядома, арыгінальныя творы, але, на нашую думку, уплыў *Гутаркі...* адчуваецца. Пададзім некалькі фрагментаў [Фрем Запорожець 2013: 44, 47, 48, 49, 50, 51]:

А знаѣте ж, мыли браты,
Як прыйшлось до того,
От треба вам розказаты
Слова дида мого. <...>
Видтогди-то Украина
Голосыть почала,
Що проклята ж та годына,
Як Москва нас взяла.
Видтогди вже и паны намы
Владиты почалы,
Бо им на то цары самы
Позваляты сталы.
Дужчый став душыть слабшого,
А той ныжчых давыт,
Москаль все для взятку свого
Началныкив ставыт. <...>
За нас также паны хтилы
И свою кров ляты,
Но мы за то их ловылы
Ну ж в суд прыставляты.
Ляхы то нас хтят увольныты,
Не московскый цар,
З нымы то нам треба жыты,
Щоб знов не був свар.

Чумакы ж се трохы зналы,
Як в Севастополи
Найбильш за то воjовалы,
Щобы из неволи
Выпустыв цар Польщу, Лытву,
Русь и Украину,
А мы шлим за ных молытву
Во всяку годыну.
То все ляхы напросылы,
Протерпившы много,
Трыдцят лит в чужыни жылы
Видцуравшысь свого. <...>
Москаль все робыт лесткамы,
Хоть ся пидсидаѣ,
Побачыте, що зробыт з намы,
Як нас загнуздаѣ.
Бо вин завше хытрощамы
Вси дила провадыть,
Гирше з ным, як из ляхамы,
Мужыкови зладыть. <...>
А подати як станут браты
З старого й з малого,
Тогди то будемо знаты
Мылость цара свого.

Акцыз на силь и вид водкы,
Недоимок много,
Оплат вид чумацькой ходкы –
А це все для чого? <…>
Знаѣте, як пип их стане
В церкви помынаты,
Хрестянын аж обивяне,
Докучыт стояты. <…>
Воны навет нашу виру
Зовсим изминылы.
Опысать то – жаль папыру,
Чого мы дожылы.
Служба Божа не набожна,
Попы сяки-таки,
С кого тилькы ино можна
Рвут, як кисть собаки, <…>
В висько там и паньски диты
Мусят поступаты,
Салдатом перш тра служыты,
Закым чын достаты.
А тут усе мужыкамы
Диры запыхают,
Обдырают податямы,
В рекруты прыймают.
Выбырайте тепер, люде,
А казкы не гудьте,
Як вам лутше жыты буде,
То так соби будьте.

Асабліва выразна пра тое, што ўкраінскі аўтар быў знаёмы з беларускамоўнымі творамі Паўстання, сведчаць наступныя радкі:

Билорусьци тепер самы
Сталы говорыты,
Що им лутше б с полякамы
В братной згоди жыты.
[Фрем Запорожець 2013: 47].

Магчыма, пад псеўданімам Фрем Запорожець хаваўся нехта з сяброў Ogółu, студэнт аднаго з расейскіх універсітэтаў. Менш праўдападобна, што аўтар украінскага твора выпадкова пазнаёміўся з літаграфіяй *Hutorka staraho Dzieda na Biełarusi* (менавіта з гэтым варыянтам, бо толькі тут акрэсліваецца ў пэўнай ступені ідэнтычнасць Дзеда). Пра аўтара і час напісання ўкраінскага твора можам меркаваць па словах спраўніка Уманскага павета:

> По рассмотрении смысла стихов и наречия, на котором они писаны, ясно видно, во-первых, что они составлены личностью католического исповедания, слабо знающего малороссийское наречие, что доказывают слова, подчеркнутые мною в рукописи красными чернилами, и написаны с целью нарушить спокойствие простого народа, что сочинитель их, как бы для блага предлагая изводить (москалей) русских и соединиться с католическим населением; и во-вторых, что стихи эти написаны давно, или долгое время находились в употреблении, что доказывает измятость, неопрятность и загрязнивший вид рукописи [Фрем Запорожець 2013: 39].

Супаставіўшы дванаццаць варыянтаў твора, мы палічылі патрэбным падзяліць іх на пяць груп.

Да першае (**А**) групы мы адносім варыянты тэксту літаграфаванага выдання:

**А 1** – літаграфія.

**А 2** – рукапісная копія літаграфіі.

**А 3a** і **А 3b** – транслітараваныя копіі невядомай сёння літаграфіі **А 3** – "першая мінская транслітараваная копія літаграфіі" і "другая мінская транслітараваная копія літаграфіі").

Тэксты гэтае групы ў цэлым адпавядаюць (з невялікімі выключэннямі) варыянтам іншых групаў. Прынамсі, **В**. Асноўная адметнасць групы **А** – наяўнасць страфы, у якой просьба "правільна" адказаць на пытанне "рэферэндума" дапаўняецца заклікам далучыцца да Людвіка Мераслаўскага з жаўнерамі, г. зн. да паўстання. Больш значныя адрозненні маюцца з варыянтамі групаў **С, D** і **Е**.

Ёсць падставы лічыць, што гэтая рэдакцыя твора – самы ранні, першасны варыянт *Гутаркі старога Дзеда*.

У асобную групу (**В**) мы палічылі патрэбным аднесці два рукапісы, якія хоць і даволі блізкія да групы **А**, але ў іх адсутнічае характэрная страфа, у якой згадваецца Л. Мераслаўскі[1].

1. **В 1** – "кобрынскі" рукапіс.
2. **В 2** – "лепельскі" рукапіс гутаркі (з "донесенія" В. Лужынскага).

Трэцюю (**С**) групу складаюць наступныя друкаваныя і рукапісныя варыянты:

1. **С 1** – "пазнанскае" выданне.
2. **С 2** – публікацыя ў львоўскай газеце "Dziennik Literacki".
3. **С 3** – "уроцлаўскі" рукапіс (з "анталогіі" Налэнч-Дабравольскіх).
4. **С 4** – "кракаўскі" рукапіс (са збораў Ю.Б. Залескага).

Гэтыя варыянты *Гутаркі…*, апрача таго, што з'явіліся ў друку ў 1861 г., маюць характэрныя пазнакі-даты: у "анталогіі" Налэнч-Дабравольскіх – "1861 r. 9 Maia". Асноўнае, што вылучае тэксты гэтае групы ад іншых, – гэта наяўнасць строф, у якіх ідзе гаворка пра ўяўны "рэферэндум" і просьба пакінуць піць гарэлку, каб "rozumu nie zdurycі", як давядзецца выбіраць сабе "dolu". Уласна, дзеля гэтага і пісалася *Гутарка старога Дзеда*. Важнае таксама тое, што ва ўсіх іх маюцца "дадаткі", якія відавочна былі дапісаныя пасля абнародавання царскага маніфеста ад 19 лютага 1861 года.

Чацвёртая група (**D**) – гэта расейскі пераклад твора – *Хутёрь Старого дѣдя. Писалъ бѣлорусскій мужикъ.* Адпавядаючы ў асноўным "пазнанскаму" выданню, дадзены варыянт асобнымі страфамі збліжаецца з "парыжскім" (гаворка пра тыя пяць строф, якія вылучаюць гэтае друкаванае выданне). Больш за тое: расейскі пераклад мае дзве страфы, якія адсутнічаюць ва ўсіх іншых вядомых сёння выданнях і рукапісах, але выдатна дапаўняюць згаданыя вышэй пяць строф "парыжскага" выдання. Калі дапусціць, што пераклад зроблены з пэўнага беларускага арыгіналу, то можна думаць, што існаваў яшчэ адзін варыянт твора.

---

[1] Калі варыянты групы **А** паходзяць ад рукапісу, які мог быць аўтарскім ці блізкім да аўтарскага і адно "сапсаваныя" страфой, дзе згадваецца Л. Мераслаўскі, то варыянты групы **В** узноўленыя "на слых" паводле гэткага ж самага (падобнага) рукапісу.

Да апошняе, пятае (**E**) групы мы аднеслі "парыжскае" выданне. Асноўная адметнасць – скасаваныя ў двух месцах згадкі пра "рэферэндум", а таксама наяўнасць пяці строф, у якіх ідзе гаворка пра тое, што вольнасць сялянам жадалі даць "добрыя паны", а вымусілі маскаля гэта зрабіць "пранцузы" – пераможцы крымскае вайны. Тэкст, відавочна, перапрацаваны пасля апублікавання рэформы 19 лютага 1861 года.

Схематычна гэта можна падаць наступным чынам. ([Рукапісы] **A**, **B**, **C**, **D** і **E** – гэта невядомыя сёння копіі пратографа.).




На нашую думку, у 1860 – пачатку 1861 года на аснове першаснага тэксту *Гутаркі...* (відаць, не пратографа, а пэўнае копіі) рыхтавалася літаграфаванае выданне твора, якое мы аднеслі да групы **A**. Яшчэ З. Тальвірская сцвярджала, што літаграфія і "кобрынскі" спіс – гэта найбольш раннія варыянты беларускага твора. І аргументавала гэта тым, што яны найбольш адпавядаюць літоўскаму *Pasaka Senełio Surasze Wargdienelis isz Lietuwos* [1967: 52]. Пагаджаемся з дадзенай думкай. Не пярэчыць гэтаму і наяўнасць у літаграфіі страфы[1] з заклікам далучыцца да жаўнераў Л. Мераслаўскага, г. зн. да паўстання, што ў пэўнай ступені парушае лад твора, скіраванага на "падрыхтоўку" сялян да "рэферэндума". (Афіцэрская школа Л. Мераслаўскага дзейнічала з 1859 года і рыхтавала яна, вядома, не агітатараў рэферэндума, а менавіта кіраўнікоў паўстанцкіх аддзелаў). З. Тальвірская справядліва звярнула ўвагу, што ў "текстах печатных" маюцца "значительные дополнения о крестьянской реформе"; г. зн. узніклі яны пасля таго, як царскі маніфест ад 19 лютага 1861 года быў абнародаваны.

[1] Яна магла быць дададзена падчас падрыхтоўкі літаграфіі да друку.

А вось у літаграфіі, а таксама ў тэкстах групы **B** і асобных тэкстах групы **C**[1] мы не знаходзім радкоў, у якіх ішла б гаворка пра сялянскую рэформу 1861 года: тут адназначна сцвярджаецца: маскалі хочуць, “Kab nas pany piłnowali”, г. зн. пра аніякае скасаванне паншчыны аўтар (ці аўтары) яшчэ не чулі.

Усё гэта можа быць сведчаннем таго, што *Гутарка...* ўзнікла напярэдадні рэформы 19 лютага 1861 года і адна з першых рэдакцый твора зафіксаваная ў літаграфіі.

Сёння вядомы чатыры варыянты гэтае рэдакцыі: сама літаграфія (LVIA, f. 1248, ap. 2, b. 1497), рукапіс (LMAVB, f. 22, b. 2), які – вельмі верагодна – з’яўляецца копіяй літаграфіі, а таксама “кірылічная” транслітарацыя (у двух варыянтах) блізкага (але не ідэнтычнага!) да літаграфіі спісу твора (ці – хутчэй – іншай літаграфіі) (Рукапіс ГАРФ, ф. 109, оп. 36: 1 экспед., 1861 г., д. 322; РГИА, ф. 1282, оп. 1, д. 25).

Увогуле, для гэтае групы тэкстаў характэрна больш-менш паслядоўнае адлюстраванне на пісьме акання. Гэта найбольш поўна выяўляецца ў самой літаграфіі: *od staraho, sabie, mahiłach, patreba, Palak, Maskal, dabra* і інш. (але: *blokotu, Ojczyzna, hutorki, po, pomochczy, toho* і інш.). У рукапісе аканне перадаецца радзей. Тое самае можна сказаць і пра транслітараваныя тэксты: праўда, тут на адлюстраванне акання, магчыма, уплывала расейская мова пісараў. Транслітарацыі, дарэчы, зробленыя паводле аднаго і таго ж асобніка літаграфіі, але рознымі людзьмі: копія жандарскага палкоўніка Б. Рэйхарта выканана малавопытным пісарам: спалучэнне *dzie*- ён часта перадаваў як *дзіе*-, -*сса* як –*цьця* ці *цься*, -*naje* як - *наіе*, *й* як *въ* ці як *у*. Другая транслітараваная копія, прызначаная для канцылярыі міністра ўнутраных спраў і завераная мінскім віцэ-губернатарам А. Лучынскім ды прыгатаваная – вельмі верагодна! – на аснове папярэдняе, крыху па-іншаму перадае названыя спалучэнні: *dzie*- як *дзљ*-, -*сса* як –*цца*, -*naje* як -*наіе*, *й* як *въ* і як *у*, хоць гэта паслядоўна не вытрымліваецца і пісар часта паўтарае тое самае напісанне, што было ў зыходнай копіі. Варта было памыліцца “транслятару” палкоўніка Б. Рэйхарта, як тое самае паўтараў[2] пісар віцэ-губернатара А. Лучынскага: гл., напрыклад, перастаўленыя радкі ў страфе “И|французъ якъ робиу згоду” альбо памылковае напісанне *шолдзы* (замест *szoldry*).

Сцверджанне палкоўніка Б. Рэйхарта, што копія прыгатаваная паводле літаграфіі, выклікае пэўныя пытанні: 1. Чаму ў транслітараваным тэксце адсутнічае празаічны ўступ *Od staraho dzieda*?; 2. Чаму назва твора падаецца недакладна (замест *Hutorka staraho Dzieda na Biełarusi* – *Гуторка старого Дзљда*)?; 3. Чаму гутарка *Czy znajecie, mai dzieci*

[1] У шасці згаданых намі строфах “пазнанскага” выдання і ў анталогіі Налэнч-Дабравольскіх можна бачыць сялянскую рэформу як факт рэчаіснасці, што ўжо адбыўся: “Patul Maskala prasili, // Pakul nas nie|uwalnili”.

[2] Магчыма, аднак, што так было ў літаграфіі, якою карысталіся пісары.

падпісана Dzied, хоць у вядомай літаграфіі, а таксама ў рукапісе такога подпісу няма.

Маем падставы меркаваць, што мінскія жандары мелі ў сваім распараджэнні ці то нейкую іншую літаграфію (не тую, што захоўваецца ў LVIA, f. 1248, ap. 2, b. 1497), ці то пісар недакладна скапіраваў (транслітараваў) яе. Наступныя прыклады могуць пацвердзіць, што дзеля транслітарацыі пісары мелі адрозны варыянт літаграфіі:

| **Літаграфія** | **Другая мінская транслітараваная копія** |
|---|---|
| Chacieŭ Palak dać | Палякъ хоцѣвъ даць |
| pamahaci | памагаць |
| zwajewaći | зваеваць |
| znajeć | знае |
| nazywajeć | называе |
| Bucim dla takoj pryczyny | Бадца для такой причины |
| Nasić boty, strycca, bryci – | Насиць боты, стрыцца брыцца |
| Choć nie majesz czym prażyci | Хоць ніе маешъ чимъ прожицца |
| Abdzierajuć i katujuć | Абдзираюць и катуюць |
| Akcyzju pastanowili | Акцизавъ пастановили |
| wybiwacca | выбирацця |
| Kažnomu | Каждому |
| Czy być ŭżo z Maskalami, | Чи жиць ужо зъ маскалями |
| Czy znowu żyć z Palakami? | Чи зноу жиць зъ паляками |
| Kažin | Коженъ |
| kažnaho | каждаго |
| U dwor im akzekucyiu stawiuć | У\|дворъ имъ акзекуціи ставяць |
| szwydczej | бардзіей |

Тагачасная памнажальная тэхніка дазваляла ўносіць праўкі. Магчыма, заўважыўшы ў адбітках памылкі і недакладнасці, выдаўцы паправілі надпіс на камені, а таксама дадалі невялікі празаічны ўступ.

Вядома, не ўсе памылкі ўдалося паправіць: напрыклад, ва ўсіх вядомых варыянтах, звязаных з літаграфіяй, сустракаем слова *lichota* (*лихота*). Пісары дакладна транслітаравалі яго, хоць у арыгінале, відавочна, павінна было быць *lichoha*: невыразна напісаная літара *h* увяла ў зман перапісвальніка і рукапіснае копіі літаграфіі (**А 2**), і транслітараваных яе копій.

Звернем увагу яшчэ на адну лексічную асаблівасць аналізаваных намі тэкстаў – ужыванне слова *taj/tay/тай*. Яно шматразова сустракаецца ў літаграфіі, у рукапісе і транслітарацыях. Праўда, уласна ў *Hutorcy staraho dzieda na Biełarusi* толькі двойчы (“Tay lichota nauczaje”, “Tay i Niemcoй zwajawali”). Затое ў невялічкай прадмове да выдання яно ўжыта тройчы, а ў гутарцы *Czy znajecie, mai dzieci* ажно дзесяць разоў. Ці азначае гэта, што дадзеныя тэксты належаць аўтару-выдаўцу літаграфіі, які апрача таго, што ўключыў у выданне свае тэксты, адметнасцю свае гаворкі[1] “пазначыў” нават *Hutorku staraho dzieda na Biełarusi*?

[1] Відавочна, паходзіў з паўднёвых рэгіёнаў Беларусі альбо ведаў украінскую мову.

І ўжо зусім складаную для вырашэння праблему ўяўляе ўжыванне слова *taj* у "пазнанскім" выданні твора ("Taj lichoho nauczaje"). Наўрад ці адбылося гэта выпадкова: хутчэй за ўсё "паходзіць" гэтае слова з літаграфіі (ці копіі, з якой выконвалася літаграфія) і можа сведчыць пра залежнасць "пазнанскага" выдання ад літаграфіі (ці пратографа літаграфіі). Тым самым маем яшчэ адно пацвярджэнне першаснасці групы тэкстаў, якую мы назвалі **A**.

*Гутарка...* была напісаная сілабічным 8-складовікам з парнай жаночай рыфмоўкай. Прычым 8-складовік вытрыманы дасканала. У літаграфаваным выданні мы выявілі толькі 8 выпадкаў, калі замест 8-складовіка з'яўляюцца 7-складовікі (2), 9-складовікі (5) ці 10-складовік (1).

Варта спыніцца на кожным выпадку "парушэння" сілабічнае сістэмы, каб упэўніцца, што з'явіліся яны праз памылкі ці рэдагаванне перапісвальніка, што яны не аўтарскія.

1. У радку *Czynoŭniki jaho zbytkujuć* слова *jaho* маецца толькі ў варыянтах групы **A**. У іншых групах ужываецца альбо *usie* (*все*), альбо *ŭsio*. І хоць не заўсёды пазначаецца, што *ŭ* гэта зычны, але відавочна не можа быць гаворкі пра ўтварэнне дадзеным гукам складу.

2. Памыліўся перапісвальнік, калі ў радку *Lepsz w Boha paprasicie* падаў прыназоўнік *u* як *w*. Ва ўсіх іншых варыянтах падобнае памылкі няма.

3. Магчыма, памылкова ў варыянтах групы **A** запісана слова *zdausia* ў радку *Pakul Prancuz nie zdausia*, бо ва ўсіх іншых рэдакцыях твора ўжываецца слова *paddaŭsia*.

4. Варыянт *nie zastupiŭsia* ў радку *Za Maskala nie zastupiŭsia* сустракаецца ў большасці варыянтах *Гутаркі*..., аднак ужытае ў **A 3a**, **A 3b**, **B 1**, **C 2**, **C 3** слова *ustupiŭsia* паказвае, што колькасць складоў тут адпавядае аўтарскаму 8-складовіку[1].

5. Колькасць складоў у радку *Jak ich u Sybir wałaczyli* змяншаецца да васьмі ў большасці рэдакцый *Гутаркі...* дзякуючы замене прыназоўніка *u* на *ŭ*. (Тут магчыма таксама, што гук [і] "ператвараецца" ў ***j***).

6. Падобнае назіраем і ў радку *Jak usiu szlachtu kasawali*: слова *usiu* ў асобных варыянтах замяняецца на *ŭsiu* ці *wsiu*.

7. Радок *U dwor im akzekucyiu stawiuć* з "дадатковай" колькасцю складоў паўтараецца амаль ва ўсіх рэдакцыях твора. Аднак **C 1** і **C 2** захавалі "правільную" форму: *Agzekuciju u dwor stawiać*.

8. Таксама і ў радку *Z Maskalami dabra nie budzie* праблема лішняга складу вырашаецца дзякуючы іншым, апрача **A**, групам рэдакцый *Гутаркі*...: *Z Maskalom dabra nie budzie*.

Дзеля захавання рытмічнага малюнку твора аўтар карыстаўся разнастайнымі прыёмамі. Вельмі часта ён ужывае сінярэзу: прыназоўнік ***u***

[1] У **C 1** рэдактар дзеля захавання 8-складовіка нават пайшоў на змену сэнсу выказвання: *Za Maskala zastupiŭsia*.

(зрэдку нават ***u*** на пачатку слова) пасля зычнага ператвараецца ў ***ŭ*** (***w***): *Da zaraz ŭ kości ujeusia*; *Ŭ aboz wazić usio zboże*; *Jedź ŭ kałodce da pryjomu*; *To naylepszych w turmu ciahnie*; *Jak Prancuz paszoй ŭ niewolu*; *Tady Maskal znoй wziaй wolu*; *Bo Niemiec w chytrość uszyŭsia*. Але гэта не заўсёды адлюстравана на пісьме, бо аўтарскую літару ***ŭ*** перапісвальнікі выкарыстоўвалі дастаткова адвольна[1].

Пэўную цікавасць выклікае выкарыстанне аўтарам дзеясловаў з інфінітыўным суфіксам ***-ci*** дзеля ўтварэння формаў простага будучага часу. На нашую думку, гэта адметны аўтарскі сродак захавання жаночае рыфмоўкі і адначасна 8-складовіка. Характэрна, што ён паслядоўна ўжываецца ў ранніх рэдакцыях твора (**A 1**, **A 2**, **A 3a**, **A 3b**, **B 1**, **C 1**, **C 2**, **C 3** і **C 4**), а вось у варыянтах **B 2** і **E 1** захаваліся толькі адзінкавыя выпадкі ўжывання дзеясловаў з суфіксам ***-ci***.

Дасканалы 8-складовік прэзентуе "пазнанскае" выданне *Hutorki*… Нешматлікія адхіленні тлумачацца памылкамі набору.

Два рукапісы – мы назвалі іх дзеля зручнасці "кобрынскі" і "лепельскі" – мы вылучаем у асобную групу **B**.

"Кобрынскі" рукапіс створаны на падставе копіі пратографу, якая не мела шасці адметных строф "пазнанскага" выдання, а таксама страфы "Dziennika Literackiego", якая адсутнічае ў большасці варыянтаў. Матэрыялы справы, у якой захаваўся "кобрынскі" рукапіс, сведчаць, што перапісвальнікам *Hutoryki staroho dzieda* быў арыштаваны ў студзені 1864 г. ураджэнец Апочынскага (Opoczno) павета Радомскае губерні пяцідзесяцігадовы Канстанцін Лапатэцкі, які ў 1862–1863 гг. жыў у вёсцы Аляксоты Марыямпальскага павета. Абвіняўся ён "въ сношеніяхъ съ мятежниками", "въ сочувствіи къ польскому возстанію, найденными у него при обыскѣ стихами на польскомъ языкѣ революціоннаго содержанія и пояса съ польскимъ орломъ и погоней" [LVIA 378–106, l. 1]. (У іншым дакуменце справы *Hutoryka…,* а таксама польскамоўныя вершаваныя тэксты названыя "революціонными на польскомъ деолектѣ бумагами" [LVIA 378–106, l. 6]). Сам жа абвінавачаны тлумачыў следчай камісіі, што "стихи списаны имъ безъ всякаго умысла съ печатной книги 1773 года, пропущенной тогдашней цензурою; что поясъ носилъ отъ болѣзни, но когда узналъ, что бывшіе на немъ знаки запрещены, бросилъ его" [LVIA 378–106, l. 35 v]. Параўнанне почырку *Hutoryki…* і тэкстаў, напісаных К. Лапатэцкім, сведчыць, што беларускамоўны твор скапіраваны ўраджэнцам Радомскае губерні. Вя-

---

[1] З дванаццаці тэкстаў, якія мы разглядаем, толькі ў сямі ўжываецца літара ***ŭ***. Найбольш часта – у рукапіснай копіі літаграфіі (77 разоў); ва "уроцлаўскім" спісе – 69; у самой літаграфіі – 68; у "пазнанскім" выданні – 63; у "кракаўскім" спісе – 61 (але тут гук [ў] яшчэ 12 разоў перададзены літараю ***w***. У "парыжскім" выданні і ў газеце "Dziennik Literacki" (відавочна з-за адсутнасці адмысловага знака) дзеля абазначэння ***ў*** нескладовага толькі спарадычна выкарыстоўваліся дыякрытычныя знакі ***u'***, ***ü*** ці ***ù***.

дома, не з “печатной книги 1773 года”. Але адкуль? Адказаць адназначна на гэта пытанне не ўяўляецца магчымым. Магчыма, існаваў рукапісны варыянт *Гутаркі…* на заходнепалескай (кобрынскай) гаворцы, але жыхар Радомскае губерні не змог перадаць ейных фанетычных, марфалагічных і інш. асаблівасцяў. А валоданне (у нязначнай ступені, заўважым) расейскаю моваю, прывяло да таго, што ў “кобрынскім” рукапісе мы маем значна большую колькасць русіфікаваных лексемаў беларускае мовы, чым ва ўсіх іншых варыянтах твора.

Стан захаванасці (забруджанні і пацёртасці) гэтага рукапісу можа быць сведчаннем таго, што *Hutoryku…* працяглы час выкарыстоўвалі ў агітацыйных мэтах. І рабіў гэта К. Лапатэцкі, які – як высветліла следства – нібыта ў пошуках службы цэлы год раз’язджаў па Ковенскай і Віленскай губернях.

Дадзены рукапіс – гэта выкананая паспешліва[1] копія твора са шматлікімі памылкамі (звяртае на сябе ўвагу злітнае і раздзельнае напісанне слоў, непаслядоўнае ўжыванне літараў ***c*** і ***ć***, выкарыстанне польскіх графемаў ***ą*** і ***ę***). Пацвярджэннем таго, што кобрынскі рукапіс належыць да ранніх спісаў *Гутаркі…* можа быць радок “Za cto|ž my razom wojowali”. Падобнаеназіраем у **A 1**, **A 2**, **A 3a**, **A 3b**, **C 4**, **B 2**, у той час як у пазнейшых варыянтах чытае “Za szto|ż jeny wajawali?” (**C 1**, **C 2**, **C 3**, **E 1**)[2]. Відавочна, варыянты **C 4**, **B 1** і **B 2** узніклі пасля таго, як свет убачыла літаграфаванае выданне (**A 1**), г. зн. не пазней вясны 1861 года.

“Лепельскі” рукапіс – гэта, магчыма, адзіны варыянт, які быў узноўлены па памяці. На карысць дадзенае гіпотэзы можа быць і значна меншая колькасць занатаваных радкоў (прапушчаная ледзь не цалкам “гістарычная частка” твора – дзевяць з чатырнаццаці катрэнаў[3]), і адсутнасць літары ***й*** (замест яе ***u*** ці ***w***), і скрэсленні ды выпраўленні (*~~u kość u iewsia~~ – zaraz pa swaimu wziawsia*; *~~Biedny~~ – Uiszow*; *~~nazad~~ – razam*; *~~durać-muciać~~ – uczuć*; *~~Niechaj sabie Pany prosiać~~ // ~~Jm Exekuciu stawiuć~~*)[4], і шэраг словазлучэнняў, якія не сустракаюцца ў іншых варыянтах (*Boh tak radziu z nami*; *Maskali Palaka prahnali*; *pryniaw swajho hora*; *nia moh im pamahaci*; *To i druhich nie nauczaje*; *nay lepszych w turmu ciahnie*; *Zaka$^{o}$~~n~~nami nas karbuiuć // Tłumiać kraduć zabieraiuć; szlachtaw z mużykami; Sam na czużbinie ni~~a~~eboże*; *znow paszow narod hłumić*; *Choć duraki wymyślaiuć*).

---

[1] Як прыклад паспешлівасці можам падаць радок “Z Polakami to bywało”, які з’явіўся замест чацвёртага радка папярэдняй страфы, пасля быў выкраслены, запісаны патрэбны радок, а пасля зноў паўтораны ўжо на належным месцы.

[2] У расейскамоўным варыянце – “паны воевали”.

[3] Праўда, гэта магло быць зроблена адмыслова: перапісвальнік-кампілятар палічыў, што сяляне не зразумеюць.

[4] Заўважым, што асобныя выпраўленні з’явіліся на месцы першаснага правільнага (верыфікуюцца іншымі варыянтамі твора) занатавання.

Характэрная асаблівасць дадзенае копіі – паслядоўнае адлюстраванне акання. Фактычна гэта адзіны рукапіс з групаў **B** і **C**, дзе выяўляецца вышэйназваная з’ява, якая дамінуе ў варыянтах групаў **A** і **E**.

Тэксты групы **C** наўрад ці атрымалі шырокае распаўсюджванне ў краі. Аднак трапіўшы за граніцу, яны былі апублікаваныя, а рукапісы захаваліся ў прыватных архівах. Заўважым, што аніводзін з іх не з’яўляецца літаральнай копіяй іншага. Адрозніваюцца яны і аб’ёмам, і моўнымі асаблівасцямі. Найперш пра аб’ём.

| | “уроцлаўскі” рукапіс | “пазнанскае” выданне | “Dziennik Literacki” | “кракаўскі” рукапіс |
|---|---|---|---|---|
| Колькасць строфаў[1] | 60 | 59 | 54 | 53 |
| Колькасць радкоў | 240 | 236 | 216 | 211 |

Першае знаёмства з “уроцлаўскім” рукапісам наводзіла на думку, што нехта – Марцэлі Міхал Налэнч-Дабравольскі (1829–1880) ці ягоны сын Марцэлі Станіслаў Міхал Налэнч-Дабравольскі (1876–1959) – перапісаў *Гутарку...* з “пазнанскага” выдання. Але больш уважліва прыглядзеўшыся да аркушаў у “анталогіі”, мусім сцвердзіць: тэкст “уроцлаўскага” рукапісу мае на адну страфу (“Tam łob holać i musztrujuć...”) больш, чым “пазнанскае” выданне. Якраз тую, дванаццатую страфу твора, якая была вядома раней толькі па публікацыі ў “Dzienniku Literackim”. Вядома, можна дапусціць, што невядомы перапісвальнік, маючы і “пазнанскае” выданне, і патрэбны нумар львоўскай газеты, скампанаваў тэкст паводле іх. У выніку ў ягонай копіі аказалася і вышэйназваная страфа з “Dziennika Literackiego”, і шэсць строфаў з “пазнанскага” выдання, якія больш нідзе не сустракаюцца (“Da uże pany dla narodu // Zdaŭna chaciać dać swobodu...”). Не выключаем гэтага. Праўда, вельмі цяжка ўявіць аматара (не навукоўца!) прыгожага пісьменства за такою працаю ў другой палове XIX стагоддзя. Да таго ж звяртаюць на сябе ўвагу некалькі метрычных, моўна-стылёвых і іншых асаблівасцяў:

1. У тэксце з анталогіі Налэнч-Дабравольскіх назіраецца вялікая колькасць (блізу пяцідзесяці) парушэнняў метрычнае сістэмы твора: замест звыклага васьміскладовіка з’яўляюцца дзевяці-, а таксама сямі-, шасці-, дзесяці- і нават адзінаццаціскладовікі. Прычым, у пераважнай большасці выпадкаў і ў “пазнанскім” выданні, і ў “Dzienniku Literackim” парушэнняў такіх няма. Перапісвальнік Налэнч-Дабравольскіх часам без патрэбы дадаваў у радок лішняе слова або, наадварот, прапускаў слова ці склад у слове. Напрыклад:

| **Уроцлаўскі рукапіс** | **“Пазнанскае” выданне / “Dziennik Literacki”** |
|---|---|
| Polak chacieŭ daci swobodu<br>Sztoby polaka zwajewaci | Polak chacieu dać swobodu<br>Sztob Palaka zwajowaci |

[1] Тут мы маем на ўвазе “падзел” на катрэны, хоць “уроцлаўскі” і “кракаўскі” рукапісы маюць іншую страфічную будову.

| | |
|---|---|
| Oj da panios że swojo hore | Oj da panios swaje hore |
| Niby dla toj pryczyny | Niby dla hetej pryczyny |
| Oj bo i niemiec uchytrość uszyŭsia | Oj! bo Niemiec w chytrość uszyusia |
| Jak treba budzie słowo skazaci | Jak treba słowo skazaci |

2. У тэксце Налэнч-Дабравольскіх выразна выяўляецца скіраванасць перапісвальніка перадаваць беларускія словы з дапамогаю расейскага пісьма. Напрыклад: *joho, sztoby, biednyj polak, hołodziać, sołdat, kotoryj, czto, z Moskalom, każdomu* і інш.

3. У тэксце Налэнч-Дабравольскіх даволі паслядоўна (аднак не заўсёды!) гук [ў] перадаецца літараю ***й*** (*sudziй, daйnymi, chacieй, staй, słaйnoho, uieйsia, ksiendzoй, й Sibir* і інш.). Характэрна, што ў 1850–1860-я гады сярод беларускае інтэлігенцыі толькі літаральна некалькі чалавек выкарыстоўвалі ў сваіх тэкстах літару ***й***. Перш за ўсё, – Аляксандар Рыпінскі і Вінцэсь Каратынскі. Праўда, апошні гэтай літарай абазначаў і гук [в][1]. В. Дунін-Марцінкевіч ужываў звычайна графему ***ú*** (у друкаваных выданнях з прычыны, што тыпаграфіі не мелі дастатковай колькасці ***ú***, яна замянялася літараю ***и*** курсівам), хоць у *Пінскай шляхце* ўжо сустракаецца літара ***ў***. Ялегі Пранціш Вуль гук [ў] перадаваў графемаю ***û***. Іншыя тагачасныя літаратары, нават датычныя да беларускага асяроддзя, звычайна выкарыстоўвалі адно літару ***и***. Не адлюстраваны на пісьме гук [ў] у *Pieredśmiertnym rozhowory Pustelnika Pietra*, “Mużyckaj Praudzie”, “Hutorcy Dwóch Susiedou”, а таксама перадсмяротным лісце Кастуся Каліноўскага.

4. Толькі ў гэтым тэксце перапісвальнік паслядоўна вытрымлівае ідэнтыфікацыю сялян-мужыкоў як не-палякаў: спачатку ў сорак першым катрэне – “Ci być uże moskalami – // Czy znoй żyć z polakami?”, а пасля ў шасцідзесятым – “Bo jak staniem z polakami // Budziem roйnye z Panami!”. У іншых варыянтах гэтае групы толькі ў сорак першай страфе чытаем падобнае: “Ci być ŭsio z Maskalami, // Ci być znoá z Palakami” (“пазнанскае” выданне) і “Czy być razom z Moskalami // Czy znou żyć z Palakami” (“кобрынскі” рукапіс). У апошняй страфе ўсіх варыянтаў гэтае групы адназначна гучыць: “Bo iak staniem Palakami // Budziem rounymi z Panami”[2].

Узнікае пытанне: чым карыстаўся перапісвальнік тэксту Налэнч-Дабравольскіх? Сапсаванаю знаўцам расейскае мовы копіяй “пратогра-

[1] У вядомых спісах *Гутаркі...* мы выявілі толькі адно выкарыстанне літары ***й*** у якасці гуку [в]: “Szataćsia – nie pazŭalali” [BJ 9288$^{III}$, k. 88]. Праўда, немагчыма адназначна сказаць, ці гэтак было ў арыгінале, з якога рабілася копія для Ю.Б. Залескага, ці памыліўся (?) перапісвальнік. Увогуле, адсутнасць падобнага (перадача гуку [w] літарай ***й***) – самы значны аргумент, што В. Каратынскі не меў дачынення да *Гутаркі...*. Вядома, варта ўзяць пад увагу і тое, што на пачатку 1860-х гадоў ён мог адмовіцца ад таго правапісу, якім ён карыстаўся ў 1850-х гадах (*Najjaśniéjszamu Jahó Miłóści...* і *Daliboh-to, Arcim...*).

[2] Падобнае назіраем у групе **A** (літаграфія і рукапіс). А вось у групе **E** (“парыжскае” выданне) і **D** (*Хутёрь Старого дњдя*) вытрымана адрозная ідэнтыфікацыя сялян-мужыкоў і палякаў.

фу” ці сам занатоўваў “на слых” (але не па памяці!) аўтарскі арыгінал?

Мы не ведаем, як трапіла *Гутарка…* да Марцэлі МіхалаНалэнч-Дабравольскага, лекара, публіцыста, гісторыка мастацтва, удзельніка паўстання 1863 года. Паходзіў ён з “kresów”, з Валыні (маёнтак Самгарадок Сквірскага павета Кіеўскае губерні), вывучаў медыцыну ў Кіеўскім універсітэце, разам з братамі браў удзел у паўстанні, пасля стлумлення якога ўцёк у Парыж[1]. У 1870 г. ён пераехаў у Аўстра-Венгрыю, жыў у Кракаве [Гл.: *Polski Słownik Biograficzny* 1939–1946: 254; *Geneologia polska*, online]. З літаратурных і фальклорных тэкстаў, якія трапілі да яго, хутчэй за ўсё ён сам склаў трохтомную анталогію, якую[2] яго сын – вядомы мастак і доктар філасофіі – дапоўніў і ўжо ў пасляваенны час перадаў у аддзел рукапісаў Асалінэум.

На нашую думку, тэкст Налэнч-Дабравольскіх узнік незалежна ад “пазнанскага” выдання і публікацыі ў “Dzienniku Literackim”, паводле блізкай, але больш поўнага варыянта [можна, аднак, дапусціць, што “пазнанскія” друкары прапусцілі па няўважлівасці адну страфу (“Tam łob holać i musztrujuć...”), а рэдактары львоўскае газеты мелі свае прычыны не друкаваць шэсць строфаў пра дабрачынствы паноў для народу (“Da uże pany dla narodu // Zdaŭna chaciać dać swobodu...”)]. І зусім верагодна, што менавіта яна з’яўляецца найбольш блізкай да тае копіі пратографа, якая трапіла за межы Расейскае імперыі ды стала падставай “пазнанскага” выдання і публікацыі ў газеце “Dziennik Literacki”. І нават адзначаныя намі раней “парушэнні” метрычнае сістэмы не могуць аспрэчыць дадзеную гіпотэзу: а чаму, уласна, твор, прызначаны для сялян, павінен быць напісаны класічным памерам? Не пярэчыць гіпотэзе пра адзначаны характар рукапісу, які ўключаны ў анталогію Налэнч-Дабравольскіх, і выразнае адлюстраванне ў ім уплыву расейскае мовы: у час, калі адсутнічала ўнармаваная перадача беларускае гаворкі, за ўзор магла брацца расейская пісьмовая мова з яе адметным натаваннем маўлення, прынамсі, пецярбургскага.

У той жа час на карысць нашае гіпотэзы можа сведчыць адмысловая строфіка твора. Бо толькі тут мы сустракаем не звыклы падзел тэксту на катрэны (так ёсць амаль ва ўсіх[3] захаваных варыянтах), а на часткі (строфы), якія маюць завершаны сэнс. Графічна, з дапамогаю пустога радка, афармляюцца ўсе дзевяць частак твора.

На страфічную будову *Гутаркі…* варта звярнуць асаблівую ўвагу: на нашую думку, адметнае кампанаванне вершаваных радкоў можа пацвердзіць гіпотэзу пра рукапіс з анталогіі Налэнч-Дабравольскіх як

[1] Магчыма, удалося яму спачатку выехаць у Кракаў. На здымку кракаўскае фатаграфічнае ўстановы Валерыя Жавускага [*Adam Chmielowski i Marceli Nałęcz Dobrowolski*, online] мы бачым яго разам Адамам Хмялёўскім (1845–1916), удзельнікам паўстання 1863 года, мастаком, заснавальнікам манаскага ордэну альбертынаў і альбертынак, святога брата Альберта.

[2] А таксама ўспаміны бацькавыя і ўласныя.

[3] Адзінае выключэнне – рукапіс, дасланы Ю.Б. Залескаму [BJ 9288$^{III}$].

пра вельмі блізкі да аўтарскага. Мяркуем, што гэта ці то арыгінал, ці то копія твора, высланага (ці вывезенага) дзеля друку за мяжу. Моўныя асаблівасці тэксту дазваляюць гіпатэтычна сцвердзіць, што *Гутарка…* нарадзілася ў пецярбургска-маскоўскім рэвалюцыйным асяродку, на чале якога стаялі браты Каліноўскія ды Ігнацы Здановіч (1841–1863), а сябрамі былі Эдмунд Вярыга (каля 1840 – 1902), Юзаф Ямант (1841 – ?), Вітальд Гажыч (каля 1843 – 1864) і інш. Калі больш дакладна – у Таварыстве польскіх студэнтаў Ogół, аснову якога складалі выхадцы з "забранага краю", што належалі пераважна да "чырвоных". Што цікава: яны падкрэслівалі сваё "chłopomańsțwo" – насілі парваныя сурдуты і боты, а замест гальштукаў – ручнікі [Nowiński, online]. Гэта было якраз тое асяроддзе, у якім магла ўзнікнуць *Гутарка…*. Ogół быў таварыствам з даволі значным бюджэтам, а г. зн. сродкі маглі выдавацца не толькі дзеля дапамогі бяднейшым ды набыцця кніг, але таксама і на друкаванне[1] адпаведнае літаратуры[2]. Істотна і тое, што Ogół меў наладжаныя сувязі з эміграцыяй[3], а таксама з рознымі патрыятычнымі і навуковымі арганізацыямі[4] былое Рэчы Паспалітае. І не менш важна: студэнты, выязджаючы на святы і вакацыі ў родныя мясціны, вялі прапаганду сярод сялян. Ці ж не прызначалася дзеля гэтае працы студэнтаў *Гутарка...*?

"Пазнанскае" выданне, як ужо адзначалася, захавалася ў адным асобніку. Застаецца невядомым, чаму гэты асобнік быў далучаны да справы № 322, якая называлася *О девице Марцынкевич в Минске, которая чрезмерно выказывала польский патриотизм*. Якім чынам ён трапіў у рукі жандараў? Быў канфіскаваны ў Мінску падчас затрыманняў і арыштаў?

Даследнікі, як вынікае з іхніх дапушчэнняў, лічылі, што выданне было ажыццёўлена ці то недзе за мяжою, ці то Б. Шварцэ ў Беластоку. Аднак, як даводзіць, Т. Настульчык, друк высокае якасці ў ручной беластоцкай друкарні выканаць было немагчыма. Значыць, пад увагу можна браць толькі прафесійную друкарню. Але дзе і якую?

[1] Надрукаваць невялікую кніжачку за мяжою не патрабавала вялікіх сродкаў. Напрыклад, М. Акілевіч меркаваў за 55 рублёў срэбрам выдаць 10 тысяч асобнікаў кніжкі, у склад якое ўваходзіла празаічная *Gromata Wylniaus Senelio* і вершаваная *Pasaka Senelio*. [Гл.: *Революционный подъем…* 1964: 26].

[2] Цікава адзначыць: як паведамляе Францішак Навінскі, студэнт Юзаф Бярнацкі (пэўна, той самы, які пазней будзе завербаваны III аддзяленнем!) прывёз з-за мяжы ў Пецярбург блізу тысячы асобнікаў "odezw". [Гл.: Nowiński, online]. У нас няма падстаў ідэнтыфікаваць дадзеныя "odezwy" як *Гутарку…*, але той факт, што яны друкаваліся не ў Пецярбурзе ці Расіі, паказальны – Ogół мог выдаць беларускамоўны твор за мяжою.

[3] Высылалі ахвотнікаў у польскія вайсковыя школы Л. Мераслаўскага, што дзейнічалі спачатку ў Парыжы, а пасля ў і Генуі.

[4] Вядома, што Віктар Каліноўскі падтрымліваў дачыненні з бібліятэкай Асалінскіх у Львове, Адамам Кіркорам у Вільні ды інш.

Перш за ўсё трэба сказаць, што выдавецкі адрас, пададзены ў кніжачцы, сапраўды існаваў. У Пазнані ў тыя часы дзейнічала друкарня Напалеона Каменьскага і суполкі[1], пры якой мелася таксама адмысловая кнігарня. У надрукаваным каталогу [*Katalog dzieł*… 1858] друкарні і кнігарні пералічана блізу 1500 пераважна польскамоўных выданняў 1830–1850-х гадоў, у тым ліку найважнешыя віленскія выданні[2].

Што датычыць "спонсара" беларускага выдання А. Курнатоўскага, то *Бібліяграфія Эстрахера* ведае толькі W. Kurnatowskiego, які падрыхтаваў і выдаў у 1843 годзе *Mapę W. Księstwa poznańskiego* [*Bibliografia polska*… 1881: 436; Łukaszewicz 1860: 635]. Відавочна, тут маецца на ўвазе Віктар Курнатоўскі (1810–1846), вядомы пазнанскі картограф, літограф і дзеяч Towarzystwa Demokratycznego Polskiego. Па няпэўных звестках паходзіў ён з Літвы, а на Пазнаншчыне апынуўся пасля паўстання 1830–1831 гадоў. І нібыта менавіта тут ён стаў карыстацца прозвішчам Курнатоўскі. Ці меў да Віктара Курнатоўскага якое дачыненне A. Kurnatowski, – высветліць не ўдалося[3]. Мажліва, аднак, што А. Курнатоўскі – гэта Уладзімір Аляксандар Курнатоўскі (1818–1884), паўстанец 1863 года [Гл.: *Włodzimierz Aleksander Kurnatowski*…, online; *Polski Słownik Biograficzny* 1971: 246]. (Ягоны маёнтак Курнатовічы знаходзіўся ў некалькіх дзясятках кіламетраў ад Імберова пад Аборнікамі).

Таксама не змаглі мы даведацца, хто на пачатку 1860-х гадоў валодаў Imbierowem pod Obornikami; але цікава тое, што фальварак Імберова Аборніцкага павету [Гл.: *Słownik geograficzny*… 1882: 275] яшчэ ў 1850-я гады быў часткаю маёнтка Зелянткова [Гл.: *Słownik geograficzny*… 1895: 590] Энджея Марачэўскага, які калісь быў супольнікам Н. Каменьскага.

Усё гэта не дазваляе адназначна сцвердзіць, што выдавецкі адрас *Гутаркі…* цалкам быў выдуманы тымі, хто займаўся друкаваннем твора[4]. Праўда, аніякіх іншых кніг, "прафінансаваных" А. Курнатоўскім і выдадзеных суполкаю Н. Каменьскага, выявіць нам не ўдалося. Звы-

---

[1] Напалеон Каменьскі (1806–1873) паходзіў з Пазнані, вывучаў права ў Берлінскім універсітэце. Браў удзел у паўстанні 1830–1831 гг., у тым ліку і на Літве. З 1839 года займаўся выдавецкаю справаю і кнігагандлем. У 1841 годзе разам з вядомым філосафам Каралем Лібельтам (1807–1875) ды гісторыкам і публіцыстам Энджеем Марачэўскім (1802–1855) заснаваў кнігавыдавецкую суполку. Рэдагаваў "Gazetę Wielkiego Księstwa Poznańskiego" (1846–1865) і інш.

[2] Напрыклад, *Piosenki wieśniacze* Яна Чачота 1837, 1840, 1844 гадоў.

[3] Міцкевічазнаўцам вядомы таксама нехта М. Курнатоўскі, які, відаць, у Кракаве выканаў медаль з бюстам Адама Міцкевіча і на адвароце адкрытую кнігу з надпісам "Pan Tadeusz. Dziady. Sonety. Wallenrod". [Гл.: Méyet 1888: 39].

[4] Мы шукалі "кропак судакранання" *Гутаркі…* з пецярбургскаю друкарняю Ёзафата Агрызкі (1827–1890). Падобнасць шрыфтоў, аднак, гэта адзіны аргумент на карысць гіпотэзы. (Можа, яшчэ – "народавольніцкія" погляды самога выдаўца). Куды больш "тэхнічнага" (якасць друку, афармленне нумарацыі старонак, колькасць радкоў на старонцы) падабенства *Hutorki…* знаходзім з выданнямі Н. Каменьскага і суполкі.

чайна Н. Каменьскі выдаваў свае кнігі ўласным "nakładem". Варта працягваць пошукі ў гэтым кірунку.

Невядомыя нам і акалічнасці публікацыі *Гутаркі...* ў "Dzienniku Literackim"[1]. Бо хоць у газеце і маецца прадмова да беларускамоўнага тэксту, але яна датычыць, уласна, не яго, а праблемы "падзелу" славянскіх моў і дыялектаў. Відавочна, філолаг (вывучаў філалогію ў Львоўскім універсітэце, хоць дыплома і не атрымаў) Ян Дабжаньскі, не падзяляючы погляды "русінаў"[2], выкарыстаў нагоду дзеля палемічных мэтаў:

> Даслалі нам сялянскі твор (poezję ludową) на беларускім дыялекце. Змяшчаем яго тут як дзеля ягонага зместу, так і дзеля мовы. Нашыя русіны (Rusini), апелюючы заўсёды да сваіх дванаццаці мільёнаў, улічваюць і тых, хто размаўляе і на беларускім дыялекце. У той час як гэты люд, самы шматлікі з усіх рускіх плямёнаў (szczepów ruskich), размаўляе на мове, якая да польскае значна больш блізкая, чым да якога іншага дыялекту. Хутчэй гэтую мову зразумее паляк, русін жа – толькі той, хто добра ведае польскую, дык з дапамогаю польскае мовы. Увогуле трэба сказаць, што ўсе Русі (Rusie wszystkie) ажно да XVI стагоддзя карысталіся адною пісьмоваю моваю, аднак не сваёю ўласнаю, а перанятаю з царкоўных кнігаў, старабалгарскаю, таксама як на захадзе Еўропы лацінская мова з касцельных кнігаў была пісьмоваю моваю ўсяе Еўропы. Калі ж народы пачалі адмаўляцца ад лаціны і прымалі нацыянальныя мовы ды пераўтваралі іх на пісьмовыя, Русь разам з палякамі (Ruś wraz z Polakami) выпрацавала са свае і мазурскага дыялекту пісьмовую польскую мову. Аднак мясцовыя рускія дыялекты засталіся аж да сёння некранутымі і не зблізіліся адзін да аднаго. Прыхільнікі люду, што сёння арганізоўваюць сялянскія школкі на Палессі, аб'явілі конкурс на лемантар на палескім дыялекце, на Валыні – на валынскім, а на Украіне – на ўкраінскім. Нашыя ж рускія школьныя кніжкі не будуць зразумелыя ані на Украіне, ані на Беларусі [*Hutorka staroho dzieda* 1861, 89: 714].

Відаць, для Я. Дабжаньскага прапольская скіраванасць беларускага твора была істотным аргументам у польска-русінскіх дыскусіях тых часоў: беларусы, "самы[я] шматлікі[я] з усіх рускіх плямёнаў", далучаюцца да "польскае справы", а вось шмат якія русіны – скіроўваюць свае погляды ў бок маскалёў.

У Львоў *Гутарка...* магла трапіць рознымі шляхамі, але не было гэта "пазнанскае" выданне[3]. Дасланы, відаць, быў рукапіс, вельмі блізкі да тэксту Налэнч-Дабравольскіх. Яшчэ раз паўторым: неадлюстраванне акання (больш дакладна: непаслядоўнае адлюстраванне) на пісьме

---

[1] Газета была заснаваная Войцехам Манецкім (1820–1887) як штотыднёвік (выходзіла ў аўторкі і пятніцы) у 1852 годзе і выдавалася да 1870 года. (У 1855 годзе як "Nowiny"). Рэдактарам у 1854–1865 гадах быў публіцыст і пісьменнік Ян Дабжаньскі (1820–1886).

[2] У сярэдзіне XIX стагоддзя значная частка насельніцтва Галіцыі называла сябе русінамі, ці рускімі, але дзялілася на г. зв. старарусінаў (маскаляфілаў) і маладарусінаў (украінафілаў).

[3] Пра гэта можа сведчыць дадатковая страфа ("Tam łob hołoć i musztruiuć..."), а таксама адсутнасць шасці строф пра добрых паноў ("Da ŭże pany dla narodu...").

можа сведчыць пра ўплыў расейскае пісьмовае мовы, а г. зн. куды больш імаверна, што дадзены варыянт беларускамоўнага твора ўзнік у колах ліцвінскае і польскай моладзі Ogółu, а не ў інтэлігенцкіх асяродках Вільні, Мінска ці Віцебска, бо і В. Дунін-Марцінкевіч, і У. Сыракомля, і А. Вярыга-Дарэўскі адлюстроўвалі аканне на пісьме.

Блізкім, хоць і неідэнтычным да папярэдніх быў і рукапіс, на аснове якога ўзнік варыянт-копія, дасланая Ю.Б. Залескаму. На нашую думку, гэты рукапіс варта датаваць 1860-мі гг., а не 1880-мі. Сведчаннем можа быць даўняе напісанне асобных літараў (напрыклад, ***s***). З найбольш значных адметнасцяў копіі Ю.Б. Залескага адзначым тое, што перапісвальнік захаваў напісанне літары ***ŭ*** (хоць і незаўсёды, часам гук [ў] перадаецца літараю ***w***. Напрыклад, *chodzić w ryzach*, *dawniej*, *pryniaw*, *krywdziać* і інш.), а таксама неадлюстраванне акання. Характэрна і тое, што ён пакінуў свой, відавочна, украінскі ці палескі след: напрыклад, *szczob*, *świt*, *szczo* і інш. Радок “Na prykaz siejczas jaŭlaćsia” перапісвальнік прапусціў, а вось да радка “Sam ŭ czużoj ziemli nieboże!” дадаў сваю[1] версію: “Na ziemli swoioj – czużoj nieboże”.

На залежнасць гэтага варыянта ад пратографу (?) можа паказваць і ейная строфіка: тут паўтораны падзел радкоў на фрагменты як і ў рукапісе Налэнч-Дабравольскіх з той толькі розніцаю, што замест “пустых” радкоў з’яўляюцца альбо знак # (hash) ці = (equals sign), альбо меншы водступ першага радка фрагменту.

Перапісвальнік карыстаўся невядомым рукапісам, але не ўзнаўляў тэкст па памяці.

Выяўлены Т. Настульчыкам расейскамоўны *Хутёрь Стараго дђдя* – гэта, на нашую думку, пераклад асобнай рэдакцыі твора, што мы адносім да групы **D**. Гэтая рэдакцыя ўзнікла на падставе першаснага тэксту *Гутаркі…*, але ўтрымлівала таксама фрагменты, якія маюцца і ў “парыжскім” выданні. Праўда, аўтар (ці сааўтар) яшчэ моцна трымаецца першаснай ідэі твора – дапамагчы сялянам правільна адказаць на пытанне “рэферэндума”. Як і ў варыянтах папярэдніх групаў (**A**, **B** і **C**), тут не заўважаецца, аўтар ведае пра сялянскую рэформу 19 лютага 1861 года. Ён згадвае адно толькі чуткі пра “волю”, якім просіць не верыць. Г. зн. тэкст, з якога быў зроблены пераклад, узнік не пазней сакавіка 1861 г.

Памятаючы пра гіпотэзу З. Тальвірскае, што і беларускі, і літоўскі тэксты *Гутаркі…* з’яўляюцца перакладамі з невядомага польскага арыгінала, увесь час непакоіла думка: а можа, расейскамоўная гутарка і ёсць тым арыгіналам? Маўляў, нехта з Ogółu, добра ведаючы расейскую мову і расейскае вершаскладанне выклаў у даступнай для сялян форме ідэю далучыць люд беларускіх губерняў да нацыянальна-вызва-

---

[1] Зрэшты, дадатковы радок напісаны –хутчэй за ўсё – пазней і, здаецца, іншаю рукою. Апрача таго, тут замест графемы ***ż*** ужытая ***ž*** (двойчы).

ленчае барацьбы за адраджэнне Рэчы Паспалітае – Польшчы. Гэты нехта, відавочна, ведаў, што беларускі селянін, адносна кепска разумеючы і з асцярогаю ставячыся да польскае мовы, за часы расейскага панавання прызвычаіўся выконваць расейскамоўныя распараджэнні царскае ўлады. Расейскамоўнае ўспрымалася сялянствам як загад, абавязковы да выканання, а г. зн. мела шанец быць ім прынятым. Прынамсі, напісанае па-польску такіх шанцаў у сярэдзіне XIX стагоддзя, хіба, ужо не мела.

Зрэшты, нават сама наяўнасць захаванага перакладу даводзіць: на пачатку 1860-х гадоў існавала думка пашыраць агітацыю пры дапамозе расейскамоўных тэкстаў сярод насельніцтва беларускага і літоўскага краю. Сапраўды, не на расейскіх жа сялян ці расейскіх жаўнераў планавалі ўздзейнічаць польска-ліцвінскія рэвалюцыянеры. Мы не сумняваемся, што пераклад рыхтаваўся з менавіта такімі мэтамі. Гэта не быў пераклад на патрэбы царскай адміністрацыі: дзеля следства дастаткова было б і падрадковага тлумачэння *Гутаркі…*.

Цікава адзначыць, што пераклад быў занатаваны на паперы Пецярбургскае фабрыкі Джона Гобарда[1]. Вядома, той факт, што перакладнік карыстаецца папераю гэтае фабрыкі, адназначна не азначае: тэкст быў напісаны ў Пецярбурзе, але верагоднасць гэтага вельмі вялікая[2].

Рукапіс дэманструе даволі невысокія паэтычныя здольнасці перакладніка. І нават "рэдактарскія" праўкі – іх даволі шмат – не змаглі прывесці тэкст да правільнае расейскае мовы.

Звернем увагу на некаторыя асаблівасці перакладу. Найважнейшае тое, што перакладнік моцна трымаецца беларускага арыгіналу, перакладае літаральна, слова ў слова, часам захоўваючы беларускія словы:

| **"Пазнанскае" выданне** | ***Хутёрь Стараго дѣдя*** |
|---|---|
| Szto uże na świecie budzie? | Что уже на свѣтѣ буди? |
| Ale nie moh ratawaci | Но не могъ Спасти |
| Mużyk mieй odkul wziać chleba | Мужикъ имѣлъ откуда взять хлѣба |
| Jeszczo sam idzi u sałdaty | Еще самъ иди въ\|солдаты |
| Chadzić u ryzach z baradami | Ходить въ\|рясахъ, съ бородами |
| Z duszy rekrut i padatki | Изъ души рекрутъ, податки |
| Ależ bratki nie tużycie | Но братки не тужите |
| Choć prastaki wymyszlajuć | Хотя Умники вымишляютъ |

[1] Пра гэта сведчыць цісненне ў левым верхнім куце першае старонкі: "<…> ФАБР. 1835 ГОБАРДА". Маецца на ўвазе папяровая фабрыка Джона Гобарда і Аляксандра Варгуніна ў Пецярбурзе: "въ 6 верстахъ отъ С. Петербурга – большая бумажная фабрика Гобарта и Варгунина". [Гл.: Павловскій 1843: 29]. Сёння гэтае прадпрыемства ў літаратуры звычайна называецца Акционерное общество Невской писчебумажной фабрики в С.-Петербурге, а яе заснавальнікамі лічацца купец 1-е гільдыі А. Варгунін і падданы Велікабрытаніі Джон Гоберт (!). [Гл.: *Невская писчебумажная фабрика*, online].

[2] У Беларусі і Літве ў сярэдзіне XIX стагоддзя дзейнічала значная колькасць уласных папяровых фабрык (млыноў). Напрыклад, Ян Чачот выкарыстоўваў паперу фабрыкі Кіаўтан (Kiauten), сёння в. Смірнова Калінінградскае вобласці.

Часам ён не знаходзіць адэкватных сродкаў ці не разумее арыгінала:

| **“Пазнанскае” выданне** | ***Хутёрь Стараго дъдя*** |
|---|---|
| Jak Maskál taho daczuusia, | Какъ москалъ осмотрѣлся |
| To na jeho nawiernuŭsia | Такъ на него обратился |
| Szle usich damoj, choć nie znaje, | Иди домой, хотя не знаетъ |
| Ci katory dom swoj maje! | Кто свой домъ имѣетъ. |
| Stau kaścioły odbiraci | Сталъ Костёлы обирать |
| I akcyzju ustanawili | Какъ Окцызу погубили |
| To Maskal i znoŭ ŭziaŭ wolu | Тагда москаль размогся въ воле |
| A sztob bolsz nie wajawaci, | И чтобъ больше не воевать |
| Da i narodu nie cieraci | Чтобъ людей не принуждать |
| Czuć i nas majuć pytać sia | Слышно и у насъ будетъ требоватся |
| I każen zapłacić nieboże | Скажуть заплати бѣдный |
| Szak pany nieprarabili, | Вѣдь Паны ничего не успѣли |
| Jak ich ŭ Sybir wałaczyli, | Какъ въ Сибиръ ихъ толкали |
| Jak ŭsiu szlachtu kasawali, | Какъ всю шляхту уничтожили |
| I majontki odbirali | И Имѣнія отобрали |

Праўда, сяды-тады ягоныя мастацкія рашэнні дастаткова арыгінальныя:

| **“Пазнанскае” выданне** | ***Хутёрь Стараго дъдя*** |
|---|---|
| Dauniéj ludzie dobra żyli | Да́вно люди Бога знали |
| I druhich dobra uczyli | Другихъ добру научали |
| Wałacze od siemii z chaty | Какъ собаку тащитъ съ хаты |
| Bo uże pora nastupaje, | Ибо уже время наступила |
| Szto Maskal moc pacieraje | Московская лопнет сила |
| Oj baj Niemiec ŭ chitrość uszyŭsia | Ой! ибо нѣмецъ у Лисовъ научился |
| A Prancuzy jak daznali | Какъ Французы того Узнали |
| Zaraz na nieho napali | Бѣду На Нѣмцев навязали |
| A jak tolki szto nakaże, | И лишь только что прикажеть |
| Każm zrabić, jak prykaże | То пляшетъ каждый какъ панъ скажетъ |
| Oj tak! tak to moi ludzie, | Помолитесь добрыя люди |
| Z Maskalem dobra nie budzie | Съ Москалемъ добра не\|будетъ |
| | То пусть же этотъ бѣсъ |
| | Идет отъ насъ въ сухiй лѣсъ[1] |
| Usim szczaście Boh nam daść, | Всѣмъ Намъ Богъ счастье дасть |
| I prapadzie Maskouska właść!!!. | Когда отвяжется от Насъ напасть |

Што выкарыстаў у якасці арыгіналу перакладнік? Гэта не быў аніводзін з вядомых сёння тэкстаў. Іншы, у якім, прытрымліваючыся ідэйнае канвы варыянтаў групы **A**, **B** і **C** (выказацца на “рэферэндуме” на карысць далучэння да Польшчы), аўтар беларускамоўнага арыгінала падае шэраг новых аргументаў, якіх не было ў творы раней (маскаль мае “волю” адным словам ператварыць ксяндза ў “шызматыка”; пана, за тое, што ён хоча вызваліць сялян, – “у когти забралъ”; пра “вольносць” маскаль загаварыў пасля таго, як яму “задалі у Крыме духу” і патрабаванні французаў выдае цяпер за свае жаданні).

[1] Відаць, апошнія два радкі былі ў тэксце, з якога зроблены пераклад.

Застаецца дадаць, што невядомы сёння варыянт *Гутаркі...* быў пакладзены і ў аснову "парыжскага" выдання. Адрэдагаванага так, што амаль не засталося "слядоў" "рэферэндума". Таго, уласна, дзеля чаго і пісаўся твор.

Гэтае "парыжскае" выданне *Hutorki staroho dzieda* мы аднеслі да групы **Е**. На нашую думку, гэта новая рэдакцыя твора. З'явілася яна ў другой палове 1861 года[1]. (Лічым, што дата на апошняй старонцы зборнічка – "1862 r. Lutego 27 [15] dnia" – адпавядае сапраўднасці). Цікава тое, што ў архівах захаваліся ажно некалькі асобнікаў выдання (тры цалкам і фрагменты чацвёртага), але рукапісныя копіі пакуль не выяўленыя[2].

Даследнікам удалося часткова разгадаць таямніцу друку *Hutorki...*: сёння, здаецца, няма сумненняў, што яна ўбачыла свет у беластоцкай "друкарні" Б. Шварцэ. Ён сам пра гэта пісаў наступнае:

> Прыхільнікамі чырвонага, паўстанцкага руху была галоўным чынам моладзь з забранага краю; першым, менавіта заснавальнікам паўстанцкага камітэта, які меўся стаць пазней Цэнтральным, быў паэт Апалон Кажанёўскі з Украіны, швагер Стэфана Баброўскага; да яго далучыліся Ігнацы Матушэвіч, таксама украінец, і калішанін Баляслаў Дэнель, самы актыўны з усіх. Праца не ладзілася з прычыны апазіцыі белых, толькі ўрадавы перaслед павярнуў усіх на шлях змовы. Па даручэнні гэтага першапачатковага камітэта і прывезеным Дэнелем у Беласток шрыфтам я друкаваў на плябаніі з Грынявіцкім па-беларуску лацінскімі літарамі рэвалюцыйную народную *Hutorkę staraho dziedа*, якая павінна была пераканаць літоўскі люд, што толькі ад польскае Рэчы Паспалітае ён атрымае "зямлю і волю" [Szwarce 1903: 444].

На жаль, мы не маем дастаткова матэрыялаў, каб высветліць, калі дакладна была выдадзена *Гутарка...*. Паспрабуем, аднак, прасачыць тыя падзеі, ад якіх залежала друкаванне твора.

***Па-першае***, "паўстанцкі камітэт" – гэта Komitet Miejski, ці Komitet Ruchu, быў створаны паэтам Апалонам Кажанёўскім (1820–1869) пасля ўвядзення расейскаю ўладаю 14 кастрычніка 1861 г. ваеннага стану; у яго склад уваходзілі: Леон Главацкі (брат Баляслава Пруса), Ігнацы Хмяленьскі (1837–1871) і Вітольд Марчэўскі (1832–1903). Праўда, кіраўніка Камітэта жандары арыштавалі 21 кастрычніка 1861 г. Што цікава: перад арыштам А. Кажанёўскі пісаў у Віцебск А. Вярыгу-Дарэўскаму:

> Пісьмо Ваша, без даты, але мілае сэрцу, што любіць нават самыя забытыя куткі сваёй зямлі, атрымаў чатыры дні назад <...>. Затрымка выйшла

[1] Нягледзячы на тое, што ў грамадстве шырока абмяркоўвалася сялянская рэформа 19 лютага 1861 года, у "парыжскім" выданні гэты аспект ("воля", дадзеная царом) не адлюстраваны. Магчыма, з тае прычыны, што выдаўцы нічога свайго не дадавалі, а толькі выкасоўвалі "састарэлы рэферэндум" з тэксту, які быў напісаны ўласна да апублікавання царскага маніфесту.

[2] Не бяром пад увагу копіі з хрэстаматыі Б. Эпімаха-Шыпілы і ў матэрыялах А. Ельскага: абедзве ўзніклі пазней як вынік збіральніцкай дзейнасці.

> з прычыны немагчымасці адпісаць у гэтыя страшныя дні стану аблогі, хаця гэты стан пераносіцца мужна і стойка... Наконт карэспандэнцыі – і хуткай – прашу. Павінна яна быць маладой паводле думкі і напісаная жывым словам... Памятайце, што 3/15 лістапада першы нумар выйдзе. Прысылайце, што маеце нават найменшага на беларускай мове: я павінен паглядзець, што гэта такое. Так, не прачытаўшы, рашыць не магу... Асабліва хацеў бы мець драмку, думка якой невымоўна мне падабаецца [Цыт. па: Кісялёў 1971: 193].

Г. Кісялёў, які апублікаваў гэты ліст А. Кажанёўскага, лічыў, што напісаны ён у верасні–кастрычніку 1861 г. і датычыць публікацыі твораў А. Вярыгі-Дарэўскага ў планаванай газеце "Dwutygodnik". Але звернем увагу на тое, што адпраўнік піша пра "страшныя дні стану аблогі", г. зн., пра ваенны стан у Варшаве, а таксама на эзопавую мову ліста ("Павінна яна быць маладой паводле думкі і напісана жывым словам"). Ці не ішла тут гаворка не толькі пра "звычайныя" літаратурныя творы, але і тыя, якіх патрабаваў час, патрабавала справа, якою займаўся А. Кажанёўскі? Думаецца, А. Вярыга-Дарэўскі (паводле некаторых звестак адзін з кіраўнікоў вызваленчага руху на Віцебшчыне) добра разумеў, якую літаратуру – легальную і нелегальную – трэба выдаваць у сітуацыі, якая склалася. І цікава было б даведацца: штó выслала Беларуская Дуда ў кастрычніку–лістападзе 1861 года ў Варшаву? Бо нявартa сумнявацца, што ў Беласток *Гутарка...* трапіла праз Варшаву. І магчыма нават, даслаў яе А. Вярыга-Дарэўскі. Прынамсі, мы не ведаем пра кантакты каго-небудзь яшчэ з беларусаў з Komitetem Miejskim.

***Па-другое***, найважнейшую ролю ў справе друку *Гутаркі...* адыграў Б. Шварцэ (1834–1904), які ні паходжаннем, ні нараджэннем (прыйшоў на свет у Францыі ў сям'і польскіх эмігрантаў) не быў звязаны з Літвою-Беларуссю, а таму рэдагаваць беларускамоўныя тэксты ён наўрад ці мог[1]. Б. Шварцэ адно выконваў заданне Komitetu Miejskiego[2], якому падпарадкоўваўся, працуючы з 1860 года па май 1862 года на Беласточчыне на будаўніцтве Пецярбургска-Варшаўскае чыгункі.

***Па-трэцяе***, выканаць заданне Komitetu Miejskiego стала магчымым тады, калі Б. Дэнель прывёз у Беласток "шрыфты", г. зн. невялікі ручны друкавальны станок. Калі гэта адбылося? Вядома, што Б. Дэнель (1830–1863), пасля арышту ў лістападзе 1860 г. і вызвалення з Варшаўскай цытадэлі 30 сакавіка 1861 года, пэўны час удзельнічаў у рэдагаванні газеты-ўлёткі "Strażnica". Яна выходзіла ў Варшаве з 1 ліпеня 1861 года. У гэтым жа годзе, зусім верагодна – пасля 14 кастрычніка,

---

[1] Мажліва, аднак, што Б. Шварцэ някепска разумеў беларускую мову. Пра гэта могуць сведчыць ягоныя ўспаміны *Siedem lat w Szlyselburgu*, напісаныя ў 1893 годзе: "Szeroko się uśmiechnął jasnowłosy jamszczyk, zdjął niski czarny kapelusz, i słodziutko przemówił: *barin, na wodku, za to, czto szczasliwo prywioz!* Musiałem się roześmiać, tak mi się podobała ta niewinna ironia Moskala – nie pamiętam, com mu z białoruska odpowiedział: *sztob ty prapau*, albo coś podobnego" [Sywarce 1893: 4].

[2] Нягледзячы на тое, што А. Кажанёўскі знаходзіўся ў Варшаўскай цытадэлі, справа друку агітацыйнае беларускамоўнае літаратуры пачаў, відаць, ён.

яго зноў арыштавалі і выслалі на Беласточчыну, дзе ён працаваў на будаўніцтве Пецярбургска-Варшаўскае чыгункі. Відаць, толькі позняй восенню 1861 г. Б. Шварцэ атрымаў "шрыфты" і адначасна даручэнне Komitetu Miejskiego, што ён павінен друкаваць (і распаўсюджваць?) свае выданні для беларускамоўных сялян Беласточчыны, Віленшчыны і Гародзеншчыны.

Новая рэдакцыя *Гутаркі…* адлюстроўвала пазіцыю варшаўскіх чырвоных, а менавіта, курс на ўзброенае паўстанне, якое меркавалася пачаць 26 чэрвеня 1862 г. З гэтае прычыны ў вядомым у той час тэксце скасавалі строфы з заклікамі "правільна" галасаваць на "рэферэндуме", а дадалі[1] больш актуальныя:

Na wiasnu jak daść Boh hranieć
Prancuz – Palak z żaunierami,
J jak Polszcza usia ustanieć
Idziom i My z Palakami.
<…>
Usim szczaście Boh nam daść,
I prapadzie Maskouska właść!!!.

Дзе, калі і кім было гэта зроблена? Відавочна, не ў Варшаве. Мы лічым, што "ланцужок" ад А. Вярыгі-Дарэўскага (а можа, і "віцебскае паэтычнае школы") да А. Кажанёўскага і Komitetu Miejskiego мог доўжыцца да Б. Шварцэ і "парыжскага" выдання *Гутаркі…*. А ўключэнне ў зборнічак верша *Dobryja wieści* можа быць адно на карысць гіпотэзы пра непасрэднае дачыненне вядомых літаратараў Літвы-Беларусі да "парыжскага" выдання: верш У. Сыракомлі не быў шырокавядомым, але яго маглі мець блізкія прыяцелі літоўскага лірніка.

## Бібліяграфія


Abramavičûs Vladas. 1949. *Bibliografiâ po belorusskoj literature. Hudožestvennye i publicističeskie proizvedeniâ, opublikovannye i rukopisnye* [mašynapìs]. Vil'nûs [Абрамавичюс Владас. 1949. *Библиография по белорусской литературе. Художественные и публицистические произведения, опубликованные и рукописные* (машынапіс). Вильнюс].

*Adam Chmielowski i Marceli Nałęcz Dobrowolski* [online] https://www.ipsb.nina.gov.pl/a/foto/adam-chmielow ski-i-marceli-nalecz-dobrowolski [dostup : 24.06.2019].

[Akelaitis Mikalojus]. 1906. *Litovskìâ pis'ma, kotoryâ predpoloženo bylo napečatat' v Memelě. Pis'mo starika iz Vil'ny. Pis'mo bědnâka iz Litvy*. V: *Sbornik dokumentov muzeâ Grafa M.N. Murav'eva*. T. 1. Vil'na [Akelaitis Mikalojus. 1906. *Литовскія письма, которыя предположено было напечатать въ Мемелѣ. Письмо старика изъ Вильны. Письмо бѣдняка изъ Литвы*. В: *Сборникъ документовъ музея Графа М.Н. Муравьева*. Т. 1. Вильна].

Archiwum Główne Akt Dawnych (AGAD), zespół 378: *Archiwum Prozarów i Jelskich*, $140_1$: *Materyały bibliograficzne z zakresu literatury białoruskiej uzbierane przez Al. Jelskiego*.


[1] Больш дакладна: перапрацавалі страфу з літаграфіі, дзе ішла гаворка пра Л. Мераслаўскага.

Awejde Oskar. 1965. *Rola prasy rewolucyjnej w powstaniach 1831 i 1863 roku [styczeń 1866]*. W: *Zbiór zeznań śledczych o przebiegu powstania styczniowego*. Wrocław-Warszawa-Kraków.

Barysenka Vasìl'. 1957. Francìšak Bagušèvìč ì prablema rèalìzma ŭ belaruskaj lìtaratury XIX stagoddzâ. Mìnsk [Барысенка Васіль. 1957. *Францішак Багушэвіч і праблема рэалізма ў беларускай літаратуры XIX стагоддзя*. Мінск].

Belaruskì dzâržaŭny arhìŭ lìtaratury ì mastactva (BDALÌM), f. 66: *Bèndè Lukaš Apanasavìč*, vop. 1, spr. 993: *Gutarka staroga dzeda. Verš. Pis'ma starika iz Vil'ni. Publìcystyčny tvor. Mašynapìsnyâ kopìì* [Беларускі дзяржаўны архіў літаратуры і мастацтва (БДАЛіМ), ф. 66: *Бэндэ Лукаш Апанасавіч*, воп. 1, спр. 993: *Гутарка старога дзеда. Верш. Письма старика из Вильни. Публіцыстычны твор. Машынапісныя копіі*].

*Belaruskaâ lìtaratura XIX stagoddzâ: Hrèstamatyâ*. 1971. Sklad. S. Aleksandrovìč, A. Lojka, V. Ragojša. Mìnsk [*Беларуская літаратура XIX стагоддзя: Хрэстаматыя*. 1971. Склад. С. Александровіч, А. Лойка, В. Рагойша. Мінск].

*Bibliografia polska XIX stulecia przez K. Estreichera*. 1881. T. VI: *Dopełnienia (A–O)*. Kraków.

Biblioteka Jagiellońska (BJ), sygn. 9288III: *Wiersze różne przesłane Józefowi Bohdanowi Zaleskiemu.*

Central'nij deržavnij ìstoričnij arhìv Ukraïni (CDÌAK Ukraïni), f. 442: *Kancelârìâ kiïvs'kogo, podìl's'kogo ì volins'kogo general-gubernatora, m. Kiïv*, op. 812, spr. 4 [Центральний державний історичний архів України (ЦДІАК України), ф. 442: *Канцелярія київського, подільського і волинського генерал-губернатора, м. Київ*, оп. 812, спр. 4 [online] https://cdiak.archives.gov.ua/v_do_150_pochatku_Polskogo_povstannya_1863-1864.php [доступ: 18.03.2020].

Dunìn-Marcìnkevìč Vìncènt. 2008. *Zbor tvoraŭ u 2 t.* T. 2: *Veršavanyâ apovescì ì apavâdannì, veršy, publìcystyka, lìsty ì paslannì, peraklady, Dubia*. Mìnsk [Дунін-Марцінкевіч Вінцэнт. 2008. *Збор твораў у 2 т.* Т. 2: *Вершаваныя аповесці і апавяданні, вершы, публіцыстыка, лісты і пасланні, пераклады, Dubia*. Мінск].

*Èlektronnye opisi* [*Электронные описи*] [online] http://statearchive.ru/383 [доступ: 18.03.2020].

Garèckì Maksìm. 1920. *Gìstoryâ belaruskae lìtèratury*. Vìl'nâ [Гарэцкі Максім. 1920. *Гісторыя беларускае літэратуры*. Вільня].

Garèckì Maksìm. 1926. *Gìstoryâ belaruskae lìtèratury*, vydan'ne čac'vertae, peraroblenae. Mensk [Гарэцкі Максім. 1926. *Гісторыя беларускае літэратуры*, выданьне чацьвертае, перапробленае. Менск].

*Geneologia polska* [online] https://polishgenealogy1.blogspot.com/2017/04/dobrowolski.html [dostup: 25.06.2019].

*Genealogia Polaków: Katalog Powstańców Styczniowych* [online] https://genealogia.okiem.pl/powstanies/index.php?nazwisko=Piekarski [dostup: 28.09.2019].

*Generalitet rossijskoj imperatorskojarmii i flota* [*Генералитет российской императорской армии и флота* [online] http://www.rusgene ral.ru/general_r1.html [доступ: 13.09.2019].

Gosudarstvennyj arhiv Rossijskoj Federacii (GARF), f. 109, op. 37: *I èksped., 1862 g.*, d. 228: *O dvuh vozmutitel'nyh stihotvoreniâh na malorossijskom âzyke pod zaglaviem* Znajte lûde dlâ čego car' vis'ko tremae *i* Tuča vremen prošedših i nastoâŝih, *najdennyh podbrošennymi neizvestno kem v uezdah: Gajsinskom – Podol'skoj i Umanskom – Kievskoj gubernij* [Государственный архив Российской Федерации (ГАРФ), ф. 109, оп. 37: *I экспед., 1862 г.*, д. 228: *О двух возмутительных стихотворениях на малороссийском языке под заглавием* Знайте люде для чего царь висько тремае и Туча времен прошедших и настоящих, *найденных подброшенными неизвестно кем в уездах: Гайсинском – Подольской и Уманском –*

*Киевской губерний* [online] http://opisi.garf.su/default.asp?base=garf&menu=2&v=7&node=348&cd=1322823&fond=11 47&opis=9160&delo=5754607 [доступ: 18.03.2020].

Gronskij Aleksandr. 2005. *Nacional'no-religioznoe napolnenie "Mužickoj pravdy"*. V: *Materialy X Meždunarodnyh Kirillo-Mefodievskih čtenij*, v 2 č. Minsk [Гронский Александр. 2005. *Национально-религиозное наполнение "Мужицкой правды"*. В: *Материалы X Международных Кирилло-Мефодиевских чтений*, в 2 ч. Минск].

Haŭstovìč Mìkola. 1999. *"Câper maskal' pâe mudragelìkì svae"*. "Spadčyna"№ 5–6 [Хаўстовіч Мікола. 1999. *"Цяпер маскаль пяе мудрагелікі свае"*. "Спадчына" № 5–6].

Haŭstovìč Mìkola. 2017. *Dasledavannìì matèryâly: Lìtaratura Belarusì XIX – pačatku XX stagoddzâ*, tom trècì. Warszawa [Хаўстовіч Мікола. 2017. *Даследаванні і матэрыялы: Літаратура Беларусі XIX – пачатку XX стагоддзя*, том трэці. Warszawa].

*Hutorka staroho dzieda*. 1861. "Dziennik Literacki" nr 89 (8 listopada).

Ìvanova Lûdmìla. 2013. *Ukraïns'ke pitannâ v pol's'komu povstannì 1863 r*. "Êvropejs'kì perspektivi" № 12 [Іванова Людміла. 2013. *Українське питання в польському повстанні 1863 р*. "Європейські перспективи" № 12].

Janulaitis Augustinas. 1925. *Spausdintieji ir nespausdintieji 1863–64 m. sukiłimo raštai* [w:] *Karo Archyvas*, t. 1: 216–219.

Kanapackì Macej. 1961. *Nad Memuaramì Bruna Karatynskaga*. „Nìva" № 41 [Канапацкі Мацей. 1961. *Над мемуарамі Бруна Каратынскага*. „Ніва" № 41].

Karatynskì Vìncès'. 1922. *Z Gutarkì staroga dzeda*. U: Garèckì Maksìm. 1922. *Hrystamatyâ belaruskae lìtèratury. XI vek – 1905 god*. Vìl'nâ [Каратынскі Вінцэсь. 1922. *З Гутаркі старога дзеда*. У: Гарэцкі Максім. 1922. *Хрыстаматыя беларускае літэратуры. XI век – 1905 год*. Вільня].

Karatynskì Vìncès'. 1981. *Tvory*. Mìnsk [Каратынскі Вінцэсь. 1981. *Творы*. Мінск].

Karatynskì Vìncès'. 1994. *Tvory*. Mìnsk [Каратынскі Вінцэсь. 1994. *Творы*. Мінск].

Karskìj Efimìj. 1903. *Bělorussy*, t. I: *Vvedenìe v izučenìe âzyka i narodnoj slovesnosti,* s priloženìem dvuh kart. Varšava [Карскій Ефимій. 1903. *Бѣлоруссы*, т. I: *Введеніе въ изученіе языка и народной словесности*, съ приложеніемъ двухъ картъ. Варшава].

Karskìj Efimìj. 1922. *Bělorusy*, t. III: *Očerki slovesnosti běloruskago plemeni*, č. 3: *Hudožestvennaâ literatura na narodnom âzykě.* Petrograd [Карскій Ефимій. 1922. *Бѣлорусы*, т. III: *Очерки словесности бѣлорускаго племени*, ч. 3: *Художественная литература на народномъ языкѣ*. Петроградъ].

*Katalog dzieł znajdujących się w księgarni N. Kamieńskiego i Spółki w Poznaniu (w bazarze)*. 1858. Poznań: Nakładem i czcionkami N. Kamieńskiego i Spółki.

Kìsâlëŭ Genadz'. 1961. *V. Dunìn-Marcìnkevìč ì paŭstanne 1863 g*. "Polymâ" № 5 [Кісялёў Генадзь. 1961. *В. Дунін-Марцінкевіч і паўстанне 1863 г*. "Полымя" № 5].

Kìsâlëŭ Genadz'. 1963. *Sejbity večnaga: artykuly pra belaruskìh pìs'mennìkaŭ ì dzeâčaŭ rèvalûcyjnaga ruhu 1863 goda*. Mìnsk [Кісялёў Генадзь. 1963. *Сейбіты вечнага: артыкулы пра беларускіх пісьменнікаў і дзеячаў рэвалюцыйнага руху 1863 года*. Мінск].

Kìsâlëŭ Genadz'. 1971. *Zagadka belaruskaj Èneìdy*. Mìnsk [Кісялёў Генадзь. 1971. *Загадка беларускай Энеіды*. Мінск].

Kìsâlëŭ Genadz'. 2007. *Agìtacyjnaâ publìcystyka 1860-h gadoŭ*. U: *Gìstoryâ belaruskaj lìtaratury XI–XIX stagoddzâŭ u dvuh tamah.* T. 2: *Novaâ lìtaratura: drugaâ palova XVIII – XIX stagoddze.* Mìnsk [Кісялёў Генадзь. 2007. *Агітацыйная публіцыстыка 1860-х гадоў*. У: *Гісторыя беларускай літаратуры XI–XIX стагоддзяў у двух тамах*. Т. 2: *Новая літаратура: другая палова XVIII – XIX стагоддзе*. Мінск].

Kìsâlëŭ Genadz'. 2009. *Sejbìty večnaga: artykuly pra belaruskìhpìs'mennìkaŭ ì dzeâčaŭ rèvalûcyjnaga rèvalûcyjnaga ruhu 1863 goda*; *Skarynaŭskaâ sìmvolìka: vytokì, tradycyì, ìntèrprètacyì*. Mìnsk [Кісялёў Генадзь. 2009. *Сейбіты вечнага: артыкулы пра беларускіх пісьменнікаў і дзеячаў рэвалюцыйнага руху 1863 года; Скарынаўская сімволіка: вытокі, традыцыі, інтэрпрэтацыі*. Мінск].

Lietuvos valstybės istorijos archyvas (LVIA), f. 378: *Kancelârìâ Vilenskogo, Kovenskogo i Grodnenskogo general-gubernatora*. 1768–1915. Političeskij otdel. 1864, b. 106: *O dvorâninĕ Radomskoj gubernìi Opočinskago uězda Konstantinĕ Lopateckom* [LVIA, f. 378: *Канцелярия Виленского, Ковенского и Гродненского генерал-губернатора. 1768–1915. Политический отдел. 1864*, b. 106: *О дворянинѣ Радомской губерніи Опочинскаго уѣзда Константинѣ Лопатецкомъ*].

Lietuvos valstybės istorijos archyvas (LVIA), f. 1248: *Vremennyj polevoj auditoriat pri štabe komanduûŝego vojskami Vilenskogo voennogo okruga (1863–1911)*, ap. 1: *Sledstvennye dela učastnikov vosstaniâ 1863 g.*, b. 22: *Dĕlo o pomĕŝicĕ vdovĕ Bondzinskoj,dočeri eâ Ideli, dvorâninĕ Kaminskom i pomĕŝikĕ Vasilevskom* [LVIA, f. 1248: *Временный полевой аудиториат при штабе командующего войсками Виленского военного округа (1863–1911)*, ap. 1: *Следственные дела участников восстания 1863 г.*, b. 22: *Дѣло о помѣщицѣ вдовѣ Бондзинской, дочери ея Идели, дворянинѣ Каминскомъ и помѣщикѣ Василевскомъ*].

Łukaszewicz L. 1860. *Rys dziejów piśmiennictwa polskiego*, wydanie drugie większe, uzupełnione i doprowadzone do roku 1860. Poznań: Nakładem i czcionkami N. Kamieńskiego i Spółki.

Luščyckì Ìvan. 1958. *Narysy pa gìstoryì gramadska-palìtyčnaj ì filasofskaj dumkì ŭ Belarusì ŭ drugoj palavìne XIX veku*. Mìnsk [Лушчыцкі Іван. 1958. *Нарысы па гісторыі грамадска-палітычнай і філасофскай думкі ў Беларусі ў другой палавіне XIX веку*. Мінск].

Mal'dzìs Adam. 1968. *Tvorčae pabracìmstva: Belaruska-pol'skìâlìtaraturnyâ ŭzaemasuvâzì ŭ XIX st.* Mìnsk [Мальдзіс Адам. 1968. *Творчае пабрацімства: Беларуска-польскія літаратурныя ўзаемасувязі ў XIX ст*. Мінск].

Mal'dzìs Adam. 1969. *Lìtaratura XIX st.* U: *Gìstoryâ belaruskaj dakastryčnìckaj lìtaratury*, t. 2: Lìtaratura XIX – pačatku XX st. Mìnsk [Мальдзіс Адам. 1969. *Літаратура XIX ст*. У: *Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры*, т. 2: *Літаратура XIX – пачатку XX ст*. Мінск].

Méyet L. 1888. *Wizerunki A. Mickiewicza. Zestawione i poprzedzone wstępem*. Lwów.

Morozowa Olga. 1982. *Bronisław Szwarce*. Wrocław-Warszawa-Kraków-Gdańsk-Łódź.

Nastulczyk Tomasz. 2017. *Gawęda starego dziada – Hutorka staroho dzieda: studium bibliograficzno-edytorskie literatury polsko-białoruskiej XIX wieku*. Kraków.

*Nevskaâ piščebumažnaâ fabrika* [*Невская писчебумажная фабрика* [online] https://ru.wikipedia.org/wiki/Невская_писчебумажная_фабрика [доступ: 20.07.2019].

Nowiński Franciszek. *Stowarzyszenie studentów „Ogół”* [online] http://www.polski petersburg.pl/hasla/stowarzyszenie-studentow-ogol [dostup: 26.06.2019].

Pavlovskìj I. 1843. *Geografìâ Rossìjskoj imperìi*, čast' vtoraâ. Derpt [Павловскій И. 1843. *Географія Россійской имперіи*, часть вторая. Дерптъ].

*Polski Słownik Biograficzny*. 1939–1946. T. 5. Kraków.

*Polski Słownik Biograficzny*. 1971. T. XVI. Warszawa.

*Revolûcionnyj pod"em v LITVE i Belorussii v 1861–1862 gg.. Materialy i dokumenty.* 1964. Moskva [*Революционный подъем в Литве и Белоруссии в 1861–1862 гг.. Материалы и документы*. 1964. Москва].

Rossijskij gosudarstvennyjistoričeskij arhiv (RGIA), f. 1282, op. 1, d. 25 [Российский государственный исторический архив (РГИА), ф. 1282, оп. 1, д. 25].

*Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich*. 1882. T. III. Warszawa.

*Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich*. 1895. T. XIV. Warszawa.

*Staronka vopìsu Bìblìâtèkì B. Èpìmah-Šypìly* [u:] BDAMLM, f. 66, vop. 1, spr. 1429 [*Старонка вопісу бібліятэкі Б. Эпімах-Шыпілы* [у:] БДАМЛМ, ф. 66, воп. 1, спр. 1429, арк. 1 [online] http://archives.gov.by/index.php?id=964432 [доступ: 24.02.2020].

Szwarce Bronisław. 1893. *Siedem lat w Szlyselburgu*. Lwów.

Szwarce Bronisław. 1903. *I. Założenie Komitetu Centralnego w r. 1862*. W: *W czterdziestą rocznicę Powstania Styczniowego. 1863–1903*. Lwów.

Šacillo M. 2003. *Èvolûciâ nalogovoj sistemy Rossii v XIX veke*. V: *Èkonomičeskaâ istoriâ: Ežegodnik – 2002*. Moskva [Шацилло М. 2003. *Эволюция налоговой системы России в XIX веке*. В: *Экономическая история: Ежегодник – 2002*. Москва [online] https://statehistory.ru/5537/Evolyutsiya-nalogovoy-sistemy-Rossii-v-XIX-veke/ [доступ: 25.06.2019].

Tal'virskaâ Zinaida. 1967. *Nekotorye voprosy obŝestvennogo dviženiâ v LITVE i Belorussii v konce 50-h – načale 60-h godov i podpol'naâ literatura*. V: *Revolûcionnaâ Rossiâ i Revolûcionnaâ Pol'ša (vtoraâ polovina XIX v.): Sbornik statej*. Moskva [Тальвирская Зинаида. 1967. *Некоторые вопросы общественного движения в Литве и Белоруссии в конце 50-х – начале 60-х годов и подпольная литература*. В: *Революционная Россия и революционная Польша (вторая половина XIX в.): Сборник статей*. Москва].

*Włodzimierz Aleksander Kurnatowski z Kurnatowic h. Łodzia* [online] http://www.sejm-wielki.pl/b/13.415.223 [dostup 29.06.2019].

Zakład Narodowy im. Ossolińskich (ZNiO), sygn. 14690, I i II.

*Zalataâ kalekcyâ belaruskaj lìtaratury ŭ 50 tamah.* T. 4: *Lìtaratura drugoj palovy XIX stagoddzâ.* Č 1. Mìnsk [*Залатая калекцыя беларускай літаратуры ў 50 тамах*. Т. 4: *Літаратура другой паловы XIX стагоддзя*. Ч. 1. Мінск].

Zaporožec' Frem. 2013. *Nastupaě tuča: Tuča prošedšyh i nastoâŝyh vremen*. V: *Ukraïns'ka ìdentičnìst' ì movne pitannâ v Rosìjs'kìj ìmperiï: Sproba deržavnogo regulûvannâ (1847–1914): Zbìrnik dokumentìv ì materìalìv*. Kiïv [Запорожець Фрем. 2013. *Наступаѣ туча: Туча прошедшых и настоящых времен*. В: *Українська ідентичність і мовне питання в Російській імперії: Спроба державного регулювання (1847–1914): Збірник документів і матеріалів*. Київ].

Zemkevìč Ramual'd. 1918. *Staraâbelaruskaâ pìs'mennas'c': Z arhìvu Romual'da Zemkevìča*. "Varta" № 1 [Земкевіч Рамуальд. 1918. *Старая беларуская пісьменнасьць: З архіву Ромуальда Земкевіча*. "Варта" № 1].

**ABSTRACT**: About thirty Belarusian-language texts of the Uprising of 1863 have survived up to this day. Our interest lay, first of all, in the history of these works, the problems of their textual analysis, as well as their attribution. We closely looked at all known and available lists of their publishers. This concerns the *Conversations of the Old Grandfather*, twenty-two lists of which (nineteen Belarusian, one Lithuanian and one Russian) have recently been published in a specialised book by Tomas Nastulchik. We used photocopies from T. Nastulchik's book as well as originals (or microfilms) from archival files, tried to identify the protograph of the *Conversation*..., or rather, the author's version of the work. As a result, we came to the conclusion that the preserved lists can be divided into five groups (some of which include two, three or four edited versions of the text). This may mean that, on the basis of the author's version, no less than five lists appeared, the scribes of which were in fact editors or even co-authors of our poet. We believe that some of the earliest, and thus the closest to the protograph, are the lists of the so-called "lithographed" groups. We did not raise the question of authorship due to the lack of necessary material, but we believe that the presence of a significant number of

verbs with an infinitive postfix- “ci” in the lists of the “lithographed” and “Poznań-Lviv” groups directs our efforts to find the author among speakers of the Volkovysk-Bialystok dialect of the Belarusian language. Of course, K. Kalinouski may not be the author, but the significant similarity of the *Conversation…* and the “Muzhytskaya Prauda” in many aspects of its ideological and artistic content allows us to look for the poet in the circle of his closest associates, both among the students of the St. Petersburg-Moscow youth and the Grodno insurgent organization. We considered it necessary to include Lithuanian-language versions of the *Conversation…* in our publication since we believe that the problem of attribution of the Belarusian work is closely connected to the Lithuanian text.

**KEYWORDS**: Uprising of 1863, *Old Grandfather’s Conversation*, protograph, lists, editions, attribution.

**STRESZCZENIE:** Zachowało się około trzydziestu białoruskich tekstów z okresu Powstania 1863 r. W artykule główną uwagę zwrócono przede wszystkim na historię tych utworów, problemy tekstologii i atrybucji. Przeanalizowano uważnie dobrze znane i dostępne redakcje. Przede wszystkim dotyczy to *Gawędy starego Dziada*, której dwadzieścia dwie wersje (dziewiętnaście białoruskich, dwie litewskie i rosyjska) zostały niedawno opublikowane w książce Tomasza Nastulczyka. Korzystając zarówno z fotokopii T. Nastulczyka, jak i oryginałów (lub mikrofilmów), spróbowano „odnaleźć” protograf *Gawędy*…, autorską wersję dzieła. W rezultacie zasugerowano, że znane wersje można podzielić na pięć grup (niektóre z nich mają dwie, trzy lub cztery edycje). Może to oznaczać, że z wersji autora wyłoniło się co najmniej pięć redakcji, których kopistami byli w rzeczywistości redaktorzy, a nawet współautorzy naszego poety. W wyniku analizy stwierdzono, że najbliżej protografu jest wariant tzw. grupy „litograficznej”. W tym artykule nie podnoszono kwestii autorstwa, ale obecność w wersjach grup „litografowanych” i „poznańsko-lwowskich” znacznej liczby czasowników z bezokolicznikiem na -***ci*** kieruje nasze starania w poszukiwaniu autora na nosicieli dialektu wołkowysko-białostockiego. Oczywiście K. Kalinouski może nie być tym autorem, ale znaczące podobieństwo *Gawędy*… do „Mużyckiej Praudy” w wielu aspektach treści ideologicznych i artystycznych pozwala na poszukiwanie poety wśród jego najbliższych współpracowników, zarówno wśród młodzieży studenckiej w Petersburgu i Moskwie, jak i organizacji powstańczej na Grodzieńszczyźnie.

**SŁOWA KLUCZOWE**: Powstanie styczniowe, *Gawęda Starego Dziada*, protograf, spisy, wydania, atrybucja.

**РЭЗЮМЭ:** Да нашага часу дайшлі блізу трыццаці беларускамоўных тэкстаў Паўстання 1863 г. У артыкуле нас у першую чаргу цікавілі пытанні гісторыі гэтых твораў, праблемы тэксталогіі, а таксама атрыбуцыі. Дык мы пільна прыглядаліся да ўсіх вядомых і даступных іхніх спісаў-рэдакцый. У першую чаргу сказанае датычыць *Гутаркі старога Дзеда*, дваццаць два спісы якое (дзевятнаццаць беларускіх, два літоўскія і расейскі) нядаўна ў адмысловай кнізе выдаў Томаш Настульчык. Мы, выкарыстоўваючы як фатакопіі Т. Настульчыка, так і арыгіналы (ці мікрафільмы) з архіўных спраў, паспрабавалі “дашукацца” пратографа *Гутаркі*…, аўтарскага варыянта твора. У выніку прыйшлі да думкі, што захаваныя спісы магчыма падзяліць на пяць груп (асобныя з якіх маюць дзве, тры ці чатыры рэдакцыі). Гэта можа азначаць, што на падставе аўтарскага варыянта ўзнікла не менш за пяць спісаў, перапісвальнікі якіх з’яўляліся па сутнасці рэдактарамі ці нават сааўтарамі нашага паэта. Мы лічым, што адным з найбольш ранніх, а г. зн. і найбольш

набліжаным да пратографа, з’яўляецца варыянт г. зв. “літаграфаванае” групы. Пытанне пра аўтарства ў дадзенай працы мы не ставім, але мяркуем, што наяўнасць у спісах “літаграфаванае”, а таксама “пазнанска-львоўскае” групаў значнае колькасці дзеясловаў з інфінітыўным суфіксам -***ci*** скіроўвае нашыя намаганні на пошук аўтара сярод носьбітаў ваўкавыска-беластоцкага дыялекту беларускае мовы. Вядома, К. Каліноўскі гэтым аўтарам можа і не быць, аднак значнае падабенства *Гутаркі*… да “Мужыцкае праўды” ў шмат якіх аспектах ідэйна-мастацкага зместу дазваляе шукаць паэта ў коле ягоных найбліжэйшых аднадумцаў як сярод студэнцкае пецярбургска-маскоўскае моладзі, так і Гродзенскае паўстанцкае арганізацыі.

**КЛЮЧАВЫЯ СЛОВЫ**: Паўстанне 1863 г., *Гутарка старога Дзеда*, пратограф, спісы, рэдакцыі, атрыбуцыя.

**ACTA ALBARUTHENICA 20: 2020**
DOI: 10.32612/uw.18988091.2020.20.pp.67–85

**Вольга Шарая / Volha Sharaya**
Нацыянальная акадэмія навук Беларусі /
National Academy of Sciences of Belarus
ORCID: https://orcid. org/0000-0002-9513-7290
e-mail: scharolga@gmail.com

# Уяўленні пра сірату ў традыцыйнай культуры беларусаў: асаблівасці вывучэння і перспектывы даследавання

*Ideas about the orphan in Belarusian traditional culture: research particularities and prospects*
*Stereotyp sieroty w tradycyjnej kulturze Białorusinów: specyfika badań i perspektywy badawcze*

Пачынаючы з XIX ст. у навуковай літаратуры, прысвечанай традыцыйнай культуры беларусаў, сталі прыводзіцца звесткі аб уяўленнях, звязаных з сіратой. Асаблівую цікавасць выклікалі сіроцкія вясельныя песні. Наяўнасць у вясельнай абраднасці вялікага пласта песень, якія выконваліся толькі ў час сіроцкага вяселля, у XIX ст. адзначалі польскія, беларускія і рускія навукоўцы.

Слова *сіратá* азначае дзяцей або падлеткаў, якія засталіся без аднаго або двух бацькоў. У этымалагічным слоўніку беларускай мовы лексема *сірата* выводзіцца з прасл. **sirota* ‘сірата’, якое, у сваю чаргу, з’яўляецца дэрыватам ад прым. **sirъ* з суф. *-ota* [*ЭСБМ* 2008: 91].

Важныя асаблівасці вяселля сіраты ў кантэксце апісання асобных этапаў вяселля беларусаў адзначаў Аляксандр Рыпінскі ў сваёй працы *Białoruś* [Rypiński 1840: 96–97]. У XIX ст. беларускія вясельныя сіроцкія песні былі змешчаны ў працах Яна Чачота (1844, 1846), Яўстаха Тышкевіча (1847), Рамуальда Зянькевіча (1851).

У другой палове XIX ст. з’явілася шмат новых апісанняў традыцыйнага вяселля беларусаў, сярод якіх была прадстаўленая і сіроцкая абраднасць. Вялікая колькасць беларускіх сіроцкіх песень, звязаных з рознымі этапамі вяселля сіраты, сабраная Міхалам Федароўскім [Federowski 1958]. Зыгмунт Глогер звярнуў увагу на асаблівасць беларускіх вясельных сіроцкіх песень Беласточчыны [Gloger 1869: 8]. Сіроцкія песні былі змешчаныя ў працы Канстанціна Тышкевіча (1871).

У другой частцы першага тома працы Паўла Шэйна *Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края* былі апублікаваны апісанні беларускіх вясельных і пахавальных абрадаў,

а таксама вясельныя сіроцкія песні і галашэнні [Шейн 1890, I–2]. Уладзімір Дабравольскі ў працы *Смоленский этнографический сборник* (1893) вялікую ўвагу надаў вясельнай абраднасці, у тым ліку і вяселлю сіраты.

Да канца XIX ст. быў сабраны значны масіў дадзеных пра вяселле рускіх і беларусаў, што дазволіла Аляксандру Занковічу правесці іх параўнальны аналіз. У яго працы *Белорусские свадебные обряды и песни сравнительно с великорусскими* значнае месца нададзена вясельнай сіроцкай абраднасці [Занкевич 1897].

У канцы XIX ст. у працы *Очерки семейственного обычного права крестьян Минской губернии* Мітрафан Доўнар-Запольскі апісаў становішча асірацелай сям'і, сірот, прыёмных дзяцей [Довнар-Запольский 1897, 1: 130–135].

Публікацыі, у якіх адлюстраваны ўяўленні беларусаў пра сірату, прадоўжыліся ў пачатку XX ст. Каштоўныя матэрыялы па сямейнай абраднасці, запісаныя ў розных рэгіёнах Беларусі, змешчаны ў 8-м выпуску (1912) працы *Белорусский сборник* Еўдакіма Раманава. У зборніку змешчаны тэксты вясельных сіроцкіх песень і галашэнняў [Романов 1912].

У кантэксце вывучэння вясельных песень, у раздзеле *Свадебные обряды и песни* Яўхім Карскі адзначае некаторыя рысы вясельнай абраднасці ў сувязі з статусам нявесты-сіраты [Карский 1916, III– 1: 256, 273, 278].

Вясельныя сіроцкія песні з указаннем адпаведнага этапу абраду, зафіксаваныя ва Усходнім Палессі, прыводзіць польскі этнограф Казімір Машыньскі [Moszyński 1928: 251–252, 262]. У 1940 г. выйшаў зборнік Сяргея Сахарава *Народная творчасць латгальскіх і ілукстэнскіх беларусаў*, у якім змешчана апісанне іх вяселля, вясельныя песні, у тым ліку сіроцкія.

У другой палове XX ст. цікавасць да вясельных сіроцкіх песень узрасла. У 4-м томе збору *Беларускія народныя песні* Рыгора Шырмы даецца апісанне вясельнага абраду. Адзін з раздзелаў – *Сіроцкія*, у якім прадстаўлены вясельныя сіроцкія песні [*Беларускія*… 1976, IV].

Сіроцкая тэма займала значнае месца ў зборніках вясельнай лірыкі беларусаў, укладальнікам і рэдактарам якіх з'яўляецца паэт і навуковец Ніл Гілевіч: *Песні сямі вёсак* (1973); *Песні народных свят і абрадаў* (1974); *Лірыка беларускага вяселля* (1979).

У 1978 г. у серыі *Беларуская народная творчасць (БНТ)* выйшаў том *Вяселле. Абрад*. Укладальнік, аўтар уступнага артыкула і каментароў – Кастусь Цвірка. У том уключаны найбольш поўныя і тыповыя апісанні традыцыйных вясельных абрадаў беларусаў, зробленыя этнографамі і фалькларыстамі ў XIX–XX ст. [*Вяселле* 1978]. У рабоце прадстаўлены дадзеныя, звязаныя з вяселлем сіраты.

Аляксандр Баршчэўскі ў сваёй працы *Białoruska obrzędowość i folklor wschodniej Białostocczyzny* аналізуе сямейна-родавыя абрады беларусаў

Беласточчыны. Пры разглядзе вясельнай абраднасці даследчык ўдзяляе значную ўвагу асаблівасцям вяселля сіраты [Barszczewski 1990: 77, 97, 99].

К канцу 70-х гадоў XX ст. у фальклярыстыцы быў назапашаны вялікі аб'ём матэрыялаў XIX–XX стст. пра традыцыйнае беларускае вяселле, у тым ліку вяселле сіраты. Сіроцкая праблематыка была прадстаўлена ў 3-й кнізе працы *Вяселле. Песні* з серыі БНТ. У прысвечаным вяселлю сіраты раздзеле гэтай кнігі налічваецца звыш 700 (без варыянтаў) вясельных сіроцкіх песень [Малаш 1990: 359]. Песні былі сістэматызаваны па тэматычных групах і кампазіцыйнай будове. У кнізе змешчаны ўступны артыкул *Сірочыя песні. Вянчанне. У доме маладой перад прыездам маладога*, падрыхтаваны Леанілай Малаш [Малаш 1983]. У 1990 г. у часопісе "Slavia Orientalis" быў апублікаваны яе артыкул *Беларускія вясельныя сіроцкія песні* [Малаш 1990]. Леаніла Малаш зрабіла выснову, што

> галоўным матывам, які праходзіць чырвонай ніткай праз увесь цыкл сірочых вясельных песень, з'яўляецца шуканне сіратою магілкі бацькоў і запрашэнне іх на вяселле "раду радзіць", "прынесці долю", "прыйсці не так на вяселле, як на благаславенне" [Малаш 1983: 7–8].

Даследчыца тлумачыла багацце беларускіх сіроцкіх песень "галоўным чынам развітасцю культу продкаў у беларусаў" [Малаш 1983: 5]. У той жа час, разглядаючы архаічныя выток і вясельнага абраду беларусаў, яна адзначала захаванне ў гэтым абрадзе „вядучай ролі шматлікіх перажыткаў эпохі матрыярхату" [Малаш 1980: 12]. У працы *Беларускае вяселле ў яго адносінах да заходнеславянскіх вяселляў – польскага і славацкага* (1993 г.) Л. Малаш і Анатолем Аксамітавым адзначаецца як роля мацярынскага роду [Аксамітаў, Малаш 1993: 9], так і сувязь з „культам хатніх апекуноў і продкаў" [Аксамітаў, Малаш 1993: 10]. Але культ продкаў у беларусаў, які выяўлены ў беларускім абрадзе Дзяды, звязаны з патрылінейнай сістэмай роднасці, з сістэмай патрыярхату, а не матрыярхату, што не было адзначана даследчыкамі [Шарая 2018a; Шарая 2020: 384].

Традыцыйныя ўяўленні пра сірату ў сямейных абрадах заставаліся недастаткова распрацаванай навуковай праблемай. У артыкулах Л. Малаш тэма сіраты разглядалася толькі ў вясельнай абраднасці, аднак тэма сіроцтва непасрэдна звязана з пахавальным абрадам. Больш таго, маецца сувязь тэмы сіраты ў пахавальным абрадзе і вясельным абрадзе сіраты [Шарая 2018b]. Гэты напрамак даследаванняў у XX ст. заставаўся нераспрацаваны.

На наяўнасць некаторай блізкасці асобных элементаў пахавальнай і вясельнай абраднасці даследчыкі звярнулі ўвагу даволі рана, але першы разгледзеў блізкасць матываў пахавальнай *причети* і вясельнай абраднасці Марк Азадоўскі ў працы *Ленские причитания*, якая выйшла

ў 1922 годзе[1]. Аналізуючы атрыманы ім матэрыял пахавальных галашэнняў, даследчык адзначыў наяўнасць агульных матываў пахавальнай *причети* і вясельнай *причети*, што дазволіла яму паставіць пытанне аб іх узаемаўплыве [Азадовский 1922: 34–38]. Тое, што разглядаемыя ім эмпірычныя дадзеныя былі звязаны з вяселлем сіраты, вучоны адзначыў, але спецыяльна гэтую праблему не распрацоўваў.

Праблема сувязі пахавальнай і вясельнай абраднасці заставалася мала вывучанай праблемай. У 1990 г. у заключнай частцы артыкула *Похороны и свадьба* Альберт Байбурын і Георгій Левінтон адзначалі, што „свадьба сироты представляет собой явление, симметричное так называемым «похоронам невесты»" [Байбурин, Левинтон 1990: 88]. Аўтары зрабілі акцэнт на памінальнай функцыі рытуальнага звароту нявесты-сіраты да памерлых бацькоў на іх магіле [Байбурин, Левинтон 1990: 88]. Аднак іншыя аўтары, Елпідыфор Барсаў, М. Азадоўскі, Барыслава Ефіменкава, Валянціна Кузняцова, Л. Малаш і інш. адзначалі, што рытуальны зварот нявесты-сіраты да памерлых бацькоў на іх магіле абумоўлены просьбай аб яе бласлаўленні ў рамках вясельнай цырымоніі.

Упершыню праблематыка пахавальна-памінальнай абраднасці і вясельнага абраду сіраты ў кантэксце традыцыйных практык ушанавання продкаў у традыцыйнай культуры беларусаў была разгледжаная ў нашай манаграфіі *Ценностно-нормативная природа предков* [Шарая 2002: 74–84]. Развіццё даследаванняў у гэтым кірунку было звязана з параўнальным аналізам асаблівасцей развітання нявесты з бацькоўскім домам, роднымі – традыцыйнай культуры народаў Усходняй і Паўднёва-Усходняй Еўропы [Шарая 2008; Шарая 2013].

Аналіз спецыфікі родаваарыентаваных уяўленняў ў пахавальна-памінальных абрадах і вясельным абрадзе сіраты ў беларусаў быў разгледжаны ў працы *Родаваарыентаваныя ўяўленні ў традыцыйнай духоўнай культуры беларусаў* [Шарая 2016: 473–479], таксама былі разгледжаны асаблівасці адлюстравання архаічных родавых уяўленняў у абрадавых аплакваннях у кантэксце народнай рэлігійнасці [Charaïa 2013a: 58–60]. Гісторыка-антрапалагічнаму вывучэнню феномена культу продкаў у міжкультурным параўнанні было прысвечана даследаванне *Культ продкаў у традыцыйнай культуры еўрапейскіх народаў* [Scharaja 2012: 98]. Уяўленні пра сірату ў славянскіх і неславянскіх народаў былі разгледжаныя на аснове міжкультурнага аналізу традыцыйных уяўленняў пра сірату ў пахавальных і вясельных абрадах і адпаведных абрадавых тэкстах беларусаў, рускіх, балгараў, сербаў, македонцаў, фіна-вугорскіх і іншых народаў [Шарая 2018; Шарая 2020a].

[1] У дачыненні да беларускага матэрыялу ў артыкуле выкарыстоўваецца тэрмін *галашэнні*, характэрны для беларускай традыцыі, у іншых выпадках – *причитания*, *причет* і інш.

Даследаванні паказалі, што асаблівасці народных уяўленняў пра сірату прадстаўлены ў пахавальных абрадах і адпаведных абрадавых тэкстах, у тым ліку галашэннях. Абрадавае галашэнне – фальклорны жанр, характэрны для пахавальна-памінальнага абраду, а таксама некаторых іншых абрадаў пераходу, у якіх цэнтральнай з'яўляецца тэма развітання з тымі, хто пакідае сям'ю (род).

У матывах пахавальных галашэнняў беларусаў тэма сіроцтва прадстаўлена ў асноўным у галашэннях „па бацьку", „па маці", „па мужу". Толькі ў некаторых выпадках сустракаецца, што ўдава таксама сірата: „А мой гаспадарку! …Ужэ ты цяперыка на месцы аднаму Богу служыш, а я, бедная, сірата асталася, што нічога не маю, ані каня, ані вала, толькі адна сабою і дзетак двое…" [*ППГ* 1986: 291].

У пахавальных галашэннях беларусаў лексема *сірата* можа ўваходзіць у рытарычнае пытанне-вокліч у галашэннях па бацьку, па маці: „Куды ты, мой татачка-салавеечка, адлятаеш? На каго мяне, сірацінку, пакідаеш?" [*ППГ* 1986: 195]; „А мая матулічка, шэрая зязюлічка! Нашто нас пакінула горкіх сіротачак?" [*ППГ* 1986: 227], „Ах, мая, мамулечка, Чаму ж ты ў сыру зямліцу зышла? На каго ж ты мяне, сірацінушку, пакінула?" [*ППГ* 1986: 239].

З уяўленнямі аб непарыўнасці сувязей паміж жывымі і памерлымі часткамі родавай супольнасці звязана чаканне спрыяльнага стаўлення продкаў да сваіх родзічаў (нашчадкаў). Гэта знайшло адлюстраванне ў некаторых пахавальна-памінальных галашэннях [Шарая 2008: 327].

Матыў „спрыяць нашчадкам" прадстаўлены ў некаторых беларускіх пахавальна-памінальных галашэннях, у якіх гучыць просьба да памерлага спрыяць сваім жывым нашчадкам: „Ох, наш татанька! // Ох, наш родненькі! // Чаго ты ад нас так рана адыходзіш? // …Да прысніся, родненькі, // Да папрыяй нам з таго свету…"; „Ох, наша цётанька, // Наша хрышчоная… // Да папрыяй нам, цётухна…" [*ППГ* 1986: 422–423, 416]. У адным з галашэнняў гучыць просьба спрыяць дзецям-сіротам: „Ох, татка ж мой, мой вінаградка, // Да я ж учары да прыходзіла // Да цябе ж вельмі ж да прасіла, // Да штоб вы мне адтуль да прыялі, // Штоб я ж пагадавала сваіх дзяцей-сіротак" [ППГ 1986: 221]**.**

У народнай традыцыі знаходзяць адлюстраванне ўяўленні пра чаканне прыхільнасці родавых продкаў. Чаканая прыхільнасць памерлых продкаў не з'яўляецца элементам хрысціянскіх уяўленняў. Продкі, якія караюць або спрыяюць, – невядомы элемент у хрысціянскім бачанні свету [Митерауер 2001: 166].

Даследаванне традыцыйных рэлігійных уяўленняў ушанавання продкаў у беларусаў паказала, што важным складнікам гэтых родаваарыентаваных уяўленняў была сімволіка, якая ўключала абрадавыя сімвалы, што былі ў матэрыяльнай форме ўвасоблены ў абрадах, а таксама сімвалы, якія былі прадстаўлены на вербальным узроўні – у мастацкім свеце абрадавых песень [Шарая 2002: 110–111]. Даследаванне таксама паказала, што лексема *род* у вясельнай абраднасці, у тым ліку

ў вяселлі сіраты, на вербальным узроўні была шырока прадстаўлена раслінная сімволікай. Асаблівую цікавасць уяўляе дэндрасімволіка. Канцэпт *род* у вясельных песнях раскрываўся праз апазіцыю *цэлае – частка*, дзе цэлае прадстаўлена дрэвам (родам), а частка – адламанай галінай або адламанай верхавінай дрэва, адарваным лісточкам, якія сімвалізавалі кагосьці, хто пакідае або пакінуў сям'ю (род), у тым ліку нявесту, якая ў выніку шлюбу пакідала сям'ю [Шарая 2002: 77–78]. Для беларускіх вясельных песень характэрны матыў далёкага замужжа: "за горы высокія, за лозы густыя, рэчкі быстрыя, за гаі зялёныя, за лясы цёмныя", "у чужы край, у чужыя людзі, у сямейку невядомую, на сялібу незнакомую" [Шарая 2013: 339].

*Род* як *цэлае* ў вясельных песнях знаходзіць сімвалічнае выяўленне ў вобразе разгалінаванай часткі дрэва – кроны *(ветачкі, вецце, суччайка, веццейка),* якая атаясамліваецца з родам *(род-племя, радня, госцейкі, радзіна, радзінка, радзіма, сямейка)* [Шарая 2002: 77].

У адрозненне ад вясельных песень, дзе нявеста (жаніх) не былі сіратой, у песнях, якія выконваліся на вяселлі сіраты, памерлых бацькоў нявесты (жаніха) часта сімвалізавала адсутная верхавіна дрэва [Шарая 2002: 208]. У сіроцкіх вясельных песнях сімвалам памерлых бацькоў сіраты магло быць таксама асобнае дрэва, якога няма сярод іншых дрэў (сімвал радні, „роду-племені").

У сіроцкіх песнях праз вобраз кроны дрэва, у якога не хапае часткі, перадаецца адсутнасць на вяселлі памерлых бацькі (маці):

– Пахінісь, елінка, туды-сюды,
Паглядзі, елінка, кругом сябе,
Ці ўсё тваё *веццейка* каля цябе?
–Усё ж маё веццейка каля мяне,
Толькі нет, толькі *нет макушачкі.*
– Паглядзі, Танечка, кругом сябе,
Ці ўся твая *радзінка* каля цябе?
–Уся ж мая радзінка каля мяне,
Толькі нет, толькі *нет роднага таткі.*
Замкнуўся татачка ў тры замочкі:
А першы замочак – траўка-мураўка,
А другі замочак – жоўты пясочак,
А трэці замочак – грабавая дошка …
[*Вяселле. Песні* 1983: 132]

Як паказаў аналіз, у мастацкім свеце беларускіх вясельных сіроцкіх песень галіна (верхавіна) дрэва сімвалізавала кагосьці з памерлых бацькоў сіраты, бацьку ці маці, але не больш ранніх продкаў [Шарая 2002: 208].

Наяўнасць апазіцыі *цэлае – частка* таксама характэрна для песень, якія выконваюцца пры развітанні маладой (якая не з'яўлялася сіратой) з бацькоўскім домам, перад ад'ездам да маладога. Пры гэтым адламаная верхавіна дрэва сімвалізуе не адсутнасць памерлых бацькоў, а пераход маладой у прастору чужога роду: "У варот вярба стаяла, // Са

двара дачка з'язджала, // Вярхушку з вярбы сарвала. // Стой, мая *вярба, без верху*, // Жыві, *мамачка, без мяне*" [Шарая 2002: 78].

Варта адзначыць, што ў навуковай літаратуры пры разглядзе сімволікі вясельнай абраднасці недастатковая ўвага была нададзена асаблівасцям дэндрасімволікі ў ёй, аналізу асаблівасцей дэндрасімволікі ў сіроцкім вяселлі і сувязі сіроцкай і пахавальнай абраднасці. Л. Малаш значную ўвагу ў сіроцкіх вясельных песнях надала разгляду вобразу зязюлі і сімвалу куста каліны, аднак дэндрасімволіка, якая адлюстроўвае аддзяленне часткі (памерлага бацькі, маці) ад цэлага (роду, радзіны), у яе працах неразгледжаная [Малаш 1990].

Высокая значнасць у традыцыйнай культуры беларусаў абрадавага развітання нявесты з бацькоўскім домам, выяўленага на рытуальным і вербальным узроўнях – у вясельных галашэннях, песнях-развітаннях, асаблівасці адносін да памерлых бацькоў на вяселлі сіраты, – характарызуе высокую ступень захаванасці родаваарыентаваных уяўленняў у традыцыйнай культуры вясковага насельніцтва і карэлюе з абласцямі распаўсюджвання ў мінулым патрылінейна-комплексных сем'яў [Шарая 2013: 341–342].

Асаблівую цікавасць уяўляе стаўленне да сіротаў у задрузе. Задруга – асобая форма шматсямейнай хатняй гаспадаркі, заснаваная на патрылінейнасці, патрылакальнасці і мужчынскім прававым парадку, якая захоўвалася ў рэгіёнах Паўднёва-Усходняй Еўропы да ХІХ ст. Дзімітэр Марынаў дае апісанне *Опека в задруге*, якое тычыцца Заходняй Балгарыі[1]:

> Калі ў задрузе памірае мужчына, яго жонка і дзеці застаюцца ў задрузе і знаходзяцца пад апекай старэйшыны. Калі жонка яшчэ маладая і хоча выйсці замуж, то яна лічыцца свабоднай, і ёй даецца ў распараджэнне ўсё, што яна прынесла як дар ад бацькі і як падарункі, яе дзеці застаюцца ў задрузе пад апекай старэйшыны, на якім ляжыць абавязак клапаціцца пра іх. Калі ж дзеці вельмі маленькія і не могуць быць аддзелены ад маці, то іх аддаюць маці, каб яна забрала іх у іншы дом, аднак дзеці не павінны лічыцца зводнымі, паколькі пра іх утрыманне клапоціцца задруга, і як толькі дзеці ўстануць на ногі (пасталеюць) і ў іх не будзе патрэбы ў матчыным клопаце, старэйшына, які з'яўляецца іх апекуном, забірае дзяцей у задругу і клапоціцца аб іх далейшым выхаванні. Зберагаць ў сірот няма чаго, бо да падзелу яны не маглі мець ніякай прыватнай маёмасці. Спадчыну маці забірае з сабой, а бацькоўскай спадчыны для асабістага выкарыстання няма, таму што ўсё знаходзіцца ў задрузе. Але калі задругу чакае падзел, то дзецям выдаецца доля, якая належала іх бацьку.
> <…> Калі ўдава паўторна выйдзе замуж у іншую задругу і пойдзе з гэтага дома, тады рада старэйшын вырашае, каму належыць перадаць маёмасць сірот для кіравання і выкарыстання, пакуль хто-небудзь з дзяцей не ўстане на ногі. У большасці выпадкаў выбіралі дзядзькаў або цётак сірот (па бацьку, па крыві мужа). Абшчына не прымала ніякага ўдзелу ў апякунстве, паколькі задругі былі ўладкаваныя такім чынам, што рэдка

[1] Пераклад з балгарскай мовы.

хто з сіротаў не меў родных. Такія выпадкі былі толькі падчас эпідэміі чумы [Маринов 1984: 311–312].

У Паўднёва-Усходняй Еўропе ў перыяд існавання задругі, сіроты не былі ў гэтакім цяжкім становішчы, як гэта мела месца пры дамінаванні распаўсюджвання малых сем'яў. Як адзначае М. Мітэрауэр, родзічы, якія жывуць у комплексных сем'ях, бяруць на сябе функцыі бацькоў, што істотна адрознівалася ад сітуацыі ва ўсходне-альпійскай прасторы [Mitterauer 2013: 131–134]. Гэта знайшло сваё адлюстраванне ў традыцыйнай культуры народаў Паўднёва-Усходняй Еўропы, дзе не атрымалі развіцця вясельныя аплакванні і сіроцкія песні на вяселлі.

Рытуальнае запрашэнне памерлых родзічаў на вяселле было практыкай, якая склалася і характарызавала асаблівасці рэлігійнасці ў лакальных традыцыях некаторых сельскіх супольнасцяў у рэгіёнах Усходняй Еўропы, фіна-вугорскіх народаў паўночна-ўсходніх раёнаў Еўропы [Шарая 2008; Шарая 2020a]. Шырокая распаўсюджанасць і высокая значнасць абрадавага развітання нявесты з бацькоўскім домам характарызуюць высокую ступень захаванасці родоваарыентаваных уяўленняў у традыцыйнай культуры сельскага насельніцтва ў гэтай частцы еўрапейскай прасторы [Шарая 2013: 341; Шарая 2016].

Даследчыкі вылучаюць групу сіроцкіх галашэнняў, распаўсюджаных на паўночным усходзе Беларусі. Пры гэтым адзначаюць, што яны „не шматслоўныя і мала падобныя да рускіх галашэнняў. <...> некаторыя сірочыя песні сваім зместам, сістэмай мастацкіх сродкаў і мелодыяй нагадваюць галашэнні" [*Вяселле* 1983: 7].

Роднасць як дамінанта традыцыйнай сацыяльнай сістэмы ўплывала на ўсё рэлігійна-рытуальнае жыццё вясковай супольнасці. Памерлыя члены роду паміналіся ў царкве: „За ты́ждэнь пэ́рэд вэсíллем, у нэді́лю, дава́лы слу́жбу за упоко́й. За увэ́сь рід пыса́лы бума́гу"[1] (Моталь Іванаўскага р-на Брэсцкай вобл.). М. Федароўскі адзначаў, што "ў некаторых мясцовасцях вяселле канчаецца ў пятніцу посным абедам. Калі ў каторага з маладых памерлі бацька або матка, тады ў пятніцу рана даюць на жалобную мшу…" [Федароўскі 1991: 116].

Як паказваюць дадзеныя палявога даследавання, звычайна перад вяселлем або перад вянчаннем сірата-маладая (малады) ці іхнія блізкія ішлі на могілкі і запрашалі памерлага бацьку (маці): „Пэ́рэд вэнцо́м в субо́ту" (Багданаўка Лунінецкага р-на Брэсцкай вобл.); „В той са́мі дэнь пэ́рэд венча́ннем ходы́ла, коб благословілы" (Парэ Пінскага р-на Брэсцкай вобл.); „ідэ́ та́я молода́я чы ішчэ́ там з е́ю родня́ зва́ты на мо́глыцы. Ходы́лы зва́ты на мо́глыца пэ́рэд вэсíллем. От ек за́втра бу́дэ весíлле чы корова́й, то ужэ́ іду́ть зва́ты на вэсíлле. Ідэ́ молода́я, пі́дэ чы

[1] У артыкуле выкарыстаны матэрыялы, якія сабраны аўтарам у выніку палявых даследаванняў. Гэтыя матэрыялы прыводзяцца ў далейшым без ўказання на тое, што яны сабраны аўтарам. У выпадках, калі прыводзяцца дадзеныя іншых даследчыкаў, даюцца спасылкі на крыніцу.

з сэстро́ю, чы з кым удво́х, утро́х, чы з ті́ткою на мо́глыцы і зовэ́: «Прыхо́дьтэ, ба́тько (ма́ты), на вэсі́лле до нас!»" (Тышкавічы Іванаўскага р-на Брэсцкай вобл.).

Хоць сірот благаслаўляюць хросныя бацькі, родны дзядзька, брат, якія замяняюць бацькоў, гэта не лічыцца дастатковым, пра што сведчаць некаторыя асаблівасці вясельнага рытуалу і тэксты сіроцкіх песень. Нявеста-сірата абавязкова павінна атрымаць благаславенне бацькоў. Сіле бацькоўскага блаславення надавалася вялікае значэнне, з ім было звязана забеспячэнне дабрабыту маладой.

У лакальных традыцыях Віцебшчыны зафіксавана атрыманне бласлаўлення з „таго свету" ў сувязі з вяселлем сіраты ў спалучэнні з рытуалам распляцення касы:

> Калі ў нявесты памёр бацька, то яна стаіць пад вянцом з левай расплеценай касою, маці – праваю; круглая сірата вянчаецца з дзвюма расплеценымі косамі. Гэта перадвянчальнае распляценне валасоў звычайна робіцца пры бацькоўскай магіле, куды сірата-нявеста ідзе пешкі за некалькі гадзін да адпраўкі к вянчанню, і дзе, прыпаўшы да магілы, яна вымольвае бацькоўскае благаславенне [Никифоровский 1897: 61].

Галоўным матывам сіроцкіх песень беларусаў з'яўляецца пошук сіратой магілы бацькоў і запрашэнне іх на вяселле. Варыянты песні з дадзеным матывам шырока распаўсюджаныя ў розных лакальных традыцыях беларусаў:

Хто-то ходыць да по поленьку гукае,
Гэто Серожка свого батэнька шукае.
Наступыв з гіроньکы у долыну,
Да нацэлыв свого батэнька могылу:
– Одзовыса, муй батэнько, до мэнэ,
Прошу на вэсілле до сэбэ.
– Нэ одзовуса, мое дітятко, нэ словца,
Зробылы два майстэрочкы домовцэ,
Нэ покыну(лы) нэ окошэчка, нэ двэрца.
Ужэ ж мойі ручкы на крэст зложоны,
Ужэ ж мойі ножкы шовком звязаны,
Ужэ ж мойі усты запечатованы.
Вэсэлыс, дітятко, з усімы добрымы,
З усімы святымы, з людьмы добрымы…
(Дастоева Іванаўскага р-на Брэсцкай вобл.)

У лакальнай традыцыі Падзвіння намі зафіксавана песня з матывам „кладкі, па якой пераходзяць з «таго свету»", якую выконвалі, як адзначаюць інфарманты, калі „бацька памершы, то пяюць хроснаму":

Прасі, Ніначка, хроснага татку,
Каб цераз рэчку памасціў кладку.
Бо на той рэчцы кладачкі нету,
Што пераходзюць к нам з таго свету.
(Мацеяўцы Докшыцкага р-на Віцебскай вобл.)

Хоць на рытуальным узроўні ролю памерлых бацькоў выконвалі „пасаджаныя бацькі", песні, якія выконваліся на вяселлі сіраты, адлюстроўваюць зварот да памерлых бацькоў.

У сіроцкіх вясельных песнях беларусаў прадстаўлены матыў з просьбай-зваротам нявесты-сіраты да свайго бацькі (маці) прыйсці на вяселле – устаць хоць на адзін *дзень*, *вечар*, *гадзіну*: „Устань, устань, родная матуля, не ляжы, // Ты для мяне гэты дзянёчак памажы" (Міхалішкі Астравецкага р-на Гродзенскай вобл.); „Устань, устань, мая мамачка, ні ляжы, // Хоць жа ты мне адзін вічарок памажы. // Хоць на мяне ты ў вяночку паглядзі" (Калягі Докшыцкага р-на Віцебскай вобл.); „Устань, татачка, устань, роднянькі, хоць на 'дну гадзіначку. // Да я хадзіла, да я прасіла ўсю сваю радзіначку. // Адзін, татачка, не йдзеш, не едзеш мяне благаслаўляці" [*Вяселле. Песні* 1983: 231].

Сярод вясельных сіроцкіх песень у розных рэгіёнах Беларусі вылучаецца група песень са зваротам-просьбай памерлай маці (бацькі) да Бога адпусціць яе (яго), каб можна было паглядзець на сваю дачку падчас вяселля. Адзін з варыянтаў гэтай песні запісаны намі ў в. Міхалішкі Астравецкага р-на Гродзенскай вобл. ад інфармантаў-каталікоў:

А сіроцкія слёзы, а сіроцкія слёзы,
З гары ў дол каціліся.
А Ганячкі матуля, а Ганячкі матуля,
У Божачкі прасіла:
– Да спусці ж мяне, Божа, да спусці ж мяне, Божа,
Па ядвабным шнурочку, па ядвабным шнурочку,
Па дзяціным шнурочку.
Я далёка ні пайду, я далёка ні пайду,
На парозе пастаю, на парозе пастаю.
На дзіцятка пагляджу.
А гдзе яно пасаджана, а гдзе яно пасаджана.
А як яно прыбрана….

Варыянты песні, у якой просьба памерлай маці (бацькі) звернутая да Бога, каб ён дазволіў, пусціў з неба на зямлю „паглядзеці дзіця", зафіксаваны ў розных лакальных традыцыях: „А Валеччын татачка // На ўсход сонейка ляжыць, //Накрыж ручачкі дзяржыць. //Ён у Бога просіцца //Да ў духа святога. //– Пусці, Божа, з неба дамоў, // З неба дамоў з дробным дожджыкам. // З дробным дожджыкам пад аконца, // З расіцай пад варотца // Паглядзеці дзіцяці" [*Вяселле* 1983: 102]; „Матронкіна маці // На сход сонейка ляжыць, // Накрыж ручанькі дзяржыць, // Госпада Бога просіць: //– Пусці мяне, Божа, // Із неба – імгліцаю, // А па траве – расіцаю, // А ў сяло – дробным дожджам, // А ў ваконца – ясным сонцам // Паглядзеці дзіцятка" [*Вяселле* 1983: 103].

Сіроцкім вясельным песням беларусаў характэрны наступны матыў – „пасыланне птушак" (салаўя, сокала, зязюлі) на „той свет", „да раю", „да неба" па бацьку (маці) і „за радзінай". Агульным для варыянтаў гэтых песень з'яўляецца тое, што птушак пасылаюць па бацьку (маці), але бацькі не з'яўляюцца.

Зварот да памерлых бацькоў у песнях мае месца, аднак гэты зварот да іх не суправаджаецца дзеяннямі характару ахвярапрынашэння. У дзеяннях на могілках з запрашэннем памерлых бацькоў на вяселле чакаецца благаславенне з боку бацькоў і, такім чынам, іх адказ на сітуацыю. У гэтым сэнсе можна гаварыць пра залежнасць паміж жывымі і памерлымі, да якіх звяртаюцца, як да жывых. Тут мае месца прагматыка адносін паміж светам памерлых і жывых.

Плач нявесты быў абавязковым у розных традыцыях. Як адзначаюць інфарманты, „як забыра́ють, то пла́чэ ка́жна молода́я, бо ж выхо́дыть з до́му, да й ідэ́ в чужу́ю ха́ту” (Багданаўка Лунінецкага р-на Брэсцкай вобл.). Хоць паводле традыцыі кожная маладая абавязкова павінна ў пэўныя моманты плакаць, гэта неабходна для вымольвання сабе ў Бога шчаслівай у будучыні замужняй долі. Сіроты ўяўляюць сабой асобную катэгорыю, на якую ў два разы больш ўплываў гэты закон [Rypiński 1840: 96].

Ва ўсходнеславянскай чароўнай казцы, як адзначалі даследчыкі, адбіўся працэс распаду патрыярхальнай сямейнай абшчыны, якая, па ацэнцы Елеазара Меляцінскага, у казцы прадстаўлена малой сям'ёй [Мелетинский 2005: 7]. Аднак у некаторых беларускіх чарадзейных казках захавалася дастаткова адназначнае адлюстраванне вялікай сям'і. У беларускай казцы ёсць варыянты, у якіх вялікая сямейная патрыярхальная абшчына прадстаўлена канкрэтна. Так адна з беларускіх казак змяшчае наступнае апісанне:

> Было ў бацькі тры сыны – два вумных, а трэці дурак <…>. Вумныя сыны паехалі ў лес, а дурань застаўся дома. Дзве нявесткі затапілі печку, напяклі бліноў. Потым просяць яго, дурака гэтага.
> – Ах, – гавораць, – прынясі нам вады, мы табе блін намаслім [*Чарадзейныя казкі* 1973, 1: 85].

У асобных варыянтах чарадзейных казак пакінутыя пасля смерці бацькі старэйшыя сыны – гэта жанатыя сыны, у адрозненне ад малодшага, які заўсёды ў пачатку чароўнай казкі не жанаты. Сямейная калізія, якая склалася пасля смерці бацькі, заключаецца ў тым, што малодшы сын – сірата аказваецца без бацькоўскай падтрымкі, прыгнятаецца старэйшымі братамі, аказваецца ў сацыяльна прыгнечаным становішчы.

У адпаведнасці з казачным сюжэтам бацька перад смерцю звярнуўся да сыноў з просьбай, каб пасля яго смерці кожны з іх прыйшоў ноччу на яго магілу. Перадсмяротную просьбу бацькі выканаў толькі малодшы сын-сірата, пры гэтым ён прыходзіў ноччу на магілу бацькі не толькі ў свой тэрмін, але і замест братоў, паколькі яны прасілі зрабіць гэта замест іх. За кожны прыход памерлы бацька адорваў малодшага сына канём, які валодаў чароўнымі ўласцівасцямі. Такім чынам, у адпаведнасці з казачным сюжэтам малодшаму сыну, які выканаў просьбу бацькі, дасталіся чароўныя памочнікі, а браты чароўнай дапамогі ад памерлага бацькі не атрымалі.

У чароўнай казцы праз сувязь малодшага сына-сіраты з памерлым бацькам раскрываюцца асаблівасці сямейнай рэлігійнасці, паколькі менавіта праз гэтую сувязь у сюжэце чароўнай казкі паказана, што гаворка ідзе пра культ продкаў. Выконваючы перадсмяротную просьбу бацькі, малодшы сын, прыходзячы ноччу на магілу, выразна выказвае ўшанаванне бацьку. У казцы адсутнічае відавочная ідэалізацыя гэтага важнага, фактычна рытуальнага, дзеяння, але на значнасць гэтых дзеянняў указвае тое, што малодшы сын прыходзіць на магілу бацькі тройчы. Старэйшыя браты, наадварот, пакінулі без увагі перадсмяротную просьбу бацькі. З казачнага сюжэта таксама вынікае, што толькі пасля смерці бацька змог ажыццявіць незвычайныя магчымасці ў якасці дарыльшчыка чароўных памочнікаў, і праз іх – паўплываць на лёс малодшага сына.

У адпаведнасці з сюжэтам чароўнай казкі сын-сірата, які выканаў перадсмяротную просьбу бацькі, вырваўся са свайго прыгнечанага становішча: цудоўныя памочнікі бацькі ліквідавалі ўсе жыццёвыя перашкоды на яго шляху, забяспечылі шчаслівы шлюб, поўны дастатак і высокі сацыяльны статус. Такім чынам, малодшы сын, які выканаў перадсмяротную просьбу бацькі, атрымлівае ўзнагароду. У гэтым праяўляецца павучальны аспект разгледжанай чароўнай казкі.

З пункту гледжання прадстаўленай у гэтай чароўнай казцы ў няяўным выглядзе архаічнай рэлігійнасці, можна адзначыць, што ў сюжэце не толькі прысутнічае ідэя шанавання сямейнай рэлігіі (культ продкаў), але і паказаны яе няяўны жыццесцвярджальны патэнцыял, які раскрываецца ў дзеяннях і выніках галоўнага героя – малодшага сына-сіраты. Варта адзначыць, што ў сюжэце разгледжанай чароўнай казкі адлюстраваны перыяд распаду архаічнай патрылінейнай структуры, у сувязі з чым выпрабоўваецца і адпаведная гэтай структуры рэлігійнасць (старэйшыя браты пагрэбавалі перадсмяротнай просьбай бацькі).

Важна адзначыць, што прадстаўленыя ў сюжэце чароўнай казкі асаблівыя адносіны бацькі менавіта з малодшым сынам адлюстроўвалі сітуацыю, якая часта сустракалася ў жыцці сельскай супольнасці. Пра тое, што ў беларусаў жыць з састарэлымі бацькамі часта заставаўся малодшы сын, сведчаць этнаграфічныя дадзеныя. М. Доўнар-Запольскі адзначаў, што „сын, у якога селяцца старыя, заўсёды бывае малодшы, яму ж дастаецца бацькоўская сяліба” [Довнар-Запольский 1897: 101].

Вобраз сацыяльна абяздоленай, гнанай дзяўчыны-сіраты ў чарадзейных казках найбольш шырока прадстаўлены ў казках аб падчарцы і мачысе. З уводнай часткі беларускіх чарадзейных казак пра падчарку вынікае, што ў іх гаворка ідзе пра становішча дзяўчыны пасля смерці маці ў сям’і, якая склалася пасля паўторнага шлюбу яе бацькі. У чарадзейных казках аб падчарцы бацька не выступае ў якасці абаронцы дачкі перад мачахай. У казцы падчарка часам завецца сіратой [*Чарадзейныя казкі* 1973, 1: 379]. У беларускай казцы пра сіротку Даротку, запісанай

у 1971 г. в. Груздава Пастаўскага раёна Віцебскай вобласці, дадзена наступная абагульняючая ацэнка: “Вядома ж, ад мачыхі ўсе найбольш пападаецца, рэдка калі сіраце ў дабрату” [*Чарадзейныя казкі* 1973, 1: 378]. У другой казцы пра падчарку, запісанай у в. Уцёс Баранавіцкага р-на ў 1967 г., адзначалася: “Баба сваю родную дачку песціла, а дзедаву хацела, каб са свету звесці” [*Чарадзейныя казкі* 1973, 1: 381]. Больш разгорнутая характарыстыка адносін да падчаркі была дадзеная ў казцы, запісанай у канцы XIX ст. у в. Дварчаны Ваўкавыскага павета Гродзенскай губ.: “Баба сваю дачку і надта песціла, а з падчарыцы збыткавалася: сваю дачку па хвэстах, кірмашах, вяселлях і ўсюдачкі вазіла, а дзедавай то з свіное скуры зрабіла кажушка, ды й яна ў ём цёнгле ў хаце сядзела” [*Чарадзейныя казкі* 1973, 1: 367].

Характэрнай рысай народных чарадзейных казак з’яўляецца ідэалізацыя дзяўчыны-сіраты, якая вылучаецца працавітасцю, паслухмянасцю і дабрынёй, што кантрастуе з адмоўнымі рысамі характару родных дачок мачахі. І без таго цяжкае становішча сіраты пагаршаецца з-за ўсё больш складаных задач, якія ставіць мачыха перад падчаркай. У найбольш складанай сітуацыі падчарка звяртаецца за падтрымкай да сваёй памерлай маці, якая дапамагае ёй праз чароўных памочнікаў, або, як варыянт іншых чароўных казак, ёй дапамагае падораны раней маці памочнік, у якога праяўляюцца чароўныя ўласцівасці. У адпаведнасці з казачным сюжэтам, дзякуючы чароўнай дапамозе дзяўчына-сірата, звяртае на сябе ўвагу маладога хлопца (пана, каралевіча) і шчасліва выходзіць замуж. Казка пра сіротку Даротку, у якой малады пан забраў замуж падчарку заканчваецца наступнымі словамі: “Вот ён і высвабадзіў Даротку з сіроцтва і з пакуты” [*Чарадзейныя казкі* 1973, 1: 381].

У адпаведнасці з народнымі ўяўленнямі, сірата бліжэй да свету сакральнага, чым звычайныя людзі, і яна ў большай меры можа разлічваць на звязаную з гэтым падтрымку. Уяўленні пра сірату добра захаваліся да нашых дзён. З’яўленне вядомага ў Беларусі месца паломніцтва вернікаў каля Святой Грушкі ў Камянецкім раёне Брэсцкай вобласці мясцовае насельніцтва звязвае з сіратой, якой на гэтым месцы з’явілася Божая Маці.

У адпаведнасці з дадзенымі, атрыманымі намі падчас палявога даследавання ад інфармантаў в. Вярховічы Камянецкага раёна Брэсцкай вобл., асаблівая блізкасць сіраты да сакральнага свету адлюстравана ў наратыве пра Святую Грушку:

> Вона́ була́ сырота́ з сэм’і Павлючуко́в. Вона́ пасла́ скот тут. І нашла́ хма́ра. І вона́ ростера́ласа: шо вона́ бу́дэ робы́ты, як вона́ гэ́той скот збэрэ́. І вона́ подошла́ до гру́шы і ста́ла пла́каты. І у гэ́тэ врэ́ме во́зле ейі́ з’явы́ласа Бо́ж’я Ма́тер. <…> І вона́ роспросы́ла ейі́, в чом прычы́на, шо ты пла́чэш, шо за бэда́. Вона́ йій росказа́ла усё́. І [Божая Маці. – *В. Ш.*] сказа́ла: Я тэбэ́, до́чэнька, ісцэлю́. А ты услы́ш мойі́ слова́ <…> І ка́жэ, за́йдэш додо́му і всім говоры́, кого́ ты тут встрэ́тіла <…> Вона́ була́ кру́глая сырота́. Чуть-чуть ба́чыла. І вона́ [Божая Маці] ейі́ ісцэлі́ла.

Месца, дзе пад дрэвам пастушцы з’явілася Божая Маці, стала лічыцца святым. Так каля Грушы з’явілася каплічка. Пад дрэвам быў пастаўлены абраз з выявай ўкленчанай дзяўчынкі перад Божай Маці каля Грушы.

Падводзячы вынікі, трэба адзначыць, што тэма сіраты ў традыцыйнай культуры беларусаў прыцягнула ўвагу даследчыкаў даволі рана. У найбольшай ступені гэта цікавасць была звязана з вывучэннем вясельнага абраду беларусаў. У 70-80-я гады XX ст. сіроцкая праблематыка ў рамках вясельнай абраднасці беларусаў стала набываць самастойнае значэнне. У пачатку першага дзесяцігоддзя XXI ст. некаторыя асаблівасці традыцыйных уяўленняў пра сірату сталі разглядацца з новых пазіцый – у кантэксце даследаванняў народнай рэлігійнасці і асаблівасцяў родоваарыентаваных уяўленняў у беларусаў [Шарая 2002]. Атрымаў развіццё падыход, у рамках якога ўяўленні пра сірату ў вясельным абрадзе сталі разглядацца ў яго сувязі з пахавальным абрадам. Аналіз у міжкультурным параўнанні выявіў істотныя адрозненні сіроцкай праблематыкі ў традыцыі ў розных народаў.

У традыцыйнай культуры народаў Паўднёва-Усходняй Еўропы, у якіх доўга захоўваліся патрылінейна-комплексныя сямейныя структуры, склаліся свае асаблівасці ўяўленняў пра сірату. На Балканах была характэрна апека сірот з боку членаў задругі.

У беларусаў у працэсе распаду патрылінейна-комплексных сямейных структур сіроцтва стала новай сацыяльнай з’явай. У традыцыйнай культуры беларусаў склаліся ўяўленні пра сірату, якія адлюстраваны ў пахавальным абрадзе, у вясельным абрадзе сіраты, у казках, у іншых праявах народнай традыцыі, у якой прасочваецца сувязь уяўленняў пра сірату з сакральным светам.

На фарміраванне ўяўленняў пра сірату ў сямейных абрадах паўплывала як наяўнасць у мінулым складаных сямейных структур, так і асаблівасці іх распаду ў працэсе сацыякультурных змен. Найбольш востра сіроцкая праблематыка праяўляецца ў дачыненні да нуклеарных сем’яў, бо наступствы сіроцтва ў гэтым выпадку найбольш цяжкія.

Праведзеныя даследаванні паказалі, што звязаныя з гістарычнымі формамі сям’і і сістэмамі роднасці практыкі адыходу жанчыны з бацькоўскага дома ў выніку шлюбу знайшлі адлюстраванне ў традыцыйнай вясельнай абраднасці [Шарая 2008; Шарая 2013]. На вербальным узроўні ў вясельнай абраднасці беларусаў гэта знайшло адлюстраванне ў матыве вясельных песень як „аддзяленне часткі ад цэлага”, дзе цэлае сімвалічна прадстаўлена дрэвам, а частка (адыход маладой з патрылінейный роду) адламанай галінай або верхавінай дрэва.

Сітуацыя, калі сям'ю (род) пакідаў хтосьці з яе членаў (у выніку смерці), была таксама адлюстраваная ў традыцыйнай культуры. Так, на вербальным узроўні ў вясельным абрадзе сіраты адламаная верхавіна дрэва магла сімвалізаваць памерлых бацькоў нявесты-сіраты. У пахавальным абрадзе і вясельным абрадзе сіраты выявіліся элементы, якія

адлюстроўваюць сувязь нявесты-сіраты з памерлымі бацькамі. Для нявесты-сіраты або жаніха-сіраты, якія засталіся без бацькоў або аднаго з бацькоў, сіроцтва асаблівым чынам звязвала пахавальны абрад і абрад вяселля. Абодва гэтыя сямейныя абрады для чалавека, які страціў бацькоў у дзяцінстве ці падлеткавым узросце, звязаны са змяненнем яго сацыяльнага становішча.

Вясельныя галашэнні і абрадавыя вясельныя песні, звязаныя з матывамі развітання маладой з домам, адлюстроўвалі рэальнае развітанне – нявеста развітвалася з роднымі, бацькоўскім домам, дзе прайшло яе дзяцінства. Але атмасфера развітання была больш напружанай, калі нявеста была сіратой. Пачуцці, звязаныя са стратай бацькоў у мінулым, абвастраліся ў сувязі з неабходнасцю рытуальнага звароту да іх у рамках вясельнай цырымоніі з просьбай аб благаславенні.

Адсутнасць бацькоў або аднаго з бацькоў на вясельнай цырымоніі маладой-сіраты ствярала спецыфічную сітуацыю, што знайшло адлюстраванне на рытуальным (наведванне магілы бацькоў) і вербальным узроўні (тэксты-звароты да бацькоў і плач). Звароты нявесты-сіраты да бацькоў на магіле часта ўключалі элементы, якія характэрныя для пахавальных галашэнняў.

У вясельным абрадзе сіраты глыбока адбіліся асаблівасці народнай рэлігійнасці беларусаў, звязанай з культам продкаў, адлюстраваны традыцыйныя ўяўленні, у адпаведнасці з якімі памерлыя продкі (у выпадку сіраты – памерлыя бацькі) маглі ўплываць на жыццё сваіх нашчадкаў.

Даследаванні традыцыйных уяўленняў пра сірату ў беларусаў у кантэксце народнай рэлігійнасці садзейнічалі істотнаму пашырэнню кола эмпірычных дадзеных, разгляду тэмы сіраты ў больш шырокім кантэксце (у каляндарных, сямейных абрадах, празаічных жанрах народнай культуры). Гэтая тэндэнцыя перспектыўная і ў далейшым. Новыя дадзеныя, разгледжаныя ў сувязі з ужо наяўнымі, могуць садзейнічаць развіццю даследаванняў традыцыйнай духоўнай культуры беларусаў. Цікавасць уяўляе таксама далейшае вывучэнне тэмы сіраты ў кантэксце звычаёвага права, у сувязі з дынамікай гістарычных сямейных структур у беларусаў.

## Бібліяграфія

Azadovskij M.K. 1922. *Lenskie pričitaniâ*. Čita: tip. Dal'profsoveta, arend. Gubkomom RKP [Азадовский М.К. 1922. *Ленские причитания*. Чита: тип. Дальпрофсовета, аренд. Губкомом РКП].

Aksamìtaŭ Anatol', Leanìla Malaš. 1993. *Belaruskae vâselle ŭ âgo adnosìnah da zahodne-slavânskìh vâsellâŭ – pol'skaga ì slavackaga*. *Daklad na XI Mìžnarodnym z`ezdze slavìstaŭ*. Mìnsk: Navuka ì tèhnìka [Аксамітаў Анатоль, Леаніла Малаш. 1993. *Беларускае вяселле ў яго адносінах да заходнеславянскіх* вяселляў *– польскага і* славацкага. *Даклад на XI Міжнародным з’ездзе славістаў*. Мінск: Навука і тэхніка].

Bajburin A.K., Levinton G.A. 1990. *Pohorony i svad'ba.* V: *Issledovaniâ v oblasti baltoslavânskoj duhovnoj kul'tury: (Pogrebal'nyj obrâd)*. Moskva: Nauka. [Байбурин А.К., Левинтон Г.А. 1990. *Похороны и свадьба.* В: *Исследования в области балтославянской духовной культуры: (Погребальный обряд).* Москва: Наука.

Barszczewski Aleksander. 1990. *Białoruska obrzędowość i folklor Wschodniej Białostocczyzny. Narodziny, wesele, śmierć*. Białystok: Sekcja naukowa ZG BTSK.

*Belaruskìâ narodnyâ pesnì ŭ 4-h tamah*. 1976. T. 4. Zapìs R. Šyrmy. Minsk [*Беларускія народныя песні ў 4-х тамах*. 1976. Т. 4. Запіс Р. Шырмы. Мінск].

Charaïa Olga. 2013a. *Représentations archaïques concernant la lignée dans les lamentations rituelles.* "Cahiers slaves" №13: 43–63.

*Čaradzejnyâ kazkì*. 1973: 1–45. Rèd. V.K. Bandarčyk. Č. 1. Mìnsk: Navuka ì tèhnìka [*Чарадзейныя казкі*. 1973: 1–45. Рэд. В.К. Бандарчык. Ч. 1. Мінск: Навука і тэхніка].

Dovnar-Zapol'skij M.V. 1897. *Očerki semejstvennogo obyčnogo prava krest'ân Minskoj gubernii*. "Ètnografičeskoe obozrenie". Kn. XXXII. № 1 [Довнар-Запольский М.В. 1897. *Очерки семейственного обычного права крестьян Минской губернии*. "Этнографическое обозрение". Кн. XXXII. № 1].

*Ètymalagìčny sloŭnìk belaruskaj movy. ÈSBM*. 2008. Uklad. R. M. Mal'ko, G.A. Cyhun. Gal. rèd. G.A. Cyhun. T. 12. Mìnsk: Belaruskaâ navuka [*Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. ЭСБМ*. 2008. Уклад. Р.М. Малько, Г.А. Цыхун. Гал. рэд. Г.А. Цыхун. Т. 12. Мінск: Беларуская навука].

Federowski Michał. 1958. *Lud białoruski na Rusi Litewskiej: materiały do etnografii słowiańskiej zgromadzone w latach 1877–1905*. T. 5: *Pieśni*. Warszawa: Państwowe Wyd-wo Nauk.

Fedaroŭskì Mìhal. 1991. *Lûd belaruskì. Vâselle*. Uklad. pradm. ì per. z pol'skaj movy Ì. Salamevìča. Minsk: Polymâ [Федароўскі Міхал. 1991. *Люд беларускі. Вяселле*. Уклад. прадм. і пер. з польскай мовы І. Саламевіча. Мінск: Полымя].

Gloger Zygmunt. 1869. *Obchody weselne przez Pruskiego*. Kraków: Nakładem Autora.

Karskij E.F. 1916. *Belorusy: v 3 tomah*. T. 3. Č.1: *Očerki slovesnosti belorusskogo plemeni. Narodnaâ poèziâ*. Moskva: Tipolit. I.N. Kušnerev i K° [Карский Е.Ф. 1916. *Белорусы: в 3 томах.* Т. 3. Ч. 1: *Очерки словесности белорусского племени. Народная поэзия*. Москва: Типолит. И.Н. Кушнерев и К°].

Malaš Leanìla. 1980. *Vâsel'nyâ pesnì*. U: *Vâselle. Pesnì ŭ 6-cì kn*. Sklad. L.A. Malaš. Minsk: Navuka ì tèhnìka. Kn. 1 [Малаш Леаніла. 1980. *Вясельныя песні.* У: *Вяселле. Песні ў 6-ці кн*. Склад. Л.А. Малаш. Мінск: Навука і тэхніка. Кн. 1].

Malaš Leanìla. 1983. *Sìročyâ pesnì. Vânčanne. U dome maladoj perad pryezdam maladoga*. U: *Vâselle. Pesnì ŭ 6-cì kn*. Sklad. L. Malaš; Muz. dadat. Z. Mažèjka. Mìnsk: Navuka ì tèhnìka. Kn. 3 [Малаш Леаніла. 1983. *Сірочыя песні. Вянчанне. У доме маладой перад прыездам маладога.* У: *Вяселле. Песні ў 6-ці кн.* Склад. Л. Малаш; Муз. дадат. З.Мажэйка. Мінск: Навука і тэхніка. Кн. 3].

Malaš Leanìla. 1990. *Belaruskìâ vâsel'nyâ sìrockìâ pesnì*. "Slavia Orientalis". T. XXXIX. № 3–4: 359–369 [Малаш Леаніла. 1990. *Беларускія вясельныя сіроцкія песні*. "Slavia Orientalis". T. XXXIX. № 3–4: 359–369].

Marinov Dimit"r. 1984. *Izbrani proizvedeniâ v 2 tomah. Etnografičesko (folklorno) izučavane na Zapadna B"lgariâ*. S"st. i red. M. Veleva. T. 2. Sofiâ [Маринов Димитър. 1984. *Избрани произведения в 2 томах. Етнографическо (фолклорно) изучаване на Западна България*. Съст. и ред. М. Велева. Т. 2. София].

Meletinskij E.M. 2005. *Geroj volšebnoj skazki*. M.–SPB.: Akademiâ Issledovanij Kul'tury, Tradiciâ [Мелетинский Е.М. 2005. *Герой волшебной сказки*. М.–СПб.: Академия Исследований Культуры, Традиция].

Mitterauer Michael. 2013. *Historische Verwandtschaftsforschung*. Wien; Köln; Weimar: Böhlau Verlag.

Miterauer Mihael. 2001. *O jednom arhaičnom reliktu: Diskusija o "balkanskoj porodici"*. V: Mihael Miterauer. *Kad je Adam kopao a Evaprela: istorijsko-antropološki ogledi iz prošlosti evropske porodice*. Prevod sa nemačkog Olivera Durbaba. Beograd. [Митерауер Михаел. 2001. *О једном архаичном реликту: Дискусија о "балканској породици"*. В: Михаел Митерауер. *Кад је Адам копао а Ева прела: историјско-антрополошки огледи из прошлости европске породице*. Превод са немачког Оливера Дурбаба. Београд].

Moszyǹski Kazimierz. 1928. *Polesie Wschodnie: materjały etnograficzne z wschodniej części b. powiatu Mozyrskiego oraz z powiatu Rzeczyckiego*. Warszawa: Wyd-wo Kasy im. Mianowskiego.

Nikiforovskij N.Â. 1897. *Prostonarodnye primety ipover'â, suevernye obrâdy i obyčai, legendarnye skazaniâ o licah i mestah*. Vitebsk [Никифоровский Н.Я. 1897. *Простонародные приметы и поверья, суеверные обряды и обычаи, легендарные сказания о лицах и местах*. Витебск].

*Pahavannì. Pamìnkì. Galašènnì* (*PPG*). 1986. Uklad. tèkstaŭ, ustup. artykul ì kament. U.A. Vasìlevìča. Gal. rèd. A.S. Fâdosìk. Mìnsk: Navuka ì tèhnìka [*Пахаванні. Памінкі. Галашэнні (ППГ)*. 1986. Уклад. тэкстаў, уступ. артыкул і камент. У.А. Васілевіча. Гал. рэд. А.С. Фядосік. Мінск: Навука і тэхніка].

Romanov E. 1912. *Belorusskij sbornik*. Vyp. 8: *Byt belorusa*. Vil'na :Tipografiâ A.G. Syrkina [Романов Е. 1912. *Белорусский сборник*. Вып. 8: *Быт белоруса*. Вильна: Типография А.Г. Сыркина].

Rypiński Alexander. 1840. *Białoruś: kilka slów o poezyi prostego ludu tej naszej pol. prowincji, o jego muzyce, spiewie, tancach et cetera*. Paryż : Druk. J. Marylskiego.

Scharaja Olga. 2012. *Der Ahnenkult in der traditionellen Kultur der europaischen Volker*. In: *Gerda Henkel Stiftung. Sonderprogramm zur Forderung des Historikernachwuchses in Russland, der Ukraine, Moldawien und Weissrussland*. Abschlusspublikation. Dusseldorf.

Šaraâ Ol'ga. 2002. *Cennostno-normativnaâ priroda počitaniâ predkov*. Minsk: Tèhnalogìâ [Шарая Ольга. 2002. *Ценностно-нормативная природа почитания предков*. Минск: Тэхналогія].

Šaraâ Vol'ga. 2008. *Rodavaâ svâdomasc' u tradycyjnaj duhoŭnaj kul'tury narodaŭ Ushodnâj ì Paŭdnëva-Ushodnâj Eŭropy*. U: *Movaznaŭstva. Lìtaraturaznaŭstva. Fal'klarystyka: XIV Mìžnarodny z`ezd slavìstaŭ (Ohryd, 2008): Dakl. bel. dèlegacyì* Mìnsk: Prava ì èkanomìka [Шарая Вольга. 2008. *Родавая свядомасць у традыцыйнай духоўнай культуры народаў Усходняй і Паўднёва-Усходняй Еўропы*. У: *Мовазнаўства. Літаратуразнаўства. Фалькларыстыка: XIV Міжнародны з'езд славістаў (Охрыд, 2008): Дакл. бел. дэлегацыі* Мінск: Права і эканоміка.

Šaraâ Vol'ga. 2013. *Sacyâkul'turnyâasablìvascì rodavyh uâŭlennâŭ slavân u kantèksce tradycyjnaj duhoŭnaj kul'tury eŭrapejskìh narodaŭ*. U: *Lìtaraturaznaŭstva. Fal'klarystyka: XV Mìžnar. z`ezd slavìstaŭ (Mìnsk, 20–27 žn. 2013): dakl. belarus. dèlegacyì*. Adk. rèd. A.A. Lukašanec [ì ìnš.]. Mìnsk: Belarus. Navuka [Шарая Вольга. 2013. *Сацыякультурныя асаблівасці родавых уяўленняў славян у кантэксце традыцыйнай духоўнай культуры еўрапейскіх народаў*. У: *Літаратуразнаўства. Фалькларыстыка: XV Міжнар. з'езд славістаў* (Мінск, 20–27 жн. 2013): дакл. беларус. дэлегацыі. Адк. рэд. А.А. Лукашанец [і інш.]. Мінск: Беларус. навука].

Šaraâ Vol'ga. 2016. *Rodavaaryentavanyâ ŭâŭlennìŭ tradycyjnaj duhoŭnaj kul'tury belarusaŭ*. U: *Narysy gìstoryì kul'tury Belarusì ŭ 4 tamah*. t. 3: *Kul'tura sâla XIV – pačatku XX st*. kn. 2: *Duhoŭnaâ kul'tura*. Navuk. rèd. A. Lakotka. Mìnsk :Belaruskaâ navuka [Шарая Вольга. 2016. *Родаваарыентаваныя ўяўленні ў традыцыйнай духоўнай культуры беларусаў*. У: *Нарысы гісторыі культуры Беларусі ў 4 тамах*.

т. 3: *Культура сяла XIV – пачатку XX ст. кн. 2: Духоўная культура.* Навук. рэд. А. Лакотка. Мінск: Беларуская навука].

Šaraâ Ol'ga. 2018. *Tradicionnye predstavleniâ o sirote v obrâdah žiznennogo cikla slavânskih i neslavânskih narodov: doklad na XVI Meždunarodnom s"ezde slavistov (Belgrad, 20–27 avgusta 2018 g.)*. Minsk: Pravo i èkonomika [Шарая Ольга. 2018. *Традиционные представления о сироте в обрядах жизненного цикла славянских и неславянских народов: доклад на XVI Международном съезде славистов* (Белград, 20–27 августа 2018 г.). Минск: Право и экономика].

Šaraâ Vol'ga. 2018a. *Kalândarnyâ abradyŭšanavannâ prodkaŭ u tradycyjnaj kul'tury belarusaŭ: prablemy ì perspektyvy dasledavannâ*. "Acta Albaruthenica". T. 18: 317–332 [Шарая Вольга. 2018a. *Каляндарныя абрады ўшанавання продкаў у традыцыйнай культуры беларусаў: праблемы і перспектывы даследавання.* "Acta Albaruthenica". T. 18: 317–332].

Šaraâ Ol'ga. 2018b. *Predstavleniâ o sirote v tradicionnom pogrebal'nom i svadebnom obrâde: osobennosti issledovaniâ*. U: *Pytannì mastactvaznaŭstva, ètnalogìì ì fal'klarystykì.* Navuk. rèd. A. Lakotka. Mìnsk : Prava ì èkanomìka. Vyp. 25 [Шарая Ольга. 2018b. *Представления о сироте в традиционном погребальном и свадебном обряде: особенности исследования*. У: *Пытанні мастацтвазнаўства, этналогіі і фалькларыстыкі*. Навук. рэд. А. Лакотка. Мінск: Права і эканоміка. Вып. 25].

Šaraâ Vol'ga. 2020. *Dasledavanne belaruskìh vâsel'nyh sìrockìh pesen' u pracah L. A. Malaš.* U: *Pytannì mastactvaznaŭstva, ètnalogìì ì fal'klarystykì.* Navuk. rèd. A.Ì. Lakotka. Vyp. 27. Mìnsk: Prava ì èkanomìka [Шарая Вольга. 2020. *Даследаванне беларускіх вясельных сіроцкіх песень у працах Л.А. Малаш.* У: *Пытанні мастацтвазнаўства, этналогіі і фалькларыстыкі.* Навук. рэд. А.І. Лакотка. Вып. 27. Мінск: Права і эканоміка].

Šaraâ Ol'ga. 2020a. *Sravnitel'nyj analiz predstavlenij o sirote v obrâdah žiznennogo cikla u russkih i finno-ugrov. Tradycyì ì sučasny stan kul'tury ì mastactvaŭ. Zb. navuk. art.* Gal. rèd. A.Ì. Lakotka. Vyp. 1. Mìnsk: Prava ì èkanomìka [Шарая Ольга. 2020a. *Сравнительный анализ представлений о сироте в обрядах жизненного цикла у русских и финно-угров.* У: *Традыцыі і сучасны стан культуры і мастацтваў. Зб. навук. арт.* Гал. рэд. А.І. Лакотка. Вып. 1. Мінск: Права і эканоміка].

Šejn P.V. 1890. *Materialy dlâ izučeniâ byta i âzyka russkogo naseleniâ Severo-Zapadnogo kraâ v 3 tomah.* T. 1. Č. 2: *Bytovaâ i semejnaâ žizn' belorusa v obrâdah i pesnâh*. SPb.: Tip. Akad. nauk [Шейн П.В. 1890. *Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края в 3 томах*. Т. 1. Ч. 2: *Бытовая и семейная жизнь белоруса в обрядах и песнях*. СПб.: Тип. Акад. наук].

*Vâselle. Abrad*. 1978. Uklad., ustup.artykul ì kament. K. Cvìrkì. Muz. dadat. Z. Mažèjka. Rèd. V.K. Bandarčyk, A.S. Fâdosìk. Mìnsk: Navuka ì tèhnìka [*Вяселле. Абрад.* 1978. Уклад., уступ. артыкул і камент. К. Цвіркі. Муз. дадат. З. Мажэйка. Рэд. В.К. Бандарчык, А.С. Фядосік. Мінск: Навука і тэхніка].

*Vâselle. Pesnì ŭ 6-cì kn*. 1983. Sklad. L. Malaš. Muz. dadat. Z. Mažèjka. Kn. 3. Mìnsk: Navuka ì tèhnìka [*Вяселле. Песні ў 6-ці кн.* 1983. Склад. Л. Малаш. Муз. дадат. З. Мажэйка. Кн. 3. Мінск: Навука і тэхніка].

Zankevič A. 1897. *Belorusskie svadebnye obrâdy i pesni sravnitel'no s velikorusskimi*. SPb. [Занкевич А. 1897. *Белорусские свадебные обряды и песни сравнительно с великорусскими*. СПб.]

**ABSTRACT**: The article presents the results of our research on the particularities of the ideas about the orphan in Belarusian traditional culture, as well as the perspectives for further research of this cultural phenomenon. Works by Belarusian, Polish and Russian philologists on the subject have been taken into

account. The article has shed light on the particularities of Belarusian ideas about the orphan in funeral and wedding rituals, as well as folktales. Traditional ideas about the orphan have been analyzed in relation to the changes in family structures through history and the familial relationships of Belarusians. A connection has been discovered between the ideas about the orphan and the particularities of Belarusian popular religion, and namely the system of ancestor veneration. Conclusions have been made about the perspectives of researching the ideas about the orphan from a multicultural perspective.

**KEYWORDS**: orphan, traditional ideas, family, Belarusians, funeral rite, orphan wedding, veneration of ancestors.

**STRESZCZENIE**: W artykule przedstawiono wyniki badań nad specyfiką wyobrażeń o sierocie w białoruskiej kulturze tradycyjnej, a także perspektywy dalszych badań tego zjawiska kulturowego. Uwzględniono prace filologów białoruskich, polskich i rosyjskich na ten temat. Artykuł rzucił światło na specyfikę białoruskich wyobrażeń o sierocie w rytuałach pogrzebowych i weselnych, a także podaniach ludowych. Tradycyjne wyobrażenia o sierocie zostały przeanalizowane w odniesieniu do przemian w strukturach rodzinnych na przestrzeni dziejów i relacji rodzinnych Białorusinów. Odkryto związek między wyobrażeniami o sierocie a specyfiką białoruskiej religii ludowej, a mianowicie systemem kultu przodków. Dokonano konkluzji o perspektywach studiowania tradycyjnych sposobów prezentowania postaci sieroty w ujęciu międzykulturowym.

**SŁOWA KLUCZOWE**: sierota, tradycyjne poglądy, rodzina, Białorusini, obrzęd pogrzebowy, wesele sieroty, czczenie przodków.

**РЭЗЮМЭ**: У артыкуле прадстаўлены вынікі даследавання асаблівасцей уяўленняў пра сірату ў традыцыйнай культуры беларусаў і перспектывы вывучэння гэтага культурнага феномену. Разгледжаны працы беларускіх, польскіх і расійскіх навукоўцаў па тэме. Выяўлены асаблівасці ўяўленняў беларусаў пра сірату ў пахавальным абрадзе, вясельным абрадзе сіраты і ў чарадзейных казках. Народныя ўяўленні пра сірату разгледжаны ў сувязі са зменай гістарычных форм сям'і і сістэм роднасці ў беларусаў. Выяўлена сувязь уяўленняў пра сірату з асаблівасцямі народнай рэлігійнасці беларусаў, з сістэмай ушанавання продкаў. Зробленыя высновы аб перспектыўнасці даследавання традыцыйных уяўленняў пра сірату ў міжкультурным параўнанні.

**КЛЮЧАВЫЯ СЛОВЫ**: сірата, традыцыйныя ўяўленні, сям'я, беларусы, пахавальны абрад, вяселле сіраты, ушанаванне продкаў.

**ACTA ALBARUTHENICA 20: 2020**
DOI: 10.32612/uw.18988091.2020.20.pp.95–109

**Анхела Эспіноса Руіс**
*незалежная даследніца / independent researcher*
ORCID: https://orcid.org/0000-0002-5434-8403
e-mail: angeespi@ucm.es

# Літаратурна-міфалагічныя партрэты: героі і архетыпы ў народных і мастацкіх паданнях Беларусі ды Іспаніі

*Literary and Mythological Portraits: Characters and Archetypes in Popular and Original Legends of Belarus and Spain*

*Portrety literackie i mitologiczne: bohaterowie i archetypy w podaniach ludowych i autorskich na Białorusi i w Hiszpanii*

Як у любым іншым празаічным жанры, дзейныя героі займаюць адметнае месца ў структуры падання: з пункту гледжання нарацыі менавіта героі спрыяюць развіццю сюжэта; на сімвалічным узроўні, з іншага боку, героі і архетыпныя вобразы могуць перадаваць іншыя, глыбейшыя значэнні, закладзеныя аўтарам.

Паводле класіфікацыі вядомага іспанскага гісторыка, антраполага, мовазнаўцы і фальклярыста Хуліа Кара Барохі, паданні дзеляцца на дзве групы ў залежнасці ад натуры іх галоўных герояў:

- паданні пра слаўных герояў, рэальных або фікцыйных, з гістарычным значэннем,
- паданні пра герояў без гістарычнага значэння, або паданні характару [Caro Baroja 1991: 165–170].

Паданні пра слаўных герояў, часта звязаныя з нацыянальнай або патрыятычнай тэматыкай, з’яўляюцца больш ці менш упарадкаванымі апавяданнямі пра жыццёвы шлях значных гістарычных постацяў кожнага краю. Гэтыя біяграфіі могуць быць як рэальныя, так і стылізаваныя або выдуманыя. У такіх паданнях адлюстраваны характар канкрэтных асоб.

У часы Сярэднявечча вялікае значэнне ў літаратуры набывае агіяграфічны жанр. На думку даследчыцы сярэднявечнай гісторыі Анхелэс Гарсія дэ ля Барбол’я, “агіяграфічная літаратура, як мы яе разумеем, – гэта такая літаратура, суб’ектам і аб’ектам якое становяцца святыя, незалежна ад жанру – паэтычнага ці празаічнага – і ад выкарыстання – літургічнага або прыватнага, – для якога яна прызначаная” [García de la Borbolla 2002: 78]. Менавіта шанаванне святых, пасрэднікаў

між звычайнымі людзьмі і Богам, спрыяе таму, каб да іх біяграфій дадаваліся легендарныя рысы. Не дзіўна, такім чынам, што існуюць і агіяграфічныя творы народнага паходжання. Да прыкладу, *La vida del bienaventurado San Amaro* (*Жыццё блажэннага святога Амара,* з невядомай датай напісання),

> апавяданне, якое, можа быць, калісьці было кароткім *exemplum* або народным паданнем, як і дагэтуль у пэўных рэгіёнах Галісіі, але прайшло эвалюцыйны працэс дзякуючы творчай працы індывідуальных аўтараў [Vega 1987: 13].

Трэба заўважыць, што народная і мастацкая літаратуры не аддзеленыя непераадольнаю мяжой, а наадварот: пераход з першай да другой часта з'яўляецца пастаянным працэсам ператварэнняў і інтэрпрэтацый канкрэтных твораў. Натуральна, гэтая тэндэнцыя больш відавочная ў тых выпадках, калі паданні маюць сваю аснову ў жыцці рэальных гістарычных герояў, чые біяграфіі адасабляюцца паступова ад рэчаіснасці дзякуючы народным пераацэнкам (а пазней – аўтарскім) і ператвараюцца ў народныя і літаратурныя паданні.

Гэтыя працэсы, вядома, здараюцца не толькі ў агіяграфіі. Біяграфіі многіх гістарычных постацяў значна змяніліся, калі суайчыннікі ператварылі іх у паданні. Напрыклад, ледзі Годзіва

> ніколі не ездзіла праз Ковентры вярхом <…>, паданне драматызуе табу, якое асацыюецца з *voyeurismo,* <…> шануе хараство Годзівы і візуальную асалоду, але імкнецца захоўваць прыстойнасць. Самаахвяра Годзівы з'яўляецца апраўданнем яе скандальных паводзінаў [Donoghue 2008: 1–2].

Брытанская шляхцянка, паданне пра якую было створанае пасля ейнае смерці, “была вялікая лэдзі, якая кіравала Ковентры на ўласных правах, жонкай уплывовага Леафрыка, эрла Мерсіі” [Ellis Davidson 1969: 107]. Аднак, дзякуючы папулярызацыі народна-літаратурнай версіі яе біяграфіі (перш за ўсё, праз фальклор, а потым ужо ў літаратуры і кінематографе), вобраз, які застаўся ў калектыўнай памяці, – голая жанчына, якая едзе вярхом па пустых вуліцах Ковентры.

Многія гістарычныя постаці іншых эпох сталі аб'ектам працэсу ператварэння ў паданні. Вобразы тых людзей, якія паўплывалі не толькі на сваю нацыянальную гісторыю, але і на развіццё сусветнай гісторыі, складаюцца з розных інтэрпрэтацый у залежнасці ад успрыняцця іх дзейнасці ў краінах і рэгіёнах, дзе ствараюцца новыя паданні пра іх. На думку Х. Кара Бароха, вельмі паказальны выпадак Напалеона, якога

> з самага пачатку XIX стагоддзя некаторыя паказвалі як надзвычайнага чалавека, і з ім асацыяваліся пэўныя рысы, якія можна лічыць амаль легендарнымі ў творах гістарычнага характару, напрыклад, Адольфа Цьера. Аднак <…> можна сустрэць выпадкі, якія паказваюць яго з зусім адрознага боку <…>. [У рамане] *Вайна і мір* Талстога сустракаецца герой <…>, які становіцца камічным ідыётам, пазбаўленым чалавечай годнасці і маральнасці. Аднак яго супернік у дадзеным творы <…> генерал Куту-

> заў, прадстаўлены <...> увасабленнем інтуіцыі, рускай душы і калектыўнай жыццёвай сілай, якая кантрастуе з перабольшаным драматызмам Напалеона [Caro Baroja, 1990].

У адрозненне ад расейскіх літаратараў, польскія рамантыкі падаюць у сваіх творах надзвычай пазітыўны вобраз Напалеона I Банапарта: "Паданне пра французскага капрала, нягледзячы на змены і розныя падыходы – канстытуцыйнае і абавязковае для польскай культуры. Напалеон быў створаны па меры народных надзей і амбіцый польскага рамантызму" [Krawczyk 2016: 86]. Гэтак Напалеон Банапарт стаў першараднай постаццю, напалову гістарычнай, напалову фікцыйнай, для польскай нацыянальнай ідэі, бо ўтварэнне ім Герцагства Варшаўскага вярнула польскаму народу надзею на вяртанне незалежнасці польскай дзяржавы.

Мы пагаджаемся з гіпотэзай, што польскамоўны беларускі празаік Ян Баршчэўскі стварыў алегарычны вобраз расейскае царыцы Кацярыны II у сваёй кнізе *Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях.* У ягонай інтэрпрэтацыі царыца ператварылася ў адмоўную літаратурную гераіню згодна з гістарычным успрыманнем рэальнай гістарычнай постаці з пункту гледжання рэчыпаспалітаўскага патрыятызму. У *Шляхціцы Завальні* нібыта не выводзяцца на сцэну гістарычныя постаці (гэта значыць, няма паэтызаваных версій біяграфій гістарычных постацяў – ані рэальных, ані выдуманых), аднак варта прыгледзецца да восьмага апавядання, якое называецца *Biała Sroka* (*Белая Сарока*). На думку Міколы Хаўстовіча,

> апавяданне *Белая Сарока* можна разглядаць як спецыфічнае мастацкае ўвасабленне падзей у Беларусі напачатку 70-х гг. XVIII ст. Прычым асноўным персанажам з'яўляецца адзін з ініцыятараў падзелаў – Кацярына II, а таксама ўплывовыя беларускія магнаты, што спрыялі расійскай царыцы ў ажыццяўленні ейных планаў [Хаўстовіч 2003: 159].

Калі Белая Сарока, з якой асацыююцца чорная магія і сацыяльныя маніпуляцыі, сапраўды з'яўляецца alter ego Кацярыны II, дык гэта значыць, што аўтар паставіў перад сабой мэту данесці чытачам гістарычныя падзеі, якія адбываліся ў Беларусі, і выкарыстаў літаратурна-народную форму падання дзеля таго, каб абысці пецярбургскую цэнзуру.

Паданні пра рэальныя і фікцыйныя гістарычныя постаці складаюць шырокую творчую глебу як для народнай, так і для мастацкай літаратуры. Далёкае мінулае тлумачыцца з дапамогай напалову выдуманых, напалову гістарычных постацяў, а рэальныя гістарычныя постаці ператвараліся, у сваю чаргу, у частку папулярнай культуры, што спрыяла іх пераацэнцы, стварэнню паданняў на аснове іх рэальных біяграфій, а таксама розным інтэрпрэтацыям (больш ці менш блізкім да рэчаіснасці) герояў і іх дзеяў з боку розных народаў. Ператварэнне гістарычных постацяў у літаратурных або фантастычных герояў таксама дае магчымасць абыходзіць перашкоды цэнзуры, адносна вольна

ствараць мастацкія творы на гістарычныя, сацыяльныя і палітычныя тэмы, як гэта зрабіў Я. Баршчэўскі, ствараючы вобраз Кацярыны ІІ.

Не кожны герой, чыя біяграфія ператвараецца ў народнае або літаратурнае (мастацкае) паданне, з'яўляецца ўплывовай асобай у развіцці сусветнай гісторыі, ці нават гісторыі сваёй радзімы або рэгіёну. Існуюць многія выпадкі, калі паданні ўзнікаюць на аснове біяграфій звычайных людзей, якія могуць быць ананімнымі або вядомымі толькі ў блізкім ім асяроддзі (напрыклад, у асобна ўзятай вёсцы). Гэтыя персанажы набываюць легендарныя рысы праз народную або мастацкую інтэрпрэтацыю іх жыцця і дзеяў.

Такім замацаваўся, да прыкладу, вобраз бандыта ў народнай літаратуры Андалусіі:

> такі персанаж часта акружаны таямнічасцю і легендарнасцю, нават набліжаецца часам да міфалогіі. Вобраз бандыта праходзіў праз змены згодна з эпохамі, аднак прынамсі з XVI стагоддзя ён складзены з розных стэрэатыпаў, сярод якіх найважнейшыя – клішэ пра справядлівага і шчодрага героя [Rodríguez Martín y López de Abiada 2006: 181].

Такія стэрэатыпы становяцца мадэлямі для стварэння паданняў пра бандытаў, якія могуць быць больш ці менш блізкімі да сапраўдных біяграфій герояў. Добрым прыкладам гэтай з'явы – паэма *Romance de El Pernales* (дакладная дата напісання невядомая), пра жыццё бандыта Франсіска Рыёса, які нарадзіўся ў Эстэпе (Севілля). Нягледзячы на тое, што бандыт здзейсніў жахлівыя злачынствы на пачатку XX стагоддзя, аўтар паэмы ўхвальна піша пра тое, як ён абараняў сялян і змагаўся з багатымі панамі Севіллі. З аднаго боку, гісторыя пацвярджае, што

> першае злачынства, учыненае бандытам і яго саўдзельнікамі – сапраўднае дэклараванне прынцыпаў: яны абрабавалі сялянскі дом у Касале, і вырашылі, што ім гэтых грошай мала. Тады звязалі гаспадара і шматразова гвалцілі яго жонку. Пасля гэтага першага злачынства бандыты працягвалі здзяйсняць падобнае... Эль Перналес стараўся здабываць сімпатыю мясцовых сялян, <…> імкнуўся не шкодзіць ім занадта, <…> да таго ж часам даваў якія грошы або цыгарэты самым бедным <…>. Дзіўна, што гэты просты жэст <…> прынёс яму славу абаронцы правоў ніжэйшых класаў, статус міфу сярод сялянскага насельніцтва, быццам ён – Робін Гуд XX стагоддзя [Pérez Köhler 2006: 208].

У паэме *Romance de El Pernales*, аднак, пераважаюць хвалебны тон і далёкія ад рэчаіснасці станоўчыя рысы, якія аўтар прыпісвае свайму герою. Мы заўважылі ў творы сітуацыі, падобныя да наступнай, калі бандыт абрабаваў гаспадара вялікага сялянскага дома, каб выратаваць жанчыну ад голаду:

> Ён спыніў каня каля карчмы,<br>і заўважыў, што там шпацыруе пан Рафаэль; Франсіска Рыёс<br>свой пісталет і сказаў: дайце мне пяцьсот песет<br>або я вас застрэлю.<br>Пан Рафаэль спалохаўся і імгненна даў яму грошы,

> тыя ж самыя песеты, якія бандыт да світання
> аддаў старой жанчыне, каб вырататаваць з цяжкай сітуацыі[1].

Гэтаксама, як у выпадку гістарычных постацяў, характар і дзеі гэтага бандыта цалкам перааценіліся ў народнай літаратурнай творчасці.

Часта сустракаюцца ў народнай літаратуры і паданні пра чараўніц і вядзьмарак: звычайна яны паказаныя як старыя жанчыны з пэўнымі ведамі ў галіне народнай медыцыны, дык з гэтае прычыны шмат хто верыць, што такія кабеты валодаюць магіяй, прынамсі – чорнай магіяй.

Вядзьмаркі, як мы вызначылі ў папярэдніх даследаваннях [Espinosa Ruiz 2019: 118–124], прысутнічаюць як у прозе Г.А. Бэкера, так і ў творах Я. Баршчэўскага. У выпадку іспанскага рамантыка важным з'яўляецца вобраз цёткі Каскі, чыя біяграфія падаецца ў рамане *З маёй клеткі* як народнае паданне. Наратар, зацікаўлены народнымі прымхамі і забабонамі ў рэгіёне Трасмоса, скептычна выказваецца пра выпадак цёткі Каскі, быццам гэта простае забойства, без звышнатуральных фактараў: "Можа быць, вы чыталі ў газетах Сарагосы апавяданне пра злачынства, якое было ўчыненае ў адной з вёсачак гэтага рэгіёну. Гэта было забойства беднае старое, якую суседзі абвінавачвалі ў вядзьмарстве" [Bécquer 2018: 231]. Відавочна, што наратар не падзяляе народнае веры. Для стварэння народнага кантэксту гэтага літаратурнага падання аўтар выкарыстоўвае вобраз пастуха, які папярэджвае наратара аб тым, што гісторыя пра цётку Каску адбылася ў рэчаіснасці. Пастух апісвае сваю нядаўнюю сустрэчу з прывідам вядзьмаркі:

> Я стаяў у адлегласці двухсот крокаў адсюль, на гэтай самай дарозе. Была прыкладна тая ж гадзіна, як і цяпер, а мне падалося, што пачуў далёкія крыкі, плач, праклёны... я ўбачыў яе – высокую, худую, апранутую, як жабрачка. Яна была падобнай да шкілета, які вырваўся з магілы, яшчэ з саванам на плячах. Такая жудасная старая была – я адразу пазнаў *цётку Каску*. *Цётка Каска* была вядомая ў нас у рэгіёне, і як толькі я ўбачыў яе брудныя, белаватыя валасы, якія круціліся ля твару, як змеі, дзіўны кшталт яе цела, згорбленую спіну і дэфармаваныя рукі, вуглавыя і цёмныя, якія маляваліся на агнявым даляглядзе, – я пазнаў вядзьмарку з Трасмоса [Bécquer 2018: 235].

Хоць яе вобраз нашмат менш страшны, суседзі вясковай карчмаркі Праксэды, адной з галоўных гераінь пятага апавядання *Шляхціца Завальні...*, якое называецца *Радзімы знак на вуснах*, таксама падазраюць яе ва ўжыванні чорнай магіі. Я. Баршчэўскі, які ведаў і выкарыстоўваў у сваёй творчасці беларускі фальклор, нават апісвае ў гэтым апавяданні некаторыя тэхнікі вядзьмарства:

> Суседзі мелі падазрэнне, што Праксэда забірае малако ад кароў з навакольных вёсак, бо сама мела вельмі мала жывёлы, але прадавала масла і сыры ў горадзе. І вось па ўсёй ваколіцы разыходзіліся чуткі, нібыта яна апоўначы вешала белы ручнік на сцяне, падстаўляла вядро і з двух

[1] Тэкст паэмы перакладзены аўтаркай артыкула паводле: [Rodríguez Gómez 2016].

> канцоў яго даіла. Малако з гэтага ручніка лілося ў посуд, і яна хутка напаўняла ўсе гладышы сырадоем [Баршчэўскі 2012: 449].

Менавіта падобныя апісанні другарадных герояў надаюць апавяданням народныя, фальклорныя рысы.

Апроч бандытаў і вядзьмарак, як вядома, існуюць многія іншыя “тыповыя” героі, якія выконваюць у народнай літаратуры канкрэтныя функцыі. Варта згадаць, да прыкладу, герояў-іншаверцаў (рэлігія якіх была адрознай ад хрысціянства). Асабліва цікавыя вобразы габрэяў, якія ў традыцыі многіх еўрапейскіх краінаў падаюцца скупымі ліхвярамі, а таксама моцна рэлігійнымі людзьмі:

> Магчыма, найболей значнымі рысамі антысемітызму былі яго ўніверсальнасць і працягласць у часе, такім чынам, што з’ява прысутнічае ў самых розных геагістарычных кантэкстах усіх эпох. Хоць ёсць некалькі магчымых прычын, якія маглі спрыяць агульнай нелюбові да габрэйскага насельніцтва ў Сярэднявеччы, самая важная, напэўна, апроч рэлігійных адрозненняў, – рашучае жаданне габрэяў захоўваць уласную ідэнтычнасць у рамках грамадства, у якім яны жылі [Cantera Montenegro 1998: 14].

У сярэднявечнай Іспаніі вобраз габрэя складваецца “з улікам шэрагу стэрэатыпаў, якія ўключаюць асаблівасці знешнасці (доўгі крывы нос), пэўныя паводзіны (сарданічная ўхмылка, злы погляд) і ганебныя віды прафесійнай дзейнасці (а канкрэтна – ліхвярства)” [Cantera Montenegro 1998: 16].

Габрэй з’яўляецца частым героем і ў беларускай народнай творчасці:

> У якасці адмоўных персанажаў народных казак і апавяданняў выступаюць таксама габрэі, якія здаўна насялялі беларускія гарады і мястэчкі. Габрэй (жыд) становіцца ўвасабленнем як хітрасці, так і празмернай дурноты, але заўсёды ён сквапны, хцівы, імкнецца нажыцца за кошт іншых [Брусевіч 2010: 266].

Вобраз героя-габрэя прысутныя таксама ў мастацкай літаратуры еўрапейскага рамантызму. Гэтак,

> архетып габрэя ў беларускай літаратуры не быў такім станоўчым, як патрыятычны карчмар Адама Міцкевіча Янкель (у паэме *Пан Тадэвуш*), але і не быў такім адмоўным, як габрэй-пасярэднік украінскіх казацкіх хронік <…>. Рабілася карыкатура багатага прадаўца алкаголю, маніпулятыўнага і скупога чалавека. Габрэй быў часта біты брутальным казаком або быў забіты і забраны Д’яблам <…>. Герой-габрэй, які прысутнічае ў *Камедыі* Каятана Марашэўскага (1787), таксама адносіцца да катэгорыі нязветлівых прадаўцоў алкаголю і ліхвяроў, але ператвараецца ў часовага памочніка селяніна ў імкненні падмануць д’ябла, які сімвалізуе пана, польскага гаспадара [Dekel-Chen et al. 2010: 168].

Г.А. Бэкер вяртае сярэднявечны архетып габрэя ў сваім паданні *La Rosa de Pasión* (*Ружа Жарсці*). Бацька галоўнай гераіні, маладой Сары, апісаны наступнымі словамі: “Даніэль вечна ўсміхаўся дзіўнай, неапі-

сальнай усмешкай. Яго тонкія, запалыя вусны доўжыліся пад ценем велізарнага носа, крывога, як арліны дзюб” [Bécquer 2010: 54]. Разам з вобразам габрэя вяртаюцца і стэрэатыпы пра яго знешнасць і таямнічы характар.

Галоўныя героі такіх паданняў – звычайныя людзі, без гістарычнай вагі, якія могуць быць і рэальнымі, і фікцыйнымі, і чые асаблівыя рысы могуць спрыяць развіццю нарацыі. Гэтых герояў можна падзяліць на групы або тыпы – такім чынам ствараюцца архетыпы (бандыт, вясковая вядзьмарка, габрэй). Разам з народнымі інтэрпрэтацыямі гістарычных постацяў, яны складаюць своеасаблівую сістэму дзейных элементаў нарацыі, якія працягваюць уплываць на мастацкую літаратуру да нашых дзён.

З гэтых прычын мы мяркуем, што сістэматызацыя, аналіз і параўнанне архетыпных і гістарычных народна-літаратурных герояў – істотная праблема для еўрапейскага і сусветнага літаратуразнаўства, і спадзяёмся, што наш артыкул дасць пачатак шэрагу іншых даследаванняў на гэтую тэму.

## Бібліяграфія


Bécquer Gustavo Adolfo. 2010. *Leyendas.* Ed. Francisco López Estrada y Mª Teresa López García-Berdoy. Madrid: Austral.

Bécquer Gustavo Adolfo. 2018. *Desde mi celda.* Ed. Jesús Rubio Jiménez. Madrid: Cátedra, Letras Hispánicas.

Brusevìč Anatol. 2010. *Ìnšazemcy vačamì belarusaŭ: fal'klornyâ vobrazy ì ìh ramantyčnaâ ìntèrprètacyâ.* U: *Narody, kul'tury i social'nye processy na pograničʹe: materialy Meždunar. nauč.-prakt. konf., Grodno, 22–23 fevralâ 2010 g.* Grodno: GrGU [Брусевіч Анатоль. 2010. *Іншаземцы вачамі беларусаў: фальклорныя вобразы і іх рамантычная інтэрпрэтацыя*. У: *Народы, культуры и социальные процессы на пограничье: материалы Междунар. науч.-практ. конф., Гродно, 22–23 февраля 2010 г.* Гродно: ГрГУ].

Cantera Montenegro Enrique. 1998. *La imagen del judío en la España medieval*. “Espacio, tiempo y forma”. Serie III, Historia medieval (11).

Caro Baroja Julio. 1990. *Localización, personificación y personalización de las leyendas*, [online]: https://www.ugr.es/~pwlac/G07_01Julio_Caro_Baroja.html [dostęp: 20.01.2019].

Caro Baroja Julio. 1991. *De los arquetipos y leyendas.* Madrid: Ediciones Istmo.

Dekel-Chen Jonathan, et al., eds. 2010. *Anti-Jewish violence: rethinking the pogrom in East European history*. Bloomington: Indiana University Press.

Donoghue Daniel. 2008. *Lady Godiva: a literary history of the legend*. Hoboken: John Wiley & Sons.

Ellis Davidson Hilda Roderick. 1969. *The Legend of Lady Godiva*. “Folklore”, 80, 2: 107-121.

Èspìnosa Ruìs Anhela. 2019. Žanočaâ magìâ ŭ proze Âna Barščèŭskaga ì Gustava Adol'fa Bekera: ad Praksèdy da Beatrys. “Polymâ” № 12: 118–124 [Эспіноза Руіз Ангела. 2019. Жаночая магія ў прозе Яна Баршчэўскага і Густава Адольфа Бекера: ад Праксэды да Беатрыс. “Полымя” № 12: 118–124].

García de la Borbolla Ángeles. 2002. “La leyenda hagiográfica medieval: ¿una especial biografía?”. *Memoria y Civilización,* 5: 77–99.

Haŭstovìč Mìkola. 2003. *Mastackì metad Âna Barščèŭskaga*. Mìnsk: BDU [Хаўстовіч Мікола. 2003. *Мастацкі метад Яна Баршчэўскага*. Мінск: БДУ].

Krawczyk Arkadiusz. 2016. *Gdy materia zostaje ożywiona...: Napoleon w recepcji Teofila Lenartowicza: studium romantycznej siły imaginacji*. „Zeszyty Naukowe Towarzystwa Doktorantów Uniwersytetu Jagiellońskiego. Nauki Humanistyczne", 13, 2: 85–100.

Pérez Köhler Alejandro. 2006. *Consideraciones jurídicas sobre el "Romance de El Pernales"*. "Anuario de la Facultad de Derecho": 206–228.

Rodríguez Gómez Enrique. 2016. *Canciones entre líneas*. Sevilla: Caligrama.

Rodríguez Martín José Antonio y José Manuel López de Abiada. 2006. *Calas en el fenómeno del bandolerismo andaluz desde la literatura y la historiografía. Bibliografía reciente*. "Iberoamericana" № 6: 181–192.

Vega Carlos Alberto. 1987. *Hagiografía y literatura. La vida de San Amaro*. Madrid: El Crotalón.

**ABSTRACT**: Our article explores the general features of folk and literary legends in which the characters perform the main formal, narrative and symbolic functions. We divided said characters into two groups according to the classification of J. Caro Baroja: on the one hand, we considered examples when real or fictional historical characters appear (Lady Godiva, Napoleon Bonaparte); on the other hand, we took into account some archetypes of characters of no historical significance (bandit, witch, Jew). Based on these examples, we began a comparative study of this type of legends in Spanish and Belarusian literature, both in folk prose and in authorial fiction, which is reflected in the works of Jan Barščeŭski and Gustavo Adolfo Bécquer.

**KEYWORDS**: legend, popular literature, romanticism, historical figures, archetypes, Jan Barščeŭski, Gustavo Adolfo Bécquer.

**STRESZCZENIE:** W artykule przeanalizowano ogólne cechy podań ludowych i literackich, w których bohaterowie pełnią główne funkcje formalne, narracyjne i symboliczne. Postacie podzielono na dwie grupy zgodnie z klasyfikacją J. Caro Baroja: z jednej strony rozważono przykłady, gdy w podaniach pojawiają się prawdziwe postacie historyczne (Lady Godiva, Napoleon Bonaparte); z drugiej strony wzięto pod uwagę archetypy bohaterów bez znaczenia historycznego (rozbójnik, czarownica, Żyd). Na podstawie tych przykładów rozpoczęto analizę porównawczą tego rodzaju podań w literaturze hiszpańskiej i białoruskiej, zarówno w prozie ludowej, jak i w literaturze pięknej, odzwierciedlonej w utworach Jana Barszewskiego i Gustava Adolfa Bécquera.

**SŁOWA KLUCZOWE**: podanie, literatura ludowa, romantyzm, postacie historyczne, archetypy, Jan Barszczewski, Gustavo Adolfo Bécquer.

**РЭЗЮМЭ**: У артыкуле даследуюцца агульныя рысы паданняў у народнай і мастацкай літаратурах, у якіх дзейныя героі выконваюць галоўныя фармальныя, наратыўныя і сімвалічныя функцыі. Мы падзялілі герояў на дзве групы паводле класіфікацыі Х. Кара Барохі: з аднаго боку мы разгледзелі прыклады, у якіх рэальныя гістарычныя постаці з'яўляюцца ў паданнях (ледзі Годзіва, Напалеон Банапарт); з іншага ж боку, мы прынялі на ўвагу архетыпы герояў без гістарычнага значэння (бандыт, вядзьмарка, габрэй). На аснове пералічаных прыкладаў мы далі пачатак параўнальнаму аналізу гэтага тыпу паданняў у іспанскай і беларускай літаратурах, як у народнай прозе, так і ў мастацкай, адлюстраванай у творчасці Яна Баршчэўскага і Густава Адольфа Бэкера.

**КЛЮЧАВЫЯ СЛОВЫ**: паданне, народная літаратура, рамантызм, гістарычныя постаці, архетыпы, Ян Баршчэўскі, Густава Адольфа Бэкер.

**ACTA ALBARUTHENICA 20: 2020**
DOI: 10.32612/uw.18988091.2020.20.pp.95–109

**Аляксандра Чарнавокая / Aliaksandra Charnavokaya**
Нацыянальная акадэміі навук Беларусі /
National Academy of Sciences of Belarus
ORCID: https://orcid. org/0000-0002-7621-3403
e-mail: lecsa87@gmail.com

# Праблема рэпрэзентацыі жанчыны ў мужчынскай прозе ў асэнсаванні беларускіх даследчыкаў 1960–1980-х гг.

*The problem of women representation in men's prose reflected by Belarusian literary critics between 1960s and 1980s*

*Problem reprezentacji kobiety w prozie męskiej w ocenie białoruskich badaczy w latach 1960–1980*

У 1960-я гады ў еўрапейскай гуманітарнай навуцы распачынаецца імклівае развіццё гендаралогіі, што абумовіла пашырэнне цікавасці да жаночых вобразаў у мастацкай літаратуры. У Беларусі працы, прысвечаныя жаночым персанажам, напісаныя з улікам метадалогіі гендарных даследаванняў, пачалі з'яўляцца напрыканцы XX ст. Натуральна, што айчынныя даследчыкі і раней звярталіся да аналізу жаночых вобразаў, не толькі супастаўлялі іх ці разглядалі ў кантэксце жыццёвага досведу пісьменніка, але і адзначалі важныя тэндэнцыі, вылучалі пэўныя заканамернасці. Многія аспекты, на якіх засяроджваліся замежныя аўтары, закраналіся і ў працах беларускіх літаратуразнаўцаў, хоць і не вылучаліся ў якасці асобных праблем.

Мэта гэтага артыкула – разгледзець, як беларускія літаратуразнаўцы 1960–1980-х гадоў асэнсоўвалі праблему рэпрэзентацыі жанчыны ў мужчынскай прозе – адну з ключавых для гендарнага літаратуразнаўства. Падыходы пісьменнікаў да распрацоўкі вобразаў-персанажаў былі аб'ектам аналізу ў працах Алеся Адамовіча, Івана Навуменкі, Алеся Яскевіча, Алеся Пяткевіча і інш. Паглыблена займаўся гэтым Альфрэд Матрунёнак, аўтар манаграфій, прысвечаных праблеме псіхалагічнага аналізу. У яго працах разглядаюцца асаблівасці розных тыпаў псіхалагізму, аналізуюцца вобразы-персанажы з мэтай вызначэння спецыфікі раскрыцця псіхалогіі герояў у творах беларускіх пісьменнікаў. У полі зроку даследчыка неаднойчы знаходзіліся жаночыя вобразы. Калі б праблема рэпрэзентацыі жанчыны ў мужчынскай прозе стала актуальнай у айчынным дыскурсе напрыканцы 1980-х гадоў, то А. Матрунёнак, магчыма, быў бы сярод першых, хто звярнуўся да гэтай

тэмы на падставе сваіх напрацовак і агульных назіранняў. На жаль, даследчык менавіта ў гэты час пакінуў літаратуразнаўчыя штудыі. Аднак яго працы, як і працы вышэйзгаданых літаратуразнаўцаў, дазваляюць уявіць, як даследчыкі-“шасцідзясятнікі” ацэньвалі жаночыя вобразы ў мужчынскай прозе, якія бачылі праблемы, што адзначалі ў якасці поспехаў. Асноўная ўвага ў артыкуле будзе прысвечана працам, дзе аналізуецца беларуская проза першай паловы XX ст.

Многія аўтары, што працуюць у парадыгме гендарных даследаванняў, пісалі і пішуць пра жаночыя вобразы, створаныя мужчынамі, вельмі крытычна, нават раздражнёна. Што да беларускага літаратуразнаўства 1960–1980-х гг., то тут ацэнкі і меркаванні былі менш эмацыянальныя, але, магчыма, больш аб’ектыўныя. І пачаць варта з таго, што для тагачасных даследчыкаў вялікае значэнне мела пытанне асабістага досведу творцы.

У многіх працах згадваецца важная аксіёма: асабісты досвед пісьменніка дапамагае ў распрацоўцы герояў, шматаспектным выяўленні праблем, рэалістычнай абмалёўцы падзей. Вялікае значэнне мае “непасрэдная сувязь літаратуры з жыццём” [Майсеенка 1978: 83], жыццёвая праўдзівасць надае зместу твора “яшчэ больш важкую значнасць” [Каваленка 1987: 230], сапраўдную павагу выклікаюць творцы, у якіх “галоўным героем кніг ёсць праўда жыцця” [Яскевіч 1972: 226], “усё лепшае, што з’яўлялася і з’яўляецца ў літаратуры, заўсёды было цесна звязана з асабістым вопытам пісьменнікаў” [Жураўлёў 1974: 36] і г. д.

Тым часам, адсутнасць уласнага досведу можа стаць перашкодай у ажыццяўленні творчых задум. Так, А. Яскевіч, аналізуючы аповесці Барыса Сачанкі *Палон* і *Апошнія і першыя,* меркаваў, што прычына няўдачы – тое, што яны “пісаліся не са «свайго вопыту», таму і няма ў гэтых творах той псіхалагічнай верагоднасці, жыццёвай дакладнасці, што даецца толькі эмацыянальным веданнем матэрыялу і стварае ў творы вельмі адчувальную прысутнасць рэалій з «таго месца», настрою «таго імгнення»” [Яскевіч 1967: 166].

А. Матрунёнак, пішучы пра вобраза Пятра Шапятовіча ў аповесцях *Начныя зарніцы* і *Пошукі сустрэчы* з цыкла *Трывожнае шчасце,* зазначаў, што аўтар

> не маючы магчымасці абаперціся на ўласны ўнутраны вопыт, пачынае нагрувашчваць падзеі, жахі, геройскія ўчынкі, спадзеючыся схаваць за імі адсутнасць арыгінальных, глыбокіх і жыццёва пераканаўчых думак і пачуццяў [Матрунёнак 1972: 34].

“Уменне пераўвасабляцца ў іншыя жыцці і нават ужывацца ў абставіны, якія непасрэдна не «перажываліся» аўтарам” лічылася якасцю надзвычай каштоўнай [Матрунёнак 1972: 33]. Разам з тым прызнавалася, што гэтая здольнасць можа быць далёка не ў кожнага і не з’яўляецца абавязковым складнікам пісьменніцкага таленту.

Што тычыцца жаночых вобразаў, то, натуральна, пры іх распрацоўцы пісьменнікі-мужчыны сутыкаліся з праблемай рознасці гендарнага досведу. Як адзначаюць многія даследчыкі, у першай палове XX ст. адрозненні ў нормах паводзін і псіхалогіі жанчын і мужчын былі нашмат больш выразныя, чым сёння [Захарова 2011: 21], і мужчынам-пісьменнікам было складана ўявіць духоўнае жыццё жанчыны, абазначыць у творы менавіта "жаночыя" аспекты псіхалогіі і побыту.

На гэта звяртаў увагу, напрыклад, А. Матрунёнак пры аналізе аповесці Івана Шамякіна *Ах, Міхаліна...*:

> Калі ў *Трывожным шчасці* раманіст меў справу ў нейкай ступені з біяграфічным характарам Пеці Шапятовіча і пры аналізе яго ўнутранага свету ў пэўнай меры мог абапірацца на свой асабісты жыццёвы вопыт, дык у аповесці *Ах, Міхаліна...* у яго такой жыццёвай, біяграфічнай базы для стварэння характару галоўнай гераіні не было, і таму аўтар не змог дасягнуць патрэбнай ступені суперажывання, пераўвасаблення ў характар і псіхалогію жанчыны [Матрунёнак 1972: 36].

Ускладніла справу, на думку даследчыка, і абраная аўтарам форма – аповед ад першай асобы (ад імя гераіні). "Калі аўтар піша пра тое, чаго ніколі не перажываў, няўдача будзе непазбежнай" [Матрунёнак 1972: 36] – выносіў вердыкт А. Матрунёнак і ў якасці яшчэ аднаго характэрнага прыкладу з творчасці І. Шамякіна прыводзіў раман *Снежныя зімы*, часткай якога з'яўляецца "жахлівы для чыстай дзявочай душы дзённік, у якім пастаўлены (вядома, аўтарам) усе кропкі над «і»" [Матрунёнак 1972: 36]. На адсутнасць неабходнага жыццёвага досведу і няздольнасць мастацкага пераўвасаблення звяртаў увагу і А. Пяткевіч, пішучы пра аповесць Кузьмы Чорнага *Люба Лук'янская*: "Вобраз Любы Лук'янскай тут вельмі мала падаецца ў фабульным дзеянні, у канкрэтных абставінах жыцця. Пэўна, і сам матэрыял не быў тут дастаткова абжыты пісьменнікам" [Пяткевіч 1981: 121].

Даследчыкі неаднойчы падкрэслівалі, што зварот да аналітычнага (у працах А. Матрунёнка – "унутранага") псіхалагізму пры стварэнні жаночых вобразаў быў для пісьменнікаў-мужчын увогуле не вельмі прадуктыўным. Напрыклад, наконт вобраза Стэпы ў рамане Цішкі Гартнага *Сокі цаліны* адзначалася, што калі "псіхалагічны змест выяўляецца пераважна ў знешнім плане" [Матрунёнак 1975: 97], гэта атрымліваецца даволі ўдала. Калі ж аўтар спрабуе паказаць пачуцці, перажыванні гераіні знутры, страчваецца рэалістычнасць і праўдападабенства [Матрунёнак 1975: 97]. Гэту праблему інтуітыўна адчувалі многія творцы і спрабавалі рознымі шляхамі абмінуць складаныя моманты.

Трэба адзначыць, што і сёння сярод мужчын-пісьменнікаў здольнасць стварыць пераканаўчы жаночы характар сустракаецца не часта і ацэньваецца як выключная, бо рознасць гендарнага досведу застаецца значнай праблемай (гл., напрыклад, рэцэнзіі на сучасныя мужчынскія раманы, дзе цэнтральным персанажам з'яўляецца жанчына:

[Ляленкова 2007; Мартысевіч]). “Як бы мужчына не сімпатызаваў жанчыне, ён ніколі дарэшты не ўяўляе сабе яе канкрэтную сітуацыю”, – рэзюмавала Сімона дэ Бавуар [Бавуар 1997: 37]. Для аўтара-мужчыны жанчына ў мастацкай прозе, як і ў жыцці, – гэта хутчэй аб’ект увагі, чым суб’ект дзеяння. Прадстаўнік іншай гендарнай групы, як правіла, паўстае Іншым і ў мастацкім творы, займаючы другасныя пазіцыі ў развіцці сюжэтнай лініі – што ў аднолькавай ступені тычыцца як мужчынскай, так і жаночай прозы.

Пры гэтым у беларускай мужчынскай прозе ёсць жаночыя вобразы, якія лічацца вялікай творчай удачай. Найбольш вядомы такі прыклад – вобраз Ядвісі ў аповесці Якуба Коласа *У палескай глушы*:

> Вобраз Ядвісі створаны пераважна чыста знешнімі, пластычнымі сродкамі, аднак гэта не перашкодзіла яму стаць не толькі лепшым жаночым вобразам у рамане, але і ва ўсёй беларускай прозе. Псіхалагічная глыбіня, аб’ёмнасць тут дасягаецца і без прамога паказу плыні пачуццяў і перажыванняў. Душу героя, такім чынам, можна не менш глыбока раскрыць і праз вынікі псіхалагічнага працэсу, паказваючы дыялектыку душы ў яе знешнім, вонкавым праяўленні [Матрунёнак 1975: 160].

Такім чынам, даследчык фактычна сцвярджаў, што аўтару не абавязкова імкнуцца стварыць псіхалагізаваны вобраз-характар, дастаткова выкарыстоўваць неаналітычныя ўскосныя формы выяўлення псіхалогіі (праз увядзенне простай мовы, апісанне знешнасці, паводзін, мімікі, жэстаў, рухаў), што магчыма для пісьменніка-мужчыны.

Меркаванне А. Матрунёнка пацвярджаецца высокімі літаратуразнаўчымі ацэнкамі апавяданняў Максіма Гарэцкага *Літоўскі хутарок*, *Чарнічка*, *Зіма*, *На этапе*, *Пад’езд*, Міхася Зарэцкага *Бель*, *Дзіўная*, *Кветка пажоўклая*, *Ворагі*, Кузьмы Чорнага *Вераснёвыя ночы*, *Макаравых Вольга*, Міхася Лынькова *Радо*. У гэтых творах аўтары добра ўяўлялі сваю гераіню ў знешніх праявах (учынкі, паводзіны, маўленне), а таксама маглі рэалістычна абмаляваць яе жыццёвую сітуацыю. У большасці гэтых тэкстаў мы бачым гераіню вачыма мужчыны-апавядальніка, які заўважае трапныя дэталі, што дазваляюць меркаваць пра яе душэўнае жыццё. Пры гэтым спецыфічна жаночае застаецца “за заслонай”, герою, аўтару, чытачу даводзіцца праз паводзіны і простую мову разгадваць, уяўляць унутраны свет жанчыны, яе думкі, перажыванні, пачуцці.

Аднак, акрамя яскравых, запамінальных жаночых вобразаў у беларускай прозе першай паловы XX ст. сустракаецца нямала менш удалых персанажаў. І тут мэтазгодна паставіць чарговае пытанне: якія шляхі абіралі беларускія пісьменнікі, каб абысці праблему рознасці гендарнага досведу пры стварэнні жаночых вобразаў, як ацэньвалі іх творчыя набыткі крытыкі і даследчыкі?

Першы шлях – гэта ўзнаўленне сацыяльных, сацыяльна-псіхалагічных тыпаў, характэрных для так званай народніцкай літаратуры. Так, аналізуючы раман Ц. Гартнага *Сокі цаліны* А. Матрунёнак зазначаў,

што вобраз Стэпы, маці Рыгора – значнае дасягненне, амаль удача Ц. Гартнага нароўні з вобразамі Зосі, Васіля, Хлора, Марты Прыдатных [Матрунёнак 1975: 86], прычым псіхалагічны змест у гэтым выпадку таксама "выяўляецца аўтарам пераважна ў знешнім плане" [Матрунёнак 1975: 97]. Аднак вобраз Зосінай маці Марты Прыдатнай нельга назваць асабістым творчым здабыткам аўтара, бо гэта яскравы сацыяльны (этнаграфічны) тып жанчыны-сялянкі, аналагі якому знаходзім у камедыі Я. Купалы *Паўлінка* (Альжбета, Агата) і нават у фарс-вадэвілі В. Дуніна-Марцінкевіча *Пінская шляхта* (Куліна Пратасавіцкая).

"Жывым, рэалістычна праўдзівым" лічыў А. Матрунёнак вобраз Тадосі. "Гераіня дзейнічае ў поўнай адпаведнасці са сваёй унутранай сутнасцю, таму яна і бачыцца нам "як жывая" [Матрунёнак 1975: 96]. Тадося – Зосіна свякроўка – гэта сацыяльна-псіхалагічны тып, тып "злой бабы", які неаднойчы з'яўляўся ў фальклорна-этнаграфічнай прозе. Да тыпаў "злой бабы", "злой свякроўкі" належаць вобразы старых у апавяданнях Ядвігіна Ш. *Баба*, *Шчаслівая*, *Важная фіга* (пра гэты твор А. Матрунёнак таксама пісаў зацікаўлена [Матрунёнак 1988: 117]), Якуба Коласа *Дзяліцьба*, *Недаступны*, Л. Калюгі *Іллюк-даследчык*, рамане Кандрата Крапівы *Мядзведзічы* і інш.

Яшчэ адзін сацыяльна-псіхалагічны тып, які часта сустракаецца ў нашай літаратуры, – "тыповы для беларускай дакастрычніцкай прозы вобраз пакутніцы", які

> рамантызуецца, што выяўляецца і ў своеасаблівым нагнятанні драматызму і трагізму яе лёсу і нават у рэзкім супрацьпастаўленні яе партрэтных характарыстык, якія таксама празмерна "паэтычныя", эмацыянальна-напружаныя, "суб'ектыўныя", каб за імі можна было ўбачыць твар і аблічча рэальнага чалавека [Матрунёнак 1988: 176].

З арыентацыяй на вядомую літаратурную мадэль – вобраз "жанчыны-пакутніцы", жанчыны-гаротніцы – створаны вобразы вясковых кабет у апавяданнях Ядвігіна Ш. *Гаротная*, Кандрата Лейкі *Таклюся-сухотніца*, Змітрака Бядулі *На Каляды к сыну*, аповесці М. Гарэцкага *Ціхая плынь* і інш. Дарэчы, многія гэтыя творы ацэньваліся вельмі прыхільна. Так, І. Навуменка лічыў апавяданні З. Бядулі *На Каляды к сыну*, *Пяць лыжак заціркі*, *Велікодныя яйкі* творамі, якія "могуць упрыгожыць самую развітую літаратуру", "дыяментамі, залатымі зярнятамі, з якіх уздымалася ніва новай беларускай літаратуры" [Навуменка 2017: 231].

Побач са зваротам да народніцкай традыцыі, у межах якой адбывалася выкарыстанне ўжо вядомага рэпертуару сацыяльных, сацыяльна-псіхалагічных жаночых тыпаў, пісьменнікі бралі на ўзбраенне і рамантычную традыцыю, што выразна выяўляецца ў творчасці М. Зарэцкага. Рамантызацыя гераіні прадугледжвала прадказальны набор мастацкіх прыёмаў, топасаў, сюжэтных калізій, меладраматычных сітуацый, што на думку літаратуразнаўцаў зніжала вартасць жаночых вобразаў. Напрыклад, А. Матрунёнак меркаваў, што М. Зарэцкі "часам

залішне рамантызуе сваіх гераінь, адкрываючы ў іх вонкава простым і несамавітым жыцці жудасныя, страшныя таямніцы” [Матрунёнак 1975: 182], прычым многія жаночыя вобразы як бы маюць свае варыянты ў іншых творах [Матрунёнак 1975: 196].

Як другарадны літаратурны вобраз, рамантычныя жаночыя персанажы нармальна ўспрымаліся чытачамі. Пры гэтым яны мелі мала агульнага з рэальнымі жанчынамі – прадстаўніцамі абазначаных у творах сацыяльных груп. Не толькі лад мыслення і ўчынкі гераінь выглядалі непераканаўчымі – нават іх прыярытэты падаваліся проста неверагоднымі ў рэальных жыццёвых абставінах.

Невыпадкова пісьменнікі часта стваралі вобразы неканвенцыянальных гераінь – як у творах Фёдара Дастаеўскага, з якімі жаночыя персанажы М. Зарэцкага мелі “генетычнае” сваяцтва. У пэўнай ступені гэта вызваляла аўтара і чытача ад неабходнасці задумвацца, наколькі натуральнымі выглядаюць паводзіны гераіні – бо паводзіны і логіка выключнай, нетыповай жанчыны могуць быць непрадказальнымі, нерацыянальнымі, ніяк не суадносіцца з рэальнай сітуацыяй, – што дазваляе зрабіць менш прыкметнай рознасць гендарнага досведу пісьменніка і яго гераінь.

Яшчэ адным шляхам для пісьменнікаў-мужчын было стварэнне жаночых вобразаў, якія паўстаюць увасабленнем гендарных, шырэй – сацыяльных ідэалаў ці антыідэалаў, што выразна назіраецца, напрыклад, у ранніх апавяданнях З. Бядулі. Калі аўтару не цікава ўводзіць у твор незапамінальных, малапрыкметных персанажаў, то вельмі часта з мэтай надання пэўнай канцэптуальнасці жаночым вобразам ён надзяляе іх станоўчымі ці адмоўнымі якасцямі. Напрыклад, у апавяданні З. Бядулі *Сорам*, дзе цэнтральнымі героямі з’яўляюцца мужчыны, жаночыя персанажы паўстаюць вобразамі-антыподамі: буркатлівая, сварлівая жонка Ігналі, якая гуляе з суседам (тып “злой жонкі”) супрацьпастаўляецца разважлівай, спагадлівай Насці, якая ратуе Ігналю ад жорсткага пакарання за скрадзенае сена. Такім чынам, жаночыя вобразы часта выконваюць у літаратуры прэскрэптыўную функцыю (ад лац. *praescrīptum* – прадпісанне, норма, выказванне, якое абавязвае, дазваляе ці забараняе штосьці зрабіць), жыццёвыя гісторыі персанажаў мадэлююцца так, каб замацаваць у свядомасці чытачоў пэўныя нормы этыкі і маралі. У нашым выпадку З. Бядуля нагадвае, што жанчына павінна быць спагадлівай, чулай, добразычлівай і клапаціцца пра сваю сям’ю.

Калі ў дарэвалюцыйнай прозе станоўчыя і адмоўныя жаночыя вобразы былі створаны пераважна ў адпаведнасці з нормамі традыцыйнай культуры, то ў савецкі час шматлікія персанажы гэтага тыпу мелі выразную ідэалагічную абумоўленасць.

Мастацкую недастатковасць гэтых вобразаў адкрыта выяўлялі літаратуразнаўцы 1960–1980-х гг., прычым нярэдка на прыкладзе менавіта жаночых персанажаў. Вось як пісаў А. Матрунёнак пра раман М. Зарэцкага *Вязьмо*:

> зусім неперspаканальнай выглядае ў рамане “эвалюцыя” Марыны Паўлаўны з ціхай і цярплівай сузіральніцы, пасіўнай і трагічна адзінокай жанчыны-пакутніцы, што “замкнулася” ў сваім горы, у вясковую актывістку, якую потым “па пратэкцыі” аўтара бяруць на працу ў раён; нічым не матываванае ператварэнне вясковых жанчын-сялянак з ярых праціўніц калгаса ў яго не меншых прыхільніц; узаемаадносіны Марыны Паўлаўны і Веры Засуліч [Матрунёнак 1975: 215].

Вобразы, якія паўстаюць увасабленнем пэўных сацыяльных, сацыяльна-псіхалагічных тыпаў, рамантызаваныя жаночыя персанажы, станоўчыя і адмоўныя вобразы шмат чым адрозніваюцца паміж сабой, але маюць важную агульную рысу: у адрозненне ад вобразаў-характараў, а тым больш фемінных вобразаў жаночай прозы, яны падаюцца сёння не вельмі інфарматыўнымі і збольшага малаперараканаўчымі ў псіхалагічным плане.

Парадокс у тым, што праз многія жаночыя вобразы мы можам уявіць эпоху, уявіць жаночае жыццё – праблемы, калізіі, стасункі – але не можам уявіць саму жанчыну, не можам уявіць, як яна адчувала і асэнсоўвала гэтыя праблемы. Аўтары засяроджваліся на канфліктах, пераломных момантах, эмацыянальна напружаных сітуацыях, бо для гэтых выпадкаў прыёмы знешняга псіхалагізму былі збольшага дастатковымі. Перажыванне, адчуванне, аўтарэфлексія або азначаны вельмі лаканічна, або ўвогуле застаюцца “за кадрам”: мы бачым гераіню, яна паўстае аб’ектам нашай увагі, але не адчуваем яе, не можам уявіць як суб’екта дзеяння.

Рознасць гендарнага досведу была і застаецца ў гэтым сэнсе адной з самых важкіх “змякчальных абставін” для мужчын-празаікаў. Усведамляючы непазнавальнасць жаночай душы, беларускія мужчыны-пісьменнікі ў большасці выпадкаў проста не ставілі складаныя задачы і не засяроджваліся на паглыбленай распрацоўцы жаночых персанажаў, маючы іншыя, больш актуальныя творчыя мэты.

Безумоўна, сярод сацыяльных, сацыяльна-псіхалагічных тыпаў, рамантызаваных жаночых персанажаў, станоўчых і адмоўных жаночых вобразаў некаторыя вылучаліся як найбольш удалыя. Гарманічныя і суладныя, яны маглі быць у сваім родзе прыкладам. Напрыклад, у апавяданні Ядвігіна Ш. *Гаротная* галоўная гераіня адносіцца да тыпу “жанчыны-ахвяры”, згадаем, нярэдка празмерна драматызаванага, “каб за ім можна было ўбачыць твар і аблічча рэальнага чалавека” [Матрунёнак 1988: 176]. Аднак сам А. Матрунёнак прысвяціў некалькі старонак разгляду гэтага твора як прыкладу паспяховага вырашэння важнай задачы – “паказаць трагедыю чалавечага жыцця ў беднасці і нястачах, цяжкі лёс сіраты ў грамадстве, заснаваным на сацыяльнай няроўнасці” [Матрунёнак 1980: 217] і падкрэсліў, што тут “прыватнае і адзінкавае нібыта ўзводзіцца ў ступень, а сам вобраз становіцца з’явай мастацкай, паколькі ён ствараецца на аснове аўтарскага пераўвасаблення, спачування і суперажывання” [Матрунёнак 1980: 218]. Доўгі час гэта

апавяданне Ядвігіна Ш. вывучалася ў сярэдняй школе, твор быў высока ацэнены ў чатырохтомнай *Гісторыі беларускай літаратуры XX стагоддзя* [1999, I: 100].

Пры гэтым некаторым даследчыкам нават найбольш удалыя вобразы не імпанавалі менавіта праз невысокую інфарматыўнасць, зададзенасць, адсутнасць глыбокай псіхалагічнай распрацоўкі і важнай для мастацкай творчасці інаватыўнасці. Пра гэта выразна сведчаць палярныя ацэнкі адных і тых жа жаночых вобразаў у літаратуразнаўчых працах.

Напрыклад, І. Навуменка, пішучы пра аповесць К. Чорнага *Лявон Бушмар*, высока ацэньваў вобразы Амілії і Галены:

> Тут пісьменнік паказаў сябе бліскучым знаўцам жаночай псіхалогіі. З гэтага прыходзіцца толькі здзіўляцца. Бо нават вобраз *Сястры*, Мані, які займае цэлы раман, не дае таго ўяўлення пра жаночы свет, як два гэтыя не надта разгорнутыя характары аповесці *Лявон Бушмар* [Навуменка 2000, IX: 582].

Ацэнка А. Матрунёнка больш аб'ектыўная: калі спачатку ён называе характары Бушмара, Амілі, Галены вялікай ўдачай К. Чорнага [Матрунёнак 1975: 246], то праз некалькі старонак адзначае, што "схематызм і ілюстрацыйнасць амаль усёй трэцяй часткі, у якой Чорны спрабаваў паказаць жыццё калгаса, непазбежна павялі да нацяжак і ў галіне псіхалагічнага аналізу" [Матрунёнак 1975: 249] і ў якасці прыкладу называе вобраз Галены: "Цяжка пазнаць у гэтай калгасніцы тую Галену, якую мы ведалі раней. Вытокі ўсіх гэтых псіхалагічных нацяжак у штучнай зададзенасці паводзін герояў" [Матрунёнак 1975: 249].

Па-рознаму ацэньваецца вобраз Любы Лук'янскай. Вячаслаў Рагойша ў *Літаратуразнаўчым слоўніку* згадаў Любу сярод чатырнаццаці "самых яркіх персанажаў" [Рагойша 2009: 190] беларускай прозы. Люба Лук'янская разам з Бандароўнай Я. Купалы былі адзінымі жаночымі вобразамі ў гэтым пераліку. Тым часам А. Пяткевіч звяртаў увагу на значныя недахопы гэтага персанажа, якія зніжаюць яго мастацкую вартасць [Пяткевіч 1981: 119–122].

Шмат палемізавалі даследчыкі наконт жаночых вобразаў, створаных М. Зарэцкім. Пра Раісу Янаву крытычна пісаў яшчэ А. Адамовіч, падкрэсліваючы, што літаратурныя "прыгоствы", якія выкарыстоўваў пісьменнік пры апісанні гераіні, былі крокам "насустрач густам не вельмі патрабавальным" [Адамовіч 1961: 148]. Датычна сюжэтнай ліні Васіль–Раіса–Карла даследчык адзначаў, што "прыёмы рамантызацыі сюжэта ў Зарэцкага празмерна кніжныя. Тое, што Зарэцкі называў «метадам эмацыянальна-рамантычным», на жаль, вельмі часта выглядае літаратуршчынай" [Адамовіч 1961: 146]. Пісьменнік нібыта ведаў сям'ю, якая стала прататыпам Янавых. "Але расказаў ён пра яе так, быццам пераказваў другіх пісьменнікаў, быццам ён рамантызаваў сітуацыі, запазычаныя ў Ляскова і Дастаеўскага" [Адамовіч 1961: 148].

Такое стаўленне да вобраза Раісы Янавай М. Мушынскі лічыў праявай "сацыялагізатарскай скіраванасці літаратуразнаўчай метадалогіі

папярэдніх гадоў” і меркаваў, што “прадузяты, тэндэнцыйны падыход да гэтага *складанага вобраза* адмоўна адбіваецца на агульным разуменні твора, маральна-этычнай канцэпцыі пісьменніка, перашкаджае ўспрыняць наватарскую сутнасць рамана” [Мушынскі 2005: 91]. Даследчык падрабязна разглядаў дачыненні Васіля і Раісы і спрабаваў “абараніць” гераіню ад крытычных нападкаў калег.

Трэба падкрэсліць, што акрамя ўзнаўлення добравядомых літаратурных жаночых тыпаў, стварэння вобразаў, якія выконваюць прэскрэптыўную функцыю, аўтары неаднойчы звярталіся да яшчэ адной важнай стратэгіі, згаданай напачатку артыкула. Гэта арыентацыя на прататып. Так у беларускай прозе першай чвэрці ХХ ст. побач з вобразам Ядвісі можна паставіць вобраз Ірыны Сакавічанкі з аповесці М. Гарэцкага *Дзве душы*, прататыпам якога была жонка пісьменніка Леаніла Чарняўская. Гэтыя вобразы найбольш яскравыя ў літаратуры азначанага перыяду.

Арыентацыя на прататып – у тым выпадку, калі гэта каханая дзяўчына, думкі, настрой, намеры якой імкнуўся разгадаць аўтар – дазваляла выявіць супярэчнасці, якія мелі месца ў жаночай душы, дастаткова рэалістычна апісаць псіхалагічны стан, узнавіць па памяці паводзіны, учынкі, рэплікі. Калі прааналізаваць, як пры стварэнні вобраза суадносіцца зварот да аналітычных і неаналітычных ускосных форм выяўлення псіхалогіі, які працэнт пры абмалёўцы гераіні займае апісанне знешнасці і паводзін, як часта аўтар уводзіць простую і няўласнапростую мову, вынікі такога матэматычнага даследавання наўрад ці будуць значна адрозніваццa для вобразаў Ядвісі Баранкевіч і Ірыны Сакавічанкі з аднаго боку, Раісы Янавай і Любы Лук’янскай – з другога боку. Аднак у першым выпадку мы ацэньваем вобразы безумоўна вышэй, чым у другім – бо тут менш адчуваецца абумоўленасць вобразаў літаратурнай традыцыяй. Я. Колас і М. Гарэцкі не так часта наважваюцца пакідаць гераіню сам-насам са сваімі думкамі, падрабязна апісваць псіхалагічны стан, засяроджвацца на працэсе зараджэння пачуццяў, іх развіцці і трансфармацыі. Узаемасувязі і тонкія пераходы паміж пачуццямі часта атрымліваюцца скарочанымі, лініі псіхічных станаў няроўныя, разарваныя. Тым не менш, арыентацыя на прататып дапамагае стварыць цэласны, складаны вобраз – хай сабе “рызыкоўныя” моманты толькі намечаны, не разгорнуты ў тэксце і чытач мае іх дадумаць, гэта хутчэй невялікі штрых, чым паглыбленне ў псіхалогію.

Адзначым, што ў трылогіі *На ростанях* усе жаночыя персанажы мелі прататыпаў, таму атрымаліся рэалістычнымі і маюць безумоўную значнасць у агульнай канцэпцыі твора. Вобразы бабкі Мар’і, Ядвісі, Габрынькі, старожкі Ганны, Вольгі Андросавай нязменна выклікаюць цікавасць даследчыкаў. Існаваў прататып і ў дзяўчыны-сялянкі Лёксы з аповесці М. Гарэцкага *У чым яго крыўда?* – гэты вобраз таксама можна лічыць адным з найбольш запамінальных і рэалістычных у творчасці

пісьменніка. У беларускай літаратуры першай паловы XX ст. прататыпаў мелі таксама гераіні рамана К. Крапівы *Мядзведзічы* (Зося), аповесці Л. Калюгі *Зоры Вам вядомага горада* (Алена) – і ў параўнанні з іншымі жаночымі вобразамі тагачаснай мужчынскай прозы яны ўспрымаюцца як больш гарманічныя і індывідуалізаваныя.

Безумоўна, пісьменнік можа прыдумаць жанчыну, уявіць яе ўнутраны свет, але гэта не заўсёды атрымліваецца ўдала. Жанчына ў жаночай прозе звычайна нашмат больш “сапраўдная”, чым гераіня прозы мужчынскай. І ў той час, як заходнія феміністкі, разглядаючы жаночыя вобразы мужчынскай прозы, прапаноўвалі “іранічны, злы аналіз праекцый мужчынскіх фантазій” [Кабанова 2006, с. 193], абвяшчалі мужчынскую літаратуру “светам, дзе жанчын зноў і зноў прыгнечвалі, больш ці менш свядома і самым страшным чынам” [Сиксу 1975], А. Матрунёнак цытаваў Л. Талстога, які “некалі гаварыў, што раманіст можа выдумаць усё, апроч псіхалогіі” [Матрунёнак 1972: 36], – і сапраўды меў на гэта падставы.

Калі некаторыя заходнія аўтары меркавалі, што мужчыны-пісьменнікі наўмысна ігнаруюць жаночыя праблемы, асаблівасці жаночай псіхалогіі, прымітывізуюць, спрашчаюць жаночыя вобразы, то ў айчынным літаратуразнаўстве 1960–1980-х гг. такога меркавання не было – бо беларускіх пісьменнікаў цяжка было падазраваць у антыфемінізме і непаважлівым стаўленні да жанчыны.

І тут трэба мець на ўвазе шэраг важных адрозненняў беларускай літаратуры ад еўрапейскай літаратуры першай паловы XX ст. Беларуская літаратура ў першую чаргу этнацэнтрычная і сацыяцэнтрычная, тут значна менш індывідуалізму, які робіць магчымым выяўленне асабістых антыпатый, фобій, жорсткіх падсвядомых жаданняў і г. д. Беларускі літаратар, беручыся за пяро, у пераваза выпадкаў меў на мэце або адлюстраваць і асэнсаваць жыццё свайго народа (у тым ліку яго праблемы), або сцвердзіць канструктыўныя ідэі эпохі – адпаведна ўласным перакананням ці агульнапрынятай практыцы. Пры гэтым ён заўсёды быў на баку беларускай жанчыны (прынамсі, жанчыны-сялянкі): паказваў яе закладніцай сацыяльных і эканамічных праблем, вітаў станоўчыя змены ў жаночым жыцці, абмалёўваў складаныя сітуацыі ў асабістых стасунках. У беларускай літаратуры першай паловы XX ст., безумоўна, сцвярджалася важнасць “прыроднага” прызначэння жанчыны – маці, жонкі, гаспадыні. Але тут практычна няма твораў, дзе аўтар быў бы свядома супраць прагрэсіўных ідэй (права жанчыны на адукацыю, прафесійную дзейнасць і самавыяўленне, свабодны выбар спадарожніка жыцця і г. д.), што абумоўлена бясспрэчнай падтрымкай мадэрнізацыйных працэсаў, прынамсі ў гендарным аспекце. Беларуская літаратура гэтага часу – праект эпохі мадэрну, а не традыцыйнай, патрыярхальнай культуры.

Аднак, як было прадэманстравана вышэй, аўтары-мужчыны, усведамляючы рознасць жыццёвага досведу, пры стварэнні жаночых вобразаў найчасцей арыентаваліся на тыя ці іншыя стратэгіі, якія дазволілі б абмінуць сферу невядомага. Натуральна, пры гэтым нярэдка адбывалася больш ці менш асэнсаванае ўзнаўленне гендарных стэрэатыпаў.

Так, адпаведна ўстаноўкам патрыярхальнай культуры ў беларускай прозе 1900–1910-х гадоў вобразам-антыпрыкладам паўстае жанчына, надзеленая "тыповымі жаночымі" заганамі: празмернай эмацыянальнасцю (сварлівасцю, зласлівасцю), гультаяватасцю, абмежаванасцю. Разгляд сістэмы персанажаў у аспекце размеркавання ўлады дазваляе заўважыць, што вяршэнства жанчыны ў сям'і звязваецца з найгоршымі жаночымі заганамі (сварлівасць, неразважлівасць, нявытрыманасць), да якіх дадаюцца такія маскулінныя якасці, як агрэсіўнасць, дамінантнасць, грубасць, самаўпэўненасць. Жанчына, якая прэтэндуе на абсалютную ўладу ў сям'і, ацэньваецца рэзка адмоўна ў творах Я. Коласа і З. Бядулі.

Што тычыцца меладраматычных сюжэтаў, то, прыкладам, гісторыя "спакушэння дзяўчыны", прадстаўленая ў творах З. Бядулі, М. Зарэцкага, Платона Галавача, Міхася Лынькова паўстае ўвасабленнем стэрэатыпных уяўленняў пра тое, што жанчына ў меншай ступені чым мужчына нясе адказнасць за развіццё адносін і іх наступствы. Мужчына абвінавачваецца як ініцыятар сексуальных стасункаў, а дзяўчына – наіўная, даверлівая, недасведчаная, – паўстае яго бязвіннай ахвярай. Такім чынам, адказнасць за развіццё адносін здымаецца з жанчыны і цалкам перакладаецца на мужчынскія плечы.

Нельга не адзначыць і тое, што большасць жаночых вобразаў беларускай прозы першай паловы XX ст. выконваюць прэкспрэптыўную функцыю, створаны з мэтай акцэнтавання станоўчых ці адмоўных жаночых якасцей. Жанчына як Іншы, як аб'ект выяўлення, змешчана ў свет бінарных апазіцый, дзе вобразы-ідэалы, станоўчыя вобразы і вобразы-прыклады супрацьпастаўляюцца адмоўным вобразам і вобразам-антыпрыкладам, яна заўсёды павінна ведаць, якой (не)хоча бачыць яе мужчына, а ў першую чаргу грамадства, устаноўкі якога транслююцца праз мужчынскую прозу. Гэты момант ад пачатку асэнсоўваўся тэарэтыкамі фемінізму як значны недахоп мужчынскіх тэкстаў:

> Асаблівасць сітуацыі жанчыны – тое, што маючы, як і кожны чалавек, аўтаномную свабоду, яна спазнае і абірае сябе ў тым свеце, дзе мужчыны прымушаюць яе прыняць сябе як Іншага: яе хочуць вызначыць у якасці аб'екта і асудзіць тым самым на іманентнасць, коснасць, бо яе трансцэндэнцыя будзе заўсёды ажыццяўляцца іншай свядомасцю, істотнай і суверэннай. Драма жанчыны – у канфлікце паміж памкненнем кожнага суб'екта, кожнага, хто разумее сябе як істотнае, і патрабаваннямі сітуацыі, якія вызначаюць яе як неістотнае [Бавуар 1997: 40].

Зварот да метадалогіі гендарных даследаванняў у параўнанні з літаратуразнаўствам 1960–1980-х гг., безумоўна, дазваляе засяродзіцца на новых аспектах пры аналізе жаночых вобразаў. Разам з тым, працы папярэднікаў застаюцца важным вопытам асэнсавання беларускай літаратурнай спадчыны.

Прыведзеныя ў артыкуле цытаты – гэта кароткія нататкі, пазнакі на палях, па-сутнасці, маргіналіі, бо рэпрэзентацыя жанчыны ў мастацкай прозе наўрад ці асэнсоўвалася даследчыкамі як важная праблема. Аднак сістэматызацыя гэтых лаканічных заўваг дазваляе стварыць дастаткова цэласную карціну. Мы можам вылучыць ідэі, якія падзялялі многія навукоўцы, і разам з тым выявіць супярэчлівыя ацэнкі асобных стратэгій канструявання жаночых вобразаў. Мы бачым, што ў даследаваннях літаратуразнаўцаў 1960–1980-х гг. актыўна сцвярджаецца важнасць асабістага досведу аўтара для распрацоўкі вобразаў-персанажаў. Рознасць гендарнага досведу – тая праблема, якая вельмі часта не дазваляе пісьменніку-мужчыну стварыць вартасны жаночы вобраз праз зварот да аналітычнага псіхалагізму, таму ў беларускай прозе першай паловы ХХ ст. высока ацэньваюцца жаночыя вобразы, створаныя пераважна праз зварот да неаналітычных ускосных форм выяўлення псіхалогіі. Творы, дзе галоўнымі гераінямі былі жанчыны, дзе прадугледжвалася стварэнне жаночых характараў (*Люба Лук'янская* К. Чорнага, *Ах Міхаліна*… І. Шамякіна) атрымалі шэраг крытычных водгукаў.

Зварот да добравядомых літаратурных стратэгій: узнаўленне сацыяльных і сацыяльна-псіхалагічных тыпаў, характэрных для так званай народніцкай літаратуры, арыентацыя на рамантычную традыцыю, стварэнне жаночых вобразаў, якія паўстаюць увасабленнем гендарных ідэалаў ці антыідэалаў, – дазваляў мужчынам-пісьменнікам у пэўным сэнсе абмінуць сферу жаночай псіхалогіі. Пры гэтым некаторым даследчыкам нават найбольш удалыя ў сваім родзе вобразы гэтага тыпу не імпанавалі праз невысокую інфарматыўнасць, зададзенасць, адсутнасць глыбокай псіхалагічнай распрацоўкі і важнай для мастацкай творчасці інаватыўнасці. Найбольш паспяховай стратэгіяй можна лічыць арыентацыю на прататып – менавіта так з'явіліся найбольш яскравыя і арганічныя жаночыя вобразы беларускай літаратуры першай паловы ХХ ст: Ядвіся з аповесці Я. Коласа *У палескай глушы*, Ірына Сакавічанка з аповесці Максіма Гарэцкага *Дзве душы*.

Беларускія пісьменнікі першай паловы ХХ ст мелі прагрэсіўныя погляды па так званым "жаночым пытанні", аднак у некаторых творах назіраецца ўзнаўленне гендарных стэрэатыпаў, характэрных для традыцыйнай культуры.

Праведзенае даследаванне дазваляе таксама зазначыць, што беларускія літаратуразнаўцы 1960–1980-х гг. надавалі дастатковую ўвагу найбольш цікавым, адметным жаночым вобразам. Што ж тычыцца другасных і эпізадычных персанажаў, то яны не так часта былі аб'ектам

аналізу і супастаўлення. Сістэмны разгляд жаночых вобразаў айчыннай прозы першай паловы XX ст., па сутнасці, застаўся для наступнага пакалення даследчыкаў.

## Бібліяграфія


Adamovìč Ales'. 1961. *Belaruskì raman. Stanaǔlenne žanra*. Mìnsk: Vydavectva akadèmìì navuk BSSR [Адамовіч Алесь. 1961. *Беларускі раман. Станаўленне жанра*. Мінск: Выдавецтва акадэміі навук БССР].

Âskevìč Ales'. 1972. *Na šlâhu rostu ì stalascì*. U: *Šlâhì razvìccâ belaruskaj saveckaj prozy*. Mìnsk: Navuka ì tèhnìka [Яскевіч Алесь. 1972. *На шляху росту і сталасці*. У: *Шляхі развіцця беларускай савецкай прозы*. Мінск: Навука і тэхніка].

Âskevìč Ales'. 1967. *Karanì maladoga drèva*. Mìnsk: Belarus' [Яскевіч Алесь. 1967. *Карані маладога дрэва*. Мінск: Беларусь].

Beauvoir Simone de. 1997. *Le Deuxième Sexe*. Per. s fr. A. Sabašnikovoj i dr. Sankt-Peterburg: Alatejâ [Бовуар Симона де. 1997. *Второй пол*. Пер. с фр. А. Сабашниковой и др. Санкт-Петербург: Алатейя].

Cixous Hélène. 1975. *Le Rire de la Méduse*. Per. V. Postnikov [Сиксу Элен. 1975. *Смех медузы*. Пер. В. Постников] [online] https://proza.ru/2016/07/03/901 [доступ: 15.05.2020].

*Gìstoryâ belaruskaj lìtaratury XX stagoddzâ ǔ čatyroh tamah*. 1999. T. 1. Mìnsk: Belaruskaâ navuka [*Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя ў чатырох тамах*. 1999. Мінск: Беларуская навука].

Kabanova Irina. 2006. *Zapadnaâ feministskaâ kritika o «ženskom pis'me»: tipologičeskij analiz osnovnyh napravlenij*. U: *Ženskij vyzov: russkie pisatel'nicy XIX — načala XX veka*. Tver': Liliâ Print [Кабанова Ирина. 2006. *Западная феминистская критика о «женском письме»: типологический анализ основных направлений*. У: *Женский вызов: русские писательницы XIX – начала XX века*. Тверь: Лилия Принт].

Kavalenka Vìktar. 1987. *Poklìč žyccâ*. Mìnsk: Mastackaâ lìtaratura [Каваленка Віктар. 1987. *Покліч жыцця*. Мінск: Мастацкая літаратура].

Lâlenkova Tamara. 2007. *Obraz ženŝiny v sovremennoj mužskoj proze*. Radio Svoboda. 4 noâbrâ 2007 [Ляленкова Тамара. 2007. *Образ женщины в современной мужской прозе*. Радио Свобода. 4 ноября 2007 [online] https://www.svoboda.org/a/419991.html [доступ: 14.05.2020]

Majseenka Anatol'. 1978. *Tvorčasc' Mìhasâ Zarèckaga: stanaǔlenne talentu*. Mìnsk: Vyšèjšaâ škola [Майсеенка Анатоль. 1978. *Творчасць Міхася Зарэцкага: станаўленне таленту*. Мінск: Вышэйшая школа].

Martysevìč Maryjka. *Cela ǔlady* [Мартысевіч Марыйка. *Цела ўлады* [online] https://users.livejournal.com/maryjka-/509027.html [доступ: 15.05.2020].

Matrunënak Al'frèd. 1972. *Psìhalagìčny analìz u sučasnym belaruskìm ramane*. Mìnsk: Navuka ì mastactva [Матрунёнак Альфрэд. 1972. *Псіхалагічны аналіз у сучасным беларускім рамане*. Мінск: Навука і мастацтва].

Matrunënak Al'frèd. 1980. *Prablema haraktaru ǔ lìtaratury sacyâlìstyčnaga rèalìzmu*. Mìnsk: Navuka ì tèhnìka [Матрунёнак Альфрэд. 1980. *Праблема характару ў літаратуры сацыялістычнага рэалізму*. Мінск: Навука і тэхніка].

Matrunënak Al'frèd. 1975. *Psìhalagìčny analìz ì stanaǔlenne belaruskaga ramana*. Mìnsk: Navuka ì tèhnìka [Матрунёнак Альфрэд. 1975. *Псіхалагічны аналіз і станаўленне беларускага рамана*. Мінск: Навука і тэхніка].

Matrunënak Al'frèd. 1988. *Psìhalagìčnaâ proza: Tradycyì ì čas*. Mìnsk : "Navuka ì tèhnìka" [Матрунёнак Альфрэд. 1988. *Псіхалагічная проза: Традыцыі і час*. Мінск: "Навука і тэхніка"].

Mušynskì Mìhas'. 2005. *Praŭdzìvaâ gìstoryâ žyccâ ì tvorčascì Mìhasâ Zarèckaga*. Mìnsk: Belaruskaâ navuka [Мушынскі Міхась. 2005. *Праўдзівая гісторыя жыцця і творчасці Міхася Зарэцкага*. Мінск: Беларуская навука].

Naumenka Ìvan. 2017. *Zbor tvoraй и dzesâcì tamah*. Том 9. *Vìncènt Dunìn-Marcìnkevìč; Zmìtrok Bâdulâ; Rannì Kuz'ma Čorny (1923–1929)*. Mìnsk: Mastackaâ lìtaratura. [Науменка Іван. 2017. *Збор твораў у дзесяці тамах*. Том 9. *Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч; Змітрок Бядуля; Ранні Кузьма Чорны (1923–1929)*. Мінск: Мастацкая літаратура].

Pâtkevìč Ales'. 1981. *Sûžèt. Kampazìcyâ. Haraktar: Ab proze Kuz'my Čornaga*. Mìnsk: Mastackaâ lìtaratura [Пяткевіч Алесь. 1981. *Сюжэт. Кампазіцыя. Характар: Аб прозе Кузьмы Чорнага*. Мінск: Мастацкая літаратура].

Ragojša Vâčaslaŭ. 2009. *Lìtaraturaznaŭčy sloŭnìk*. Mìnsk: Narodnaâ asveta [Рагойша Вячаслаў. 2009. *Літаратуразнаўчы слоўнік*. Мінск: Народная асвета].

Zaharova Svetlana, Čečet Viktor. 2011. *Gendernoe vospitanie detej i učaŝejsâ molodeži*. Minsk: BGU [Захарова Светлана, Чечет Виктор. 2011. *Гендерное воспитание детей и учащейся молодежи*. Минск: БГУ].

Žuraŭlëŭ Vasìl'. 1974. *Ad fakta da sûžèta*. U: *Pytannì paètykì*. Mìnsk: Navuka ì tèhnìka [Жураўлёў Васіль. 1974. *Ад факта да сюжэта*. У: *Пытанні паэтыкі*. Мінск: Навука і тэхніка].

**ABSTRACT**: The works of A. Matrunenak, A. Adamovich, A. Yaskevich and other researchers who addressed the problem of representation of women in men's prose are examined in the article. For Belarusian literary criticism of the 1960s – 1980s period, this problem was not of central importance but was raised in the analysis of the works written by J. Kolas, M. Zaretsky, K. Chorny and I. Shemyakin. The authors' personal experience, as well as the realism and psychological accuracy of the characters were immensely important for the researchers. The difference in gender experience was one of the reasons for creative failures in the development of female images. The article outlines different approaches to the creation of female characters.

**KEYWORDS**: history of Belarusian literary criticism, Belarusian prose of the first half of the XXth century, female image, prototype, psychologism, gender stereotypes.

**STRESZCZENIE**: W artykule przedstawiono analizę prac A. Matrunionka, A. Adamowicza, A. Jaskiewicza i innych badaczy, które dotyczą kwestii reprezentacji kobiet w prozie mężczyzn. W białoruskim literaturoznawstwie z lat 1960–1980 zagadnienie to nie miało centralnego znaczenia, ale było omawiane w analizie utworów J. Kołasa, M. Zareckiego, K. Czornego i I. Szamiakina. Szczególnie ważny dla ówczesnych badaczy był aspekt własnego doświadczenia twórców, realizmu i wiernego odwzorowania psychologicznego bohaterów. Różnorodność genderowego doświadczenia była postrzegana jako przeszkoda dla stworzenia pogłębionej psychologicznie postaci kobiety w utworach literatury pięknej. Artykuł przedstawia różne podejścia pisarzy-mężczyzn do tworzenia postaci kobiecych.

**SŁOWA KLUCZOWE**: historia literaturoznawstwa białoruskiego, proza białoruska pierwszej połowy XX wieku, obraz kobiety, prototyp, psychologizm, stereotypy genderowe.

**РЭЗЮМЭ**: У артыкуле разглядаюцца працы А. Матрунёнка, А. Адамовіча, А. Яскевіча і іншых даследчыкаў, дзе закранаецца праблема рэпрэзентацыі жанчыны ў мужчынскай прозе. Для беларускага літаратуразнаўства 1960–1980-х гг. гэта праблема не мела цэнтральнага значэння, аднак уздымалася пры аналізе твораў Я. Коласа, М. Зарэцкага, К. Чорнага, І. Шамякіна. Надзвычай важным для тагачасных даследчыкаў было пытанне асабістага досведу творцаў, рэалістычнасці і псіхалагічнай дакладнасці персанажаў. Рознасць гендарнага досведу разглядалася як перашкода для глыбокай псіхалагічнай распрацоўкі жаночых вобразаў у мастацкай прозе. У артыкуле акрэсліваюцца розныя падыходы пісьменнікаў-мужчын да стварэння жаночых персанажаў.

**КЛЮЧАВЫЯ СЛОВЫ**: гісторыя беларускага літаратуразнаўства, беларуская проза першай паловы XX ст., жаночы вобраз, прататып, псіхалагізм, гендарныя стэрэатыпы.

**ACTA ALBARUTHENICA 20: 2020**
DOI: 10.32612/uw.18988091.2020.20.pp.111–122

**Таццяна Кохан / Tatsiana Kokhan**
Нацыянальная акадэмія навук Беларусі /
National Academy of Sciences of Belarus
ORCID: https://orcid.org/0000-0002-9696-2444
e-mail: taniakokhan@tut.by

# *Аповесці для маладых дзяўчат* Яна Чачота ў кантэксце літаратуры для дзяцей і моладзі

*NOVELS FOR YOUNG GIRLS by Jan Chachot in the context of literature for children and youth*

*POWIASTKI DLA MŁODYCH DZIEWCZĄT Jana Czeczota w kontekście literatury dla dzieci i młodzieży*

На працягу XIX стагоддзя ў многіх славянскіх краінах выспявала падхопленая ад еўрапейскіх асветнікаў ідэя стварэння літаратуры агульнанацыянальнага выхаваўчага значэння; асаблівая ўвага надавалася развіццю дзіцячай літаратуры. Індыкатарам новых павеваў стаў перыядычны друк, з'явіліся часопісы для дзяцей: „Rozrywki dla Dzieci"(пад рэд. Клемянціны Гофман з Таньскіх), „Tygodnik dla Dzieci" (выдаваўся Ігнацыем Каятанам Хжаноўскім і Станіславам Яховічам), „Dziennik dla Dzieci" (пад рэд. С. Яховіча), „Ziemomysł: Pismo czasowe dla Dzieci" (пад рэд. Яна Канты Хруцкага), „Skarbiec dla Dzieci"(пад рэд. Яна Леона Сянкевіча і Караля Казіміра Сянкевіча), „Zorza" (пад рэд. Паўліны Кракавовай). Перад літаратарамі паўстала задача стварэння аўтэнтычнай дзіцячай літаратуры, якая б адпавядала сусветнаму ўзроўню, аднак была заснавана на мясцовым матэрыяле. Для дасягнення пастаўленай мэты аўтары актыўна выкарыстоўвалі досвед і выхаваўча-адукацыйны патэнцыял фальклору, навукова-папулярнай, мастацкай і рэлігійнай кнігі. Паступова пачало фарміравацца кола прафесійных дзіцячых пісьменнікаў: "Mamy bajkopisarzy, poetów-pedagogów, którzy przeważnie działalność swoją autorską poświęcili dziatwie" [Osterloff 1893: 200]. Крытыкі адзначаюць і дастаткова разгалінаваную сістэму жанраў тагачаснай дзіцячай літаратуры:

> W literaturze dla dzieci i młodzieży pod względem liczebnym najobfitszym jest dział powieściowy i poezji, składający się z przeróżnych powieści, powiastek, opowiadań, bajek, baśni, komedyjek i t. p., dalej idą podróże i nauki przyrodnicze, historja, elementarzyki obrazkowe i rozmaitości: jak zbiory powinszowań i t. p., wreszcie czasopisma [*Książki dla dzieci*… 1873/1874: 93].

Асаблівае месца сярод разнастайных твораў заняла маральная аповесць:

> <...>powiastka moralna zajęła najpoważniejsze stanowisko w literaturze dla dzieci. Idąc za przykładem Hoffmanowej, pisarze w utworach dla dzieci starali się wysunąć na pierwszy plan morał, o rozpowszechnienie innych pożytecznych wiadomości, w powieściowej treści mniej dbano, o pobudzenie i rozwój fantazyi jeszcze mniej [Osterloff 1893: 200].

У сувязі з асаблівасцямі тагачаснага педагагічнага працэсу (наяўнасці розных падыходаў і праграм для хлопцаў і дзяўчат), для дзіцячай кнігі XIX стагоддзя характэрна выразнае гендарнае размежаванне.

Пісьменнікі актыўна працавалі над стварэннем адмысловай бібліятэчкі для дзяўчат, асаблівая патрэба адчувалася ў кнігах для прадстаўніц ніжэйшых слаёў грамадства: "Dla córki bowiem rolnika, rzemieślnika, lub wyrobnika pracowitego" [Campan 1827: I]. Часта аўтарамі кніжак для дзяўчат былі жанчыны (К. Гофман з Таньскіх, Ванда Малецкая, П. Кракавова). Верагодна, гэта звязана з прасякнутымі асаблівым даверам стасункамі маці-жанчыны і дачкі або настаўніцы і яе вучаніцы.

Выразным маральна-дыдактычным пафасам прасякнута творчасць Яна Чачота (1796–1847), пісьменніка беларуска-польскага памежжа, літаратурная спадчына якога належыць абодвум народам. У беларускім і замежным літаратуразнаўстве ідзе праца па асэнсаванні яго ролі ў літаратурным працэсе XIX ст., былі адшуканыя многія забытыя творы, асветленыя малазнаныя старонкі яго біяграфіі, распрацаваныя новыя навукова-метадычныя падыходы да разгляду яго мастацкага даробку. Тым не менш, зборнік *Powiastki dla młodych dziewcząt naśladowane z dzieła Pani de Sęt (De Saintes, Delassemens de ma fille, 2 volumes*[1]) [*Аповесці для маладых дзяўчат, (наследаванне пані дэ Сэнт)*] Я. Чачота да гэтага часу не аналізаваўся. Кніжка была выдадзеная ў 1845 годзе ў друкарні Юзэфа Завадскага з прысвячэннем дочкам Ігнацы Дамейкі: "Анэльцы, Зосі і Марыльцы Дамейкавым. Гэты асобнік аповесцяў, мной наследаваных, на памяць і духоўны спажытак. 16 жніўня 1844". Томік уключае чатыры аповесці: *Świętochna albo Wdzięczność* (*Святохна, або Удзячнасць*), *Bogna i Lubomira albo Duma i Skromność* (*Богна і Любаміра, або Пыха і Сціпласць*), *Luidgarda albo Podróż pożyteczna* (*Людгарда, або Карыснае падарожжа*), *Dobrochna albo Dobrodziejstwo zawsze pamiętnie* (*Даброхна, або Дабрачыннасць заўсёды памятная*), у аснове якіх знаходзіцца маральна-этычная праблематыка. Лёгка вылучыць элемент, які злучае ўсе вышэй названыя творы: іх галоўныя гераіні – дзяўчаты-падлеткі, чые думкі і паводзіны найбольш сугучныя мэтавай аўдыторыі выдання.

---

[1] Аўтарства Алексіса Эймеры (1774–1854), кнігавыдаўца, гандляра, аўтара п'ес і розных выхаваўчых твораў для дзяцей. На сённяшні дзень імя А. Эймеры забыта, амаль усе кнігі былі зняты з продажу ў 1854 г., што прывяло да заўчаснай смерці пісьменніка.

Вядомы навуковец Станіслаў Свірка называе яшчэ некалькі маральна-дыдактычных аповесцяў з празаічнага даробку Я. Чачота: *Suknia Wyszywana* (*Вышываная сукенка*), *Zielone Trzewiczki* (*Зялёныя чаравічкі*), *Boże Narodzenie, uroczystość dla dzieci w Niemczech* (*Божае нараджэнне, урачыстасць для дзяцей у Германіі*) і *Gęśle i rodzina wieśniaków normandzkich* (*Гуслі і сям'я нармандскіх вяскоўцаў*), – якія, на думку даследчыка, з'яўляюцца перакладамі твораў розных замежных пісьменнікаў. Гэты томік Я. Чачот меркаваў прысвяціць К. Гофман з Таньскіх[1]. Аднак друкаваны асобнік гэтага зборніка, у адрозненне ад кнігі 1845 г., да гэтага часу не адшуканы, захаваўся толькі рукапіс. С. Свірка палічыў, што ўсе маральныя аповесці з'яўляюцца перакладной літаратурай, а таму не рабіў іх падрабязны аналіз у сваёй манаграфіі *Z Mickiewiczem pod rękę czyli życie i twórczość Jana Czeczota* (*Разам з Міцкевічам, або Жыццё і творчасць Яна Чачота*).

На наш погляд, *Аповесці для маладых дзяўчат* – гэта аўтарскія творы Я. Чачота, напісаныя на ўзор французскіх тэкстаў. Пісьменнік наследаваў толькі форму, змяняючы і актуалізуючы змест. Яго гераіні, пераважна прадстаўніцы сярэдняга саслоўя, маюць тыповыя імёны, характэрныя для жыхароў былой Рэчы Паспалітай: [напрыклад, Свянтохна (скарочанае ад Святаслава), Любаміра, Даброхна (скарочанае ад Дабраслава)]. Аўтар нібыта сам вяртаецца ў гады сваёй маладосці, згадвае тагачасныя рэаліі (музычныя салоны, дабрачынную дзейнасць біскупа Давіда Пілхоўскага, вайну 1812 года).

Безумоўна, Я. Чачот пераймаў папулярныя тэмы, якія існавалі ў сусветнай літаратуры, найперш, браў за ўзор шырока распаўсюджаны для таго часу вобраз станоўчай гераіні (асабліва растыражаваны пасля публікацыі рамана Сэм'юэла Рычардсана *Pamela: Or, Virtue Rewarded*, 1740 (*Памэла, або Узнагароджаная дабрачыннасць*). На нашу думку, менавіта з публікацыяй гэтага рамана маральна-этычныя нормы і прынцыпы, на якіх павінна будавацца дзявочае выхаванне, знайшлі канцэптуальнае выражэнне ў вобразе дабрадзейнай гераіні.

Паэтыка твораў для дзяўчат сфарміравалася згодна з атмасферай эпохі, у выніку склаліся пэўныя кампазіцыйныя ўзоры, шаблоны. Так, асноўнымі рысамі маральных аповесцяў сталі дыдактызм, біяграфізм,

---

[1] К. Гофман з Таньскіх (1798–1845) – дзіцячая пісьменніца. У 1819 г. выйшла першая аповесць *Pamiątka po dobrej matce* (*Памятка ад добрай маткі*), у 1820 г. убачылі свет *Powieści moralne* (*Маральныя аповесці*). Стварыла бібліятэку для маленькага чытача *Rozrywki dla Dzieci* (*Забаўкі для дзяцей*, 1814–1828), у якой друкавала творы Мікалая Рэя, Яна Каханоўскага, Пятра Скаргі і інш. У 1829 г. пісьменніца выйшла замуж за Караля Гофмана, які далучыўся да Лістападаўскага паўстання, а пасля паражэння змушаны быў эміграваць у Францыю, разам з ім выехала і К. Гофман, якая і на эміграцыі працягвала сваю пісьменніцкую дзейнасць; там убачылі свет *Nowe rozrywki dla dzieci* (*Новыя забаўкі для дзяцей*), *Nowa biblioteka poświęcona dzieciom i panienkom* (*Новая бібліятэка, прысвечаная дзецям і паненкам*), *Książka do nabożeństwa dla Polek* (*Кніжка набажэнства для полек*). Памерла ў 1845 г., пахаваная ў Парыжы.

ідэалізацыя галоўнай гераіні. Фокус пісьменніцкай увагі быў скіраваны на станаўленне асобы і свядомасці гераіні; астатнія персанажы выступалі ў ролі адмысловых каталізатараў яе духоўнага росту. Можна адзначыць і наступную рысу – сюжэтную незавершанасць. Гераіні цікавяць аўтара толькі ў развіцці, пакуль праходзяць этапы свайго сталення (асабліва яскрава гэтая рыса выявілася ў аповесці *Даброхна, альбо Дабрачыннасць заўсёды памятная*, якая мае адкрыты фінал).

Арыентаваны на гуманістычныя каштоўнасці, Я. Чачот не мог ігнараваць ідэі часу, быў шчырым прыхільнікам асветніцкага вучэння аб выхаванні, сутнасць якога ў стварэнні гарманічна і ўсебакова развітага чалавека. Услед за Джонам Локам і Жан-Жакам Русо, ён верыў, што мастацтва павінна выконваць выхаваўчыя функцыі і большасць грамадскіх праблем можна вырашыць шляхам асветы.

Таму праблематыку многіх твораў Я. Чачота (не толькі маральных аповесцяў) складае ідэя асветы як неабходная ўмова для развіцця гарманічнага чалавека і самога грамадства. Я. Чачот арыентаваўся на досвед сваіх папярэднікаў, запазычаючы ў іх не толькі пэўныя стэрэатыпныя калізіі, але і папулярныя ідэі. Працягваючы традыцыі Ж.Ж. Русо і сентыменталістаў, Я. Чачот разглядае дзіця як бязвінную істоту, *a priori* надзеленую добрым сэрцам. Гераіні маральных аповесцяў Я. Чачота (Даброхна, Свянтохна, Любаміра, Людгарда) – прыгожыя, працавітыя, усебакова развітыя, адукаваныя дзяўчаты, якія з'яўляюцца ўзорам дабрачыннасці, цноты і набожнасці.

Аўтар пазбягае паказу глыбокіх канфліктаў, усе перажыванні дзяўчат сканцэнтраваныя на паўсядзённым жыцці, сюжэтнае значэнне набывае сталенне і/ці ўдасканаленне гераінь. Асноўная тэма твораў – свет дзявочых перажыванняў і інтарэсаў, звязаных з праблемай вызначэння месца і ролі ў сям'і і грамадстве.

Нягледзячы на тое, што ў аповесцях *Свянтохна, або Удзячнасць*, *Богна і Любаміра, або Пыха і сціпласць* менавіта галоўныя гераіні арганізуюць свет і персанажаў вакол сябе, прынцыповую ролю адыгрываюць іх духоўныя настаўніцы. З дапамогай добрых апякунак – пані Дабжыньскай (аповесць *Свянтохна*...) і пані Арман (аповесць *Богна і Любаміра*...) – дзяўчаты пераадольваюць усе выпрабаванні і знаходзяць сваё месца ў грамадстве і асабістае шчасце. Дабрадзейкі суправаджаюць дзяўчат ва ўсіх выпрабаваннях, спрыяюць духоўнаму сталенню і ствараюць умовы для далейшага развіцця і ўдасканалення. Вобраз дарослага як важны кампанент свету дзяцінства ўмацоўвае веру ў чалавека, яго дабрыню і міласэрнасць. Прасочваецца асноўная думка: дзіцяці патрэбна пэўнае атачэнне, у якім магчыма рэалізаваць закладзеныя ад прыроды добрыя пачаткі. У іншым выпадку нават добрыя ад прыроды дзеці становяцца сапсаванымі неналежным выхаваннем. Так сталася з Богнай, якую разбэсцілі заможныя бацькі. Пан Мажнецкі не заўважаў ніякіх недахопаў сваёй дачкі, чые паводзіны здаваліся яму дасканалымі: "Możniecki był tak w niej zaślepiony, iż nie postrzegał żadnego w niej

błędu i co ona zrobiła, wszystko to mu się przedziwnym zdawało" [Czeczot 1845: 41], маці таксама ёй ва ўсім патурала: "Pani Możnecka, jej matka, niczego jej nie odmawiała, wszystko czołem przed nią biło" [Czeczot 1845: 39]. Сітуацыю не выправіла нават сямігадовае навучанне ў пансіёне пані Арман, "sławnej z dobrego wychowania dziewic" [Czeczot 1845: 31], бо Богна не была стараннай вучаніцай,

> tak pisała, że chwała Bogu, jeśli w pisowni błędu nie zrobiła. Nauczyciel rysunku nie mógł nigdy nauczyć ją rysować nic więcej, prócz profilu głowy; ledwie umiała kilka mazurków i walców grać na fortepianie, które przecież lubiła; grała więc często, ale tak dziko, że biedny fortepian trzeba było ustawicznie nastrajać [Czeczot 1845: 35–36].

Да таго ж яна рэгулярна парушала рэжым:

> Bogna brana prawie codziennie s pensionu do domu, odjeżdżająca w i powracająca w pysznej karecie, obdarzoną zawsze mnóstwem podarunków, któremi lubiła się chwalić i zadziwiać swoje towarzyszki, nabyła nałogu wymagać tonem rozkazującym wszystkiego, co się jej podobało i uważać z niejakąś pogardą towarzyszki mniej bogate [Czeczot 1845: 33].

Вынікам такога "выхавання" стала тое, што ў пятнаццацігадовым узросце Богну перапаўнялі пыха і пагарда да іншых: "przeto duma, wyniosłość i pogarda innych, w niej się podwoiły, a małpując starsze wiekiem osoby, piętnastoletnia Bogna starała się nadać sobie podobną im" [Czeczot 1845: 40-41].

У адрозненне ад Богны, чыё жыццё было напоўнена празмернай бацькоўскай любоўю і пяшчотай, сціплая і дабрадзейная Любаміра, дачка вайскоўца, не мела такіх выгод: ніхто не забіраў яе дадому, не прыносіў падарункі, не купляў прысмакі, і адзенне было занадта простым, хоць і чыстым. Нягледзячы на сацыяльную прорву, дзяўчаты пасябравалі: "Bogna i Lubomira uczyły się w jednej kłassie, mieszkały w jednym pokoju, igrały razem, słowem były w wielkiej zażyłości" [Czeczot 1845: 32]. Аднак замест таго, каб падтрымліваць сяброўку, Богна ўвесь час нібы здзекавалася з яе: "A twójże ojciec nicże ci nie przysyła?.. Jakże ty zawsze po prostu odziana! Nie uwierzysz, pokojówka mojej mamy piękniejsze ma suknie od twoich" [Czeczot 1845: 34]. Сітуацыя пагоршылася, калі ў Любаміры на вайне быў забіты бацька, дзяўчынка засталася сам-насам са сваёй бядой: "Bez ojca, krewnych i przyjaciół została sierotą, kiedy najwięcej potrzebowała pomocy" [Czeczot 1845: 32]. Чулая да чужога гора пані Арман працягнула сваёй выхаванцы руку дапамогі:

> P. Armanowa dając czuły wzgląd na położenie tej panienki była tak delikatną, iż nic nie chciała objawić jej o śmierci ojca i smutnych okolicznościach, w jakich ją zostawił; odkładając to do czasu, w którym Lubomira będzie dość usposobioną do utrzymania się na świecie z własnej pracy [Czeczot 1845: 32–33].

Нягледзячы на ўсе намаганні пані Арман, Любаміра ўсё ж даведалася аб смерці бацькі, аднак, каб нікому не рабіць прыкрасці, моўчкі перажывала сваё няшчасце. Яшчэ больш самотнай дзяўчынка адчула

сябе, калі Богна скончыла навучанне і назаўсёды з’ехала з пансіёна: “Dni młodej sieroty upływały w smutku i tęsknocie” [Czeczot 1845: 38].

Пані Арман, занепакоеная душэўным станам сваёй выхаванкі, прапанавала напісаць да Богны. Любаміра з ахвотай узялася за напісанне ліста:

> Kochana Bogno, pisała do niej Lubomira, wiek mi się zdaje, jakem ciebie niewidziała. Jakże mi czas leniwie idzie bez ciebie! Przyzwyczajona kochać cię i widzieć codziennie, nie mogę przywyknąć do twej nieobecności. Bądź szczęśliwa droga Bogno, oto jest najmilsze mojego serca życzenie [Czeczot 1845: 43].

Богна ледзь выціснула з сябе адказ, яна пашкадавала, што з-за маладога ўзросту не мае сакратаркі, а маці не захацела дапамагаць у гэтай складанай справе. У лісце, каб яшчэ больш уразіць пані Арман і Любаміру сваім багаццем, Богна запрасіла іх на вечар, на які збіраўся ці не ўвесь тагачасны бамонд, у тым ліку вядомы скрыпач Рэвут і спявачка Скібіньская.

Кантраснымі паўстаюць вобразы гераінь на кульмінацыйнай сустрэчы ў палацы Мажнецкіх: Любаміра была апранутая ў белую сукенку без гарсэту, сціплая кветка ўпрыгожвала светла-русыя валасы, Богна ж мела занадта адкрытае шыкоўнае ўбранне і такія ж раскаваныя паводзіны. Яшчэ не ведаючы пра тое, што бацька Любаміры памёр, Богна гучна ўсклікнула: “Półkownik! Piękny stopień! Lecz twój ojciec pewnie powróci jenerałem; przedziwnie! Będzie miał mundur cały od złota, jak ów, co tam siedzi jegomość” [Czeczot 1845: 51]. Сваімі нетактоўнымі размовамі Богна давяла Любаміру да слёз.

Варта адзначыць, што пры стварэнні дзявочых вобразаў пісьменнік не ўжываў прынцыпу катэгарычнага падзелу на “станоўчых” і “адмоўных”, нават Богна не з’яўляецца безнадзейна сапсаванай дзяўчынкай, у канцы яна разумее ўсю недарэчнасць сваіх паводзінаў і просіць бацькоў, каб сірата Любаміра засталася жыць у іх сям’і.

На прыкладзе сяброўак Я. Чачот паказаў, як сціпласць і добрае сэрца ўзвышаюць чалавека, у той час як багацце, дадзенае ад нараджэння, і адсутнасць належнага выхавання могуць сапсаваць нават бязвінную і чыстую душу дзіцяці, таму вышэйшую каштоўнасць маюць не падарункі сляпога лёсу, але толькі праца па самаўдасканаленні. Менавіта гэтую ключавую думку аповесці аўтар уклаў у вусны пані Арман: “Częstokroć ślepy traf daje bogactwa, lecz serce dobre i przymioty, którym skromność większą jeszcze nadaje cenę, winniśmy jedynie przyrodzeniu i własnej pracy” [Czeczot 1845: 34–35].

У аснове твора *Свянтохна, або Удзячнасць* таксама ляжаць праблемы выхавання маладога пакалення, жаночай адукацыі, узаемаадносін людзей у сям'і і грамадстве. Назва падкрэслівае абагульнена-сімвалічнае значэнне вобраза галоўнай гераіні, якая з’яўляецца персаніфікацыяй удзячнасці. Свянтохна, старэйшая дачка ў сям’і Мурграбяў, жыла ў Вільні. Прыгажосць дзяўчынкі не магла пакінуць нікога

абыякавым: “Świętochna miała ładną twarzyczkę; z oczu żywych, czarnemi rzęsami przykrytych dowcip się wydawał, a długie czarne włosy spadające na białe ramiona zwracały uwagę na Świętochnę; zawsze się pytano: co to za piękna dzieweczka?” [Czeczot 1845: 10]. Нягледзячы на малы ўзрост, яна была дастаткова самастойнай, даглядала братоў і сястрычак, выконвала розныя даручэнні суседзяў і пані Дабжыньскай:

> Dobra ta dziewczynka, mając ledwie lat ośm, już doglądała swych młodszych sióstr i braci i często spełniała polecenia mieszkańców domu. Nosiła tej pani listy na pocztę, przynosiła xiążki do czytania, a z rana śmietankę do kawy [Czeczot 1845: 9–10].

Старая пані заўважыла адказнасць і стараннасць дзяўчынкі, навучыла яе чытаць, пісаць, асновам веры, геаграфіі, гісторыі і маляванню, ужо ў 14 гадоў Свянтохне можна было смела даручыць выхаванне маладых паненак, нават сам яе выгляд мог быць для іх узорам:

> Sama niestrojna przestawała na najskromniejszych sukienkach, które sobie zawsze uszyła: lecz tak jej wszystko było do twarzy, iż mówiono, że ją najmniejsza rzecz zdobi. Wspaniałe włosy zwite w długie upłoty rozwijające się nad głową, suknia bez gorsu, fartuszek z czarnej kitajki: oto jej zwyczajne ubiory. Lecz jak to wszystko czysto i gustownie, a bez wszelkiej przesady! [Czeczot 1845: 14–15].

Пані Дабжыньская ставілася да сваёй выхаванкі як да паненкі, кампаньёнкі, нават як да дачкі, такімі ж прыязнымі былі адносіны ўсіх астатніх персанажаў аповесці.

Аўтар у адносінах да гераіні выступае гісторыкам-хранікёрам, які занатоўвае станаўленне чалавека, сюжэтны рух аповесці абумоўлены звычайнымі акалічнасцямі прыватнага жыцця. Я. Чачот засяроджвае ўвагу на ўнутраным свеце гераіні, чые погляды і меркаванні нязменна выклікаюць павагу, хто б ні звяртаўся па дапамогу і падтрымку, яна ніколі і ні ў чым не адмаўляе. Калі ў старой пані збіраліся госці, то Свянтохна з прыемнасцю спявала песні, іграла на арфе, чытала вершы знакамітых паэтаў: “Niewiedziano czemu się bardziej dziwić: czy piękności wierszy, którym głos jej wdzięczny dawał tyle powabu, czy szlachetnym i pełnym natchnienia rysom jej oblicza, w których piękne dusza jaśniała” [Czeczot 1845: 12]. Пры гэтым сціплая Свянтохна лічыла, што ўсімі сваімі талентамі яна абавязана выключна пані Дабжыньскай: “Zawsze skromna i posłuszna, gdy ją obsypano pochwałami, żem czegoś warta, winnam to Pani Dobrzyńskiej” [Czeczot 1845: 12]. У той жа час дзяўчынка не забывалася на сваіх бедных бацькоў: “Myśl wówczas Świętochny szukała biednych rodziców mieszkających w szczupłym zakątku przy wschodach do salonu, w którym się sama odznaczała” [Czeczot 1845: 12] – і не цуралася іх: “Cnotliwa i pobożna Świętochna niezaniedbała nigdy pójżść w niedzielę z matką i z malemi braćmi do kościoła, ubrana skromnie, jak jej matka uboga” [Czeczot 1845: 12–13]. У вобразе Свянтохны, носьбіткі натуральнай дабрачыннасці, Я. Чачот увасобіў ідэал несапсаванай

чалавечай натуры. Пісьменнік неаднаразова падкрэслівае яе заўчасную дарасласць, адказнасць і дасканаласць:

> Świętochna wtedy miała około lat szesnastu. W tym szczęśliwym wieku nikt nie myśli o biedzie; jednakże Świętochna była niespokojną i stroskaną. Zły stan zdrowia P. Dobrzyńskiej, ubóstwo rodziców Świętochny, los małych sióstr i braci, przychodziły jej na myśl ustawnie i pozbawiły pokoju [Czeczot 1845: 24–25].

У цяжкіх жыццёвых абставінах выяўляецца ўнутраная моц гераіні, якой трэба выбіраць паміж сям'ёй і старой пані. Так, калі заможная графіня прапанавала Свянтохне добрую працу з высокім заробкам, які б дазволіў забяспечыць сям'ю грашыма: "Płaca, którą ci przeznacza, dostateczną będzie dla wychowania twoich braci, osłodzisz też los biedny ojca twojego i matki" [Czeczot 1845: 21], – дзяўчынка адмаўляецца ад шыкоўнай прапановы, бо інакш ёй давялося б пакінуць хворую пані Дабжыньскую. Пачуццё абавязку вымагае ад дзяўчыны ахвяравання сваім будучым дзеля служэння пані: "Ty pani, której winnam życia mego szczęśliwość którąś mię nauczyła znać Boga, ludzi i siebie! Cóżbym bez twego wychowania umiała? I jaż miałabym cię opuścić? O nigdy!"[Czeczot 1845: 20].

Пачуццё абавязку ўзяло верх над уласцівым рэальным людзям эгаізмам: "Żądaj życia mego, wnet je poświęcę dla ciebie" [Czeczot 1845: 21]. Высокамаральная, выхаваная, адукаваная Свянтохна не толькі здолела прайсці праз цяжкія выпрабаванні, захаваць усе станоўчыя рысы характару, яна знайшла сваё месца ў грамадстве. Свянтохна стала працаваць настаўніцай малявання і ігры на арфе ў пансіёне, які знаходзіўся побач з домам пані Дабжыньскай, што дазволіла па-ранейшаму апекавацца здароўем хворай дабрадзейкі і, як належыць ідэальнай дачцэ, падтрымліваць сваіх родных:

> Tak je ujęta swemi przymiotami i talenty, że za ich pomocą bracia jej i siostry wszystkie oddane były na nauki, a ojciec otrzymał miejsce w pałacu pewnego pana na Wielkiej Ulicy, gdzie długo żył s swoją małżonką szczęśliwie, błogosławiąc niebu za dobre i pełne wdzięczności ku dobroczyńcom swym dziecie [Czeczot 1845: 27].

Я. Чачот стварае мадэль справядлівага свету, дзе дабрыня, спагадлівасць, выхаванасць і адукаванасць з'яўляюцца асноўнымі крытэрыямі для набыцця шчасця.

Яшчэ адным важным паказчыкам чалавечнасці з'яўляецца стаўленне да жывёл. Гэтая тэма стала цэнтральнай у аповесці *Даброхна, альбо Дабрачыннасць заўсёды памятная*, галоўная гераіня якой – "młoda dziewczyna, osierocona od ojca miała matkę wcale niedostatnią. Rodzice jej otrzymali byli dosyć nie złe wychowanie i sami ile mogli starali się okrzesać milą Dobrochnę, swe dziecię jedyne [Czeczot 1845: 77].

Вобраз дзяўчынкі, на першы погляд, добра ўпісваецца ў жанравую мадэль маральнай аповесці: "Dobrochna nietak piękną, jak bardzo przyjemną miała twarzyczkę, w której się czułość małowała. Łagodna, oszczędna

obdarzona była szczęśliwym charakterem. Nigdy matka nie miała potrzeby dwa razy jednej rzeczy jej zalecać" [Czeczot 1845: 77].

Пісьменнік падкрэслівае яе дабрыню і спагадлівасць: "Dobrochna miała serce zbyt czułe i litościwe" [Czeczot 1845: 78]. Дзяўчынка чым магла дапамагала абяздоленым: "jeśli jej się zdarzyło widzieć ubogiego, to zaraz mu choć połowę swego śniadania, albo i całe oddawała" [Czeczot 1845: 78], з зацятасцю абараняла ад здзекаў жывёл. У той жа час, пісьменнік парушае рамкі стэрэатыпаў, у адрозненне ад большасці бездакорна паслухмяных гераінь маральных аповесцяў, Даброхна выступае як самастойная асоба, здольная да прыняцця рашэнняў. Нават разважлівыя папярэджанні дарослых аб небяспецы такіх паводзінаў не маглі яе перамяніць: "Napróżno rodzice mówili: ależ Dobrochno nadto się już zaciekasz w obronie psa, lub kota; możesz na tem wyjść nie osobliwie: pies może ukąsić, koty są zdradzieckie i skryte; za całe podziękowanie mogą ci czasem wydrzeć oczy" [Czeczot 1845: 78–79].

Аднойчы Даброхна ўбачыла, як некалькі хлопчыкаў здзекаваліся з сабачкі, для таго каб выратаваць бязвінную істоту з рук катаў, яна аддала ім усе свае грошы: "Dobochna mając tylko wszystkiego dziesięć groszy oddała je dla okupienia życia pieska" [Czeczot 1845: 79]. Пісьменнік падкрэслівае, што не толькі людзі, але і жывёлы адчуваюць дабрыню і могуць быць удзячнымі: "Dobrochna bierze od nich pieska, który jakby zgadując, że z rąk okrutników w ręce wybawczyni przechodzi, pobiegł za Dobrochną ruszając z radości ogonem" [Czeczot 1845: 79]. Узяўшы на сябе адказнасць за жыццё сабачкі, дзяўчынка не змагла пакінуць яго на вуліцы, аднак і паведаміць маці пра яго было складана: "mama nie bardzo się lubiła zatrudniać kotami i psami, które trzeba było karmić, i które często przez nieochędóstwo meble zabrudzają" [Czeczot 1845: 80]. Нічога не сказаўшы сваёй маці, пані Кляноўскай, Даброхна схавала сабачку ў сваім пакоі і дзялілася з ім ежай. Некалькі тыдняў Азор жыў у схованцы, нікому не трапляючыся на вочы, часам ён суправаджаў Даброхну, калі дзяўчынка ішла на рынак ці ў краму за прадуктамі.

У адзін з такіх паходаў Добрахна ледзь несла цяжкі кошык, даверху напоўнены правіянтам, села адпачыць і на хвілінку выпусціла з-пад увагі рэчы. Калі ж спахапілася, то ні кошыка, ні Азора не было. Разгубленая, яна вырашыла, што хтосьці скраў яе кошык, а Азор пабег дадому. Якое ж было здзіўленне, калі на прыступках Добрахна ўбачыла страчаныя рэчы і свайго вернага сабачку. Яна зразумела, што гэта Азор, каб ёй дапамагчы, сам данёс рэчы. Добрахна больш не магла захоўваць таямніцу і з радасцю расказала маці пра незвычайнага і разумнага сябра. Так нечакана высветлілася, што Азор вельмі кемлівы, ведае шмат розных каманд, з таго часу ён заўсёды стаў суправаджаць Даброхну і яе маці, калі яны выходзілі ў горад. Штораз сабачка пацвярджаў адданасць і ўдзячнасць сваёй гаспадыні: "Owoż jak to dobrodziejstwo nigdy nie jest stracone" [Czeczot 1845: 85]. Насуперак чаканням чытачоў, пісьменнік не стаў завяршаць аповед на гэтай аптымістычнай ноце. Далейшае

развіццё сюжэта не мае выразных вузлавых момантаў. Акцэнт змяшчаецца на адлюстраванне складанага жыцця гераіні, поўнага цяжкасцяў, для аўтара было важным падкрэсліць выключную маральную чысціню гераіні, якая, нягледзячы на сваю беднасць, падавала міласціну яшчэ больш няшчасным: “Dobrochna chociaż uboga, była szczęśliwa. Ubóstwo niepozbawiało jej przyjemności udzielania biedniejszym pomocy” [Czeczot 1845: 86]. Фактычна развіццё дзеяння аповесці было скончана вышэй згаданай сентэнцыяй пра дабрачыннасць, таму фінал аповесці з’яўляецца адкрытым: “Reszty powiastki niedostaje, którą łaskawe czytelniczki podług myśli i uczuć swoich dokończyć mogą” [Czeczot 1845: 88].

У адрозненне ад вышэй названых твораў, аповесць *Людгарда, або Карыснае падарожжа*, мае іншую мастацкую прыроду. Аўтар стварае ілюзію дакументальнай дакладнасці матэрыялу, адводзячы сабе сціплую ролю “выдаўца” ліста, у якім маладая гераіня грунтоўна апісвае культуру, побыт і прыроду французскага горада Сэнт-Эцьен. У тэксце прысутнічаюць аўтарскія рэмаркі: “Niemało matek s córkami jeździ za granicę; mało matek i córek przywozi co stamtąd dobrego. Mowa ojczysta skażona, próżna szkatuła, nieco modnych kapeluszy i strojów: oto podarunki przywożone do kraju” [Czeczot 1845: 57]. Пісьменнік выступае супраць наследавання чужым традыцыям і модзе, супраць бяздумнага марнатраўства, для яго падарожжа – гэта найперш выдатная магчымасць даведацца пра чужую культуру і прывезці карысныя веды ў свой край, гэтую ж думку падхопіць і разаўе ў гутарцы *Garść pszenna (Жменя пшаніцы*) Уладзіслаў Сыракомля. Я. Чачот ухваляе Людгарду за цікавасць да звычаяў і побыту французаў:

> Ciągle zajęta staraniem około matki, miała jednak czas przypatrywać się ob.-cym krajom i ludom, zastanawiać się nad ich obyczajami, przemysłem i bytem, i przejęta miłością ziemi ojczystej często udzielała swojej przyjaciółce Aldonie wiadomości nie o modach i zabawach; ale o pożytecznych wynalazkach, kunsztach i rękodziełach, któreby rada była widzieć w swej ojczyznie [Czeczot 1845: 58].

Арыентацыя на адрасата, маладзенькую дзяўчынку Альдону, дазваляе Я. Чачоту адаптаваць складаны жанр падарожжа для дзіцячага ўспрымання: “Kochana Aldono, otożeśmy w Monbrizon. Nim tobie doniosę o tem mieście, chciałabym coś powiedzieć, cośmy widziały w Sę-Etję. Znajdziesz może w mym liście szczegóły mniej potrzebne, ale wszystkie mogą być zajmujące pożytecznie” [Czeczot 1845: 58]. Час ад часу пісьменнік ажыўляе аповед воклічамі тыпу: “Mamyż się dziwić, kochana Aldono?” [Czeczot 1845: 66], “Gdybyś ty droga Aldono widziała” [Czeczot 1845: 71] і г. д.

Я. Чачот ускладняе нарацыйную структуру аповесці: акрамя вобраза аўтара і Людгарды, ён уводзіць у тэкст персанаж жыхара Сэнт-Эцьена пана Сміта, адваката і вучонага. Пан Сміт знаёміць Людгарду з гісторыяй і сучаснасцю горада, а дзяўчынка ў сваю чаргу пераказвае цікавую інфармацыю Альдоне. У творы адлюстроўваюцца рэальны свет і сапраўднае жыццё: конная чыгунка, зброевая фабрыка, школа

гарнякоў, розныя мануфактуры і будынкі. Аўтар не абмінае ўвагай дзіцячую і жаночую працу. Пісьменнік і тут выступае за ўзвышэнне статусу жанчыны, гаворыць пра яе актыўны ўдзел у вытворчасці: "Jakie też było nasze wzruszenie, gdybyśmy ujrzały kobiety, których ręce zdają się być przeznaczone do lżejszych robot, ciągnące zębatą piłę po opierającem się ich usiłowaniom żełezie, albo uderzające częstemi razy w brzękliwe kowadło!" [Czeczot 1845: 68]. Я. Чачот не замоўчвае і праблемы прамысловага горада: цяжкія ўмовы жыцця кавалёў, хваробы працаўнікоў, бруднае паветра:

> Kowale wyrabiający sprzęty żelazne, są w ogólności bardzo niechędóżni, co jest źródłem wielu chorób miejscowych; kowale ci tak niewygodnie mieszkają, mianowicie w niektórych ulicach, iż w jednej małej i brudnej izdebce do dziesiątka osób liczyć ich można. W ogólności powietrze w Sę-Etjenie nie jest czyste, najpospoliciej tumanem dymu napełnione [Czeczot 1845: 74].

Эпісталярная форма дазволіла Я. Чачоту максімальна элімінаваць вобраз аўтара, стварыць ілюзію дзіцячага аповеду пра падарожжа.

Такім чынам, зборнік *Аповесці для маладых дзяўчат* Я. Чачота, натхнёны творчасцю пані дэ Сэнт (Алексіс Эймеры) і К. Гофман з Таньскіх, арганічна ўпісваецца ў парадыгму дзіцячай літаратуры XIX ст. Характэрнымі рысамі аповесцей з'яўляюцца: дыдактызм, біяграфізм, ідэалізацыя галоўнай гераіні і сюжэтная незавершанасць.

Змест і структура зборніка падпарадкоўваюцца асноўнай педагагічнай задачы – дзявочаму выхаванню, фарміраванню высокіх этычных і эстэтычных норм і ідэалаў. Пры стварэнні вобразаў Свянтохны, Любаміры, Даброхны і Людгарды аўтар арыентаваўся на літаратурныя шаблоны, што прадвызначыла некаторы схематызм галоўных гераінь. Адукаваныя, разумныя, добра выхаваныя і набожныя, яны з'яўляюцца эталонам дзявочых паводзінаў.

## Бібліяграфія

[b. a.] *Książki dla dzieci, dla ludu i szkolne*. „Warszawski rocznik literacki". Rok 3. (1873). 1874: 93–95.

Cz…t Jan. 1845. *Powiastki dla młodych dziewcząt naśladowane z dzieła Pani de Set (De Saintes, Delassemens de ma fille, 2 volumes*). Wilno: druk. J. Zawadzkiego.

Campan Jeanne Louise. 1827. *Rady dla młodych dziewcząt*. Warszawa: druk. A. Brzeziny.

Osterloff W. 1893. *Najnowsza literatura*. "Ateneum" t. 2, zeszyt 1: 200–205.

**ABSTRACT**: This article is an attempt to determine Jan Chachot's role in 19th century children's literature. Our main focus is placed on his almost unknown collection *Novels for young girls*, that consists of four novels: *Sventochna, or Gratitude*, *Bogna and Lubomyra, or Arrogance and Modesty*, *Ludgarda, or the Useful travel*, *Dobrochna, or Charity always memorable*. Their main characters are clever, beautiful, industrious, well-educated girls, who are veritable models of piety, charity and chastity. The basic theme of novels is the girl girls'world, related to their role in the family and society. Jan Chachot used the experience of his predecessors, adopting some of their ideas. As opposed to previous epochs, where

the role of women was limited to their domestic duties and unqualified work, and female education was considered unnecessary and even harmful, Jan Chachot emphasizes that they can not only serve their family, but also be useful to society.

**KEYWORDS:** children's literature of 19th century, moral story, ethical ideal, moral standard, Jan Chechot.

**STRESZCZENIE**: Artykuł poświęcony jest określeniu roli Jana Czeczota w literaturze dla dzieci XIX wieku. Główna uwaga zostaje skierowana na niezbadane dzieło *Powiastki dla młodych dziewcząt naśladowane z dzieła Pani de Sęt (De Saintes, Delassemens de ma fille, 2 volumes* ), które obejmuje cztery utwory: *Świętochna albo Wdzięczność*, *Bogna i Lubomira albo Duma i Skromność*", *Luidgarda albo Podróż pożyteczna*, *Dobrochna albo Dobrodziejstwo zawsze pamiętnie*. Ich bohaterki to inteligentne, piękne, pracowite, wykształcone dziewczyny, które są prawdziwymi wzorcami pobożności, miłości i czystości. Tematem przewodnim dzieła są doświadczenia i zainteresowania dziewcząt, związane z kwestią określania miejsca i roli w rodzinie i społeczeństwie. Jan Czeczot wykorzystał doświadczenia swoich poprzedników, zapożyczając od nich konflikty fabularne i pewne idee. W przeciwieństwie do poprzednich epok, w których rola kobiety była ograniczona obowiązkami rodzinnymi i pracą nisko wykwalifikowaną, a wykształcenie kobiet uważano za zbędne, a nawet szkodliwe, Jan Czeczot podkreśla, że kobiety mogą służyć nie tylko rodzinie, ale także przynosić pożytek społeczeństwu.

**SŁOWA KLUCZOWE:** literatura dla dzieci XIX wieku, powiastka moralna, ideał etyczny, norma moralna, Jan Czeczot.

**РЭЗЮМЭ**: Артыкул прысвечаны вызначэнню ролі Яна Чачота ў дзіцячай літаратуры XIX стагоддзя. Асноўная ўвага была звернута на амаль недаследаваны зборнік *Аповесці для маладых дзяўчат*, які складаецца з чатырох твораў: *Святохна, або Удзячнасць*, *Богна і Любаміра, або Пыха і Сціпласць*, *Людгарда, або Карыснае падарожжа*, *Даброхна, або Дабрачыннасць заўсёды памятная*. Іх галоўныя гераіні – разумныя, прыгожыя, працавітыя, адукаваныя дзяўчаты, якія з'яўляюцца сапраўдным узорам набожнасці, дабрачыннасці і цноты. Асноўная тэма твораў – свет дзявочых перажыванняў і інтарэсаў, звязаных з праблемай вызначэння месца і ролі ў сям'і і грамадстве. Я. Чачот выкарыстоўваў досвед сваіх папярэднікаў, запазычаючы ў іх сюжэтныя калізіі і некаторыя ідэі. У адрозненне ад папярэдніх эпох, дзе роля жанчыны (асабліва з ніжэйшых слаёў) абмяжоўвалася сямейнымі абавязкамі і нізкакваліфікаванай працай, а жаночая адукацыя лічылася непатрэбнай і нават шкоднай, Я. Чачот падкрэслівае, што дзяўчаты могуць не толькі служыць сям'і, але і прыносіць карысць грамадству.

**КЛЮЧАВЫЯ СЛОВЫ:** дзіцячая літаратура XIX стагоддзя, маральная аповесць, маральна-этычны ідэал, Ян Чачот.

*Matar�ly da praektu pragramy Belaruskaga Narodnaga Frontu „Adradžèn'ne"*. 1989. „Belarus" № 362: 7 [*Матар�лы да праекту праграмы Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне"*. 1989. „Беларус" № 362: 7].

*Microsoft pryznala belaruskuû movu*. 2004. „Belarus" № 499 [*Microsoft прызнала беларускую* мову. 2004. „Беларус" № 499 (online) http://www.bielarus.org/open.php?n=499&a=2].

*Mìtr. Fìlarèt pra peraklad Bìblìì*. 1991. „Bielarus" № 355: 4 [*Мітр. Філарэт пра пераклад Бібліі*. 1991. „Беларус" № 355: 4].

*Mova, adukacyâ ì „bâzgluz'dzìca"*. 1992. „Belarus" № 392: 10 [*Мова, адукацыя і „бязглузьдзіца"*. 1992. „Беларус" № 392: 10].

*Mova: na šlâhu da dzâržaŭnas'cì*. 1989. „Bielarus" № 365: 7 [*Мова: на шляху да дзяржаўнасьці*. 1989. „Беларус" № 365: 7].

*Naladžvajma suvâz' z TBM!*. 1989. „Bielarus" № 361: 3 [*Наладжвайма сувязь з ТБМ!*. 1989. „Беларус" № 361: 3].

Nâmìga G. 1982. *Moŭnyâ hìby ŭ našym druku*. „Bielarus" № 301–302: 6 [Няміга Г. 1982. *Моўныя хібы ў нашым друку*. „Беларус" № 301–302: 6].

Paz'nâk Zânon. 2004. *Mova – gìstoryâ – dzâržava*. „Bielarus" № 495 [Пазьняк Зянон. 2004. *Мова – гісторыя – дзяржава*. "Беларус" № 495: [online] http://www.bielarus.org/open.php?n=49 5&a=12].

Paz'nâk Zânon. 2008. *Systèmnae razburèn'ne movy*. „Bielarus" № 548: 4, 7 [Пазьняк Зянон. 2008. *Сыстэмнае разбурэньне мовы*. "Беларус" № 548: 4, 7].

Paz'nâk Zânon. 2010. *„Šanujce ž movu našu, belaruskuû…"*. „Bielarus" № 569: 1–2, 7 [Пазьняк Зянон. 2010. *„Шануйце ж мову нашу, беларускую…"*. „Беларус" № 569: 1–2, 7].

*Partyâ admaŭlâe prablemu movy*. 1987. „Bielarus" № 335: 7 [*Партыя адмаўляе праблему мовы*. 1987. „Беларус" № 335: 7].

*Perahod armìì na belaruskuû movu*. 1992. „Bielarus" № 392: 11 [*Пераход арміі на беларускую мову*. 1992. „Беларус" № 392: 11].

*Postup belarusìzacyì*. 1989. „Bielarus" № 361: 3 [*Поступ беларусізацыі*. 1989. „Беларус" № 361: 3].

*Prèstyžnaâ mova*. 2002. „Bielarus" № 475: 4 [*Прэстыжная мова*. 2002. „Беларус" № 475: 4].

*„Roŭnas'c'" movaŭ u BSSR. Belaruskaj ì rasejskaj*. 1988. „Bielarus" № 353: 8 [*"Роўнасьць" моваў у БССР. Беларускай і расейскай*. 1988. „Беларус" № 353: 8].

Saŭka Z'mìcer. 1998. *Neŭrègulâvanyâ vypadkì pravapìsu*. „Bielarus" № 456: 5 [Саўка Зьміцер. 1998. *Неўрэгуляваныя выпадкі правапісу*. „Беларус" № 456: 5].

*Spravavodstva pa-belarusku*. 2009. „Bielarus" № 559: 3 [*Справаводства па-беларуску*. 2009. „Беларус" № 559: 3].

Strawińska Małgorzata. 2009. *Problematyka językowa na łamach emigracyjnej gazety „Biełarus"*. Praca magisterska napisana pod kierunkiem naukowym prof. UW dr hab. N. Barszczewskiej. Warszawa: KB UW.

*Sudzâc' belaruskuû movu*. 1998. „Bielarus" № 456: 1 [*Судзяць беларускую мову*. 1998. „Беларус" № 456: 1].

*Suprac' moŭnaj dyskrymìnacyì*. 1996. „Bielarus" № 437: 4 [*Супраць моўнай дыскрымінацыі*. 1996. „Беларус" № 437: 4].

Survìlla Ìvonka. 2009. *ZVAROT da nastaŭnìkaŭ Belarusì z nagody pačatku navučal'naga godu*. „Bielarus" [Сурвілла Івонка. 2009. *ЗВАРОТ да настаўнікаў Беларусі з нагоды пачатку навучальнага году*. „Беларус" № 560: 1].

Sân'kevìč V. 1981. *Da pytan'nâ geagrafìčnyh nazovaŭ Belarusì*. „Bielarus" № 288: 3 [Сяньkевіч В. 1981. *Да пытаньня геаграфічных назоваў Беларусі*. „Беларус" № 288: 3].

Tamušanskì R. *Pol'skaâ sproba belaruskaga malìtoǔnìka*. 1991. „Bielarus” № 380: 8 [Тамушанскі Р. *Польская спроба беларускага малітоўніка*. 1991. „Беларус” № 380: 8].

*Taraškevìcu zabaronâc'*. 2008. „Bielarus” № 546: 3 [*Тарашкевіцу забароняць*. 2008. „Беларус” № 546: 3].

Vasìleǔskì Ales'. 1987. *Abarona belaruskae movy ǔ BSSR – ne pra ǔsë gavorycca*. „Bielarus” № 333: 1. [Васілеўскі Алесь. 1987. *Абарона беларускае мовы ў БССР – не пра ўсё гаворыцца*. „Беларус” № 333: 1].

Vâčorka Vìncuk. 1992. *Stan belaruskaga škol'nìctva na žnìven' 1992 g.* „Bielarus” № 394: 2. [Вячорка Вінцук. 1992. *Стан беларускага школьніцтва на жнівень 1992 г.* „Беларус” № 394: 2].

Vâčorka Vìncuk. 2008. *PROIECTVS*. „Bielarus” № 551: 4 [Вячорка Вінцук. 2008. *PROIECTVS*. „Беларус” № 551: 4].

*Za belaruskamoǔnae afarmlen'ne garadoǔ*. 1989. „Bielarus” № 355: 3 [*За беларускамоўнае афармленьне гарадоў*. 1989. „Беларус” № 355: 3].

Zagorny Arsen'. 1980. *Žadan'ne žyharoǔ Mensku što da svae movy*. „Bielarus” № 278: 4–5 [Загорны Арсень. 1980. *Жаданьне жыхароў Менску што да свае мовы*. „Беларус” № 278: 4–5].

Zaprudnìk Ânka. 1987. *Mova ì ǔlada*. „Bielarus” № 334: 1 [Запруднік Янка. 1987. *Мова і ўлада*. “Беларус” № 334: 1].

Zaprudnìk Ânka. 1988. *Malìtva, rozum ì rodnaâ mova*. „Bielarus” № 348: 4 [Запруднік Янка. 1988. *Малітва, розум і родная мова.* „Беларус” № 348: 4].

Zaprudnìk Ânka. 1989. *Mìtrapalìt Fìlarèt ì belaruskaâ mova*. „Bielarus” № 361: 3 [Запруднік Янка. 1989. *Мітрапаліт Філарэт і беларуская мова.* „Беларус” № 361: 3].

*Zmagan'ne za svaû školu ǔ Mensku*. 1987. „Bielarus” № 341: 3 [*Змаганьне за сваю школу ў Менску*. 1987. “Беларус” № 341: 3].

*Z'nìščèn'ne padručnìkaǔ*. 1996. „Belarus”: 4 [*Зьнішчэньне падручнікаў*. 1996. „Беларус”: 4].

Žuk-Gryškevìč Raìsa. 1992. *Belaruskaâ mova ǔ katalìckìh s'vâtynâh u Belarusì*. „Bielarus” № 389: 2 [Жук-Грышкевіч Раіса. 1992. *Беларуская мова ў каталіцкіх сьвятынях у Беларусі*. „Беларус” № 389: 2].

**ABSTRACT:** The "Belarus" monthly deals with social, political and religious problems, as well as the issues of the Belarusian language and the national identity of Belarusians. From over 180 publications between 1980 and 2010, we have analyzed selected articles addressing the issues of bilingualism in Belarus and related problems like the Russification of the Belarusian language, its place in the education system and in the religious life of Belarusians, as well as the relationship between the mother tongue and the Belarusian national identity. After reviewing these articles, it appears that the native language was and still is an important element of national identity for journalists. They took on an educational role, presenting the history of the Belarusian language and its impact on the development of the national identity of Belarusians, and thus encouraging readers to use the Belarusian language in everyday life.

**KEYWORDS:** Belarusianization, bilingualism, discrimination, education, Russification, identity**.**

**STRESZCZENIE:** Miesięcznik „Biełarus” porusza problemy społeczne, polityczne, religijne, a także zagadnienia języka białoruskiego i tożsamości narodowej Białorusinów. Spośród ponad 180 publikacji z lat 1980–2010 analizie poddano wybrane artykuły poruszające kwestie bilingwizmu na Białorusi i związane z tym problemy rusyfikacji języka białoruskiego, jego miejsca w systemie edukacji oraz w ducho-

wym życiu Białorusinów, a także zależności między językiem ojczystym a świadomością narodową. Z oglądu tych artykułów wynika, że dla publicystów gazety język ojczysty był i jest ważnym elementem tożsamości narodowej. Wzięli oni na siebie rolę edukacyjną, prezentując historię języka białoruskiego i jego wpływ na rozwój świadomości narodowej Białorusinów oraz zachęcając w ten sposób czytelników do posługiwania się językiem białoruskim w życiu codziennym.

**SŁOWA KLUCZOWE:** białorutenizacja, dwujęzyczność, dyskryminacja, edukacja, rusyfikacja, tożsamość.

**РЭЗЮМЭ:** Штомесячнік „Беларус” закранае грамадскія, палітычныя, рэлігійныя праблемы, а таксама пытанні беларускае мовы і нацыянальнае тоеснасці беларусаў. Сярод звыш 180 публікацый за 1980–2010 гг. аналізуюцца выбраныя артыкулы, у якіх закранаюцца пытанні білінгвізму ў Беларусі і звязаныя з гэтым праблемы русіфікацыі беларускае мовы, яе месца ў адукацыйнай сістэме ды ў духоўным жыцці беларусаў, а таксама залежнасці паміж роднаю мовай і нацыянальнай свядомасцю. Аналіз гэтых артыкулаў паказвае, што для публіцыстаў газеты родная мова з'яўляецца важным элементам нацыянальнае тоеснасці. Выконвалі яны адукацыйную ролю, паказваючы гісторыю беларускае мовы і яе ўплыў на станаўленне нацыянальнае тоеснасці і заахвочваючы гэтым сваіх чытачоў да ўжывання роднае мовы ў штодзённым жыцці.

**КЛЮЧАВЫЯ СЛОВЫ:** беларусізацыя, білінгвізм, дыскрымінацыя, адукацыя, русіфікацыя, тоеснасць.

**ACTA ALBARUTHENICA 20: 2020**
DOI: 10.32612/uw.18988091.2020.20.pp.145–157

**Ірына Гапоненка / Iryna Gaponenko**
Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт / Belarusian State University
ORCID: https://orcid.org/0000-0003-4082-447X
e-mail: haponienka@bsu.by

# Адлюстраванне беларуска-польскіх моўна-культурных сувязей у беларускіх антрапанімічных тэкстах XIX ст.

*Reflection of Belarusian-Polish linguistic and cultural ties in anthroponymic texts of the XIX century*

*Odbicie białorusko-polskich związków językowych i kulturowych w białoruskich tekstach antroponimicznych XIX wieku*

Тэарэтычныя гарызонты сучаснай лінгвістыкі істотна пашыраюцца за кошт таго, што, згодна з найноўшымі камунікатыўна-пазнавальнымі задачамі, фарміруюцца патрабаванні вывучэння мовы не толькі як сістэмы, але і як дзейнасці. Адпаведна, актуальнасць набываюць даследаванні, у якіх разглядаюцца не проста суадносіны ўнутрысістэмных адзінак, але і сувязі сістэм з пазамоўнай рэальнасцю. У выніку асаблівае месца ў навуковай лінгвістычнай парадыгме адводзіцца міждысцыплінарнасці – лінгвістыка прыходзіць да неабходнасці вывучэння мовы ва ўсёй разнастайнасці яе знешніх сувязей, усё больш захоплівае сумежныя даследчыя вобласці і пачынае інтэгравацца з разнастайнымі гуманітарнымі галінамі ведаў, зыходзячы з фактару агульнасці вырашаемых праблем. Акрамя таго, характэрнай рысай сучасных лінгвістычных даследаванняў становіцца антрапацэнтрызм, калі ўвага пераключаецца з аб’екта на суб’ект пазнання і аналізуецца чалавек у мове і мова ў чалавеку.

Павышэнне ўвагі да функцыянальна-камунікатыўнага аспекту ў вывучэнні мовы і выразная антрапацэнтрычная арыентацыя “непазбежна прывялі да выяўлення камунікатыўнай адзінкі вышэйшага парадку. Такой адзінкай з’яўляецца тэкст” [Валгина 2002].

З канца XX ст. тэкст становіцца сталым аб’ектам філалагічных даследаванняў, з’яўляецца нават самастойны, дакладна акрэслены кірунак лінгвістычных даследаванняў – лінгвістыка тэксту. Паводле Алены Беразовіч, адбываецца свайго роду “штурм” праблемы тэксту, абумоўлены тым, што “ў тэксце “растворaны” яго творца – чалавек з яго прасторава-часавымі арыенцірамі, каштоўнаснымі ўстаноўкамі і пад.” [Березович 1995: 86].

Прыкладна з 80-х гадоў XX ст. паняцце тэксту пачынае ўжывацца і ў дачыненні да анамастычнага матэрыялу. У прыватнасці тэрмін *антрапанімічны тэкст* уключаны ў рэестр 2-га выдання *Словаря русской ономастической терминологии* Наталлі Падольскай 1988 года (у 1-ым выданні 1978 года яно яшчэ адсутнічае) з наступным азначэннем: "антрапанімічны тэкст – тэкст, у якім пераважаюць антрапонімы, аб'яднаныя ў маўленчыя паслядоўнасці і якія спалучаюцца з абавязковымі або факультатыўнымі апелятыўнымі кампанентамі" [Подольская 1988: 34]. У якасці прыкладаў такіх тэкстаў у слоўніку прыводзяцца вайсковыя рэестры, рэкруцкія спісы, раздатачныя ведамасці, памінальныя кнігі і пад.

Неабходна адзначыць, што ў адносінах да анамастыкі прымяненне паняцця *тэкст* выглядае некалькі спрэчным. У лінгвістыцы на сёння існуе мноства азначэнняў тэксту (паводле падлікаў Юрыя Сарокіна, налічваецца больш за 250 адпаведных дэфініцый), у якіх акрэсліваюцца розныя наборы тэкставых прымет, зыходзячы найперш з пастулатаў той навукі, прадстаўніком якой з'яўляецца даследчык, а таксама з яго навуковых поглядаў, прыхільнасцяў, канцэпцый у разуменні прыроды мовы, маўлення і чалавека [гл. Уракова 2007: 65]. На наш погляд, найбольш універсальнае азначэнне паняцця *тэкст* належыць Іллі Гальперыну, дзе выяўлены асноўныя функцыянальныя і анталагічныя прыметы тэкставага феномена:

> Тэкст – гэта твор маўленчатворчага працэсу, які валодае завершанасцю, аб'ектываваны ў выглядзе пісьмовага дакумента, літаратурна апрацаваны ў адпаведнасці з тыпам гэтага дакумента, твор, які складаецца з назвы (загалоўка) і шэрагу асобых адзінак (звышфразавых адзінстваў), аб'яднаных living рознымі тыпамі лексічнай, граматычнай, лагічнай і стылістычнай сувязі, які мае пэўную мэтанакіраванасць і прагматычную ўстаноўку [Гальперин 1981: 18].

У гэтым азначэнні, як, дарэчы, і ў абсалютнай большасці іншых фармулёвак, у якасці базавых патрабаванняў да тэксту ўказваецца найперш звязнасць (што зразумела нават этымалагічна, бо само слова *тэкст* паходзіць ад лацінскага *textum,* што азначае тканіну, сплячэнне, злучэнне), сэнсавая завершанасць, а таксама аднесенасць пераважна да камунікатыўна-маўленчай сферы.

Прымяненне ж ідэі тэксту да анамастыкі ўяўляе вялікія складанасці, бо "прастора ўласных імёнаў традыцыйна разглядаецца як дыскрэтная, якая не валодае адной з асноўных уласцівасцей тэксту – уласцівасцю звязнасці" [Березович 1995: 86].

Тым не менш сістэматызаваныя пералікі анамастычных (антрапанімічных у прыватнасці) адзінак вызначаюцца шэрагам істотных катэгарыяльных прымет, уласцівых тэксту. Так, паслядоўна размешчаныя антрапанімічныя фрагменты ўтрымліваюць такія функцыянальныя характарыстыкі, як вербальная і знакавая фіксацыя, упарад-

каванасць, члянімасць, антрапацэнтрычнасць, лакальна-тэмпаральная аднесенасць, прагматычная скіраванасць, здольнасць захоўваць інфармацыю і рэалізоўваць камунікатыўныя задачы па канстатацыі, абагульненні і параўнанні пэўных фактаў і даных (выбар характарыстык на падставе наступных работ: [Уракова 2007: 64; Акимова 2016: 11]). Паводле названых паказчыкаў, сутнасць паняцця *антрапанімічны тэкст* у агульных рысах можа быць апісана з прымяненнем такога азначэння: тэкст – "структураванае па тых ці іншых законах адзінства моўных элементаў, якія служаць для перадачы зместу ў адпаведнасці з мэтамі камунікацыі" [Акимова 2016: 11].

Гэта дае падставы навукоўцам кваліфікаваць іменалагічныя пералікі ў складзе крыніц дакументальна-спісачнага тыпу не проста як каталог, а як своеасаблівыя сістэмныя ўтварэнні і тэкставыя ўзоры. Такой думкі прытрымліваецца Леанід Шчацінін, які сцвярджае, што

> ў камунікатыўных адносінах кампаненты аднаго спіса аб'яднаныя задачай даць інфармацыю пра прыналежнасць усіх рэферэнтаў, якія абазначаны антрапонімамі, да пэўнай катэгорыі асоб <...>. Звязнасць антрапанімічнага тэксту дасягаецца адзінствам камунікатыўнай задачы, рэферэнцыйнай аднароднасцю, сінтаксічным дапасаваннем антрапанімічных кампанентаў, стэрэатыпнай структурай прэдыкатыўнай часткі спіса, графічным уніфармізмам і, як правіла, рэгулярнасцю антрапанімічнай формулы [Щетинин 1980: 163].

Усё вышэйсказанае пераконвае, што ёсць падставы лічыць антрапанімічны тэкст рэальна існуючым даследчым аб'ектам і ўключаць яго вывучэнне ў навуковую парадыгму лінгвістыкі тэксту і лінгвістыкі ўвогуле.

Антрапанімічны тэкст выступае як шматмерны аб'ект, з'яўляецца культурным і моўным знакам [гл. Акимова 2016: 13]. Ён фактычна існуе не ў гэтым часе, а ў зварачальным семіятычным часе – прасторы культуры [гл. Акимова 2016: 9]. А паколькі "феномен пералічэння выяўляе самую цесную сувязь з культурай і памяццю" [Васильева 2018: 99], тэкст, які складаецца з шэрагу аднародных кампанентаў-онімаў, можа працаваць як "генератар сэнсаў" (паводле Эльвіры Акімавай), нярэдка не звязаных напрамую з чыста анамастычнай інфармацыяй.

Па гэтай прычыне анамасты, як правіла, даследуюць антрапанімічныя тэксты не столькі з мэтай дакладнага вызначэння яго спецыфікацыі, колькі ў якасці крыніцы важнага анамастычнага і моўна-гістарычнага матэрыялу (гл., напрыклад, работы Л. Шчацініна і Марыянны Парзулавай [Щетинин 1980; Парзулова 2005]). Пры гэтым істотнае значэнне мае той факт, што антрапонімы, зыходзячы з асаблівасцей іх развіцця і функцыянавання, "служаць люстэркам былых часоў" і

> выконваюць задачу адлюстравання грамадскай свядомасці ў пэўныя перыяды яе развіцця больш поўна і спецыялізавана, чым любыя іншыя

> асобна ўзятыя прадметна-лагічныя і страявыя групы слоў у мове. Нацыянальная антрапанімія захоўвае ў сваёй памяці шырокія звесткі аб асаблівасцях сацыяльнай арганізацыі, эканамічным развіцці, культуры, этнаграфіі грамадства, для абслугоўвання якога яна ўтварылася [Щетинин 1996: 14].

У сістэматызаваных антрапанімічных спісах гэтыя якасці толькі ўзмацняюцца, бо "дапаўняючы адно аднаго, тысячы прозвішчаў аднаго гістарычнага арэалу ўтвараюць шырокую панараму эпохі, у якой адбывалася іх станаўленне і развіццё" [Щетинин 1996: 14].

На сённяшні дзень у анамастыцы ў асноўных рысах складзена тыпалогія антрапанімічных тэкстаў. Розныя даследчыкі падзяляюць іх на *натуральныя* (бытавыя і дакументальныя, у якіх складальнік пазбаўлены свабоды выбару пры адборы антрапанімічных адзінак, хоць і мае магчымасць адвольнага выбарачнага рэдагавання) і *штучныя* (літаратурныя), *уласна антрапанімічныя* (якія складаюцца з антрапонімаў, больш ці менш шырока дапоўненых апелятыўнымі адзінкамі) і *квазіантрапанімічныя* (якія ўключаць антрапонімы ў якасці *conditio sine qua non* (неабходнай умовы), напрыклад, метрычныя запісы, купчыя крэпасці, спісы дзеючых асоб у п'есах і пад.) [гл. Васильева 2018: 91–92; Смольников 2014: 121].

Для аналізу мы выкарысталі натуральны ўласна антрапанімічны тэкст дакументальна-спісачнага тыпу, бо спісы з усёй разнастайнасці антрапанімічных дакументаў адносяцца да ліку найбольш насычаных анамастычным матэрыялам формаў, якія маюць выражаныя знешнія і ўнутраныя характарыстыкі [гл. Щетинин 1996: 26]. Да таго ж спісы першасныя (натуральныя) у адрозненне ад другасных (штучных, часам аўтарскіх спісаў) пазбаўлены суб'ектывізму пры адборы тэкставых адзінак, а таксама валодаюць такімі недакладнымі, але істотнымі прыметамі "як водар эпохі, спантаннасць і часавая неперарыўнасць творчага акта, а таксама адзінства мэты запісу і аднастайнасць рэферэнтаў" [Щетинин 1996: 45].

Факталагічнай крыніцай у нашым даследаванні паслужыла наступнае выданне: *Опытъ описанія Могилевской губерніи въ историческомъ, физико-географическомъ, этнографическомъ, промышленномъ, сельскохозяйственномъ, лѣсномъ, учебномъ, медицинскомъ и статистическомъ отношеніяхъ*. Въ трехъ книгахъ. Составленъ по программѣ и под редакціею предсѣдателя Могилевского статистическаго комитета А.С. Дембовецкого (Могилевъ на Днѣпрѣ, 1882–1884 гг.), а менавіта кніга 3 (1884 г.), у якой на с. 45–259 змешчаны дадатак з выразнымі адзнакамі антрапанімічнага тэксту, а менавіта *Алфавитный список землевладѣльцамъ, по уѣздамъ, за 1882 годъ: вѣроисповѣданіе владѣльца, названіе имѣнія, количество земли по угодьямъ, право*

*владѣнія, къмъ управляется имѣніе, оброчныя статьи и доходъ съ нихъ*[1].

Паводле меркаванняў навукоўцаў, антрапанімічны тэкст, прыдатны для атрымання гістарычнай і антрапанімічнай інфармацыі, павінен валодаць наступнымі характарыстыкамі: а) колькасць аднафункцыянальных адзінак, уключаных у спіс, павінна быць дастатковай для яго анамастычнай ацэнкі і супастаўляльнай з агульнай колькасцю імёнаў такога тыпу, якія існуюць у адпаведны перыяд у адпаведным арэале; б) мэта складання спіса павінна вынікаць з яго тытула або лёгка ўзнаўляцца па ўскосных сведчаннях; в) спіс павінен быць аднамэтавым, г. зн. ён павінен быць складзены па адным асноўным параметры або лёгка вызначальнай камбінацыі параметраў [гл. Щетинин 1996: 44]. На наш погляд, абраны намі тэкст цалкам адпавядае гэтым крытэрыям. Прэзентатыўны антрапанімічны матэрыял разглядаемага перыяду прадстаўлены таксама ў іншых выданнях (гл., напрыклад, даведнікі Дзмітрыя Дразда *Землевладельцы Минской губернии, 1861–1900*, 2010, *Землевладельцы Минской губернии, 1900–1917*, 2013, выданне *Список шляхетских фамилий*, 2016, створанае пад патранажам Мінскага аб'яднання спадчыннікаў шляхты і дваранства, і інш.), але ўсе яны складзены шляхам аўтарскай выбаркі ўжо ў наш час і таму, як нам здаецца, некалькі прайграюць аўтэнтычнаму спісу XIX ст. па параметры аб'ектыўнасці пры адборы рэестравых адзінак. Істотна таксама, што аналізуемы намі тэкст, акрамя аб'ёмнай намінатыўнай часткі (непасрэдны антрапанімічны шэраг), мае разгорнутую экспліцытна рэалізаваную прэдыкатыўную частку (суправаджальныя паметы да антрапанімічных намінацый). Гэтыя тэкставыя фрагменты дакладна суаднесеныя паміж сабой, і іх узаемадапаўняльнасць значна павышае ступень інфарматыўнасці ўсяго антрапанімічнага тэксту.

Разглядаемы тэкст адносіцца да ліку афіцыйных дакументальных крыніц, адпаведна асабовыя найменні жыхароў беларускіх тэрыторый ў ім аформлены паводле рускіх пісьмовых канонаў, паколькі ва ўмовах дзяржаўнасці рускай мовы афіцыйны запіс уласных імёнаў грамадзян Імперыі праводзіўся выключна на рускай мове.

Уласна намінатыўная частка прааналізаванага тэксту складаецца з асабовых мужчынскіх і жаночых іменаванняў у афіцыйнай форме. Найчасцей іменалагічная формула трохкампанентная, напрыклад: *Александровичъ Тимофей Николаевъ, Бартоломей Александръ Федоровъ, Венцлавовичъ Станиславъ Онуфріевъ, Войно Осипъ Петровъ, Голощаповъ Петръ Ильинъ, Ивановъ Димитрий Ивановъ, Игнаціусъ Александръ Михайловъ, Казановичъ Арсеній Васильевъ, Морачевскій Михаилъ Михайловъ, Ракузо Николай Кузьминъ; Альбреховичъ Емилія*

[1] Выданне даступнае па спасылцы http://elib.shpl.ru/ru/nodes/16564-kn-3-1884#mode/inspect/page/94/zoom/4.

*Юрьевая, Бурачкова Марія Осипова, Гонипровская Каролина Карпова, Зубовічъ Михалина Казимирова, Мирецкая Анна Петрова, Потулицкая-Войбунъ Марія Станиславова, Щербо Лукерія Иванова.* Формула складаецца з асабовага імя, прозвішча і імя па бацьку. Патронімы пры гэтым маюць некалькі нязвыклы для сучаснага чытача выгляд – яны ўтвораны з выкарыстаннем фарманта *-ов(а)* [*-ев(а)*] і *–ин(а)* [*-ын(а)*]. Мужчынскія найменні ў параўнанні з жаночымі ў тэксце больш частотныя, але колькасны разрыў ужо не настолькі вялікі, як, напрыклад, у XVI–XVIII стст., калі пазбаўленая юрыдычных правоў жанчына надзвычай рэдка ўпаміналася ў дакументах. Юрыдычна-прававыя паперы афармляліся на мужчыну – галаву сям'і, адпаведна жанчына як юрыдычны суб'ект ідэнтыфікавалася толькі ў асобных выпадках.

Зафіксаваныя таксама і выпадкі двучленнай формулы іменавання (без выкарыстання імя па бацьку). Пры гэтым прасочваецца выразная сацыяльная дыферэнцыяцыя найменняў, паколькі, як вынікае з прэдыкатыўнай часткі тэксту, іменаваннямі такога тыпу называліся асобы, якія знаходзіліся на ніжніх прыступках грамадскай іерархіі: *Алексѣевъ Егоръ* и *Яковъ*, крест., *Андреевъ Евфимъ,* крест., *Илиничъ Василій*, мѣщ., *Онуфріевъ Аріонъ*, крест., *Корнѣевъ Павелъ*, крест., *Радіоновъ Яковъ*, крест., *Семеновъ Афанасій*, крест., *Тереховъ Андрей*, крест., *Туръ Захаръ*, мѣщ., *Усевичъ Егоръ*, мѣщ., але *Ероховъ Александръ Антоновъ*, крест., *Кушнеровъ Θеодоръ Евфимовъ,* мѣщ. Матэрыял такім чынам сведчыць, што яшчэ нават у канцы XIX ст. імёны па бацьку (а таксама іх формы) выконвалі не толькі функцыю дыферэнцыяцыі асобы, але ў тым ліку (а, магчыма, і ў першую чаргу) функцыю своеасаблівага маркёра, а менавіта дадаванне да імя імені па бацьку сведчыла пра высокі грамадскі статус чалавека.

Пералічаныя асаблівасці функцыянавання беларускай антрапанімічнай сістэмы XIX ст. відавочныя пры першасным праглядзе тэксту. У ходзе больш падрабязнага аналізу шляхам карэлявання фактаў з антрапанімічнай і прэдыкатыўнай частак можна атрымаць інфармацыю, так бы мовіць, другога слоя глыбіні [Щетинин 1980: 166]. Так, вывучэнне складу асабовых імёнаў з антрапанімічнай формулы дае магчымасць прасачыць наяўнасць і спецыфіку беларускіх-польскіх моўна-культурных сувязей.

Як вядома, у працэсе складвання беларускага іменніка гістарычна адыгралі ролю дзве іменаслоўныя традыцыі – праваслаўная і каталіцкая, што матывавалася знаходжаннем Беларусі на руска-польскім этна-культурным і рэлігійным сумежжы і распаўсюджанасцю на беларускіх землях дзвюх канфесій хрысціянскай рэлігіі – праваслаўя і каталіцызму. Вынікам такой сітуацыі стала тое, што аснову беларускага іменаслову, гэтак жа як рускага і польскага, склалі імёны, што прынята называць хрысціянскімі, кананічнымі або каляндарнымі. Аднак, калі ў польскім іменаслове паслядоўна рэалізавалася каталіцкая іме-

наслоўная сістэма, а ў рускім – праваслаўная, то спецыфіка беларускага іменаслова заключалася ў тым, што ён ўяўляў сабой спалучэнне элементаў абедзвюх сістэм. Многія беларускія і замежныя даследчыкі (Мікалай Бірыла, Ганна Мезенка, Ганна Усціновіч, Лілія Цітка і інш.) фіксуюць факты ўжывання ў беларускіх пісьмовых крыніцах каталіцкіх *(Францішек, Тодар, Тадэуш, Зыгмунт, Ежы, Тэофіль, Винцэнты, Ромуальд)* і праваслаўных *(Іоанн, Іларыён, Евфимий, Парфён, Юрый, Герасим, Семён, Нікалай)* як мінімум з XIV ст.

Змешаны склад беларускага антрапанімікона захаваўся і ў перыяд Расійскай імперыі. У разгледжанай намі дакументальнай крыніцы склад афіцыйнага іменніка вызначаўся спалучэннем кампанентаў з розных хрысціянскіх календароў. Побач з праваслаўнымі імёнамі *Алексѣй, Владимиръ, Ермилій, Діомидъ, Захарій, Кондратъ, Каллиникъ, Прокофій, Филиппъ, Ѳеофилъ; Дарія, Домникія, Евфимія, Зинаида, Леонида, Наталія, Олимпіада, Петрунеля, Ульяна, Ѳекла* рэгулярна фіксуюцца імёны з каталіцкага календара *Витольдъ, Владиславъ, Каетанъ, Карлъ, Казимиръ, Людвигъ, Эдмундъ, Януш; Адольфина, Евелина, Изабелла, Камилія, Луиза, Людвига, Моника, Терезія, Фердинанда, Ядвига.*

Прычым, можна меркаваць, што наданне ўласнага імя ў даследуемы перыяд не было адвольным. Вядучым фактарам пры гэтым была прыналежнасць асобы да пэўнай канфесіі. У разглядаемым спісе землеўласнікаў па паветах спецыфічныя каталіцкія і праваслаўныя імёны фактычна дакладна размяжоўваюцца паводле веравызнання сваіх носьбітаў. Выпадкі, калі чалавек праваслаўнага веравызнання мае імя з каталіцкага іменніка, літаральна лічаныя: *Констанція Іосифова, Людвига Аврамова, Люція Осипова, Терезія Антонова, Терезія Осипова, Эмилія Васильева.* Паколькі гэта жаночыя іменаванні, то можна меркаваць, што заканамерная суаднесенасць паміж вызнаванай рэлігіяй і характэрнай формай імя парушылася ў выніку пераходу жанчын-каталічак у праваслаўе падчас шлюбу з прадстаўнікамі праваслаўнай канфесіі.

Адзначаецца таксама наступны цікавы факт. Нязменнымі ў гэтых спісах, як правіла, заставаліся толькі тыпова каталіцкія імёны, якія не мелі праваслаўных адпаведнікаў (*Доминик, Казимер, Ромуальд, Феликсъ, Франц, Цезарій, Эдмундъ, Эдуардъ, Аделія, Емилія, Изабелла, Іозефина, Мальвина, Моника, Регина, Форнуната*). Калі ж для каталіцкага імя можна было знайсці аналаг у праваслаўным календары, то яно запісвалася па-руску. Так, з’явіліся ў запісах каталікі *Василій* (ад каталіцкага *Базыль*), *Гавріилъ* (ад *Габриель*), *Иванъ* (ад *Ян*), *Николай* (ад *Міколай*), *Иосифъ* (ад *Юзэф*), *Михаилъ* (ад *Михал*), *Яковъ* (ад *Якуб*), *Вар-*

*вара* (ад *Барбара*), *Елена* (ад *Гелена*), *Елисавета* (ад *Эльжбэта*) і інш.[1]

У цэлым колькасць каталіцкіх імёнаў адносіцца да колькасці праваслаўных прыкладна як 1/3[2]. Гэта, на наш погляд, дастаткова аб'ектыўны вынік для тэрыторыі, на якой зафіксаваныя асабовыя наймені. Тут мае значэнне той факт, што для Беларусі пры вызначэнні іменалагічнай матывацыі асабліва істотным з'яўляецца тэрытарыяльны фактар. Дзве асноўныя хрысціянскія рэлігійныя канфесіі ў пэўнай ступені рэгіянальна абазначаныя (Заходняя – Усходняя Беларусь). Гэта, напрыклад, выразна пацвярджаюць матэрыялы беларускамоўнай газеты пачатку XX ст. "Наша Ніва". Так, у яе пастаяннай рубрыцы *З Беларусі і Літвы* пры ўпамінанні асоб з заходніх паветаў (Віленскага, Лідскага, Гродзенскага, Ашмянскага) дамінуюць каталіцкія імёны: *Каспэр, Константы, Винцэнты, Людвик, Матэуш, Юстына, Францишек, Мацей, Юзэф.* А ў тэкстах паведамленняў з іншых тэрыторый (з Міншчыны, Віцебшчыны) пераважаюць імёны праваслаўныя: *Илья, Іван, Улас, Игнат, Тэрэнтий, Ізыдор, Ефім, Наум, Несцяр, Тімофей.* Магілёўская губерня якраз трапляе ў разрад тэрыторый з мінімальнай распаўсюджанасцю каталіцтва і, адпаведна, каталіцкіх імёнаў.

У цэлым жа большая папулярнасць імёнаў праваслаўнага календара ў канцы XIX ст. цалкам вытлумачальная ва ўмовах дамінуючага становішча праваслаўнай рэлігіі на тэрыторыі тагачаснай Беларусі. Наяўнасць жа дастаткова прадстаўнічага пласта каталіцкіх імёнаў у тагачасным беларускім іменаслове аргументавана працяглымі дачыненнямі беларускага і польскага этнасаў ва ўсіх сферах жыцця, у тым ліку і на рэлігійнай глебе. Пазіцыі каталіцызму на Беларусі ў разглядаемы перыяд заставаліся моцнымі. Таму наўрад ці можна было чакаць хуткай пераарыентацыі іменалагічнай сістэмы сінхронна са зменай рэлігійнай дамінанты, бо рэлігія, адыходзячы, як правіла, пакідае пасля сябе сваю традыцыю.

Калі ставіць знак роўнасці паміж паняццямі *імёны каталіцкага календара* і *польскія імёны*, то на аснове даных аналізуемага антрапанімічнага тэксту можна канстатаваць факт заўважнага польскага ўплыву на склад беларускага іменніка ў канцы XIX ст. Для разглядаемага перыяду такое атаясамліванне падаецца цалкам дапушчальным,

---

[1] Прадстаўнікі іншых канфесій, як правіла, маюць аўтэнтычныя формы імёнаў, у прыватнасці лютэране (*Фонъ-Шаго Карлъ Егоровъ, Думпе Фридрихъ Бурхардовъ, Казановичъ Цецилія Густавова, Лекертъ Францъ Михайловъ, Кранцъ Фердинандъ Фердинандовъ*) і іўдзеі (*Монозонъ Шліома Вульфовъ, Симоновскій Янкель Шоломовъ, Ратнеръ Аронъ Еселевъ, Ратнеръ Лейзерх Хаимовъ, Аронзонова Минда Ицкова*).

[2] Згодна з падлікамі паводле даных з Магілеўскага павета (уѣзда), дзе на 100 выпадкаў ужывання імёнаў з праваслаўнага календара прыпадае 32 выпадкі ўжывання імёнаў з каталіцкага календара (канфесійна нейтральныя імёны тыпу *Александръ, Анна* ў падлікі не ўключаліся).

бо на той час заўважалася дакладная карэляцыя паміж рэлігійнай і этнічнай аднесенасцю і іменалагічнымі характарыстыкамі. Прасочваецца наступны ланцужок: чалавек каталіцкага веравызнання звычайна мае імя з каталіцкага іменаслова і па нацыянальнасці (прынамсі, афіцыйна) лічыцца палякам[1].

Выпадкі змяшэння паняццяў рэлігійнай і нацыянальнай прыналежнасці выступаюць адзнакай своеасаблівай ідэалогіі тагачаснага грамадства і недастатковага ўзроўню нацыянальнай самасвядомасці. Існаванне такой грамадскай з'явы можна праілюстраваць наступнымі кантэкстамі з ўжо згаданага перыядычнага выдання – газеты *"Наша Ніва"*:

> тут [у Расейской Украіне і ў Беларусі] лічаць, бытцам каталіцтво – гэта польская вера, праваслаўе – расейская ("руская"), і прыродных беларусоў запісываюць павэдлуг рэлігіі то ў палякі, то ў рускіе (1910, № 47).

Гэтай праблеме цалкам прысвечанае апавяданне І. Жывіцы *Пан Шабуневіч*, апублікаванае ў *"Нашай Ніве"* ў 1913 годзе (№ 6). Яго галоўны герой, пан Шабуневіч, распавядае так:

> Ведаеце, былі гэтые выбары у земства… Запісалі мяне у польскую курыю, а я кажу: "дзякуй вам, я ужо лепей у жыдоўскую пайду, калі вы мяне беларусам ня лічыце…". Прыйшоў у гарадзкую думу. Кажу, я такі то і такі то, ці мяне запісалі на выбары? Паглядзелі у сьпіскі; "а вы якой веры?" – "Каталіцкай" атказываю. – "Ну дык вы гэтта у польскую курыю запісаны". – "Як кажу, а чаму не ў беларускую?" сьмяюцца шэльмы: "бо такой, кажуць, німа, а ёсць проста руская, калі хочэце туды, то йшчэ можна". Дык я-ж… ні расеяц, ні паляк і ня жыд! Як-жэ беларускай курыі німа? – "А вы каталік?" – "А ўжо-ж!" – "А мы усіх каталікоў у палякі…"

Змяшэнне этнічнай і канфесіянальнай прыналежнасці афіцыйнымі царскімі ўладамі ляжыць і ў аснове верша Францішка Багушэвіча *Хрэсьбіны Мацюка*.

---

[1] Заўважым, што ў адрозненне ад перыяду XIX – пачатку XX ст., сёння выбар імя паступова перастае быць звязаным непасрэдна з рэлігіяй і/або нацыянальнасцю. Прывядзём паказальны тэкст з інтэрнэт-рэсурсаў: "У журналіста **Ільлі Маліноўскага** месяц таму нарадзіўся сын, назвалі яго Тадэвуш. Старэйшага сына, якому 3 гады, завуць Казімір. «Я лічу, Казімір – менавіта беларускае імя [тут і далей вылучана намі – *І. Г.*]. Многія адгаворвалі, маўляў, будуць называць Казікам. Але ўсе называюць сына поўным імем – Казімір. Калі месяц таму нарадзіўся другі сын, спыніліся на Тадэвушу, хоць разглядалі і Францішка, Тодара. Жартавалі, што будзе Казік і Тадзік. Была таксама жартаўлівая (калі ўжо згадваць пэрсанажаў *Народнага альбому*) думка назваць яго Юзікам (Юзэфам) [у вядомым зборніку беларускамоўных музычных твораў 1990-х гадоў пад назвай *Народны альбом* персанажы адной жартоўнай песні завуцца Казікам і Юзікам – *І. Г.*]. Чамусьці самае частае пытаньне: вы што – палякі? Я спачатку нэрваваўся, крыўдзіўся, а цяпер проста разумею ўзровень агульнай адукацыі людзей, якія так пытаюцца», – кажа Ільля Маліноўскі" (гл. [online] https://www.svaboda.org/a/29808992.html [доступ: 08.03.2019]).

> [Kazacki naczalnik:] "Da chto ty [Maciuk], da chto ty, ci ruski, ci nie?" // Ja daj krucitca tudy i siudy, // Dumaju: szto tut skazać jamu mnie? // "Ja nie našu, kažu, barady". // "Da ty", jon kaže mnie, "wiery jakoj?" // "Ci ty **prawasłaǔny**, ci ty **palak**?" // "A dajcież panočku, kažu mnie pakoj. // Da ja ž **tutejszy**, jaž kazaǔ tak!".

Гэтыя мастацкія сітуацыя з'яўляюцца прамым адлюстраваннем рэальных падзей, якія адбываліся ў сацыяльна-палітычным жыцці тагачаснай Беларусі. Так, Міхась Біч піша, што на выбарах у III Думу (восень 1907 года) усе выбаршчыкі на Беларусі былі падзелены не толькі па класавым, але і па нацыянальным прынцыпе. У беларускіх губернях утвараліся "рускія", "польскія", а ў гарадах – і габрэйскія выбарчыя аддзяленні. Да "рускіх" аддзяленняў далучаліся праваслаўныя беларусы, немцы, татары і інш. Да "польскіх" – беларусы-католікі. Такім чынам, беларускі народ афіцыйна па канфесійнай прымеце быў падзелены на "рускіх" і "палякаў" [гл. Біч 1993: 20].

Аналізуемы антрапанімічны тэкст дэманструе таксама адметную рысу беларускага антрапанімікона XIX ст. у частцы прозвішчаў, а менавіта наяўнасць у спісе прэзентатыўнай колькасці прозвішчных элементаў з прыметамі польскамоўнага ўплыву. Гэта вынік агульнасці гістарычнага лёсу беларусаў і палякаў, даўніх і трывалых польска-беларускіх кантактаў, прычым якраз у той перыяд, калі прозвішчы знаходзіліся ў стадыі актыўнага фарміравання (XVI–XVIII стст.). Хоць, як лічаць навукоўцы, "этнас часцей вызначаецца праз імя, а не праз прозвішча" [Cieślikowa, Malec 1999: 70], матывавальныя асновы і фармальныя (найперш словаўтваральныя) паказчыкі прозвішчаў таксама этнічна інфарматыўныя. Тут неабходна зрабіць наступную заўвагу. Шырока бытуе меркаванне, згодна з якім да польскіх паводле паходжання залічваюць прозвішчы беларусаў, аформленыя фармантамі *-скі, -цкі*, што з навуковага пункту погляду не адпавядае сапраўднасці. Прозвішчы на *-скі, -цкі* навукоўцамі-анамастамі кваліфікуюцца як агульнаславянскі прозвішчны тып, і характарызаваць усе прозвішчы, аформленыя такім фармантам, як польскія навукова некарэктна (больш падрабязна гл. [Гапоненка 2018]). Польскае паходжанне прозвішчаў адлюстроўваецца ў першую чаргу не ў форме суфікса, а ў форме і змесце прозвішчнай асновы (напрыклад, польскімі можна лічыць прозвішчы тыпу *Бандажэўскі, Главацкі, Дабржынецкі, Закржэўскі, Пшыгоцкі, Скрыдлеўскі, Татаржыцкі, Хржаноўскі* і пад.). У разгледжаным тэксце зафіксаваныя наступныя прозвішчныя адзінкі з такімі характарыстыкамі: *Войцеховскій, Бржезінскій, Бржозовскій, Бржостовскій, Гордзялковскій, Езерскій, Длужневскій, Заблоцкій, Корженевскій, Крживицкій, Менжинскій, Подгурскій, Пожарискій, Гордзялковская, Замбржыцкая, Квятковская, Піонтковская, Пржесецкая, Ржеусская, Стржемеская.* Трэба адзначыць, што колькасць іх адносна невялікая. Відаць, на блізкіх да Расіі бедных па ўрадлівасці землях Магілёўшчыны польскія ўладанні засноўваліся рэдка і, адпаведна, польскі

ўплыў на антрапанімію быў не такім выразным, як, напрыклад, на заходніх беларускіх тэрыторыях, дзе спадчынныя найменні польскіх асаднікаў значна больш актыўна ўліваліся ў беларускі антрапанімікон, асвойваліся і замацоўваліся ў яго складзе.

У цэлым наш матэрыял выразна паказвае, што характэрная нацыянальная і саслоўная форма антрапонімаў можа служыць крыніцай аб'ектыўнай гістарычнай інфармацыі, не прадугледжанай складальнікам спіса [Щетинин 1996: 22]. Так, відавочна, што на фоне актыўнай барацьбы ўладаў Расійскай імперыі з польскім уплывам на беларускіх землях у разглядаемы перыяд і імкнення максімальна пазбавіць афіцыйны антрапанімікон польска-каталіцкіх элементаў фактычна працягваліся даўнія лінгвакультурныя кантакты беларускага і польскага народаў. Прычым даныя антрапанімічнага тэксту дэманструюць гэта на сістэмным узроўні, г. зн. лепш, чым іншыя, на першы погляд больш наглядныя, гісторыка-грамадскія факты[1]. Нават той невялікі фрагмент, прааналізаваны ў артыкуле, прадстаўляе багатую палітру моўных элементаў з культурнага жыцця нашых продкаў, выразна выяўляе ступень і характар сувязяў з іншымі народамі, а менавіта сведчыць, што польскія антрапанімічныя кампаненты глыбока пусцілі карані ў мову, гісторыю і культуру нашых продкаў.

## Бібліяграфія


Akimova Èl'vira. 2016. *Lingvistika teksta v sinhronii i diahronii*. "Vesti Volgogradskogo gosudarstvennogo universiteta". Seriâ 2. Âzykoznanie. T. 15, № 2: 7–16 [Акимова Эльвира. 2016. *Лингвистика текста в синхронии и диахронии*. "Вести Волгоградского государственного университета". Серия 2. Языкознание. Т. 15, № 2: 7–16. [online] https://cyberlenin ka.ru/article/n/lingvis tika-teksta-v-diahronii-i-sinhronii/viewer (доступ: 28.09.2019)].

Berezovič Elena. 1995. *Toponimičeskoe prostranstvo kak tekst.* V: *Ežegodnik Naučno-issledovatel'skogo instituta russkoj kul'tury*. 1994. Ekaterinburg: UrGU [Березович Елена. 1995. *Топонимическое пространство как текст.* В: *Ежегодник Научно-исследовательского института русской культуры*. 1994. Екатеринбург: УрГУ].

Bìč Mìhas'. 1993. *Belaruskae adradžènne XIX – pačatku XX stagoddzâ. Gìstaryčnyâ asablìvascì, uzaemaadnosìny z ìnšymì narodamì* (XI Mìžnarodny z`ezd slavìstaŭ. Daklady). Mìnsk [Біч Міхась. 1993. *Беларускае адраджэнне ў XIX – пачатку XX стагоддзя. Гістарычныя асаблівасці, узаемаадносіны з іншымі народамі* (XI Міжнародны з'езд славістаў. Даклады). Мінск].

Cieślikowa Aleksandra, Malec Maria. 1999. *Kryteria włączania nazwisk z ziem pogranicznych do apracowania Antroponimii Polski XVI do XVIII wieku*. "Studia


[1] Напрыклад, даследчыкі сцвярджаюць, што польская мова XIX – пачатку XX ст. рабіла крокі да вяртання мінулай ролі, у прыватнасці ў грамадскіх установах. Так, "гарадское самакіраванне ў Мінску ў гэты час амаль поўнасцю аказалася ў руках палякаў, <…> у гарадской управе пачала выкарыстоўвацца польская мова, польскія шыльды з'явіліся ў тэатры, на конках, у магазінах, а магазіны з аднымі толькі рускімі шыльдамі байкатаваліся палякамі" [Жураўскі 1982: 45].

Sławistyczne" 1. Nazewnictwo na pograniczach etniczno-językowych. Red. Zofia Abramowicz, Leonarda Dacewicz. Białystok: 68–74.
Gal'perin Il'â. 1981. *Tekst kak ob"ektlingvističeskogo issledovaniâ*. Moskva: Nauka [Гальперин Илья. 1981. *Текст как объект лингвистического исследования.* Москва: Наука].
Gaponenka Ìryna. 2018. *Belaruskìâ prozvìščy zpol'skamoǔnymì asnovamì*. U: *Języki ruskie w rozwoju historycznym i kontaktach z polszczyzną*. Red. Lilia Citko. Białystok: Wydawnictwo Prymat [Гапоненка Ірына. 2018. *Беларускія прозвішчы з польскамоўнымі асновамі*. У: *Języki ruskie w rozwoju historycznymi kontaktach z polszczyzną*. Red. Lilia Citko. Białystok: Wydawnictwo Prymat].
Parzulova Mariâna. 2005. *Antroponìmnij tekst âk dželelomovnoï ta ìstoričnoï ìnformacìï*. "Problemi slov`ânoznavstva". L'vov, L'vovsk. Nac.un-t im. Ì. Franka, vip. 55: 134–142 [Парзулова Марияна. 2005. *Антропонімний текст як джерело мовної та історичної інформації*. "Проблеми слов'янознавства". Львов, Львовск. Нац. ун-т им. І. Франка, вип. 55: 134–142].
Podol'skaâ Natal'â. 1988*. Slovar' russkoj onomastičeskoj terminologii*. 2-e izd., pererab. i dop. Otv. red. A. V. Superanskaâ. Moskva: Nauka [Подольская Наталья. 1988. *Словарь русской ономастической терминологии*. 2-е изд., перераб. и доп. Отв. ред. А. В. Суперанская. Москва: Наука].
Smol'nikov Sergej. 2014*. Tekst kak edinica filologičeskoj interpretacii*. V: Sb. statej IV Vserossijskoj naučno-praktičeskoj konferencii s meždunarodnym učastiem (25 ânvarâ 2014 g., g. Kujbyšev). Otv. red. A.A. Kurulënok. Novosibirsk: Izd-vo OOO «Nemo Press» [Смольников Сергей. 2014. *Текст как единица филологической интерпретации.* В: Сб. статей IV Всероссийской научно-практической конференции с международным участием (25 января 2014 г., г. Куйбышев). Отв. ред. А.А. Курулёнок. Новосибирск: Изд-во ООО «Немо Пресс»].
Urakova Fatima. 2007. *Tekst kak ob"ekt lingvistiki*. "Kul'turnaâ Žizn' Ûga Rossii" 6 (25). 2007: 64–66 [Уракова Фатима. 2007. *Текст как объект лингвистики*. "Культурная жизнь Юга России". 6 (25). 2007: 64–66] [online] https://cyberleninka.ru/article/n/tekst-kak-obekt-lingvistiki/viewer [доступ: 17.02.2020].
Ŝetinin Leonid. 1980. *Antroponimičeskij tekst kak istočnik istoričeskoj informacii*. V: *Perspektivy razvitiâ slavânskoj onomastiki*: sb. statej. Otv. red. A.B. Superanskaâ i N.V. Podol'skaâ. Moskva: Nauka [Щетинин Леонид. 1980. *Антропонимический текст как источник исторической информации*. В: *Перспективы развития славянской ономастики*: сб. статей. Отв. ред. А.В. Суперанская и Н.В. Подольская. Москва: Наука].
Ŝetinin Leonid. 1996*. Istoriâ i imena.* Rostov n/D : RVŠ MVD RF [Щетинин Леонид. 1996. *История и имена*. Ростов н/Д : РВШ МВД РФ].
Valgina Nina. 2002. *Teoriâ teksta*: učebnoe posobie [online] [Валгина Нина. 2002. *Теория текста*: учебное пособие [online] http://www.hi-edu.ru/e-books/xbook029/01/part-001.htm#i28 [доступ: 15.05.2020] ].
Vasil'eva Nataliâ. 2018*. Pragmatika i poètika antroponimičeskogo teksta* [Васильева Наталия. 2018. *Прагматика и поэтика антропонимического текста*] [online] 02. https://cyberleninka. ru/article/n/pragmatika-i-poetika-antroponimicheskogo-teksta/viewer [доступ: 17.02.2020].
Žuraŭski Arkadz'. 1982. *Dvumoŭe i šmatmoŭe ŭ gistoryi Belarusi*. U: *Pytanni bilingvizmu i ŭzaemadzeânnâ moŭ*. Minsk: Navuka ì tèhnìka [Жураўскі Аркадзь. 1982. *Двумоўе і шматмоўе ў гісторыі Беларусі.* У: *Пытанні білінгвізму і ўзаемадзеяння моў*. Мінск: Навука і тэхніка].

**ABSTRACT**: In the article, the content of the concept of *anthroponymic text* is outlined, whereas the component and functional specifics of this textual variety and the

classification types of written lists with the regular inclusion of proper personal names are indicated. A complex analysis of the anthroponymic and appellative text parts of the presentative authentic documentary list of the XIX century (*Алфавитный список землевладѣльцамъ* in the edition *Опытъ описанія Могилевской губерніи*, 1884) is conducted. The facts that make it possible to trace the peculiarities of Belarusian-Polish interlingual cooperation in the field of anthroponymy are revealed. Based on the analytical data, conclusions regarding the information content of the nominative and predicative parts of the anthroponymic text are formulated, the ways of using such linguistic and historical information are determined.

**KEYWORDS:** anthroponymic text, anthroponymic nominations, predicative text part, national and class form of anthroponyms, Polish anthroponymic influence.

**STRESZCZENIE**: W artykule scharakteryzowano pojęcie *tekstu antroponimicznego*, określono jego części składowe i specyfikę funkcjonalną, a także typologię tekstów pisanych charakteryzujących się regularną obecnością nazw osobowych. Przeprowadzono kompleksową analizę części antroponimicznej i apelatywnej reprezentatywnego autentycznego dokumentu z XIX wieku (*Алфавитный список землевладѣльцамъ* w publikacji *Опытъ описанія Могилевской губерніи*, 1884 r.). Ujawnione zostały fakty, które pozwalają prześledzić specyfikę polsko-białoruskiej międzyjęzykowej interakcji w dziedzinie antroponimii. Na podstawie danych analitycznych sformułowano wnioski dotyczące treści informacyjnej zawartej w nominatywnych i predykatywnych częściach tekstu antroponimicznego, określono sposoby wykorzystania tego typu informacji językowo-historycznej.

**SŁOWA KLUCZOWE**: tekst antroponimiczny, nominacje antroponimiczne, predykatywna część tekstu, narodowa i społeczna forma antroponimów, polskie wpływy antroponimiczne.

**РЭЗЮМЭ**: У артыкуле акрэслены змест паняцця *антрапанімічны тэкст*, абазначана кампанентная і функцыянальная спецыфіка гэтай тэкставай разнавіднасці, а таксама класіфікацыйныя тыпы пісьмовых спісаў з рэгулярным уключэннем уласных асабовых найменняў. Праведзены комплексны аналіз антрапанімічнай і апелятыўнай тэкставых частак прэзентатыўнага аўтэнтычнага дакументальнага спіса XIX ст. (*Алфавитный список землевладѣльцамъ* у выданні *Опытъ описанія Могилевской губерніи*, 1884). Выяўлены факты, якія даюць магчымасць прасачыць асаблівасці беларуска-польскага міжмоўнага ўзаемадзеяння ў сферы антрапаніміі. На падставе аналітычных даных сфармуляваны высновы адносна інфармацыйнай напоўненасці намінатыўнай і прэдыкатыўнай частак антрапанімічнага тэксту, вызначаны спосабы выкарыстання падобнай лінгвагістарычнай інфармацыі.

**КЛЮЧАВЫЯ СЛОВЫ**: антрапанімічны тэкст, антрапанімічныя намінацыі, прэдыкатыўная тэкставая частка, нацыянальная і саслоўная форма антрапонімаў, польскі антрапанімічны ўплыў.

**ACTA ALBARUTHENICA 20: 2020**
DOI: 10.32612/uw.18988091.2020.20.pp.159–168

**Вераніка Бандаровіч / Veranika Bandarovich**
Белтэлерадыёкампанія / Belteleradiocompany
ORCID: https://orcid.org/0000-0002-1985-1759
e-mail: litarcoffee@gmail.com

# Пераклад фемінітываў у рамане Тадэвуша Далэнгі-Мастовіча *Prokurator Alicja Horn* праз прызму гендарных стэрэатыпаў

*Translation of feminitives in the novel by Tadeusz Dolenga-Mostovich* PROKURATOR ALICJA HORN *through the prism of gender stereotypes*

*Tłumaczenie feminatywów w powieści Tadeusza Dołęgi-Mostowicza* PROKURATOR ALICJA HORN *przez pryzmat stereotypów genderowych*

Фемінітывы не новая, аднак дастаткова вострая для сучаснага грамадства тэма, яна перыядычна ўзнімаецца і абмяркоўваецца як у асяроддзі лінгвістаў, так і звычайных носьбітаў мовы, у прыватных гутарках, на розных інтэрнэт-пляцоўках і навуковых форумах. Жанчыны змагаюцца за свае правы ўжо не адно стагоддзе, і, зразумела, адпаведныя працэсы знаходзяць адлюстраванне як у свядомасці людзей, так і ў мастацкай літаратуры ды ў мове, якая фіксуе жыццё ва ўсёй яго паўнаце.

Звярнуцца да тэмы фемінітываў у рамане Тадэвуша Далэнгі-Мастовіча *Prokurator Alicja Horn*, перакладзеным на беларускую мову ў 2017 годзе і надрукаваным у пачатку 2018 у часопісе "Полымя", падштурхнула яго пераасэнсаванне. А да пераасэнсавання, у сваю чаргу, падштурхнула праца над перакладам рамана на рускую мову, ужо ў 2019. Дзякуючы апошняму перакладу былі зроблены некаторыя ўдакладненні і праўкі ў тэкст па-беларуску, а таксама выявіліся праблемы і супярэчнасці, звязаныя з перадачай фемінітываў на рускую мову.

У перакладзе на беларускую мову раман Т. Далэнгі-Мастовіча выйшаў у свет пад назвай *Пракурорка*, у арыгінале – *Prokurator Alicja Horn*. Такая назва для перакладу была апраўданая ўжываннем фемінітываў *prokuratorka*, *podprokuratorka* ў арыгінале твора, імкненнем падкрэсліць адну з галоўных тэм рамана – фемівістычную, актуальную, дарэчы, і ў XXI стагоддзі, – традыцыйнымі поглядамі (паводле звестак з розных крыніц) у адносінах да заняткаў жанчын, іх ролі ў грамадстве самога аўтара твора, а таксама мэтай прывабіць сучаснага чытача як своеасаблівы маркетынгавы ход. І, да слова, чытач (як прафесійны, так і шараговы) сапраўды зацікавіўся, без каментарыяў наконт назвы.

Іншая справа – пераклад на рускую мову. Калі давялося інтэрпрэтаваць тую ж назву, паўстала пытанне: ужываць фемінітыў, як у беларускай версіі, або ісці ўслед за арыгіналам. Калі падбіраць фемінітыў, то ўзнікае некалькі праблем. Па-першае, як па-руску карэктна гучала б назва прафесіі *пракурор* у дачыненні да жанчыны? *Прокурорша*? Наўрад, бо падобныя па канструкцыі фемінітывы з суфіксам *-ш-* нярэдка маюць негатыўную канатацыю і, як правіла, абазначаюць жонку, хоць ёсць у рускай мове і назвы прафесій тыпу *маникюрша*. У гэтым выпадку тэарэтычна падышло б *прокурорка*, на ўзор даўно прывычных *журналистка*, *акушерка*, аднак у рускай мове пры іх ужыванні ўзнікае іранічнае, зняважлівае адценне: непрывычныя фемінітывы тыпу *прокурорка*, па словах шматлікіх расійскіх лінгвістаў, гучаць дрэнна, набываюць зніжаную стылістычную афарбоўку, што ўсё ж не цалкам стасуецца да рамана Т. Далэнгі-Мастовіча і адлюстравання ў творы яго эпохі ды пазіцыі аўтара.

Справа ў тым, што падобныя фемінітывы ў польскім грамадстве і польскай мове 30-х гадоў XX стагоддзя, калі жаночы рух у краіне быў надта актыўны і Т. Далэнга-Мастовіч пісаў свой раман, вельмі пашырыліся ва ўжытку. Да таго ж, у міжваенны час функцыянавала Міжнародная федэрацыя юрыстак (Międzynarodowa Federacja Prawniczek). „Kurier Poznański" ў 1935 годзе пісаў пра становішча юрыстак у Польшчы. А „Iskra" ўжо ў 1917 годзе – пра першую юрыстку ў польскіх судах [Janicki, online]. З канца XIX стагоддзя часта жанчын, якія выступалі перад судом, называлі *świadkinie*. Захаваліся тэксты, з якіх даведваемся, што "o świadkiniach" гаварылі таксама суддзі і пракуроры падчас працэсаў [Warnke, online]. Акрамя таго, яшчэ ў 1918 годзе афіцыйна абвяшчалася, што адвакатам у Польшчы можа стаць любы яе грамадзянін незалежна ад полу.

У Расіі ж наадварот: "у 1924–1925 гадах быў прыняты шэраг дакументаў, якія аднеслі фемінітывы да гутарковай мовы і выцеснілі іх з ужытку [*Вам не падабаюцца фемінітывы*…, online]. З той пары, асабліва да наватвораных фемінітываў, хутчэй адмоўнае стаўленне.

Вось, дарэчы, як адклікаюцца пра падобныя ўтварэнні сучасныя расійскія філолагі.

Міхаіл Дымарскі, прафесар, старшы навуковы супрацоўнік аддзела тэорыі граматыкі Інстытута лінгвістычных даследаванняў Расійскай акадэміі навук (РАН):

> Значительное количество феминитивов в русском языке существует давно, и вопрос об их нужности лишен смысла: швея, медсестра, доярка, учительница и так далее. Важен вопрос, нужны ли нам новые феминитивы. По моему мнению, объективная необходимость их внедрения близка к нулю. В русском языке ситуация, при которой лиц женского пола при указании их профессии именуют существительными мужского рода, сложилась очень давно, и для человека, не зараженного агрессивной разновидностью феминизма, в этой ситуации нет ничего унижающего достоинство женщины. Говорящий не обязан знать законы

морфонологии и уметь объяснить, почему «менеджерка» звучит плохо, но он это чувствует. Возмущаться тем, что в нашем языке нет симметричных пар слов для всех профессий – то же самое, что возмущаться тем, что в наших лесах не водятся слоны. Надеюсь, что эти слова не приживутся, потому что иначе узаконится насильственное вмешательство в правила, а это крайне опасный прецедент…

**Таццяна Талстая**, пісьменніца:

Феминитивы – это отвратительно. Нет слова «авторка» в русском языке и, надеюсь, не будет. Противоестественно. Оно звучит как слово из какого-то другого параллельно славянского языка. Чешский приходит на ум <…>. Зачем же нам наш великий и могучий менять по такому принципу? И это будет создавать двойственность смыслов. Докторша раньше – жена доктора. Хотите, говорите женщина-врач…

**Святлана Другавейка-Далжанская**, выкладчыца, навуковы кіраўнік партала gramma.ru:

Слова «автор», «поэт» не окрашены половой принадлежностью, а «авторка» и «поэтесса» – окрашены. Появление феминитива такую оппозицию и создает. Конечно, появление таких слов становится только отражением тех процессов, которые происходят в обществе. Если эти процессы будут углубляться, то и слова неизбежно приживутся. И это не хорошо и не плохо – это просто «по-иному».

**Наталля Раманава**, паэтка, крытык, кіраўнік «Школы грамотности Романовых»:

Ревностная охрана четких гендерных границ лично во мне особой поддержки не находит. Всяческая маскулинность, демонстративный мачизм, а также и оборотная их сторона – феминизм – мне даже эстетически чужды как человеку андрогинного сознания. С другой стороны, по поводу изменений в языке я придерживаюсь очень твердой позиции: что происходит с речью, то и должно происходить, независимо от того, нравится это кому-то или нет. Ничего не происходит только в умерших языках…

**Кацярына Шчаглова**, кандыдат філалагічных навук, старшы выкладчык Вышэйшай школы журналістыкі і масавых камунікацый Санкт-Пецярбургскага дзяржаўнага ўніверсітэта (СПбДУ):

С точки зрения языка в феминитивах необходимости нет, это явление социальное. Использование мужского рода для обозначения человека в обобщенном смысле закреплено исторически. Отчасти появление феминитивов связано с приходом женщин в те профессии, которые считались ранее мужскими. Такие слова стали уже привычными и не вызывают раздражение (например, журналистка, писательница). Язык в этом случае является отражением жизни общества. Однако часто употребляемые в разговорной речи феминитивы имеют пренебрежительный оттенок (врачиха, директриса, кондукторша). Негативная реакция на их употребление связана с непривычностью: новым языковым явлениям всегда нужно время для адаптации. Тем более, если их появление обусловлено деятельностью социального движения, установки которого

> разделяют не все члены общества. Излишняя ажитация вызывает усиление пуристических настроений общества, что делает процесс внедрения их в язык более болезненным.

**Валерый Яфрэмаў**, прафесар кафедры рускай мовы філалагічнага факультэта Расійскага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя А.І. Герцэна:

> Феминитивы были и будут в русском языке всегда. Как можно рассуждать в средневековой книжности о грехе и не употребить слова «грешница», «блудница», «прелестница»?! Тот бум новых слов связан не с развитием языка как такового, а с теми социальными изменениями, которые наше общество переживает – до России докатилось феминистское движение. Сначала у людей возникает вопрос: если есть «доктор», «токарь» или «профессор», то почему нельзя сказать докторица, токариха или профессорка (напомню, что профессорша – это жена профессора)? Время покажет, приживутся ли эти слова. Язык может терпеть определенное насилие над собой, но рано или поздно он все равно оставит только то, что надо, и забудет то, что оказалось лишним. Далеко не все из того, что сейчас предлагается общественными деятельницами, сохранится. Общество, особенно старшее поколение, всегда раздражают любые изменения, которые происходят не естественным путем, а с элементом насилия, под лозунгом «Будем говорить теперь так!». Думаю, отчасти ответственность за это лежит и на самих феминистках. Напор, с которым они ополчились на русский язык, у многих вызывает искреннее удивление: неужели раньше все было так плохо? [Монахов, Чердаков, online].

**Ірына Лявонціна**, кандыдат філалагічных навук, вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута рускай мовы В.У. Вінаградава РАН:

> Я уверена, что феминитивы уже неотъемлемая часть нашей речи. Во-первых, нельзя отрицать существование знакомых феминитивов, которые мы постоянно используем. Например, «директриса», «студентка». Во-вторых, новые феминитивы, которые чаще остальных встречают негодование со стороны публики, достаточно распространены, ими уже широко пользуются, в том числе в публичном пространстве. И раздражает, пожалуй, именно их частотное появление, статус «новой нормы». Мы все чаще видим, как люди описывают себя: «блогерка», «режиссерка», «психотерапевтка». На мой взгляд, мы живем, по сути, в мире победивших феминитивов, а те люди, которые негодуют по этому поводу, воспринимают эти слова как сленг, субкультурную норму, которая почему-то претендует на более серьезный статус. Между тем борьба за права человека и фемповестка не узурпированы какой-то группой или субкультурой [*Точка зрения*..., online].

З пункту погляду гісторыі, у большасці прафесій жанчыны сапраўды атрымалі роўныя з мужчынамі правы параўнальна нядаўна. Адпаведна, і сваіх назваў для асоб жаночага полу, якія займаюць традыцыйна мужчынскія пасады, яшчэ няшмат. Ёсць мноства прыкладаў рода-палавой асіметрыі: слова жаночага роду або зусім адсутнічае, або

існуе, аднак валодае стылістычным статусам, які абмяжоўвае магчымасці яго ўжывання. Возьмем хаця б рускі фемінітыў *врачиха* з яўна негатыўнай канатацыяй.

Цікава, што ў беларускай мове ў параўнанні з рускай распаўсюджанасць, ужывальнасць і стаўленне да фемінітываў адрозныя.

Фемінітывы спрадвеку ўжываліся ў жывой народнай мове беларусаў. Наконт гэтага прывяду фрагмент дзіцячага ўспаміну сацыялінгвіста Уладзіслава Гарбацкага, аўтара *Гіда па фемінізацыі беларускай мовы* (цытата з публікацыі на інтэрнэт-партале CityDog.by):

> Я дакладна памятаю, як я ў 1990-х, яшчэ школьнікам, гасціў у бабулі ў вёсцы паміж Віцебскам і Оршай. Мы слухалі беларускае радыё. Ішла праграма пра Валянціну Церашкову, і дыктарка сказала, што праграма прысвечана першай жанчыне-касманаўту. Бабуля рабіла дранікі і так паміж іншым кінула: "Яны там у Мінску зусім размаўляць не ўмеюць. Што гэта за слова такое – «жанчына-касманаўт»? Павінна быць проста – касманаўтка!". Я тады стаў на бок дыктаркі, бо яна ж з Мінску! А там лепш ведаюць за бабулю, хоць яна і была настаўніцай. Але мне гэта стрэмкай у галаву засела, і потым я часта заўважаў, як у жывой, гутарковай мове словы смела і натуральна фемінізаваліся [*Вам не падабаюцца фемінітывы*?.. , online].

У. Гарбацкі падкрэслівае, што фемінітывы не прадукт ХХ ці ХХІ стагоддзя. Гэта пацвярджаюць у тым ліку старабеларускія пісьмовыя помнікі.

> У тым жа Статуце Вялікага Княства Літоўскага мноства фемінітываў. Напрыклад, ёсць *ваявода*, а ёсць і *ваяводзіная*, *гетман* і *гетманка*, *карчмар* і *карчмітка*. Ці пагартайце *Гістарычны слоўнік беларускай мовы*. Толькі пазней былі прыняты законы супраць фемінізацыі… заняпад фемінізацыі быў наўпрост звязаны з заняпадам мовы [*Вам не падабаюцца фемінітывы*?.. , online].

> «Для белорусскоязычных феминитивы не кажутся чем-то новым и странным. Еще в начале (ХХ) века, а потом во времена так называемой "первой белорусизации" стали закрепляться женские названия профессий: "акторка", "паэтка", "бухгальтарка", "аўтарка". Так что для нас феминитивы – вполне себе нормальное и уже давнее явление дзякуючы матчынай мове», – чытаем у адной з публікацый, прысвечаных фемінітывам, на папулярным беларускім інтэрнэт-партале CityDog.by [*«Авторка», «режиссерка»*…, online].

Такім чынам, з улікам рознага стаўлення да фемінітываў у беларускім і расійскім грамадстве, традыцый іх функцыянавання ў дзвюх мовах, а таксама задумай аўтара мэтазгодней было б спыніцца на назве *Прокурор Алиция Горн* для перакладу на рускую мову рамана Т. Далэнгі-Мастовіча *Prokurator Alicja Horn*, калі, безумоўна, не мець на мэце правакаваць аўдыторыю на гарачую дыскусію.

Дарэчы, пераклад тэксту на рускую мову прымусіў таксама перагледзець пытанне пра назву рамана ў беларускамоўнай версіі. Ці дастаткова абгрунтавана было называць яго *Пракурорка*? У сувязі з гэтым

з'явілася неабходнасць агульнага аналізу ўжывання фемінітываў у творы, а таксама стаўлення аўтара да загалоўнай гераіні, яе светапогляду і дзеянняў. Таму што фемінітывы маглі быць выкарыстаны аўтарам як сродак характарыстыкі персанажа, выяўлення адносін да гераіні рамана.

Для Т. Далэнгі-Мастовіча ў 30-я гады XX стагоддзя тэма фемінізму, самарэалізацыі жанчыны ў грамадстве, яе адлюстраванне ў мастацкім творы, а таксама выяўленне сваіх адносін да адпаведных праблем былі важнымі. Бо пісьменнік і таленавіты журналіст Т. Далэнга-Мастовіч, магчыма, як ніхто з яго калег-сучаснікаў, быў своеасаблівым хранікёрам, праўдзіва паказаў свой час, яго праблемы і тэндэнцыі, адной з якіх была актыўная барацьба жанчын за роўныя правы з мужчынамі. Вось і заўважаем у тэксце арыгінала рамана *Prokurator Alicja Horn* то назоўнік мужчынскага роду *prokurator* (*podprokurator*) у дачыненні да галоўнай гераіні, то жаночага роду *prokuratorka* (*podprokuratorka*).

Насамрэч у Польшчы, у Варшаве ў прыватнасці, на час напісання твора яшчэ не было жанчын-пракурораў. Гэта адна з прычын, чаму гэты раман называлі сенсацыйным. Адпаведна, і стаўленне да яго гераіні, жанчыны-пракурора, было неадназначнае, як і ўвогуле спрадвеку да ўсяго новага. Дарэчы, адносіны польскага грамадства 30-х гадоў XX стагоддзя да жанчын у традыцыйна мужчынскіх прафесіях яскрава адлюстраваліся ў рамане *Prokurator Alicja Horn*, цэлыя старонкі якога прысвечаны спрэчкам паміж судовымі служкамі і іх разважанням на гэтую тэму.

Увагу філолага прыцягвае непаслядоўнасць ва ўжыванні фемінітываў у рамане, дзе загалоўная гераіня то *prokurator*, то *prokuratorka*. Узнікае пытанне: непаслядоўнасць гэта выпадковая, з-за няўважлівасці аўтара або наўмысная? Пасля аналізу выпадкаў ужывання ў адносінах да галоўнай гераіні назоўнікаў мужчынскага роду *prokurator*, *podprokurator* і фемінітываў *prokuratorka*, *podprokuratorka*, а таксама іх сінонімаў выявіліся пэўныя тэндэнцыі, таму напрошваецца выснова, што непаслядоўнасць хутчэй наўмысная. Тым больш што Т. Далэнга-Мастовіч праславіўся як найлепшы „technik literacki" міжваеннага перыяду, пісьменнік, які вялікую ўвагу надаваў слову, дбаў „by było to słowo ładne i w ładne zdania ułożone" [*Niewygodna pamięć*..., online]. І можна было б дапусціць, што ён па няўважлівасці толькі адзінкава ўжыў дзесьці *prokurator*, дзесьці *prokuratorka*.

Насамрэч жа сумарна ў рамане ўжыванняў у дачыненні да Аліцыі Горн назвы яе прафесіі мужчынскага і жаночага роду каля 70. З іх фемінітываў *prokuratorka*, *podprokuratorka*, а яшчэ *pani prokuratorowa* (гучыць выключна з вуснаў жанчыны, нелегальнай акушэркі), уключым сюды таксама іх кантэкстныя сінонімы *koleżanka* і *współpracowniczka*, ужытыя адзінкава, – 29, атрымліваецца, больш чым трэцяя частка. Упершыню фемінітыў (*podprokuratorka*) прагучаў з вуснаў калегі Аліцыі, пракурора Мартыновіча, які прадстаўляў ёй іншых калег-мужчын:

> Tymczasem prokurator Martynowicz wezwał do swego gabinetu obu wiceprokuratorów i wszystkich podprokuratorów.
> – Panowie pozwolą – odezwał się suchym tonem, wskazując stojącą obok niego młodą kobietę – że ich przedstawię naszej nowej **koleżance, podprokuratorce** Alicji Horn [Dołęga-Mostowicz, online].

Старшыня суда Турчыньскі таксама выказваецца, ужываючы фемінітыў: „Cieszę się, że wymiar sprawiedliwości zyskał nową, a tak utalentowaną współpracowniczkę" [Dołęga-Mostowicz, online].

Такім вось чынам у пададзеных кантэкстах аўтар ставіць мужчын і жанчыну-пракурора на адну планку.

Цікава, што ў дзвюх першых трэцях рамана, а гэта 20 раздзелаў, у якіх прафесійнае і асабістае жыццё пракуроркі паспяхова развіваецца, фемінітывы сустракаюцца нашмат радзей, чым у апошняй трэці, дзе Аліцыя перамагае як прафесійны пракурор, але цалкам руйнуецца яе асабістае жыццё і сістэма каштоўнасцей. Так, у апошняй трэці, у раздзелах з 23-га па 31-ы, – 20 ужыванняў фемінітываў *prokuratorka*, *podprokuratorka*, *pani prokuratorowa* з 26-ці ўвогуле.

У першых частках рамана фемінітывы гучаць з вуснаў калег Аліцыі (паважліва), сябра Чухноўскага ды прафесара Бруніцкага (з лёгкай іроніяй). Падчас судовых пасяджэнняў з вуснаў судовых служак і ў словах аўтара ў дачыненні да Аліцыі ў пераважнай большасці сустракаецца назоўнік мужчынскага роду *prokurator* (або *podprokurator*). Падчас апошняга, ракавога пасяджэння суда, на якім Аліцыя несправядліва абвінавачвае свайго каханага (аднак пра іх адносіны нікому ў судзе не вядома) і дамагаецца з помсты смяротнага прысуду для яго, ужываецца пераважна фемінітыў – або *prokuratorka*, або *podprokuratorka*. Аліцыя з трыумфам выйграе справу як пракурор, хоць абвінаваціла невінаватага (але пра невінаватасць у зале суда ніхто не ведае). У вачах публікі і калег (знешне) яна пераможца. Такім чынам, павелічэнне колькасці фемінітываў *prokuratorka*, *podprokuratorka*, *pani prokuratorowa* ў апошняй трэці рамана можа сведчыць пра прызнанне з боку грамадства Аліцыі Горн, яе прафесіяналізму і таленту нароўні з калегамі-мужчынамі. Але ў адным з апошніх раздзелаў, у прыватнасці, пасля вынясення смяротнага прыгавору ў дачыненні да яе каханага, калі яна думае пра сваю смерць адначасова з ім, атрымлівае ліст з Міністэрства юстыцыі, у якім **падпракурорку** Аліцыю Горн прызначаюць на пасаду **пракурора** Варшаўскага акруговага суда: „A pismo to nie było byle czym! Zawierało nominację **podprokuratorki** Alicji Horn, w uznaniu jej zasług dla dzieła Sprawiedliwości, jej wiedzy i talentu, na stanowisko **Prokuratora** Warszawskiego Sądu Okręgowego..." [Dołęga-Mostowicz, online]. Аднак жанчына скамячыла ліст і кінула на падлогу. Тут эмацыйнае, жаночае перамагло абавязак, рацыянальнае, прафесійнае. Ды і ці можна ўсё ж назваць гэта перамогай? Заканчваецца ўсё няўдачай у асабістым жыцці і спробай самагубства. Аліцыя Горн прайграе як чалавек са сваім анархічным светапоглядам, прайграе і як жанчына. Гэты пройгрыш для яе

значыць больш, чым перамога на працы, у судзе, сістэму якога яна, дарэчы, праз свае анархічныя погляды ненавідзіць. Таму Аліцыя рашаецца на самагубства.

Для разумення пазіцыі аўтара ў творы, яго стаўлення да дзеянняў Аліцыі Горн вельмі важны яшчэ той момант, што ў пачатку рамана, калі галоўная гераіня толькі прыходзіць у суд для знаёмства з калегамі, старшыня суда задае, па сутнасці, правакацыйныя пытанні. Адно з іх аб прычынах выбару жанчынай прафесіі пракурора. Старшыня перакананы, што прыгожыя, інтэлігентныя жанчыны, якія ведаюць, чаго хочуць у жыцці, выбіраюць прафесію, зыходзячы выключна з асабістых матываў (суб'ектыўна). Аліцыя адказвае, што яна жанчына. Ужо ў гэтым моманце аўтар часткова акрэслівае перспектыву сваёй гераіні: гэта значыць, можна чакаць таго, што яе ўчынкі будуць дыктавацца эмоцыямі, нягледзячы на бліскучыя здольнасці ў прафесіі. Ужо тут праглядаюцца і адносіны аўтара твора да яго загалоўнай гераіні.

Вяртаючыся да пытання пра пераклад назвы рамана, у сувязі з усім вышэйадзначаным найбольш апраўдана было б усё ж пайсці ўслед за аўтарам і на беларускую мову перакласці *Пракурор Аліцыя Горн*, а не *Пракурорка*.

Даючы загаловак твору, кожны аўтар, а тым больш такі прафесіянал, як Т. Далэнга-Мастовіч, укладвае ў яго пэўны сэнс. Тое, што ён канкрэтызуе, выносіць імя сваёй гераіні ў загаловак, таксама мае значэнне. Як і адсутнасць там фемінітыва *prokuratorka* або *podprokuratorka* побач з імем, а ўжыванне назоўніка мужчынскага роду *prokurator*. У назве *Prokurator Alicja Horn* закладзена ідэя і фінал: тут паміж назвай прафесіі ў форме мужчынскага роду і жаночым імем адчуваецца дыстанцыя. Аліцыя Горн сапраўды была выдатнай **падпракуроркай**, і яе даволі хутка прызначылі **пракурорам**, але працаваць ім, **стаць пракуроркай Аліцыяй Горн**, роўнай і прафесіяналізмам, і па характары яе калегам-мужчынам у рэшце рэшт перашкодзіла эмацыйная жаночая натура. Так акрэслівае перспектывы жанчыны ў мужчынскай справе аўтар рамана.

Вядома, што сам Т. Далэнга-Мастовіч прытрымліваўся традыцыйных поглядаў на ролю жанчыны ў грамадстве. Аднак, мяркуючы і па назве твора, дзе ён усё ж не абагульняе (бо *Prokuratorka* – роўна 'любая пракурорка'), а канкрэтызуе (*Prokurator Alicja Horn*), і па тым, што пакідае галоўную гераіню ў жывых, ён дае Аліцыі шанц як чалавеку і жанчыне, якая, магчыма, з часам перагледзіць свае погляды на жыццё. Таксама аўтар сваёй назвай нібыта перасцерагае іншых жанчын, якія выбіраюць прафесію пракурора, ад памылак Аліцыі Горн і, на нашу думку, дае ім шанц быць лепшымі.

## Бібліяграфія

*«Avtorka», «režisserka», «blogerka». Počemu my stali často upotreblât' feminitivy* [*«Авторка», «режиссерка», «блогерка». Почему мы стали часто употреблять феминитивы*] [online] https://citydog.by/post/feminitives/ [доступ: 15.04.2020].

Dołęga-Mostowicz Tadeusz. *Prokurator Alicja Horn* [online] https://pl.wikisource.org/wiki/Prokurator_Alicja_Horn [доступ: 15.04.2020].

Janicki Kamil. *Żeńskie końcówki, feminatywy w II RP. Używano ich w Polsce już 100 lat temu i nie wzbudzały kontrowersji* [online] https://wielkahistoria.pl/zenskie-koncowki-feminatywy-w-ii-rp-uzywano-ich-w-polsce-juz-100-lat-temu-i-nie-wzbudzaly-kontrowersji/ [доступ: 15.04.2020].

Monahov Sergej, Čerdakov Dmitrij. *«Slovo "avtorka" protivoestestvenno»: filologi o tom, počemu feminitivy vseh besât* [*Сергей Монахов, Дмитрий Чердаков. «Слово "авторка" противоестественно»: филологи о том, почему феминитивы всех бесят*] [online] http://www.sobaka.ru/city/science/71329 [доступ: 15.04.2020].

*Niewygodna pamięć i czarna legenda* [online] https://www.newsweek.pl/polska/niewygodna-pamiec-i-czarna-legenda/xvhsh4b [доступ: 15.04.2020].

*Točka zreniâ. Feminitivy. Mneniâ èkspertov PostNauki ob upotreblenii feminitivov* [*Точка зрения. Феминитивы. Мнения экспертов ПостНауки об употреблении феминитивов*] [online] https://postnauka.ru/faq/96444 [доступ: 15.04.2020].

*"Vam ne padabaûcca femìnìtyvy? Tut pytanne ne ŭ move". Èkspert tlumačyc', čamu "psìhalagìnâ" ì "dyrèktarka" – gèta dobra* ["*Вам не падабаюцца фемінітывы? Тут пытанне не ў мове". Эксперт тлумачыць, чаму "псіхалагіня" і "дырэктарка" – гэта добра*] [online] https://citydog.by/post/feminityvy-bel/ [доступ: 15.04.2020].

Warnke Agnieszka. *Polszczyzna jest kobietą: rewolucyjna żeńska końcówka* [online] https://culture.pl/pl/artykul/polszczyzna-jest-kobieta-rewolucyjna-zenska-koncowka [доступ: 15.04.2020].

**ABSTRACT**: One of the main themes of the novel *Prokurator Alicja Horn* by Tadeusz Dolenga-Mostowicz is the woman's place in the Polish society of the 1930s, her rights and opportunities. The introduction of the image of a woman prosecutor is ground-breaking. In the novel, the author calls his protagonist either *prokurator* or *prokuratorka*, reflecting the linguistic tendency of the time towards the formation of feminitives alongside masculine forms. Is this inconsistency intentional or accidental? Many questions arose during the translation of feminitives in the novel. Whereas in Belarusian the feminitive *пракурорка* sounds acceptable, in the Russian translation there are problems. Such is the case in relation to modern society (Belarusian-speaking and Russian-speaking) to feminitives. and it is far from unambiguous.

**KEYWORDS:** feminitiv, woman prosecutor, translation, inconsistency, modern society.

**STRESZCZENIE:** Jednym z głównych tematów powieści *Prokurator Alicja Horn* Tadeusza Dołęgi-Mostowicza jest miejsce kobiety w polskim społeczeństwie lat 30. XX wieku, jej prawa i możliwości. Nowością jest wprowadzenie wizerunku kobiety prokuratora. W powieści autor nazywa swoją tytułową bohaterkę *prokuratorem*, *prokuratorką*, odzwierciedlając ówczesną tendencję językową do formowania się feminatywów symetrycznie z męskimi formami. Czy ta niekonsekwencja jest zamierzona czy przypadkowa? Podczas tłumaczenia feminatywów w utworze powstało wiele pytań. O ile w języku białoruskim feminatyw *пракурорка* jest akceptowalny, to w tłumaczeniu na język rosyjski powstają problemy. Wynika to

ze stosunku współczesnego społeczeństwa (białorusko- i rosyjskojęzycznego) do feminatywów. Nie jest on ani jednoznaczny, ani tym bardziej wspólny.

**SŁOWA KLUCZOWE***:* feminatyw, kobieta prokurator, tłumaczenie, niekonsekwencja, współczesne społeczeństwo.

**РЭЗЮМЭ:** Адна з галоўных тэм рамана *Prokurator Alicja Horn* Тадэвуша Далэнгі-Мастовіча – месца жанчыны ў польскім грамадстве 30-х гадоў XX стагоддзя, яе правы і магчымасці. Навізна – увядзенне вобраза жанчыны-пракурора. У рамане аўтар называе сваю гераіню то *prokurator*, то *prokuratorka*, адлюстроўваючы тагачасную моўную тэндэнцыю да ўтварэння фемінітываў сіметрычна з мужчынскімі формамі. Наўмысная гэта непаслядоўнасць або выпадковая? Шмат пытанняў паўстала і падчас перакладу фемінітываў у творы. Прычым калі па-беларуску фемінітыў *пракурорка* гучыць прымальна, то ў рускім перакладзе ўзнікаюць праблемы. Справа ў стаўленні сучаснага грамадства (беларускамоўнага і рускамоўнага) да фемінітываў. А яно далёка не адназначнае і не аднолькавае.

**КЛЮЧАВЫЯ СЛОВЫ:** фемінітыў, жанчына-пракурор, пераклад, непаслядоўнасць, сучаснае грамадства.

**ACTA ALBARUTHENICA 20: 2020**
DOI: 10.32612/uw.18988091.2020.20.pp.169–183

**Уладзіслаў Іваноў / Uladzislaŭ Ivanoŭ**

Эўрапейскі гуманітарны ўнівэрсытэт (Вільня) /
European Humanities University (Vilnius)
ORCID: https://orcid.org/0000-0003-1493-0017
e-mail: uladzislau.ivanou@ehu.lt

# Моўны сорам беларусаў (сацыялінгвістычны аналіз)

*The linguistic shame in Belarus (a sociolinguistic analysis)*
*Językowy wstyd Białorusinów (analiza socjolingwistyczna)*

Адносіны паміж мовамі, дзяржавамі, культурамі і носьбітамі моваў, моўныя кантакты на ўсіх узроўнях – ад мікра да макраўзроўня – здаўна набываюць разнастайныя формы, канфігурацыі, вядуць як да мірнага суіснаваньня моваў, так і розных канфліктаў, а часам і моўных войнаў. Мовы таксама разьвіваюцца ў залежнасьці ад сацыяльна-палітычных чыньнікаў паводле самых разнастайных сцэнароў: становяцца афіцыйнымі, дамінантнымі, маргіналізуюцца, губляюць статус мовы, становячыся дыялектам, а таксама мовы зьнікаюць, паміраюць. Сацыялінгвістычнае поле сацыяльна-моўных практыкаў носьбітаў мовы ва ўмовах маргіналізацыі, няўпэўненасьці, а часам забароны мовы ахоплівае як гістарычныя, так і сучасныя прыклады (беларуская, украінская, курдзкая, каталёнская, брэтонская, правансальская, эльзаская, хантыйская, мансійская і многія іншыя мовы). У сацыялінгвістыцы вядомыя дасьледаваньні такіх выпадкаў: вывучэньне зьявы моўнай саманянавісьці каталёнцаў (*auto-odi*) зьяўляецца найбольш вядомым і паказальным [Ninyoles 1985: 16–17]. Поле дапаўняецца дасьледаваньнямі маргіналізацыі іншых моваў: брэтонскай [Lainé 1992; Abalain 2000], карсыканскай [Fusina 1981; Moracchini 2005], эльзаскай [Loubière 2020; Denis 2003], курдзкай [Scalbert-Yücel 2017], украінскай [Масенко 2005; Scarr 2017] і шматлікімі іншымі прыкладамі, ахапіць якія ў межах артыкула не бачыцца мажлівым і неабходным. Таксама вядомыя дасьледаваньні беларускай мовы з пункту гледжаньня маргіналізацыі і практыкаў носьбітаў мовы ва ўмовах неспрыяльных: Іван Ласкоў [Ласкоў 2019: 381–382], Ніна Баршчэўская [Баршчэўская 2004], Анатоль Грыцкевіч [Грыцкевіч 2000: 83–91] і іншыя. Асобна варта прыгадаць зборнік *Аняменне*, прысьвечаны гісторыі маргіналізацыі і вынішчэньню беларускай мовы [*Аняменне* 2000].

Таксама дадзеная тэма дасьледуецца мовазнаўцамі ў сьвятле тэмы трасянкі: Генадзь Цыхун [Цыхун 2000: 51–58], Ніна Мячкоўская [Мячкоўская 2008] ды іншыя дасьледнікі.

Зрэшты, мастацкая літаратура і кінематограф таксама разьвіваюць дадзеную тэму і могуць служыць дапаможным ці ілюстрацыйным матэрыялам: так, у беларускай літаратуры яшчэ ў 1915 годзе Максім Гарэцкі ў апавяданьні *Рускі* перадаў мутацыі ідэнтычнасьці беларусаў у Расейскай імпэрыі, у тым ліку адмову ад сваёй ідэнтычнасьці і мовы. Пазьней фэномэн "расстралянай літаратуры" ў 30-я гады XX ст. пакінуў багатую спадчыну, якая чытаецца таксама праз прызму гонару/сораму беларусаў, у тым ліку за мову. Пасьля Другой сусьветнай вайны ў тэкстах Ларысы Геніюш [Геніюш 1993], Сяргея Грахоўскага [Грахоўскі 2008], Барыса Сачанкі [Сачанка 2017], Васіля Быкава [Быкаў 2002], Зоські Верас [Верас 2013], Ніла Гілевіча [Гілевіч 1993] і многіх іншых пісьменьнікаў паўстане тэма занядбаньня мовы і цураньня беларусамі ўласнай мовы. Асобна варта пазначыць турботы беларускай дыяспары з нагоды занядбаньня мовы і нават моўнага сораму [Stukalich 1975: 104–105].

У эўрапейскім кінематографе апошняга часу з пункту погляду ўнівэрсальнасьці нашай тэмы асабліва актуальным бачыцца фільм *Саамская кроў* (*Sameblod*) рэжысэркі Аманды Кернэл, у якім паказваецца сорам маладой саамкі за сваю культуру, мову і, як яна робіць усё, каб вынішчыць саамскі сьлед і стаць "сапраўднай швэдкай".

Такім парадкам, у дадзенай працы на аснове шматлікіх міждысцыплінарных дасьледаваньняў (мовазнаўчых, літаратуразнаўчых, сацыялінгвістычных, а таксама паліталягічных), праведзеных калегамі як у Беларусі, так і на Захадзе, а таксама на аснове ўласнага дасьледаваньня, распачатага ў 2019 годзе, у тым ліку на аснове інтэрвію з носьбіткамі, прапануецца наступны фокус тэмы дасьледаваньня: моўны сорам беларусаў. Бо ў адрозьненьне ад каталёнскай зьявы – *auto-odi* – у беларускім выпадку рэдка назіраецца моўная нянавісьць, саманянавісьць, а хутчэй сорам, няўпэўненасьць. Пры гэтым варта адзначыць, што саманянавісьць прысутнічае ў некаторых беларусаў, беларусак – у прэсе рэгулярна паўстаюць прызнаньні некаторых беларусаў, якія выказваюцца нэгатыўна пра беларускую мову і часта агучваецца нянавісьць [*Беларуская вяслярка*… 2020]. У XX–м ст. найбольш сымптаматычным прыкладам беларускага моўнага сораму зьяўляецца гісторыя беларускай савецкай дзяячкі Надзеі Грэкавай, якая саромелася беларускасьці і зьмяніла свае прозьвішча з Грэк на Грэкаву. Падчас ейнага старшынства ў Вярхоўным Савеце БССР былі ўнесеныя такія зьмены беларусафобскага кшталту, як зыначваньне назвы беларускай сталіцы (Менск стаў Мінскам), немілагучнае для дзяячкі слова "злучайцеся" было заменена на "яднайцеся" ці нават "еднайцеся", а слова "вобласьць", якое нагадвала ёй "воблу" пачало пісацца пэўны час без прыстаўной "в" [Лепешаў 2002: 58–59].

То бок сорам можа выступаць як этап, які папярэднічае саманянавісьці. Тым ня менш калектыўнай моўнай (сама)нянавісьці ў Беларусі пакуль не канстатуецца. Да ўсяго інтэрвію, якія вядуцца мною з 2019 г. і да сёньня яшчэ не завершаныя, выкрываюць пераважна тэму моўнага сораму. 43 з 49 рэспандэнтаў / рэспандэнтак самі назвалі свае адчуваньні як сорам.

Таму ў межах артыкула прапаную азначыць, што ёсьць моўны сорам. Моўны сорам – гэта працэс маргіналізацыі, нелаяльнасьці, прыніжэньня, паступовай як індывідуальнай, так і калектыўнай адмовы ад беларускай мовы на карысьць расейскай мовы ва ўмовах дамінаваньня расейскай мовы. У фокус дасьледаваньня трапляюць наступныя элемэнты: паходжаньне і распаўсюджваньне моўнага сораму і ягоныя шматлікія як індывідуальныя, так і калектыўныя праявы як у гістарычным вымярэньні (пераважна ў XX-м ст.), так і цяпер у XXI-м ст. Напрыклад, моўны сорам можа праяўляцца ў такой зьяве, як зьмена назваў местаў і прозьвішчаў на карысьць расейскіх вэрсіяў. Так, Менск быў перайменаваны ў Мінск у 1939 г. з чыста ідэалягічнай, русіфікацыйнай прычыны, бо беларуская вэрсія Менск была непрыгожая з расейскага пункту гледжаньня і з боку Камуністычнай партыі БССР і СССР. Дрыса стала Верхнядзвінскам па той жа самай прычыне. Назвы дзясяткаў іншых местаў, мястэчак і вёсак былі зрусіфікаваныя па той жа прычыне. Іншы прыклад – маштабная зьмена прозьвішчаў беларусамі – зьява, якая назіраецца і ў незалежны пэрыяд: многія беларусы саромяцца ўласных імёнаў і прозьвішчаў у трансьлітараваным варыянце зь беларускай мовы, аддаючы перавагу больш вядомай, звыклай, а часам, як вынікае з інтэрвію, "больш высакароднай і эстэтычнай" трансьлітарацыі з мовы расейскай. На калектыўным і нават сусьветным узроўні моўны сорам выяўляецца ў тым, што беларуская антрапанімія і тапанімія часта перадаюцца на ангельскую, француcкую ды іншыя мовы праз пасярэдніцтва расейскай і радзей польскай моваў. Бязьдзейнасьць афіцыйнай моўнай палітыкі і самапрэзэнтацыя, заснаваная на замежных мове і бачаньні сьвету, таксама можна патлумачыць зьявай моўнага сораму. Таксама маюцца на ўвазе такія індывідуальныя праявы, як сорам за свой беларускі акцэнт, кпіны з уласнай мовы, часам нават нежаданьне мець адрас на дамэне .by і стварэньне электроннай пошты на дамэне .ru, бо "гэта прэстыжна, вядома" і пад. На ўзроўні дзяржаўным, калектыўным зьява моўнага сораму праяўляецца, напрыклад, у няўпэўненасьці, бязьдзейнасьці ў сфэры трансьлітарацыі назваў уласных, у пашпартнай русіфікацыі, у нэгатыўных выказваньнях афіцыйных палітыкаў наконт беларускай мовы, культуры, акцэнту і пад. Зрэшты, цікавае гендарнае вымярэньне ўзбагаціла дасьледаваньне. У выніку інтэрвію, а таксама падчас аналізу літаратуры (І. Ласкоў) прыклад беларускіх мужчынаў савецкага пэрыяду, якія праходзілі вайсковую службу на прасторах СССР, а не БССР, прыўносіць дадатковыя доказы зьявы і тлумачэньні моўнага сораму беларусаў [Ласкоў

2019: 381–382]. Усе апытаныя мужчыны, якія за савецкім часам служылі ў Расеі, Сярэдняй Азіі, прыгадваюць частыя кпіны, насьмешкі ў іх бок з-за іх беларускага акцэнту, мовы, што дадаткова выклікала разьвіцьцё моўнага сораму. Да звычайнай дзедаўшчыны часта дадаваліся кпіны, зьвязаныя з паходжаньнем. Часта мужчыны па вяртаньні ў Беларусь стараліся сачыць за сваёй мовай і вымаўляць словы на ўзор расейскай мовы. Такі моўны сорам таксама прысутнічаў сярод беларусаў і заставаўся не дасьледаваным сацыялінгвістамі, мовазнаўцамі. У дасьледаваньні якраз плянуецца запоўніць гэтую лякуну.

*Мэта дасьледаваньня*: прапануецца растлумачыць фэномэн моўнага сораму, які падтрымліваецца бязьдзейнай ці сумысьля аднабаковай афіцыйнай моўнай палітыкай. Акрамя таго, важна прааналізаваць гістарычны досьвед падобных выпадкаў (выпадкі ўкраінскай і каталёнскай моваў), каб лепш зразумець лёгіку моўнай нелаяльнасьці і распаўсюджваньня моўнага сораму, і мажліва прадухіліць падобныя тэндэнцыі ў будучыні, як у Беларусі, так і ў іншых краінах.

*Канцэптуальная аснова*: дасьледаваньне будуецца на аснове наступных канцэпцыяў:

Першы важны панятак падчас аналізу – *глётапалітыка,* то бок сукупнасьць практыкаў, уплываў дзяржавы, а таксама іншых уладных актораў на мову, што дазваляе лепей зразумець фэномэн моўнага сораму, а часам і моўнай нянавісьці, якая паўстае ў сытуацыі дамінаваньня і маргіналізацыі. Панятак *глётапалітыка* ўведзены ў сацыялінгвістыку францускімі дасьледнікамі Люі Геспэнам і Жанам-Батыстам Марсэлезі [Guespin et Marcellesi 1986]. Гэтая канцэпцыя дазваляе паўней уключыць у аналіз і растлумачыць палітычнае вымярэньне ў разьвіцьці любой мовы.

*Моўная (сама)нянавісьць* ці *auto-odi* [Ninyoles 1985: 16–17], панятак прапанаваны Рафаэлем Люісам Нініёлесам, выкарыстаны ў артыкуле ў якасьці адпраўной кропкі для разважаньняў пра стан маргіналізацыі беларускай мовы. Але ў працы мы паступова адыходзім ад панятку моўнай (сама)нянавісьці і пераходзім да панятку моўнага сораму. Дзякуючы канцэпту *auto-odi* паўстаў панятак моўны сорам.

*Моўны сорам* – панятак, які я прапаную выкарыстоўваць замест панятку моўнай нянавісьці, паколькі ў Беларусі ў большасьці выпадкаў канстатуецца пераважна сорам. Панятак *моўны сорам* больш дакладны, бо ён дамінуе ў аналізе дыскурсаў, у аналізе ўспамінаў, а таксама ў адказах рэспандэнтаў падчас інтэрвію. Да ўсяго моўны сорам – гэта панятак, які паўстае на ўзроўні самавызначэньня. Моўны сорам варта разглядаць як вынік нэгатыўнай моўнай палітыкі, рэпрэсіяў, траўмы, якія зьведалі беларусы ў межах Расейскай, а пазьней Савецкай імпэрыі. Панятак да ўсяго добра тлумачыць зь гістарычнага пункту гледжаньня прычыны цяперашняй маргіналізацыі беларускамоўных, а таксама нявызначанасьць ці залежнасьць афіцыйных беларускіх элітаў і іх расейска-арыентаванай палітыкі.

*Моўная небясьпека* – важны сацыялінгвістычны канцэпт, які часам выкарыстоўваецца ў працы. Я выкарыстоўваю тут вэрсію моўнай небясьпекі, прапанаваную Люі-Жанам Кальвэ: “Пад моўнай небясьпекай падразумяваецца такая сытуацыя, калі носьбіты мовы лічаць сваю мову малакаштоўнай, нязначнай і імкнуцца да іншай больш прэстыжнай мовы, мадэлі, якой, праўда, не валодаюць” [Calvet 1993: 50].

У артыкуле таксама сустракаецца канцэпт *глётафобія,* як тэрмін для азначэньня скрайняй формы і стадыі моўнай дыскрымінацыі, лінгвацыду [Blanchet 2016].

*Лінгвацыд* – панятак, які ў сацыялінгвістыцы азначае мэтанакіраванае вынішчэньне маргінальнай мовы на карысьць іншай, звычайна прэстыжнай мовы [Hassanpour 2000: 33–39].

Зрэшты, *беларусафобія* ў працы выкарыстоўваецца пераважна ў вузкім сэнсе страху, нянавісьці да беларускай мовы, а не да беларусаў і беларускай культуры наагул.

*Мэтадалягічная база*: Дасьледаваньне заснавана на *аналізе літаратурных тэкстаў* беларускіх аўтараў, у якіх паўстае тэма моўнага цураньня, сораму (Янка Купала, М. Гарэцкі, Кузьма Чорны, Л. Геніюш, В. Быкаў, Б. Сачанка, І. Ласкоў, Сьвятлана Алексіевіч і многія іншыя), а таксама на *аналізе працаў мовазнаўцаў*, якія не мінімізавалі палітычнага, ідэалягічнага ўплыву на мову (Л. Геспэн, Ж.-Б. Марсэлезі, Р. Л. Ніниёлес, Л.-Ж. Кальвэ, Ян Станкевіч, Іван Лепешаў, Юрась Бушлякоў, Н. Баршчэўская, Н. Мячкоўская, Вінцук Вячорка, Зьміцер Саўка і інш.).

Акрамя таго ў працу ўключаны *аналіз выступаў* грамадзкіх дзеячоў (напрыклад, выказваньні прэзыдэнта Аляксандра Лукашэнкі з 1994 па 2019 гады аб беларускай мове).

*Параўнаньне* таксама выкарыстоўваецца ў якасьці мэтаду, каб даведацца, як сытуацыя моўнага сораму адносна роднай мовы ў Беларусі адрозьніваецца ад сытуацыі, якая назіраецца ва Ўкраіне (і зь гістарычнага пункту гледжаньня сытуацыя параўноўваецца з каталёнскім выпадкам).

Зрэшты, у аналіз уключаныя элемэнты *якасных ці паглыбленых інтэрвію*, распачатых у 2019 годзе і не завершаных на дадзены момант. На аснове завершаных інтэрвію ў 2021 годзе плянуецца іншы артыкул, прысьвечаны гендарнаму зрэзу моўнага сораму беларусаў. У дадзеным артыкуле зь гендарным зрэзам пытаньня можна азнаёміцца часткова. Маюцца на ўвазе інтэрвію зь беларускімі мужчынамі, якія за савецкім часам праходзілі вайсковую службу не ў БССР, а ў РСФСР і савецкіх рэспубліках Сярэдняй Азіі. І якія падчас службы зьведалі практыкі насьмешак, кпінаў зь беларускіх акцэнтаў, словаў, мовы, што ў далейшым паўплывала на моўны і часам нацыянальны сорам рэспандэнтаў.

**Да гісторыі пытаньня**

У 2000 г. Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны надрукавала зборнік пад назвай *Аняменне, хроніка вынішчэння беларус-*

*кай мовы* [*Аняменне* 2000], у якім дзясяткі аўтараў – пісьменьнікі, правазнаўцы, мовазнаўцы, палітыкі, гісторыкі, дыпляматы, сьвятары – апісалі і прааналізавалі паходжаньне беларусафобіі (асабліва ў дачыненьні да мовы), глётафобіі, пачынаючы з XVII стагодзьдзя і да сёньняшняга дня. Цяперашні моўны стан беларуса дасьледнікамі быў названы не як сорам, не як нянавісьць, а як моўнае аняменьне, то бок завяршальная стадыя глётафобіі. Назва кнігі мэтафарычная, не выключаецца рызыка выміраньня мовы, хаця, трэба пазначыць, дваццаць гадоў пасьля публікацыі зборніка беларуская мова ўсё яшчэ існуе і ня стала мёртвай мовай. Тым ня менш, засьцерагальнае пасланьне зборніка за 2000 год дасюль мае сэнс, бо русіфікацыя грамадзтва працягваецца, вясковае насельніцтва скарачаецца, а разам з ім і натуральнае поле беларускай мовы.

Таксама ў прыгаданым зборніку цікавым зьяўляецца міждысцыплінарны падыход у трактоўцы маргіналізацыі беларускай мовы. У працы падаецца адпраўная кропка для разуменьня цяперашняга стану мовы – 1696 год, як пачатак глётафобіі ў дачыненьні да беларускай мовы, зьявы, якая прайшла праз такія стадыі, як забарона мовы, паступовая маргіналізацыя, узьнікненьне моўнай няўпэўненасьці, сораму і нават нянавісьці. У 1696 г. беларуская мова згубіла статус дзяржаўнай мовы Вялікага Княства Літоўскага, саступіўшы месца польскай мове. Потым за Расейскай імпэрыяй і за савецкім часам маргіналізацыя і нават забарона беларускай мовы працягваліся (некаторыя гісторыкі кажуць пра лінгвацыд [Грыцкевіч 2000: 17–19]): у 1839 г. казанні і службы па-беларуску забароненыя; у 1864 г. паводле пастановы Міністэрства адукацыі Расейскай імпэрыі шкалярам забаранялася размаўляць па-беларуску ў сьценах навучальняў. У 1867 г. царскія ўлады забаранілі выдаваць кнігі па-беларуску. У XX–м ст. беларускамоўныя школы былі зачыненыя міністарскім загадам на беларускіх землях, якія ўваходзілі ў склад Польшчы. У савецкай Беларусі ў канцы 20-х гадоў XX стагодзьдзя Язэп Сталін спыніў беларусізацыю. З 29 па 30 кастрычніка 1937 г. савецкія ўлады расстралялі ў Менску больш за 100 (у тым ліку 22 пісьменьнікі) асобаў беларускай культуры, абвінавачаных у буржуазным нацыяналізме. З 1939 году ва ўсіх Аўтаномных Рэспубліках СССР абавязковым было вывучэньне расейскай мовы. З 1958 году згодна з пастановай Міністэрства адукацыі СССР, дзеці небеларускіх сем'яў і жаўнеры былі вызваленыя ад вывучэньня беларускай мовы. Нарэшце, да гэтых датаў трэба дадаць 1933 і 1957 гады – гады беларускіх рэформаў, якія праводзіліся камуністамі, калі мова была фактычна зрусіфікаваная.

Такім парадкам, з канца XVII ст. да канца XX ст. беларусы жылі пад уладай іншых краінаў ва ўмовах іншамоўнасьці, і іх родная мова часта была маргіналізаваная і прэзэнтавалася як дыялект, а часам і зусім як нешта лішняе. Гэта тлумачыць, чаму сёньня ў незалежнай Беларусі эліты працягваюць ня ведаць, баяцца і/ці саромецца беларускай мовы. Рэпрэсіўная і траўматычная гісторыя беларусаў і іх мовы тлумачыць су-

часны фэномэн моўнага сораму. Пры гэтым аналіз рэпрэсіўнай і траўматычнай гісторыі беларусаў можа дапамагчы лепш зразумець генэзіс праблемы, аднавіць іх і тым самым яшчэ раз прыцягнуць увагу да невядомай тэмы ў беларускай гуманістыцы – моўнага сораму беларусаў.

**Моўны сорам праз прызму мастацкай літаратуры**

Ужо на пачатку ХХ стагодзьдзя беларуская мастацкая літаратура, якая папярэднічала навуковым дасьледаваньням у галіне сацыялінгвістыкі, апісала сытуацыю маргіналізацыі беларускай мовы і разьвіцьцё зьявы моўнага сораму сярод беларусаў. Клясыкі літаратуры сталі першымі, хто зафіксаваў і апісаў гэты фэномэн, бо ў пачатку ХХ стагодзьдзя не было ані беларускай дзяржавы, ані беларускай самастойнай навукі, ані сацыялінгвістыкі. Таму пісьменьніцтва першым апісала праблему за царскім і потым бальшавіцкім часам, захаваўшы багаты матэрыял для пазьнейшай навукі, у тым ліку сацыялінгвістыкі. У гэтай падчастцы я коратка падам асноўных аўтараў, якія разглядалі пытаньне моўнага сораму і як ён праяўляўся. На самой справе існуе значна больш літаратурных тэкстаў на тэму, што цікавіць нас. Мы абмяжуемся сьціслым аглядам і аналізам.

Так, Янка Купала, адзін з бацькоў сучаснай беларускай літаратуры, у сваёй п'есе *Тутэйшыя* ахапіў праблему маргіналізацыі беларусаў у Расейскай імпэрыі. Ён пасьпяхова прадэманстраваў, як царская палітыка русіфікацыі навучыла беларусаў не любіць сваю мову і пачала адвучаць іх ад роднай мовы. У выніку царскай калянізатарскай палітыкі беларуская мова ў XIX–XX стст. часта называлася дыялектам ці *наречіем*, часткай расейскай мовы ці радзей польскай. Купалава назва "тутэйшыя" выкарыстоўваецца між іншым і для абазначэньня асобы, пазбаўленай нацыянальнага пачуцьця і гонару за свае паходжаньне, мову, бо тутэйшыя ня ведаюць, як назвацца самім і назваць сваю мову.

Іншы клясык Максім Гарэцкі ў аповесьці *Ціхая плынь* (1917–1918) паказаў, як у царскія часы настаўнікі каралі шкаляроў, якія размаўлялі па-беларуску ў школе, вешаючы біркі на вінаватых, каб напалохаць іншых і паказаць, што чакае тых, хто ня можа размаўляць на расейскай, адзінай "культурнай мове" [Гарэцкі 2016: 445–448]. Яшчэ раней – у 1915 годзе – пісьменьнік напісаў сымбалічнае важнае і насычанае апавяданьне *Рускі*, у якім паказаў беларускага селяніна, які ў шпіталі называў сябе рускім. Потым у савецкія часы пісьменьнік адзначыў, што нічога не зьмянілася для беларусаў, іх культуры і мовы: беларусы працягвалі саромецца і спрабавалі пазбавіцца ад свайго акцэнту, каб перайсьці на расейскую мову, вымаўляць словы, як жыхары Расеі, а яшчэ лепей Масквы.

У сваёй паэзіі, а таксама ва ўспамінах *Споведзь* [Геніюш 1993] пра гады, праведзеныя ў гулагу, Ларыса Геніюш таксама апісала татальную русіфікацыю савецкага беларускага грамадзтва.

Зоська Верас, беларуская пісьменьніца зь Вільні, у сваіх успамінах апісала моўны сорам беларусаў, якія цураюцца роднай мовы, усё менш і менш пішуць па-беларуску, а ў самой БССР нідзе не адшукаць паштоўкі па-беларуску [Верас 2013].

Пасьля Другой сусьветнай вайны індустрыялізацыя і ўрбанізацыя ў Савецкай Беларусі працягнуліся. А разам з імі і русіфікацыя, а таксама такі фэномэн, як "сена на асфальце", апісаны літаратурна ў 1966 годзе пісьменьнікам Міхасём Стральцовым [Стральцоў 1966]. Літаральна падразумяваецца жыцьцё вясковага беларуса ў месьце, беларуса ў расейскамоўным асяродку. Вобраз "сена на асфальце" паўстае, як нешта нечаканае, недарэчнае, сьмешнае і занадтае ў месьце. Самі беларусы, асабліва беларускамоўныя, выглядаюць гэтак жа недарэчна і сьмешна ў месьце, як сена на асфальце.

Такім парадкам, літаратура, нягледзячы на ціск і палітычны кантроль, заставалася ў гістарычнай пэрспэктыве ці не адзінай сілай, якая артыкулявала і разважала над праблемай зьнікненьня мовы альбо ейнай маргіналізацыі. Таксама некаторыя сучасныя расейскамоўныя пісьменьнікі краіны выказваюцца на гэтую тэму: так, С. Алексіевіч часта заяўляе цяпер пра маргіналізаваную беларускую мову, зьняважаную дыктатарскім рэжымам [Алексіевіч 2019].

## Гендарны аспэкт моўнага сораму беларусаў

Новае вымярэньне – гендарнае – у тэме моўнага сораму паўстала дзякуючы крытычным заўвагам беларускага і якуцкага пісьменьніка і этноляга Івана Ласкова [Ласкоў 2019: 381–382]. У сваіх артыкулах, напісаных у 80-я гады мінулага стагодзьдзя, пісьменьнік падаў цікавы мужчынскі досьвед зьявы моўнага сораму, паўсталага ў выніку праходжаньня вайсковай службы. Вядома, што любое войска, у тым ліку савецкае, зьяўляецца моцнай татальнай інстытуцыяй і асноўным агентам дарослай сацыялізацыі, у прыватнасьці мужчынаў. Да ўсяго войска служыла лябараторыяй русіфікацыі мужчынскага насельніцтва і савецкая армія зусім не спрыяла ўмацаваньню нацыянальнай ідэнтычнасьці народаў розных рэспублікаў, а пераважна адной савецка-расейскай і расейскамоўнай ідэнтычнасьці. Як сьведчаць рэспандэнты ў інтэрвію і як заўважае І. Ласкоў, цягам двух гадоў пад сьцягам удалечыні ад радзімы многія маладыя беларускія мужчыны зьведвалі дадатковую дзедаўшчыну, насьмешкі і зьдзекі праз свае беларускія прозьвішчы, акцэнт, словы, а часам і мову. У выніку на радзіму часта вярталіся новыя людзі, якія саромеліся беларускай мовы, паходжаньня і імкнуліся стаць якаснымі расейскамоўнымі асобамі.

Варта дадаць і гістарычную прызму гендарнага перакруту ў разьвіцьці моўнага сораму, асабліва сярод беларускіх мужчынаў XIX–XX стст.: ужо згаданы вышэй пісьменьнік М. Гарэцкі [Гарэцкі 1995] пісаў пра падобную тэндэнцыю ў Расейскай імпэрыі і пра асаблівае стаўленьне да прызваных у войска іншародцаў.

Такім парадкам, інтэрвіяваньне мужчынаў, якія служылі за савецкім часам, працягваецца і якасна дапаўняе тэму дасьледаваньня.

**Моўны сорам на прыкладзе выступаў А. Лукашэнкі**

З самага пачатку выбараў у 1994 годзе прэзыдэнт абраў расейскую мову галоўнай мовай дыктатуры. Пасьля правядзеньня рэфэрэндуму і вяртаньня расейскай мовы ў якасьці дзяржаўнай нароўні зь беларускай мовай, А. Лукашэнка, які паходзіць з савецкай і, адпаведна, расейскамоўнай эліты, адразу ж адкінуў беларускую мову з публічнага поля. На самым пачатку кар'еры прэзыдэнт ня вельмі добра размаўляў па-расейску, ён гаварыў на вядомай трасянцы. І тым ня менш, у 1994 г. ён заявіў: "У сьвеце існуюць толькі дзьве вялікія мовы – расейская і ангельская" [Лукашэнка 1994: 1]. Беларуская мова не належала для беларускага прэзыдэнта да катэгорыі вялікіх. Прэзыдэнт агучыў уласны моўны сорам і амаль узаконіў яго. У выніку беларуская мова засталася мовай маргінальнай і мінімальнай: яна вывучаецца ў школе, яна гучыць у некаторых тэатрах і мэтро, яна асацыюецца для ўлады з апазыцыяй.

Аналіз выступаў прэзыдэнта наконт беларускай мовы за 26 гадоў пры ўладзе можна рэзюмаваць наступным чынам: беларуская мова – другасная мова, учорашняя мова, мова сельскай мясцовасьці, мова меншасьці і апазыцыі. Аднак, пачынаючы з 2014 году, А. Лукашэнка паступова пачаў шкадаваць аб маргіналізацыі беларускай мовы і сьцьвярджаць адваротнае – раптам беларуская мова стала "сэрцам нацыі" [Лукашенко 2019]. Несумненна, геапалітычныя зьмены ў рэгіёне – расейска-ўкраінская вайна – паўплывала на прэзыдэнта. З 2014 году, калі Расея акупавала Крым, мы можам бачыць паступовую моўную прабеларускасьць прэзыдэнта. Адказваючы ў 2015 годзе на крытыку аб заняпадзе мовы, А. Лукашэнка заявіў, што ён не нясе адказнасьці за гэта: "гэта не я, ведаеце, не я. Я атрымаў у спадчыну такую краіну і ад такой сітуацыі. <...> Усе пытанні да Машэрава" [Лукашенко 2015].

Кульмінацыяй станоўчай дэкларацыі прэзыдэнта ў дачыненьні да беларускай мовы стала інтэрвію ў 2019 годзе, калі ў папулісцкай форме ён выказаўся на карысьць прынцыповага двухмоўя: "Калі нехта хоча згубіць розум, ён згубіць расейскую мову. Калі нехта хоча згубіць свае сэрца, ён згубіць беларускую мову" [Лукашенко 2019].

Не зважаючы на пэўны адыход прэзыдэнта ад моўнага сораму да хутчэй моўнага гонару, часам здараюцца старыя выкіды: так, увесну 2019 году А. Лукашэнку раптам не спадабалася дарожнае табло па-беларусу "Хуткасны рэжым", загадаў перакласьці яго на расейскую мову, бо турысты з Расеі не разумеюць пасланьня [Лукашэнка 2019].

Якімі б ні былі выказваньні прэзыдэнта наконт беларускай мовы, рэчаіснасьць сьведчыць усё адно на карысьць моўнага сораму: у краіне дасюль няма ані беларускамоўнага ўнівэрсытэту, ані школы. Вясковыя і месьцячковыя школы пераводзяцца на расейскую мову. У краіне няма

ніводнага тэлеканалу, ані кінатэатра па-беларуску. Уся кінэматаграфічная прадукцыя дублюецца па-расейску для беларусаў у Маскве. Моладзь ня вельмі добра разумее беларускую мову і часта чытае клясыку беларускай літаратуры на расейскай мове. Ідэал савецкага камунізму – грамадзтва з адной расейскай мовай, як мовай сьветлай будучыні, паступова рэалізуецца ў Беларусі А. Лукашэнкі.

**Параўнаўчая пэрспэктыва (на прыкладзе беларускай і ўкраінскай моваў)**

Як вынікае з дасьледаваньня аб саманянавісьці, ці *auto-odi*, сярод каталёнцаў, зьява моўнай варожасьці і сораму вядомая чалавецтву здаўна: Р.Л. Нініёлес спасылаецца на аналягічную зьяву, вядомую жыдоўскай культуры ў Сярэднявеччы, калі эўрапейскія жыды цураліся і адмаўляліся ад сваёй мовы, культуры [Garabato et Colonna 2016: 16–17]. Таксама можна дапусьціць, што многія зьніклыя мовы сутыкаліся з падобнай зьявай напярэдадні канчатковага зьнікненьня. Так, гісторыкі мовы і этнолягі, якія займаюцца захаваньнем нубійскіх моваў, на прыкладзе нованубійскай мовы Эгіпту і Судану, рэканструявалі схему зьнікненьня мовы: моўны сорам пазначаецца як пагражальны паказальнік на шляху да зьнікненьня мовы [Zaki 2020].

Акрамя таго, важна адзначыць, што моўная нянавісьць – гэта адкрыты моўны канфлікт, тады як моўны сорам – гэта заўсёды прыхаваны, таму нябачны канфлікт. Гэты нюанс важны ў разуменьні адрозьненьняў паміж беларускім і ўкраінскім выпадкам.

Моўны сорам беларусаў можна параўнаць з украінскай сытуацыяй: абедзьве мовы зьведалі падобны досьвед маргіналізацыі ў Расейскай імпэрыі, а пазьней і ў СССР. Украінцам таксама вядомыя моўны сорам і моўная нянавісьць. Праўда, украінскі выпадак адрозьніваўся і ўскладняўся вялікім супрацівам украінцаў расейскай і савецкай моўнай палітыцы. А таму часта прыклад украінскай мовы суадносны з каталёнскай сытуацыяй: ва Ўкраіне выразна вымалёўваўся і моўны сорам, і моўная нянавісьць. У зьвязку з гэтым расейска-ўкраінская вайна, распачатая ў 2014 годзе Расеяй, зьяўляецца якраз доказам распаўсюджанасьці моўнай варожасьці і моўнага канфлікту на ўсходзе Ўкраіны. Безумоўна, тут пераважаюць вонкавыя геапалітычныя і гістарычныя чыньнікі – Расея. Моўная палітыка ў аўтарытарным рэжыме заўсёды зьяўляецца геапалітычнай стратэгіяй. Расея напярэдадні вайны часта выказвала занепакоенасьць станам расейскай мовы ва Ўкраіне. Падчас распаўсюджуваньня нэгатыўнага іміджу Ўкраіны выкарыстоўваліся ня толькі расейскамоўнае насельніцтва Крыму і Данбасу, але і ўкраінцы, якія адчувалі няўпэўненасьць у сваёй ідэнтычнасьці, моўны сорам ці нават нянавісьць да ўкраінскай мовы. Такім парадкам, мова вайны, альбо мова, якая апісвае вайну, адштурхоўваецца ад базавых і часьцяком жартлівых, кплівых стэрэатапыў (кшталту *бульбаш*, *хахол*, *маскаль*), але па хуткім часе ў выніку канфлікту, вайны і актыўнага задзейнічаньня

мовы нянавісьці пазначаныя вышэй стэрэатыпы становяцца агрэсіўнымі, крыўднымі (так, *бульбаш* становіцца *дранікам*, *хахол – бандэрам*, *бандэрнёй*, *правасэкам*, *маскаль* становіцца *русамірам*, *пуцінякам*, *русацяпам*, *кацапам* і пад.). Слоўная, а шырэй гледзячы моўная вольніца вядзе ці спрыяе разьвязаньню ня толькі языкоў, але і ваенных канфліктаў [Іваноў 2018: 258–259].

Пры гэтым моўны сорам, як зьява часта схаваная, вымагае веданьня кантэксту – яна не даступная ўсім, яна не "чытаецца" чужынцамі. Напрыклад, неабходна ведаць гісторыю Беларусі, каб зразумець, як і чаму Менск стаў Мінскам у 1939 годзе і чаму некаторыя беларусы ў пашпарце пішуцца, як Ivanou, а некаторыя, як Ivanov. Як дэманструе ўкраінскі прыклад, падчас вайны альбо грамадзянскай вайны, а таксама падчас эканамічнай крызы, моўны сорам можа перарасьці ў нянавісьць, адкрытую і лёгка пазнавальную ўсімі зьяву. Ахвярамі моўнай саманянавісьці звычайна становяцца людзі, якія ненавідзяць сваю культуру, мову, паходжаньне і не атаясамліваюць сябе з культурай, мовай, у якой яны нарадзіліся. Такім парадкам, яны знаходзяць іншую культуру, іншую мову да атаясамленьня. У кантэксьце расейска-ўкраінскай вайны ў некарэктнай мове па-ўкраінску такіх людзей называюць *ватнікі*. Сацыялінгвістычныя экспэдыцыі па Беларусі прапануюць і беларускі аналяг зьявы, але зноў жа ён ахоплівае ўзровень некарэктнай мовы ці мовы нянавісьці – *дранікі* [Іваноў 2018: 258–259]. Слова *дранікі* сустракаецца ў гутарковай мове ў значэньні млявых, безыніцыятыўных, на ўсё згодных людзей [Гарбацкі 2020].

Радыкалізацыю ўкраінскага выпадку можна растлумачыць моўнай палітыкай як Расеі, так і Ўкраіны, але таксама ўмяшаньнем Расеі (у гэтых краінах, адпаведна, расейская і ўкраінская мовы зьяўляюцца адзінымі дзяржаўнымі мовамі). У той час як у Беларусі афіцыйна існуюць дзьве дзяржаўныя мовы – беларуская і расейская, і таму афіцыйна поля для радыкалізацыі не існуе ці, прынамсі, яно замарожанае і моўны сорам беларусаў не ператвараецца ў нянавісьць. Гэта таксама зьвязана з тым, што аўтарытарызм замарожвае канфлікты і не дазваляе ім разьвівацца. У выніку канфлікт ня можа быць вырашаны і можа вярнуцца на паверхню пазьней. І нават калі беларуская мова змаргіналізаваная ў Беларусі, а расейская мова дамінуе, у краіне афіцыйна прызнаецца двухмоўе, што зьніжае радыкалізм, замарожвае пераход ад сораму да нянавісьці.

## Заканчэньне

Зьява моўнага сораму беларусаў фіксуецца з часоў Расейскай імпэрыі. Аднак асабліва яна актывізавалася і праявілася ў выніку савецкай маргіналізацыі беларусаў і іх мовы, што вынікала з ідэалу КПСС аб зьліцьці нацыяў і моваў, а таксама з таго, што ў беларусаў не было ўласнай дзяржавы і насельніцтва ў XX-м ст. было гвалтоўна русіфікаванае. Набыцьцё дзяржаўнага досьведу ў 1918 годзе, потым псэўда-

дзяржаўнага досьведу ў СССР і, нарэшце, рэальнай незалежнасьці ў 1991 годзе не спыніла рэпрэсіўных і траўматычных практыкаў у дачыненьні да беларускай мовы. Сацыялінгвістычны аналіз гісторыі беларускай мовы дазваляе канстатаваць, што беларускую мову цягам стагодзьдзяў ставілі пад сумнеў, маргіналізавалі, забаранялі, стыгматызавалі (яе называлі "простым дыялектам", "штучнай мовай", "новай мовай", "недамовай", "непэрспэктыўнай мовай"), што ў сваю чаргу сфармавала комплекс, сорам ці нават нянавісьць да яе ў саміх носьбітаў. У незалежны пэрыяд афіцыйная моўная палітыка ня выправіла хібаў папярэдніх практыкаў і зьява моўнага сораму працягвае сілкавацца і падтрымлівацца нэгатыўнымі выказваньнямі прэзыдэнта і наагул расейскамоўнымі і расейскацэнтрычнымі ўладамі і элітамі краіны. Цікава адзначыць, што фэномэн моўнага сораму ахоплівае да ўсяго беларусаў Летувы і Польшчы, якія таксама саромяцца, цураюцца беларускай мовы і пераходзяць на польскую, летувіскую, а часам нават і расейскую мовы, на якіх размаўляць лічыцца прэстыжна і ня так сорамна, як па-беларуску.

Пры гэтым беларускі выпадак цікавы тым, што пакуль што адрозьніваецца ад узгаданага ў працы каталёнскага фэномэну (сама)нянавісьці – пакуль што беларусам уласьцівы хутчэй моўны сорам. Але не выключаецца, што ў пэрспэктыве мы зьведаем зьяву, падобную да *auto-odi.* Бо моўны сорам – гэта частка зьявы саманянавісьці, да якой можна перайсьці ў адсутнасьць усякай моўнай палітыкі па падтрымцы беларускай мовы.

Такім парадкам, моўны сорам, а таксама ягоная падтрымка ці, наадварот, мінімізацыя абумоўленыя цэлай сэрыяй чыньнікаў: тып палітычнага рэжыму, тып моўнай палітыкі, палітычная культура, гістарычны досьвед, геапалітычны чыньнік і г. д. Пры гэтым відавочна адно – для ліквідацыі ці мінімізацыі зьявы моўнага сораму неабходныя палітычная воля і дэмакратычная падтрымка культуры і мовы ў кантэксьце такіх палітык, як пазытыўная дыскрымінацыя або сапраўднае двухмоўе.

## Бібліяграфія

*Anâmenne, z hronìkì znìščènnâ belaruskaj movy*. 2000. Vìl'nâ: Gudas [*Аняменне, з хронікі знішчэння беларускай мовы*. 2000. Вільня: Gudas].

Abalain Hervé. 2000. *Histoire de la langue bretonne*. Editions Jean-Paul Gisserot.

Aleksìevìč S'vâtlana. 2019. *Dzâdy pavìnny sys'cì*. Pol'skae Radyё. 11 traŭnâ 2019 [Алексіевіч Сьвятлана. 2019. *Дзяды павінны сысьці*. Польскае Радыё. 11 траўня 2019] [online] http://archiwum.radyjo.net/4/91/Artykul/419676 [доступ: 20.04.2020].

*Auto-odi. La "haine de soi" en sociolinguistique.* 2016. Red. A. Garabato, R. Colonna, Paris: L'Harmattan.

Barščèŭskaâ Nìna. 2004. *Belaruskaâ èmìgracyâ – abaronca rodnae movy*, Varšava: Varšaŭskì Unìversìtèt [Баршчэўская Ніна. 2004. *Беларуская эміграцыя – абаронца роднае мовы*, Варшава: Варшаўскі Універсітэт].

*Belaruskaâ vâslârka: Â što, stanu bol'š ščaslìvaj, kalì pačnu razmaŭlâc' na belaruskaj? Kamu âna patrèbnaâ?* [*Беларуская вяслярка: Я што, стану больш шчаслівай, калі пачну размаўляць на беларускай? Каму яна патрэбная?* [online] https://nn.by /?c=ar&i=252445 [доступ : 26.05.2020] ].

Blanchet Philippe. 2016. *Discriminations: combattre la glottophobie*. Paris: Textuel.

Bykaŭ Vasìl'. 2002. *Doŭgaâ daroga dadomu.* Mìnsk: Knìga [Быкаў Васіль. 2002. *Доўгая дарога дадому*. Мінск: Кніга].

Calvet Louis-Jean. 1993. *La sociolinguistique*. Paris: Editions PUF, coll. "Que sais-je".

Cyhun Genadz'. 2000. *Krèalìzavany pradukt: Trasânka âk pradmet lìngvìstyčnaga dasledavannâ.* "Arche-Skaryna" № 6: 51–58 [Цыхун Генадзь. 2000. *Крэалізаваны прадукт: Трасянка як прадмет лінгвістычнага даследавання*. "Arche-Скарына" № 6: 51–58].

Denis Marie-Noële. 2003. *Le dialecte alsacien : état des lieux*. "Ethnologie française", 3 (Vol. 33): 363–371.

Fusina Jacques et Ettori Fernand. 1981. *Langue corse, incertitudes et Paris*. Ajaccio: Scola Corsa.

*Gavoryc' Radyë VYZVALEN'NE...* 2020. Praga: Radyë Svabodnaâ Èŭropa / Radyë Svaboda [*Гаворыць Радыё ВЫЗВАЛЕНЬНЕ...* 2020. Прага: Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода].

Garbackì Ŭladzìslaŭ. 2020. *Èpoha poz'nâga Lukašènkì ì rasejska-ŭkraìnskaâ vajna ŭ move vìcebskìh belarusaŭ*. "Arche" 2020, 4 studzenâ [Гарбацкі Ўладзіслаў. 2020. *Эпоха позьняга Лукашэнкі і расейска-ўкраінская вайна ў мове віцебскіх беларусаў*. "Arche" 2020, 4 студзеня [online] https://gazeta.arche.by/article/294.html [доступ: 26.05.2020]].

Garèckì Maksìm. *Ruskì* [Гарэцкі Максім. *Рускі*] [online] https://knihi.com/Maksim_Harecki/Ruski.html [доступ : 26.04.2020].

Garèckì Maksìm. 2016. *Tvory.* Zalataâ kalekcyâ belaruskaj lìtaratury, tom 12, Mìnsk: Mastackaâ lìtaratura [Гарэцкі Максім. 2016. *Творы*. Залатая калекцыя беларускай літаратуры, том 12, Мінск: Мастацкая літаратура].

Genìûš Larysa. 1993. *Spovedz'.* Mìnsk: Mastackaâ lìtaratura [Геніюш Ларыса. 1993. *Споведзь*. Мінск: Мастацкая літаратура].

Gìlevìč Nìl. 1993. *Âk ne spynìc' uzyhodu sonca…* Mensk: Navuka ì Tèhnìka [Гілевіч Ніл. 1993. *Як не спыніць узыходу сонца…* Менск: Навука і Тэхніка].

Grahoŭskì Sârgej. 2008. *Zona maŭčannâ.* Mìnsk: Mastackaâ lìtaratura [Грахоўскі Сяргей. 2008. *Зона маўчання.* Мінск: Мастацкая літаратура].

Gryckevìč Anatol'. 2000. *Zanâpad belaruskaj movy ŭ Belaruska-Lìtoŭskìm gaspadarstve ŭ 18 stagodzdzì.* U*: Anâmenne, z hronìkì znìščènnâ belaruskaj movy.* Vìl'nâ, Gudas: 17–19 [Грыцкевіч Анатоль. 2000. *Заняпад беларускай мовы ў Беларуска-Літоўскім гаспадарстве ў 18 стагодздзі*. У: *Аняменне, з хронікі знішчэння беларускай мовы*. Вільня, Gudas: 17–19].

Gryckevìč Anatol'. 2000. *Lìngvacyd, abo znìščènne movy*. U*: Anâmenne, z hronìkì znìščènnâ belaruskaj movy.* Vìl'nâ, Gudas: 83–91 [Грыцкевіч Анатоль. 2000. *Лінгвацыд, або знішчэнне мовы*. У: *Аняменне, з хронікі знішчэння беларускай мовы*, Вільня, Gudas: 83–91].

Guespin Louis et Marcellesi Jean-Baptiste. 1986. *Pour la glottopolitique*. "Langages", nº 83: 5–34.

Hassanpour Amir. 2000. *The politics of A-political Linguistics: Linguists and Linguicide*. In: *Rights to Language: Equity, Power, and Education*. Red. R. Phillipon. Routledge.

Ìvanoŭ Uladzìslaŭ. 2018. *Âk mova rèague na rasejska-ŭkraìnskuû vajnu (palìtalâgìčnyâ ì sacyâlìngvìstyčnyâ zaŭvagì)*. "Ìdeologìâ ì Polìtika" № 3(11): 258-259 [Іваноў Уладзіслаў. 2018. *Як мова рэагуе на расейска-ўкраінскую вайну* (*паліталягічныя і сацыялінгвістычныя заўвагі*). "Ідеологія і Політика" № 3(11): 258–259].

Lainé Noël. 1992. *Le Droit à la parole: Quel avenir pour la langue bretonne ?* FeniXX.

Laskoŭ Ìvan. 2019. *Vybranyâ tvory.* Mìnsk: Belaruskaâ navuka [Ласкоў Іван. 2019. *Выбраныя творы*. Мінск: Беларуская навука].

Lepešaŭ Ìvan. 2002. *Sučasnaâ belaruskaâlìtaraturnaâ mova: sprèčnyâ pytannì.* Grodna: GrDU [Лепешаў Іван. 2002. *Сучасная беларуская літаратурная мова: спрэчныя пытанні*. Гродна: ГрДУ].

Loubière Timothée. *L'Alsacien fait de la résistance* [online] http://prod-cuej.u-strasbg.fr/mini-sites/traces/articles/la-langue-des-mechants-nazise [доступ : 26.04.2020].

Lukašenko A. 2019. *Vopros âzyka u nas rešen raz i navsegda* [Лукашенко А. 2019. *Вопрос языка у нас решен раз и навсегда* [online] https://www.belta.by/president/view/lukashenko-vopros-jazyka-u-nas-reshen-raz-i-navsegda-369474-2019/ [доступ: 20.05.2020]].

*Lukašènka aburyŭsâ belaruskamoйnymì darožnymì znakamì.* 2019. "Radyë Svaboda" [*Лукашэнка абурыўся беларускамоўнымі дарожнымі знакамі*. 2019. "Радыё Свабода"] [online] https://www.svaboda.org/a/29891311.html [доступ: 20.05.2020].

Lukašenko Aleksandr. 1994. *Iz vystupleniâ na sessii Gomel'skogo gorsoveta.* "Narodnaâ gazeta" 1994, 1 s'nežnâ [Лукашенко Александр. 1994. *Из выступления на сессии Гомельского горсовета.* "Народная газета", 1994, 1 сьнежня].

*Lukašènka– pra belaruskuû movu: Gèta ne â, pytannì – da Mašèrava*. 2015. "Euroradio.fm" [*Лукашэнка – пра беларускую мову: Гэта не я, пытанні – да Машэрава*. 2015. "Euroradio.fm"] [online] https://euroradio.fm/lukashenka-pra-belaruskuyu-movu-geta-ne-ya-pytanni-da-masherava [доступ: 20.05.2020].

Mâčkoŭskaâ Nìna. 2008. *Movy ì kul'tura Belarusì: narysy.* Minsk: Prava i èkanomika [Мячкоўская Ніна. 2008. *Мовы і культура Беларусі : нарысы*. Мінск: Права і эканоміка].

Moracchini Georges. 2005. *Aspects de la situation sociolinguistique de la Corse. Les apports de l'Enquête Famille. "*Langage et société", 2 (n°112): 9–32.

Ninyoles Rafael Lluis. 1985. *Conflicte lingüístic valencià : substitució lingüística i ideologies diglòssiques*. Valence: Eliseu Climent.

Sačanka Barys. 2017. *Vybranyâ tvory.* Mìnsk: Belaruskaâ navuka [Сачанка Барыс. 2017. *Выбраныя творы*. Мінск: Беларуская навука].

Scalbert-Yücel Clémence. 2017. *Guerre, état d'urgence, droits culturels et linguistiques kurdes bafoués. Retour sur le pluralisme selon l'AKP*. "Mouvements" 2 (n° 90): 101–108.

Scarr Francis. 2017. *Language and war in contemporary Ukraine* [online] http://ceenewperspectives.iir.cz/2017/10/19/language-and-war-in-contemporary-ukraine [доступ: 15 траўня 2020].

Stral'coй Mìhas'. 1966. *Sena na asfal'ce.* Mìnsk: Mastackaâ lìtaratura [Стральцоў Міхась. 1966. *Сена на асфальце*. Мінск: Мастацкая літаратура].

Stukalich Jury. 1975. *We Will Overcome!* New York: Kreceuski Foundation.

Ukrajins'ka mowa u XX storiczczi: istorija łingwocydu. 2005. Red. Ł. Masenko. Kyjiw: Wydawnyczyj dim "Kyjewo-Mohylans'ka akademija" [*Українська мова у XX сторіччі: історія лінґвоциду*. 2005. Ред. Л. Масенко. Київ: Видавничий дім «Києво-Могилянська академія»].

Veras Zos'ka. 2013. *Â pomnû ŭsë.* Garodnâ: Garadzenskaâ bìblìâtèka [Верас Зоська. 2013. *Я помню ўсё*. Гародня: Гарадзенская бібліятэка].

Zaki Menna, *Loin de leur terre, les Nubiens rêvent de redonner vie à leur langue* [online] https://www.courrier-picard.fr/id85057/article/2020-04-23/loin-de-leur-terre-les-nubiens-revent-de-redonner-vie-leur-langue [доступ : 26.04.2020].

**ABSTRACT:** The article analyzes the phenomenon of linguistic shame among Belarusians from the sociolinguistic point of view. The topic is new in Belarusian sociolinguistics and linguistics in general, as it was previously was considered mainly as a mere marginalization of the language. The study of linguistic shame is based mainly on Belarusian material: analysis of works by Belarusian writers who described the phenomenon before linguists, analysis of the Belarusian president's discourse on the Belarusian language and interviews with Belarusian men who served in the Soviet-era army. The interview reveals an interesting gender aspect of the phenomenon of linguistic shame: for the first time the Soviet army is analyzed as an additional structure that imposed shame on Belarusian men for their language and culture. Also, the study is based on external experiences of this phenomenon: for example, the well-known phenomenon of *auto-odi* or linguistic hate of oneself of Catalans or linguistic shame of Ukrainians.

**KEYWORDS:** linguistic shame, auto-odi, language policies, gender aspect of linguistic shame, Belarusian language, linguistic insecurity, Russification.

**STRESZCZENIE**: W artykule poddano analizie zjawisko wstydu językowego wśród Białorusinów w aspekcie socjolingwistycznym. Jest to zagadnienie nowe zarówno w socjolingwistyce jak i językoznawstwie. Wcześniej zjawisko to traktowano jako marginalizację języka. Badanie wstydu językowego opiera się głownie na materiale białoruskim: analizie utworów pisarzy białoruskich, którzy wcześniej niż lingwiści dostrzegali problem, analizie dyskursu prezydenta Białorusi dotyczącego języka białoruskiego i wywiadach z Białorusinami, którzy służyli w wojsku w okresie istnienia ZSRR. Wywiady dokładnie ukazują także interesujący genderowy aspekt zjawiska wstydu językowego: po raz pierwszy analizie poddano woj.-sko radzieckie jako dodatkową strukturę, która wzbudzała wśród Białorusinów poczucie wstydu do języka ojczystego i kultury. Badanie oparto także na zewnętrznym doświadczeniu podobnego zjawiska: na przykład znany fenomen auto-odi, czy językowej nienawiści Katalończyków i wstydu językowego Ukraińców.

**SŁOWA KLUCZOWE**: Wstyd językowy, auto-odi, polityka językowa, genderowy aspekt wstydu językowego, język białoruski, niebezpieczeństwo językowe, rusyfikacja.

**РЭЗЮМЭ:** У артыкуле аналізуецца зьява моўнага сораму сярод беларусаў з сацыялінгвістычнага пункту гледжаньня. Тэма новая ў беларускай сацыялінгвістыцы і мовазнаўстве наагул, бо раней тэма разглядалася пераважна як проста маргіналізацыя мовы. Дасьледаваньне моўнага сораму базуецца пераважна на беларускім матэрыяле: аналіз твораў беларускіх пісьменьнікаў, якія апісвалі зьяву раней за лінгвістаў, аналіз дыскурсу прэзыдэнта Беларусі аб беларускай мове і інтэрвію зь беларускімі мужчынамі, якія служылі ў войску за савецкім часам. Інтэрвію якраз раскрываюць цікавы гендарны аспэкт зьявы моўнага сораму: упершыню аналізуецца савецкае войска як дадатковая структура, якая навязвала беларускім мужчынам сорам да сваёй мовы і культуры. Таксама дасьледаваньне абапіраецца на вонкавы досьвед падобнай зьявы: напрыклад, вядомы фэномэн *auto-odi* ці моўнай саманянавісьці каталёнцаў ды моўны сорам украінцаў.

**КЛЮЧАВЫЯ СЛОВЫ**: моўны сорам, auto-odi, моўная палітыка, гендарны аспэкт моўнага сораму, беларуская мова, моўная небясьпека, русіфікацыя

**ACTA ALBARUTHENICA 20: 2020**
DOI: 10.32612/uw.18988091.2020.20.pp.185–198

**Радаслаў Калета / Radosław Kaleta**
Uniwersytet Warszawski / University of Warsaw
ORCID: https://orcid.org/0000-0001-6892-9332
e-mail: rkaleta@uw.edu.pl

**Ігар Капылоў / Ihar Kapylou**
Нацыянальная акадэмія навук Беларусі / National Academy of Sciences
ORCID: https://orcid.org/0000-0002-1862-9005
e-mail: iharkap@gmail.com

**Уладзімір Кошчанка / Uladzimir Koshchanka**
Нацыянальная акадэмія навук Беларусі / National Academy of Sciences
ORCID: https://orcid.org/0000-0002-4942-0896
e-mail: koshul@gmail.com

# Корпусная лінгвістыка як перспектыўны напрамак развіцця беларуска-польскіх моўных сувязей

*Corpus linguistics as a perspective direction for the development of Belarusian-Polish linguistic relations*
*Lingwistyka korpusowa jako perspektywiczny kierunek rozwoju białorusko-polskich związków językowych*

Корпусы як інфармацыйна-даведачныя сістэмы, створаныя на аснове прадстаўнічых электронных збораў тэкстаў, на сучасным этапе з’яўляюцца добра вядомымі і шырока запатрабаванымі рэсурсамі для рознабаковага вывучэння любой мовы. Актуальнасць стварэння корпусаў прадыктаваная неабходнасцю замены інтуітыўнага падыходу дакументаваным падыходам, што адпавядае вядзе да значнага павышэння ўзроўню лінгвістычных даследаванняў і аб’ектыўнасці атрыманых вынікаў. У Беларусі, як і ў Польшчы, была праведзена пэўная праца ў гэтым кірунку.

У Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі праца па аўтаматызацыі лінгвістычных даследаванняў пачалася ў канцы 1970-х па ініцыятыве прафесара Віктара Мартынава, адным з кірункаў якой было стварэнне канкардансаў беларускай мовы. З таго часу і па сённяшні дзень быў створаны шэраг канкардансаў: *Канкарданс беларускай мовы XIX стагоддзя*, *Канкарданс твораў Кандрата Крапівы*, *Канкарданс твораў Кузьмы Чорнага* (быў страчаны). Пазней праца ў гэтым напрамку была фактычна згорнута і толькі

ў апошнія гады аднавілася: быў пашыраны *Канкарданс беларускай мовы XIX стагоддзя*, дадаліся канкардансы твораў асобных аўтараў (Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Аляксандра Ельскага, Кастуся Каліноўскага і інш.) [Сянкевіч 2017].

Першыя спробы стварэння ўласна корпусаў адносяцца да пачатку 2000-х гадоў. Так, у выніку выканання аднаго з падзаданняў дзяржаўнай праграмы *Электронная Беларусь* быў створаны *Машынны фонд беларускай мовы* (2005 г.), які ўтрымліваў і паралельны руска-беларускі корпус юрыдычных тэкстаў аб'ёмам каля 1 млн. словаўжыванняў [Рубашко 2006]. У 2001 г. у Гродзенскім дзяржаўным універсітэце быў створаны корпус твораў Янкі Купалы [Рычкова 1997].

У 2001 г. у Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі выконвалася заданне *Праблема моўнай рэпрэзентатыўнасці і прынцыпы пабудовы корпусу беларускай мовы* дзяржаўнай праграмы фундаментальных навуковых даследаванняў (навуковы кіраўнік – прафесар Генадзь Цыхун). У выніку даследавання былі вызначаны: *жанравая рэпрэзентатыўнасць, храналагічна-гістарычная рэпрэзентатыўнасць, геаграфічная рэпрэзентатыўнасць, варыянтна-правапісная рэпрэзентатыўнасць.* Дадаткова вялася праца па распрацоўцы стандарту і прынцыпаў структурнага анатавання (разметкі) тэкстаў. У цэлым даследаванне мела тэарэтычны характар.

Далейшая праца над корпусам была перанесеная ў Мінскі дзяржаўны лінгвістычны ўніверсітэт і вялася пад кіраўніцтвам прафесара Аляксандра Зубава. На гэтым этапе адпрацоўвалася сістэма граматычнай і структурнай разметкі, пашыралася граматычная база. У выніку выканання задання быў створаны аднамоўны корпус аб'ёмам 1 млн. словаўжыванняў, паралельны англа-беларускі корпус тэкстаў, а таксама нямецка-беларускі корпус тэкстаў, кожны аб'ёмам 300 тыс. словаўжыванняў. Корпусы, створаныя ў межах задання, не з'яўляюцца публічнымі [Зубов, Кощенко 2006] .

З 2008 года ў межах 7-ай рамкавай праграмы Еўрапейскага саюзу ў Беларусі ажыццяўляўся міжнародны праект *BalticGrid-II*. Адным з кірункаў у праекце была распрацоўка лінгвістычных рэсурсаў для краін Балтыі і Беларусі. У прыватнасці, Літва (Вільнюскі ўніверсітэт) і Беларусь (Беларускі нацыянальны тэхнічны ўніверсітэт – навукова-даследчая лабараторыя дынамікі сістэм і механікі матэрыялаў пры ўдзеле спецыялістаў з Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа) распрацоўвалі тэкставыя корпусы навуковай мовы, адпаведна літоўскай і беларускай. У выніку быў створаны першы публічны аднамоўны корпус навуковых тэкстаў беларускай мовы *Corpus Albaruthenicum* аб'ёмам 350 тыс. словаўжыванняў (са знятай аманіміяй), які даступны па адрасе: http://grid.bntu.by/corpus/ [Кошчанка, Капылоў, Міклашэвіч 2009].

У сектары камп'ютарнай лінгвістыкі Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа створаны *Беларускі Біблійны корпус* (http://biblija.bnkorpus.info). Ён уяўляе сабой збор перакладаў Бібліі на беларускую мову

розных гадоў. Корпус змяшчае 16 перакладаў Бібліі на беларускую мову. Для параўнання былі ўключаны таксама асобныя небеларускія пераклады [Булойчык, Кошчанка 2019].

З 2015 года ў Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа вядзецца праца па стварэнні *Нацыянальнага корпусу беларускай мовы*, прататып якога даступны анлайн (http://bnkorpus.info).

У Польшчы корпусная лінгвістыка развіваецца з 70-х гг. XX ст. Падрабязна пра тагачаснае супрацоўніцтва інфарматыкаў факультэта матэматыкі і лінгвістаў факультэта паланістыкі Варшаўскага ўніверсітэта піша ў сваім артыкуле праф. Марэк Свідзіньскі (польск. Marek Świdziński) – былы кіраўнік аддзела камп'ютарнага мовазнаўства [Świdziński 2006]. Паводле яго слоў, адна з першых у свеце задач камп'ютарнай лінгвістыкі была выканана ў Польшчы і датычыла польскай мовы. У 1967–1971 гг. у Варшаўскім універсітэце быў створаны першы (500 тыс. словаўжыванняў) корпус, які быў асновай для частотнага слоўніка польскай мовы *Słownik frekwencyjny polszczyzny współczesnej* (*SFPW*). У 2001–2004 гг. у рамках навуковага праекта (навуковы кіраўнік – Адам Пшэп'юркоўскі, польск. Adam Przepiórkowski) у Інстытуце падстаў інфарматыкі Польскай акадэміі навук быў створаны 100-мільённы корпус польскіх тэкстаў з разметкай (http://nlp.ipipan.waw.pl/~adamp/Papers/2004-corpus/) [Przepiórkowski 2004; Świdziński 2006: 27–28]. Існуе таксама вельмі папулярны і даступны ў Сеціве (https://sjp.pwn.pl/korpus) корпус польскай мовы Польскага навуковага выдавецтва *Korpus Języka Polskiego PWN* (100 мільёнаў словаўжыванняў). У корпусе знаходзяцца фрагменты тэкстаў з часопісаў, рэклам, мастацкай літаратуры, палажэнняў, інструкцый, інтэрнэт-выданняў і запісаў вусных тэкстаў. З 2007 г. назіраецца дынамічнае развіццё польскай камп'ютарнай лінгвістыкі ў сувязі з навуковым грантам польскага Міністэрства навукі і вышэйшай адукацыі, які дазволіў стварыць *Нацыянальны корпус польскай мовы* – Narodowy Korpus Języka Polskiego (больш за паўтара мільярда словаўжыванняў) – інтэрнэт-скарбніцу, якая з'яўляецца публічнай (http://nkjp.pl/) [Рэд. Przepiórkowski, Bańko, Górski, Lewandowska-Tomaszczyk 2012; Bańko, Górski 2014]. Згаданы праект – гэта супольная ініцыятыва Інстытута падстаў інфарматыкі ПАН (кардынатар праекта), Інстытута польскай мовы ПАН, Навуковага выдавецтва PWN, а таксама аддзела камп'ютарнага і корпуснага мовазнаўства Лодзьскага ўніверсітэта. Корпус дазваляе аналізаваць, сярод іншага, скланенне і спражэнне часцін мовы і нават структуру польскіх сказаў. Корпус змяшчае не толькі тэксты класікаў польскай літаратуры, але таксама тэксты прэсы, інтэрнэт-выданняў, адмысловыя тэксты і запісы вусных размоў людзей living рознага ўзросту і полу з розных рэгіёнаў Польшчы.

У Польшчы развіваюцца і меншыя праекты, напр., корпус польскіх тэкстаў XVII і XIX стст. [Bronikowska, Przyborska-Szulc 2018], корпус выказванняў польскіх палітыкаў [Graszewicz 2014], корпус размоўнай

мовы (маўлення) [Demenko 2015] і нават корпус развітальных лістоў самазабойцаў (http://www.pcsn.uni.wroc.pl/). Падрабязна польскамоўныя паралельныя корпусы, у тым ліку польска-рускі (http://pol-ros.polon.uw.edu.pl, 30 млн. словаўжыванняў) і польска-ўкраінскі (www.domeczek.pl, 6,5 млн. словаўжыванняў), разглядаюцца ў манаграфіі, выдадзенай Інстытутам прыкладной лінгвістыкі Варшаўскага ўніверсітэта [Рэд. Gruszczyńska, Leńko-Szymańska 2016]. Вельмі цікавы праект вядзе Ангеліка Пэльяк-Лапінская (польск. Angelika Peljak-Łapińska), выпускніца кафедры беларусістыкі Варшаўскага ўніверсітэта, дактарантка ўніверсітэта Суонсі (анг. Swansea University, Вялікабрытанія) і супрацоўніца Лодзьскага ўніверсітэта. Яна напісала на польскай мове бакалаўрскую працу *Моўны вобраз жанчыны і мужчыны: Польска-беларускі корпусны аналіз* (Варшава 2015, навуковы кіраўнік – Радаслаў Калета), на беларускай мове – магістарскую працу *Негацыя ў беларускай мове: Марфалагічна-сінтаксічны і прагматычны аналіз на аснове корпусу беларускага маўлення* (Варшава 2017, навуковы кіраўнік – Ніна Баршчэўская), і на англійскай мове – кандыдацкую дысертацыю *Design, compilation and applications of an English-Polish-Belarusian Parallel Literary Corpus* (Суонсі 2020, навуковы кіраўнік – Том Чысман, анг. Tom Cheesman), у якой аўтар даследуе пераклады англійскай літаратуры XX і XXI стст. на беларускую і польскую мовы, стварыўшы перакладны паралельны англійска-польска-беларускі корпус (https://epbcorpus.wordpress.com/, 10 млн. словаўжыванняў). А. Пэльяк – гэта першая вядомая нам польская даследчыца, якая ў навуковым артыкуле (даступным у Сеціве) аналізавала таксама Беларускі N-корус [Peljak-Łapińska 2016]. Гэта другі артыкул пра беларускія корпусы на польскай мове (першы належыць беларусу Аляксею Яскевічу – рэдактару і тэхнічнаму адміністратару Philology.BY [гл. Yaskevich 2014]).

Асобнае месца ў сістэме корпусных даследаванняў займае стварэнне паралельных корпусаў. Інстытутам мовазнаўства імя Якуба Коласа сумесна з Мінскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэтам і Інстытутам рускай мовы імя В.У. Вінаградава РАН у 2011–2013 гг. быў створаны паралельны беларуска-рускі і руска-беларускі корпус тэкстаў [Сичинава 2012; Кошчанка 2013]. Аб'ём корпуса сёння складае каля 11 млн. словаўжыванняў, ён даступны на сайце Нацыянальнага корпусу рускай мовы (http://ruscorpora.ru/search-para-be.html).

Паралельныя корпусы маюць важнае значэнне для вывучэння блізкароднасных моў і адыгрываюць асаблівую ролю для выяўлення тонкіх адрозненняў у іх структуры, лексічнай семантыцы і граматыцы. Выкарыстанне лінгвістычных корпусаў з'яўляецца агульнапрызнаным у мовазнаўстве спосабам кантрастыўных даследаванняў моўнай структуры. Таксама, паралельныя корпусы – добры інструмент для перакладчыка, часта больш эфектыўны за перакладныя слоўнікі, паколькі дае большую колькасць эквівалентаў для перакладу і дазваляе верыфі-

каваць значэнні лексічных і фразеалагічных адзінак, зафіксаваных у слоўніках.

Паралельныя корпусы з'яўляюцца высокаэфектыўным інавацыйным дадаткам да традыцыйных адукацыйных тэхналогій, яны выконваюць важныя дыдактычныя і метадычныя функцыі, што знайшло сваё адлюстраванне ў сусветнай практыцы навучання замежным мовам.

Стварэнне паралельнага польска-беларускага і беларуска-польскага корпуса з'яўляецца адным з перспектыўных напрамкаў развіцця польска-беларускага супрацоўніцтва ў галіне мовазнаўства. З аднаго боку, актуальнасць стварэння падобнага корпуса прадыктавана неабходнасцю павышэння ўзроўню аб'ектыўнасці пры кантрастыўных даследаваннях нашых нацыянальных моў, а з іншага боку, паралельны корпус можа стаць незаменным інструментам пры навучанні як польскай, так і беларускай моў (вывучаюцца ў ВНУ абедзвюх краін). Народы Польшчы і Беларусі маюць багатую і працяглую гісторыю суседства і адпаведна напрацавалі істотны корпус перакладных тэкстаў. Так, на беларускую мову перакладаліся творы Адама Міцкевіча, Уладзіслава Сыракомлі, Элізы Ажэшкі, Марыі Канапніцкай, Генрыка Сянкевіча, Мацея Стрыйкоўскага, Дамініка Рудніцкага, Чэслава Мілаша, Стэфана Жаромскага, Цыпрыяна Норвіда, Віславы Шымборскай, Анджэя Сапкоўскага, Януша Вішнеўскага, Вольгі Такарчук і інш., на польскую – Якуба Коласа, Янкі Купалы, Максіма Танка, Уладзіміра Караткевіча, Васіля Быкава, Альгерда Бахарэвіча, Андрэя Адамовіча і інш.

За час незалежнасці Беларусі аб'ём перакладзеных на беларускую мову тэкстаў з польскай мовы істотна вырас, польская мова таксама ўсё шырэй вывучаецца як замежная і ў тым ліку праз пасрэдніцтва беларускай мовы. Створана некалькі перакладных слоўнікаў. Таксама павялічылася колькасць навуковых даследаванняў, звязаных з польскай мовай. У гэтай сітуацыі наспела вострая неабходнасць у стварэнні паралельнага польска-беларускага корпусу.

Для ацэнкі мэтазгоднасці дадзенага праекта трэба ў першую чаргу вывучыць нарматыўна-прававую базу Польшчы і Беларусі адносна аўтарскіх правоў і выкарыстання тэкстаў для навуковага цытавання. Акрамя таго, неабходна высветліць аб'ём тэкстаў, перакладзеных з польскай мовы на беларускую і з беларускай на польскую.

Для ўкладання корпусаў выкарыстоўваюцца электронныя версіі, атрыманыя ад аўтараў, з выдавецтваў, з агульнадаступных у Сеціве інтэрнэт-бібліятэк, а таксама ў неабходным аб'ёме праводзіцца першасная алічбоўка (сканаванне) друкаваных крыніц. У сувязі з гэтым паўстае пытанне аўтарскіх правоў і адпаведна ўзнікае праблема атрымання тэкстаў. Беларускае заканадаўства дазваляе выкарыстоўваць тэксты, выдадзеныя ў Беларусі, у мэтах навуковага цытавання. У Польшчы сітуацыя больш складаная, аб чым сведчыць досвед працы над польска-рускім паралельным корпусам. Некаторыя юрысты сцвярджаюць, што выкарыстоўванне паасобных сказаў або абзацаў не патрабуе

дазволу аўтараў, але з іншага боку, уключэнне канкрэтнага тэксту ў корпус (нават з мэтай выкарыстаць толькі яго фрагменты-цытаты) патрабуе апрацоўкі ўсяго твора [Лазинский, Куратчик 2015: 87; Łaziński, Kuratczyk 2016: 86]. Звычайна тэксты мастацкай літаратуры, якія не абараняюцца аўтарскімі правамі, можна выкарыстоўваць без дазволу, але ёсць нюансы, напр., калі перакладчык беларускага твора на польскую мову памёр у 60–70 гг. XX ст., то абарона яго правоў (паводле польскага закона) будзе працягвацца яшчэ 70 гадоў пасля яго смерці. Такія тэксты (пераклады) не могуць знаходзіцца ў адкрытым доступе, а толькі ў закрытым, дзе могуць быць даступнымі толькі для некаторых асоб, які хочуць карыстацца корпусам для дыдактычных або навуковых мэт. У выпадку мастацкай літаратуры, якая абараняецца аўтарскімі правамі, трэба старацца атрымаць дазвол на выкарыстанне тэкстаў для корпусных мэт (або хаця б адказ з боку ўладальнікаў аўтарскіх правоў на просьбы супрацоўнікаў праекта). Гэта трэба браць пад увагу пры ўкладанні польска-беларускага паралельнага корпуса, хаця сёння ёсць новыя магчымасці атрымліваць і тэксты, і дазвол на іх выкарыстанне, дзякуючы ўсё больш папулярным інтэрнэт-бібліятэкам. З другога боку, паводле польскага заканадаўства, ёсць таксама тэксты, якія не абараняюцца аўтарскімі правамі, напр., кароткія тэксты навін, інструкцый, законаў, дамоў і г. д. Сёння на практыцы стваральнікі малых корпусаў звычайна не звяртаюцца да ўладальнікаў аўтарскіх правоў і робяць доступ да сваіх корпусаў закрытым – аднак любы даследчык можа да іх звярнуцца з просьбай атрымаць пароль для карыстання корпусам. Некаторыя менавіта так разумеюць арт. 27 *Закона аб аўтарскіх правах* (ад 4 лютага 1994 г.), дзе сцвярджаецца, што навуковыя і дыдактычныя адзінкі для навуковых і дыдактычных мэт могуць карыстацца распаўсюджанымі творамі ў арыгінале і перакладзе. Аднак доступ да такіх выкарыстаных твораў можа мець толькі вузкае кола асоб, якія вучацца, выкладаюць або вядуць навуковыя даследаванні. Выкарыстаныя цытаты павінны паказваць звесткі пра аўтара арыгінала (і аўтара перакладу), загаловак арыгінала ( і перакладу).

Вырашэння патрабуе і тэхнічны аспект: месцазнаходжанне пляцоўкі, на якой будзе размешчаны паралельны корпус.

Таксама трэба вывучыць пытанне жанравай разнастайнасці перакладных тэкстаў і вызначыцца з крытэрыямі адбору. У сітуацыі з польска-беларускімі перакладамі можна меркаваць, што большасць даступных тэкстаў будуць адносіцца да канфесійнага, публіцыстычнага, мастацкага, і ў невялікай ступені, афіцыйна-справавога стыляў.

Асобная праблема – гэта тэксты, перакладзеныя пры дапамозе машынных перакладчыкаў. Верагодна, што гэта праблема менш актуальная, чым пры руска-беларускіх перакладах, але калі будуць трапляцца такія тэксты, ці павінны яны ўключацца, нават калі ў іх няма памылак, у корпус?

Пасля вызначэння з крытэрыямі і структурай корпусаў можна прыступаць да адбору тэкстаў. Гэты этап будзе ўключаць як сканаванне, так і атрыманне электронных версій. Працэс сканавання і вычыткі беларускімі спецыялістамі ў галіне корпуснай лінгвістыкі адпрацаваны падчас працы над Корпусам для новага *Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы*. Распрацаванае праграмнае забеспячэнне будзе пасаваць і для апрацоўкі тэкстаў для польска-беларускага і беларуска-польскага корпусаў.

У прыватнасці, у Інстытуце мовазнаўства распрацаваная праграма *Параўнанне сканаў*. Тэкст апрацоўваецца ў праграме распазнавання тэкстаў у два этапы: першы этап – без слоўніка, а другі этап – са слоўнікам. Праграма *Параўнанне сканаў* параўноўвае файл, распазнаны без слоўніка, і файл, распазнаны са слоўнікам, сінхранізуе гэтыя файлы, прымяняе шаблон і вынікі захоўвае ў асобны файл, які мае наступны выгляд:

I

Восень заўсёды падкрадваецца неўзаметку. Янічэ {Яшчэ }прыгравае сонца, усё вакол зялёнае, яшчэ цвітуць гуркі, на доўгай гарбузовай касе смела ўсміхаецца вялізная пяцікутная жоўта-залатая кветка. Лета не хоча здавацца. I {I }раптам прачнешся раніцаю {ранідаю }— на вуліцы туман, густы, белы, як малако. А калі ён развеецца, на бярозе ярчэй засвецяцца жоўтыя лісцікі, бульбоўнік пачарнее, бы абвараны, і раса на траве халодная, аж коле ў босыя пяткі.

Звычайна на трэцім перапынку хлапчукі выбягалі на ўзгор'е і скакалі з абрыву ў пясчаную ямку. На дне яе жвірысты пясок быў халаднаваты, хоць зверху трохі праграваўся, ды неўзабаве парэпаныя ад цыпак ногі перамешвалі яго,ператаўкалі, як проса ў ступе.

Скакалі хлапчукі не проста так сабе. Тут ішло зацятае спаборніцтва — хто далей скокне. Не раз быў чэмпіёнам Андрэйка Сахута. Але нечакана для ўсіх уперад вырваўся Парасчын Данілка. Андрэйка гэтага не мог пераджыць. Калі б Паўлік, ягоны даўні сябрук, было б не так крыўдна, а то смаркаты Данька раптам сігануў далей за ўсіх. Мабыць, і Паўліка гэта раздражніла, ён шмаргануў носам і са здзіўленнем у голасе сказаў:

— Смелы ёты {еты }байструк. У матку ўдаўся. Яна ваўка забіла...

— Хто байструк? А то ў нос як дам зараз! — замахнуўся брудным кулачком Данька.

— Ну, паспрабуй! — натапырыўся Паўлік.— Як дам выспятка, дык і пакоцішся прама ў Бесядзь.

Колерам у тэксце вылучаны спрэчныя месцы, на якія трэба асабліва звяртаць увагу. У аснову кладзецца тэкст, расчытаны пры дапамозе слоўніка, але распазнаванне са слоўнікам мае адзін мінус: праграма падбірае найбліжэйшае слова, якое, паводле алгарытму, найбольш пасуе ў гэтым месцы і здараюцца выпадкі, калі слова падабранае, але яно памылковае, таму побач для праверкі ў фігурных дужках пакідаецца слова, распазнанае без слоўніка. У нашым выпадку відаць, што формы *Янічэ* (*Яшчэ*) і *ёты* (*еты*) былі падабраны няўдала, на што ўказвае варыянт у фігурных дужках, а слова раніцаю – удала. Такі падыход дазваляе істотна зэканоміць час пры вычытцы тэкстаў. Адначасова з вычыткай тэксту правяраецца і пазначаецца яго структура, закладзеная ў шаблоне: іерархія загалоўкаў, эпіграфы, подпісы, паэтычныя ўстаўкі ў празаічных тэкстах і г. д.

Для выраўноўвання тэкстаў можна выкарыстоўваць, атрымаўшы дазвол, праграму *Евклид*, распрацаваную спецыялістамі Інстытута рускай мовы імя В.У. Вінаградава РАН. Праграма з'яўляецца графічным

інтэрфейсам карыстальніка да даступнай у адкрытым рэжыме праграмы выраўноўвання тэкстаў *HunAlign*. У праграму загружаюцца два тэксты – арыгінал і пераклад, пасля гэтага яны праходзяць этап папярэдняй апрацоўкі: выдаляюцца пустыя радкі, збыткоўныя прагалы, кожны сказ пераносіцца на новы радок, а потым два тэксты выраўноўваюцца і загружаецца графічны інтэрфейс для ручнога пострэдагавання.

Выраўнаваны тэкст можна захаваць у фармаце XML (кадаванне Юнікод), як у канчатковым корпусным, так і ў прамежкавым фармаце, даступным для далейшага рэдагавання. Пры захаванні выраўнаванага тэксту трэба вызначыць мову арыгінала і перакладу. Яны будуць захаваны ў XML у складзе адпаведных тэгаў. У захаваным XML-файле пары сказаў пранумараваны (ім нададзены ўнікальныя нумары) для аблягчэння спасылак. У далейшым словам будзе прыпісвацца граматычная інфармацыя.




*Мал.1. Інтэрфейс праграмы Евклид*

Праграма *Евклид* таксама дазваляе дадаць да кожнага захаванага тэксту метатэкставую інфармацыю (метаразметку), якая запісваецца ў якасці асобнага радка ў электронную табліцу (дакумент, даступны для рэдагавання праграмамі тыпу *Excel*). Карыстальнік запаўняе ў адмысловай форме назву тэксту і імя аўтара ў арыгінале і перакладзе, дату стварэння тэксту; мова арыгінала і перакладу захоўваюцца аўтаматычна, выходзячы з раней захаванай інфармацыі.




*Мал. 2. Форма для запаўнення метатэкставай інфармацыі*



```
<para id="17">
 <se lang="be">Старэйшы прыняў яе ўдар з каменнай абыякавасцю на змрочным худым твары, нават не ўздрыгнуў,
 толькі мацней сцяў вусны, і яна зразумела, што ўсё гэта - дарма.</se>
 <se lang="ru">Старший принял ее удар с каменным безразличием на угрюмом худом лице, даже не вздрогнул, только
 плотнее сжал губы, и она поняла, что все это напрасно.</se>
</para>
<para id="18">
 <se lang="be">Дарма ўвесь яе гнеў, яе лаянка, яе запазнелая спроба вярнуць сваю ўладу над хлопцамі.</se>
 <se lang="ru">Напрасен весь ее гнев, ее брань, ее запальчивая попытка вернуть уходящую власть над сынами.</se>
</para>
<para id="19">
 <se lang="be">Роспач адразу падламіла яе і, кінуўшы вілачнік, яна выйшла ў сенцы.</se>
 <se lang="ru">Отчаяние враз сломило ее, и, бросив ухват, она вышла в сени.</se>
</para>
```

*Мал. 3. Выніковы выраўнаваны тэкст у фармаце XML*

Корпусы таксама павінны забяспечвацца граматычнай разметкай. Для граматычнай разметкі беларускіх тэкстаў можна выкарыстаць *Лексіка-граматычную базу беларускай мовы*, якая распаўсюджваецца на ўмовах ліцэнзіі *Creative Commons Attribution/Share-Alike 3.0*. На сённяшні дзень *Лексіка-граматычная база* беларускай мовы мае прыблізна 255 000 парадыгм і больш за 2 500 000 словаформаў.

База ўяўляе сабой збор слоў з марфалагічнымі і іншымі пазнакамі. У загалоўку парадыгмы падаецца ідэнтыфікацыйны нумар парадыгмы (*pdgId*), пачатковая форма (*Lemma*), граматычная прыкмета лексемы (*Tag*). Пры патрэбе фіксуецца дадатковая інфармацыя: кіраванне для дзеясловаў (*Govern*), значэнне (Meaning), заўвагі. Кожная склонавая

форма мае ўласцівыя толькі ёй прыкметы (*Form Tag*). Таксама пазначаецца крыніца слова або формы слова, націск, правапіс, некананічныя формы:

```
<Paradigm pdgId="1114391" lemma="ме+сці" tag="VDMN1">¶
    <Variant id="a" lemma="ме+сці" pravapis="A1957,A2008">¶
        <Form tag="0" slouniki="dzsl2007,sbm2012,tsblm1996,tsbm1984,krapivabr2012">ме+сці</Form>
        <Form tag="R1S" slouniki="dzsl2007,sbm2012">мяту+</Form>¶
        <Form tag="R2S" slouniki="dzsl2007,sbm2012">мяце+ш</Form>¶
        <Form tag="R3S" slouniki="dzsl2007,sbm2012">мяце+</Form>¶
        <Form tag="R1P" type="nonstandard">мяце+м</Form>¶
        <Form tag="R1P" slouniki="dzsl2007,sbm2012">мяцё+м</Form>¶
        <Form tag="R2P" type="nonstandard">мяце+це</Form>¶
        <Form tag="R2P" slouniki="dzsl2007,sbm2012">мецяце+</Form>¶
        <Form tag="R3P" slouniki="dzsl2007,sbm2012">мяту+ць</Form>¶
        <Form tag="PMS" slouniki="dzsl2007">мёў</Form>¶
        <Form tag="PFS" slouniki="dzsl2007">мяла+</Form>¶
        <Form tag="PNS" slouniki="dzsl2007">мяло+</Form>¶
        <Form tag="PXP" slouniki="dzsl2007">мялі+</Form>¶
        <Form tag="I2S" slouniki="dzsl2007">мяці+</Form>¶
        <Form tag="I2P" slouniki="dzsl2007">мяці+це</Form>¶
        <Form tag="RG" type="potential">мятучы+</Form>¶
        <Form tag="RG" type="potential">мё+ўшы</Form>¶
    </Variant>¶
</Paradigm>¶
```


```
<Paradigm pdgId="1114391" lemma="ме+сці" tag="VDMN1">¶
    <Variant id="a" lemma="ме+сці" pravapis="A1957,A2008">¶
        <Form tag="0" slouniki="dzsl2007,sbm2012,tsblm1996,tsbm1984,krapivabr2012">ме+сці</Form>
        <Form tag="R1S" slouniki="dzsl2007,sbm2012">мяту+</Form>¶
        <Form tag="R2S" slouniki="dzsl2007,sbm2012">мяце+ш</Form>¶
        <Form tag="R3S" slouniki="dzsl2007,sbm2012">мяце+</Form>¶
        <Form tag="R1P" type="nonstandard">мяце+м</Form>¶
        <Form tag="R1P" slouniki="dzsl2007,sbm2012">мяцё+м</Form>¶
        <Form tag="R2P" type="nonstandard">мяце+це</Form>¶
        <Form tag="R2P" slouniki="dzsl2007,sbm2012">мецяце+</Form>¶
        <Form tag="R3P" slouniki="dzsl2007,sbm2012">мяту+ць</Form>¶
        <Form tag="PMS" slouniki="dzsl2007">мёў</Form>¶
        <Form tag="PFS" slouniki="dzsl2007">мяла+</Form>¶
        <Form tag="PNS" slouniki="dzsl2007">мяло+</Form>¶
        <Form tag="PXP" slouniki="dzsl2007">мялі+</Form>¶
        <Form tag="I2S" slouniki="dzsl2007">мяці+</Form>¶
        <Form tag="I2P" slouniki="dzsl2007">мяці+це</Form>¶
        <Form tag="RG" type="potential">мятучы+</Form>¶
        <Form tag="RG" type="potential">мё+ўшы</Form>¶
    </Variant>¶
</Paradigm>¶
```


Для разметкі польскіх тэкстаў трэба мець граматычную базу польскай мовы. Аднак адной польскай універсальнай базы не існуе. Ёсць шмат камп'ютарных прылад (гл. http://clip.ipipan.waw.pl/LRT), якімі кожны стваральнік корпуса можа ў любы момант скарыстацца, у залежнасці ад апрацаванай канцэпцыі структуры свайго корпуса. Для прыкладу, сінтаксічную апрацоўку можна зрабіць пры дапамозе прылады *Skarbnica* (http://zil.ipipan.waw.pl/Sk%C5%82adnicaMWE), а марфалагічную пры дапамозе прылады *Morfeusz* (http://morfeusz.sgjp.pl/).

Калі ёсць базы ў вольным доступе, то можна скарыстацца імі альбо шукаць партнёраў, якія маюць падобныя распрацоўкі.

Для падрыхтоўкі канцавой версіі звестак корпусу таксама патрэбен кампілятар. Для *Беларускага N-корпусу* быў распрацаваны такі кампілятар і яго можна адаптаваць пад патрэбы беларуска-польскага паралельнага корпусу. Кампілятар утрымлівае ўсе *граматычныя тэгі*, чытае *граматычную базу*, чытае ўсе тэксты са знятай і не знятай аманіміяй. Для кожнага слова вызначаецца граматычны тэг і лема, тэкст дзеліцца на асобныя параграфы (якія потым змешваюцца ў выпадковым парадку, каб немагчыма было аднавіць зыходны тэкст – магчыма, гэта можа часткова вырашыць праблему аўтарскіх правоў). Вынікі захоўваюцца ў базу, з якой працуе *інтэрфейс пошуку.*

У якасці базы выкарыстоўваецца база *Apache Lucene*. У адрозненне ад звычайных SQL баз (*PostgreSQL, Oracle, MariaDB* і г.д.) база *Apache Lucene* значна больш падыходзіць для захоўвання інфармацыі з нявызначанай колькасцю атрыбутаў для кожнага аб'екта (бо колькасць слоў у абзацы можа быць рознай і на кожнае слова можа прыпадаць розная колькасць граматычных пазнак) і для сцэнарыя выкарыстання "толькі чытанне без транзакцый".

*Беларускі N-корпус* (з прыкладна 251 млн. слоў) кампілюецца 15 хвілін на працэсары i7-4770. Кампіляцыя падкорпусу "неразабраныя тэксты" (прыкладна 174 млн. слоў) займае прыкладна той самы час.

У якасці інтэрфейсу пошуку можна адаптаваць інтэрфейс, распрацаваны для *Беларускага N-корпусу*. Інтэрфейс зроблены на *Java Web Application* з інтэрфейсам *Angular+Bootstrap* і выкарыстоўвае граматычныя тэгі, граматычную базу і базу корпусу, створаныя кампілятарам.

Такім чынам, сучасны стан корпусных даследаванняў у Рэспубліцы Беларусь і ў Рэспубліцы Польшча адкрываюць новыя магчымасці ў развіцці беларуска-польскіх моўных сувязей. Механізм корпусных даследаванняў, у якіх выкарыстоўваюцца не штучна сканструяваныя прыклады, а рэальныя кантэксты, перакладзеныя кваліфікаванымі перакладчыкамі і ўжытыя ў тэксце, значна павышае надзейнасць і дакладнасць вынікаў даследавання дзвюх славянскіх моў. Паралельны корпус дазволіць аўтаматычна будаваць перакладныя канкардансы, выдзяляць у дзвюх мовах групы слоў пэўных словаўтваральных і словазмяняльных тыпаў, граматычныя мадэлі паняццяў і іх эквівалентаў у перакладным тэксце, удакладняць значэнні лексічных адзінак, зафіксаваных у слоўніках, апісваць новыя, адсочваць дынаміку змен у лексічнай сістэме моў.

Стварэнне беларуска-польскага і польска-беларускага паралельных корпусаў знойдзе шырокае практычнае выкарыстанне ў вучэбным працэсе пры выкладанні беларускай і польскай моў у вышэйшых навучальных установах; у вучэбна-метадычнай рабоце пры адборы тэкставых прыкладаў для падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў; у навукова-даследчай працы пры распрацоўцы складаных тэарэтычных пытан-

няў лексікалогіі, лексікаграфіі, пры правядзенні навуковых даследаванняў тэксту і яго рознаўзроўневага моўнага аналізу (статыстычнага, марфалагічнага, стылістычнага, семантычнага і г. д.); у лексікаграфічнай практыцы пры стварэнні слоўнікаў living розных тыпу; у перакладазнаўстве пры распрацоўцы пытанняў тэорыі і практыкі перакладу тэкстаў рознай жанравай і стылёвай прыналежнасці.

## Бібліяграфія


Bańko Mirosław, Górski Rafał. 2014. *Praktyczny przewodnik po korpusie języka polskiego*. W: *Praktyczny przewodnik po korpusach języków słowiańskich*. Red. M. Hebal-Jezierska. Warszawa: Wydział Polonistyki Uniwersytetu Warszawskiego. S. 11–28.

Bronikowska Renata, Przyborska-Szulc Aldona. 2018. *Elektroniczny korpus tekstów polskich XVII i XVIII wieku (do 1772 roku)*. „Prace Naukowe Uniwersytetu Śląskiego w Katowicach" nr 3670: 129–135.

Bulojčyk Alâksandr, Koščanka Uladzìmìr. 2019. *Belaruskì bìblìjny korpus.* U: *Belaruskaâ mova ŭ sakral'naj sfery: gìstoryâ ì sučasnasc': matèryâly Mìžnar. navuk. kanf. (Mìnsk, 21 lûtaga 2018 g.)*. Rèd. S. Garanìn, Ì. Budz'ko, T. Pâtrova. Mìnsk:Belaruskaâ navuka. S. 76–79 [Булойчык Аляксандр, Кошчанка Уладзімір. 2019. *Беларускі Біблійны корпус.* У: *Беларуская мова ў сакральнай сферы: гісторыя і сучаснасць: матэрыялы Міжнар. навук. канф. (Мінск, 21 лютага 2018 г.)*. Рэд. С. Гаранін, І. Будзько, Т. Пятрова. Мінск: Беларуская навука. С. 76–79].

Demenko Grażyna. 2015. *Korpusowe badania języka mówionego*. Warszawa: Akademicka Oficyna Wydawnicza EXIT.

Graszewicz Maurycy. 2014. *Korpus wypowiedzi polskich polityków (KWPP)*. „Dziennikarstwo i Media" t. 5: 205–214.

Koščanka Uladzìmìr, Kapyloŭ Ìgar, Mìklašèvìč Ìgar. 2009. *Korpus belaruskamoŭnyh navukovyh tèkstaŭ âk častka rèalìzacyì mìžnarodnaga praekta "Balticgrid II".* "Belaruskaâ lìngvìstyka" nr 53: 3–8 [Кошчанка Уладзімір, Капылоў Ігар, Міклашэвіч Ігар. 2009. *Корпус беларускамоўных навуковых тэкстаў як частка рэалізацыі міжнароднага праекта "Balticgrid II"*. "Беларуская лінгвістыка" № 53: 3–8].

Koščanka Uladzìmìr. 2013. *Paralel'nyâ belaruska-ruskì ì ruska-belaruskì korpusy na sajce nacyânal'naga korpusu ruskaj movy.* U: *Problemy sovremennoj prikladnoj lingvistiki. Sbornik naučnyh statej.* Minsk: MGLU. S. 41–47 [Кошчанка Уладзімір. 2013. *Паралельныя беларуска-рускі і руска-беларускі корпусы на сайце нацыянальнага корпусу рускай мовы.* У: *Проблемы современной прикладной лингвистики. Сборник научных статей*. Минск: МГЛУ. С. 41–47].

Łaziński M., Kuratczyk M. 2016. *Korpus polsko-rosyjski Uniwersytetu Warszawskiego*. W: *Polskojęzyczne korpusy równoległe = Polish-language Parallel Corpora*. 2016. Red. E. Gruszczyńska, A. Leńko-Szymańska. Warszawa: Uniwersytet Warszawski. Wydział Lingwistyki Stosowanej. Instytut Lingwistyki Stosowanej. S. 83–95.

Lazinskij M., Kuratčik M. 2015. *Pol'sko-russkij paralel'nyj korpus Varšavskogo universiteta i ego ispol'zovanie v lingvističeskom issledovanii.* V: *Âzyki metod. Russkij âzyk na grani metodologičeskogo sryva.* Red. D. Szumska, K. Ozga. Kraków: Wydawnictwo Uniwersytetu Jagiellońskiego. S. 95–103 [Лазинский М., Куратчик М. 2015. *Польско-русский паралельный корпус Варшавского университета и его использование в лингвистическом исследовании.* В: *Язык и метод. Русский язык на грани методологического срыва.* Red. D. Szumska, K. Ozga. Kraków: Wydawnictwo Uniwersytetu Jagiellońskiego. S. 95–103].

*Narodowy Korpus Języka Polskiego*. 2012. Red. A. Przepiorkowski, M. Bańko, R. Górski, B. Lewandowska-Tomaszczyk. Warszawa: Wydawnictwo Naukowe PWN.

Peljak-Łapińska A. 2016. *Białoruski N-korpus: W kierunku Białoruskiego Korpusu Narodowego*. „Acta Albartuhenica" nr 16: 203–210.

*Polskojęzyczne korpusy równoległe = Polish-language Parallel Corpora*. 2016. Red. E. Gruszczyńska, A. Leńko-Szymańska. Warszawa: Uniwersytet Warszawski. Wydział Lingwistyki Stosowanej. Instytut Lingwistyki Stosowanej.

Przepiórkowski Adam. 2004. *Korpus IPI PAN – wersja wstępna*. Warszawa: IPI PAN.

Rubaško Natal'â, Nevmeržickaâ Galina, Sovpel' Igor'. 2006. *Komp'ûternyj fond belorusskogo âzyka i ego priloženiâ.* V: *Informacionnye sistemy i tehnologii (IST`2006): materialy III Meždunar.konf., Minsk, 1–3 noâbrâ 2006 g.: v 2 č. Č. 2.* Red. A. Kurbackij. Minsk: BGU. S. 70–71 [Рубашко Наталья, Невмержицкая Галина, Совпель Игорь. 2006. *Компьютерный фонд белорусского языка и его приложения.* В: *Информационные системы и технологии (IST'2006): материалы III Междунар. конф., Минск, 1–3 ноября 2006 г.: в 2 ч. Ч. 2.* Ред. А. Курбацкий. Минск: БГУ. С. 70–71].

Ryčkova Lûdmìla. 1997. *Kamp�ûtèrnaâ versìâ dramaturgìčnyh tvoraŭ Ânkì Kupaly: pryncypy stvarènnâ, napramkì vykarystannâ.* U: *Mìžnarodnyâ kupalaŭskìâ čytannì: matèryâly navukovaj kanferèncyì. Grodna. 25–27 lìstapada 1997 g.* Grodna:Grdu. S. 257–261 [Рычкова Людміла*.* 1997. *Камп�ютэрная версія драматургічных твораў Янкі Купалы: прынцыпы стварэння, напрамкі выкарыстання*. У: *Міжнародныя купалаўскія чытанні: матэрыялы навуковай канферэнцыі. Гродна. 25–27 лістапада 1997 г.* Гродна: ГрДУ. С. 257–261].

Sânkevìč Nìna. 2917. *Kankardans âk srodak vyâŭlennâ asablìvascej movy mastackaj lìtaratury.* U: *Aktual'nye problemy sovremennoj prikladnoj lingvistiki.* Minsk: MGLU. S. 248–254 [Сянкевіч Ніна*.* 2917. *Канкарданс як сродак выяўлення асаблівасцей мовы мастацкай літаратуры.* У: *Актуальные проблемы современной прикладной лингвистики*. Минск: МГЛУ. С. 248–254].

Sičinava Dmitrij. 2012. *Russko-belorusskij parallel'nyj korpus: opyt razrabotki.* V: *Karpovskie naučnye čteniâ: sb. nauč. st.* Vyp. 6: v 2 č. Č. 1. Red. A. Golovnâ. Minsk: Belorusskij Dom pečati. S. 270–272 [Сичинава Дмитрий. 2012. *Русско-белорусский параллельный корпус: опыт разработки*. В: *Карповские научные чтения: сб. науч. ст.* Вып. 6: в 2 ч. Ч. 1. Ред. А. Головня. Минск: Белорусский Дом печати. С. 270–272].

Świdziński Marek. 2006. *Lingwistyka korpusowa w Polsce – źrodła, stan, perspektywy*. „LingVaria" nr 1: 23–34.

Yaskevich Alyaxey. 2014. *Praktyczny przewodnik po korpusie języka białoruskiego*. W: *Praktyczny przewodnik po korpusach języków słowiańskich*. Red. M. Hebal-Jezierska. Warszawa: Wydział Polonistyki Uniwersytetu Warszawskiego. S. 184–197.

Zubov Aleksandr, Košenko Vladimir. 2006. *Korpus tekstov belorusskogo âzyka.* U: *Trudy meždunarodnoj konferencii «Korpusnaâ lingvistika – 2006»*. Sankt-Peterburg: Izd-vo S.-Peterb. un-ta; Izd-vo RHGA. S. 119–120 [Зубов Александр, Кощенко Владимир. 2006. *Корпус текстов белорусского языка. У*: *Труды международной конференции «Корпусная лингвистика – 2006»*. Санкт-Петербург: Изд-во С.-Петерб. ун-та; Изд-во РХГА. С. 119–120].

**ABSTRACT:** The article provides information on the development of corpus linguistics in Belarus and Poland. The importance of creating parallel Belarusian-Polish and Polish-Belarusian parallel corpora is noted, the possible algorithm for building the corpora is given.

**KEYWORDS**: Polish language corpus, Polish-Belarusian parallel corpus, Belarusian N-Korpus, Corpus Albaruthenicum, Russian-Belarusian parallel corpus, Lexical-grammatical database of the Belarusian language.

**STRESZCZENIE:** Artykuł zawiera informacje na temat rozwoju językoznawstwa korpusowego na Białorusi i w Polsce. Zaakcentowano znaczenie tworzenia korpusów równoległych białorusko-polskich i polsko-białoruskich i podano możliwy algorytm do budowy takich korpusów.

**SŁOWA KLUCZOWE**: polski korpus językowy, polsko-białoruski korpus równoległy, białoruski N-Korpus, korpus Albaruthenicum, rosyjsko-białoruski korpus równoległy, leksykalno-gramatyczna baza danych języka białoruskiego.

**РЭЗЮМЭ:** Артыкул змяшчае інфармацыю аб развіцці корпуснай лінгвістыкі ў Беларусі і Польшчы. Падкрэсліваецца важнасць стварэння паралельных беларуска-польскага і польска-беларускага корпусаў, пададзены магчымы алгарытм укладання такіх корпусаў.

**КЛЮЧАВЫЯ СЛОВЫ**: корпус польскай мовы, польска-беларускі паралельны корпус, Беларускі N-Korpus, Corpus Albaruthenicum, руска-беларускі паралельны корпус, Лексіка-граматычная база беларускай мовы.

**ACTA ALBARUTHENICA 20: 2020**
DOI: 10.32612/uw.18988091.2020.20.pp.199–208

**Ірына Караткевіч /Iryna Karatkevich**
Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт / Belarusian State University
ORCID: https://orcid.org/0000-0002-8628-7318
e-mail: viachirynka@gmail.com

# *Слоўнік беларускай мовы* Івана Насовіча: этналінгвістычны каментар

*DICTIONARY OF THE BELARUSIAN LANGUAGE by Ivan Nosovich: ethnolinguistic comment*
*SŁOWNIK JĘZYKA BIAŁORUSKIEGO Iwana Nosowicza: komentarz etnolingwistyczny*

## 1. *Слоўнік беларускай мовы* І. Насовіча ў беларускай лінгвістыцы

*Слоўнік беларускай мовы* І. Насовіча (у арыгінале *Словарь бѣлорусскаго нарѣчія*, Санкт-Пецярбург, 1870) у беларускай лінгвістычнай навуцы займае адметнае месца. Падрыхтоўка такога слоўніка была выклікана неабходнасцю навуковай сістэматызацыі выяўленай фальклорнай і канцылярска-справавой спадчыны беларускага народа – старабеларускіх актаў, грамат, іншых пісьмовых помнікаў, фальклорных і этнаграфічных выданняў, многія з якіх паслужылі крыніцамі для рэестру слоўніка.

З'яўленне лексікаграфічнай працы, якая б пацвярджала культурна-этнаграфічную аўтэнтычнасць канкрэтнай этнічнай супольнасці ў межах Расійскай імперыі, было невыпадковым. Гістарычны кантэкст надзвычай спрыяў вывучэнню спецыфікі нацыянальных характараў, паколькі Расійская імперыя падтрымлівала працэс станаўлення нацыянальнай самасвядомасці паўднёвых, заходніх і ўсходніх славян, якія да гэтага знаходзіліся пад уладай адпаведна Асманскай і Аўстрыйскай імперый. Расійская імперыя

> была таксама і адзінай суверэннай славянскай дзяржавай у свеце на працягу ўсяго XIX стагоддзя. Таму яна адыгрывала выключную ролю ў падтрымцы адраджэння іншых славянскіх народаў, у тым ліку ў распаўсюджанні ідэй панславізму (хаця часта расійскі ўрад меў на ўвазе свае вузкія інтарэсы ў адносінах да славянскіх народаў, што ўвайшлі ў склад Расійскай імперыі) [Савіцкая 2014: 207].

У адносінах да сваіх заходніх тэрыторый

> расійскія ўлады актыўна разыгрывалі "беларускую карту". <…> Ва ўрадавых статыстыках і картах выкарыстоўваецца тэрмін "беларусы" побач з назвамі "велікарусы" і "маларосы", <…> улады дазволілі друкаваць на

> беларускай мове “грамадзянкай” этнаграфічныя зборнікі. Пашыралася ўжыванне тэрміна *Беларусь* [Смалянчук 2020].

Таксама і *Слоўнік беларускай мовы* рыхтаваўся як другая частка *Опыта словаря областных наречий* Імператарскай Акадэміі навук (што выяўляла тагачаснае разуменне Акадэміяй навук беларускай мовы як дыялекту). Рэестр гэтай лексікаграфічнай крыніцы быў складзены на беларускай мове, а слоўнікавыя артыкулы перакладзены на рускую мову. Слоўнік нават удзельнічаў у конкурсе Акадэміі навук і быў адзначаны палавіннай Дзямідаўскай прэміяй. Фактычна, слоўнік І. Насовіча, як і многія іншыя даследаванні культуры і побыту беларусаў, быў пакліканы навукова падтрымаць афіцыйную ідэю заходнерусізму (Беларусь – этнаграфічная частка Расіі, яе нешматлікія культурныя і моўныя адрозненні – прыкры польскі ўплыў, падлеглы скасаванню). Аднак яго рэестравая і ілюстратыўная часткі толькі пацвердзілі існаванне самастойнага і этнаграфічна самабытнага беларускага этнасу.

Як адзначалася вышэй, паводле структуры і семантызацыі лексічных значэнняў рэестра слоўнік І. Насовіча варта лічыць тлумачальна-перакладным беларуска-рускім даведнікам: беларускія лексемы перакладаюцца рускамоўным адпаведнікам і суправаджаюцца граматычнымі пазнакамі, этымалагічным аналізам (у аўтарскім разуменні) і стылістычнай характарыстыкай. Адрозненне беларускай мовы

> падкрэслівалася не толькі гістарычным і краязнаўчым каментаром, які надаў слоўніку пэўную гісторыка-культурную каштоўнасць, але і ўласна лінгвістычным аналізам многіх рэестравых адзінак, згодна з якім лексемы або праявіліся адрознымі ў параўнанні з іншымі мовамі, або набылі беларускую фанетычную ці граматычную спецыфіку пры запазычванні [Короткевич 2018].

З мовазнаўчага погляду, слоўнік І. Насовіча варта разглядаць у якасці першага слоўніка беларускай літаратурнай мовы: ён выконваў функцыі вывучэння, апісання і нармалізацыі слоўнікавага складу мовы, а значыць, надаваў гэтай мове статус нацыянальнай. У ім назіраецца шэраг прымет, што характарызуюць яго як шматаспектную, высоканавуковую філалагічную працу: наяўнасць дэфініцый, тлумачэнне рэестравых беларускіх лексем з дапамогай сінанімічных пар і радоў, дакладна сфармуляваныя стылістычныя пазнакі. Праца І. Насовіча з’явілася першым вопытам колькасна і якасна значнай лексікаграфічнай апрацоўкі і навуковай сістэматызацыі лексіка-фразеалагічнага матэрыялу беларускай літаратурнай мовы. У ХХ стагоддзі слоўнік стаў “узорам, на які абапіраліся складальнікі лексікаграфічных прац 1920-х гг.” [Караткевіч, Важнік, Уласевіч, Караткевіч 2018: 37]. Гэтыя факты дазваляюць сцвярджаць, што *Слоўнік беларускай мовы* І. Насовіча паклаў пачатак кадыфікацыі жывой беларускай гаворкі. Усё вышэйадзначанае вымагае адпаведнага аналізу рэестравага складу слоўніка І. Насовіча. У артыкуле рэестравая частка (словаспіс) будзе разглядацца ў аспекце

адлюстравання ў ім этналінгвістычнага апісання беларускага насельніцтва і яго побыту.

## 2. Этналінгвістыка як напрамак даследавання

Для аналізу этналінгвістычнага складніка ў слоўніку І. Насовіча неабходна раскрыць сутнасць і межы гэтай навукі. Этналінгвістыка, паводле сучасных лінгвістычных падыходаў, гэта

> адносна новы напрамак у мовазнаўстве, які вывучае мову ў яе адносінах да культуры, народа, а таксама ўзаемадзеянне этнакультурных і этнапсіхалагічных фактараў у функцыянаванні і эвалюцыі мовы [Дзядова 2019: 12].

Прасцей кажучы, гэта напрамак лінгвістыкі, які “інтэгруе ў сабе мовазнаўства, этнаграфію і фалькларыстыку” [Дзядова 2019: 12]. Адпаведна і аб’ектам этналінгвістыкі

> з’яўляюцца ўсе бакі мовы як у яе вуснай форме (дыялекты, фальклор, прастамоўе, літаратурная мова), так і разнастайныя пісьмовыя тэксты (найперш арыгінальныя і перакладныя мастацкія творы). У якасці аб’екта вывучэння выступае не толькі мова, але і іншыя формы, у якіх выражае сябе калектыўная свядомасць, народны менталітэт, нацыянальная карціна свету, характэрная для таго ці іншага этнасу, – г. зн. уся народная духоўная культура, усе яе віды, жанры і формы – *вербальныя* (лексіка і фразеалогія, парэміялогія, фальклорныя тэксты), *акцыянальныя* (абрады), *ментальныя* (вераванні) [Дзядова 2019: 13].

Такім чынам, этналінгвістыка – гэта натуральны працяг дыялекталогіі, этымалогіі і гісторыі мовы, дзе лексіка і фразеалогія выступаюць крыніцай звестак пра гісторыю і культуру этнасу. Таму адметнае месца тут займаюць даследаванні анамастыкі, тапанімікі, запазычанняў, табу і эўфемізмаў – “усіх тых пластоў лексікону, што акумулююць фонавыя веды (традыцыі, факты культуры і гісторыі, народныя вераванні і каштоўнасці)” [Токарева 2001: 21].

Слоўнік І. Насовіча можна назваць падобным “акумулятарам” этналінгвістычных ведаў, паколькі ў яго рэестры і ілюстрацыйным матэрыяле выкарыстоўваюцца дыялектныя або агульналітаратурныя цытаты, аўтарскія тлумачэнні ў выглядзе ідыяматычных выразаў, прыказкі, прымаўкі, вытрымкі з фальклорных твораў, народных песень, загадак.

## 3. Этналінгвістычны складнік *Слоўніка беларускай мовы* І. Насовіча

Асноўныя задачы любога слоўніка звычайна раскрываюцца ў прадмовах. Прадмову да *Слоўніка беларускай мовы* І. Насовіча напісаў Канстанцін Весялоўскі, “Непремѣнный Секретарь Імператорской Академіи Наукъ”. Прадмова займае толькі дзве старонкі, нават не мае нумарацыі старонак і не ўваходзіць у агульную нумарацыю ўсяго слоўніка, аднак мае адметную навуковую значнасць. Каштоўнасць прад-

мовы заключаецца ў тым, што ў ёй пералічаны папярэднія лексікаграфічныя крыніцы, паказаная важнасць сістэматызацыі беларускай гаворкі для далейшага выкарыстання ў мовазнаўстве (“для пониманія важныхъ и любопытныхъ историческихъ актовъ, на немъ писанныхъ”), арэал распаўсюджання “нарѣчія”, матэрыялы для рэестра.

Як ужо адзначалася, рэестравымі кампанентамі слоўніка паслужылі не толькі агульнаўжывальныя лексемы, але і лексічныя адзінкі, якія змяшчаюць у сабе этнаграфічную і культуралагічную характарыстыкі беларускага народнага побыту:

- найменні міфічных істот, персанажаў з народных казак і забабонаў: *баба-яга, бѣлунъ, вовколакъ, водяникъ, злыдзень, змѣй, клетникъ, кляскунъ, ледащикъ:*

> **Баба-Яга** 1) Бранное слово на злую старуху. Чертовка или вѣдьма. 2) въ сказкахъ: Злой духъ въ образѣ старой отвратительной женщины. Бѣлоруссы въ старину имѣли повѣрье, будто баба-яга похищаетъ малыхъ дѣтей и питается ихъ мясомъ. И нынѣ малыхъ дѣтей стращаютъ бабой-ягой, чтобы они не плакали.
> Баба-яга, косцяная нога
> На ступѣ ѣдзець,
> Товкачомъ погоняець,
> Помеломъ слѣдъ замѣтаець. (*Сказка*)
> [Насовіч 1983: 10][1];
>
> **Змѣй** 1) Ужъ. Змѣй укусивъ. Змѣя забили. 2) ругат. Злой человѣкъ. Змѣю гетому ничимъ не догодзишъ, усё сипиць. 3) Метеоръ, пролетающій по небу огненною полосою, а иногда разсыпающійся искрами. Бѣлоруссы простолюдины и нынѣ вѣрятъ, что это злой духъ, который избранникамъ своимъ носитъ богатства. Если онъ пролетитъ полосою яркаго, огненнаго цвѣта, значитъ, что несетъ золото, блѣдноватою – серебро, а темноватою – хлѣбъ въ зернѣ. Иначе его называютъ смокомъ и цмокомъ (213);

- народных традыцый і рытуалаў: *дѣды, влазины, запоины, муровины, кумовины, радоница, толока:*

> **Кумовины** День посѣщенія родильницы кумовьями и ихъ угощенія. Просили на кумовины (259);
>
> **Толока** 1) Сельская полевая работа съ приглашенными на помощь сосѣдями. Толокою вывозятъ навозъ, косятъ, жнутъ, пашутъ и проч.; угощеніе есть необходимое условіе толоки. Просивъ панъ на толоку, а не по́йдзешъ, и за лобъ поволоку. *Посл.* 2) собир. Прошенные на полевую работу сосѣди.
> Да гудзець поле, гудзець; толока съ поля идзець. *Изъ пѣсни.*
> Слава, да й слава, паночекъ, твоя:
> Пьяна, да й пьяна, толока твоя. *Изъ пѣсни* (636).

- страў нацыянальнай кухні: *бигусъ, верещака, запеканка, зацирка, клёцки, крупникъ, кулешъ, ладка, прежѣня:*

---

[1] Тут і далей прыклады даюцца гэтым па выданні з пазначэннем у дужках старонкі.

> **Бигусъ** кушанье изъ оставшагося отъ ужина жаркого, разкрошеннаго, притертого мукою и поджареннаго съ масломъ (25);
>
> **Крупникъ** 1) Простой деревенскій супъ изъ крупъ; 2) Водка, сваренная съ медом, клюквою и пряными кореньями, въ родѣ пунша (254–255);

- найменні ўдзельнікаў народных звычаяў і рытуалаў: *бальшанка, волочобникъ, ворожбитъ, дружко, каравайница, купалка:*

> **Бальшанка** Дѣвица, по приглашенію невѣсты, безотлучно пребывающая съ нею до окончания свадьбы. Она вмѣстѣ съ другою подобною шьетъ невѣстѣ приданое и особенно подвѣнечную одежу; во время же свадебнаго пиршенства или балю онѣ обѣ сидятъ подлѣ невѣсты, какъ старшія подружки ея (14);
>
> **Дружко** 1) Дружко, шаферъ. 2) Лицо, приглашенное женихомъ для увеселенія публики и распоряженія брачнымъ пиршествомъ.
> *Улѣзъ дружко въ хату, да въ печь поглядаець,*
> *Ци густа капуста, ци великъ горщокъ каши,*
> *Ци пойдаюць наши. Изъ свад. пѣсни* (146) і інш.

Этнаграфічныя і фальклорныя складнікі рэестра слоўніка дастаткова шматлікія:

> а) памятники устной народной словесности: пѣсни, пословицы, поговорки, сказки и др.; б) сборники словъ, собранные имъ [І. Насовічам – *І. К.*] во время поѣздокъ по Могилевской, Минской и Гродненской губерніямъ и по нѣкоторымъ окраинамъ губерній Привисленского края, смежнымъ съ вышеупомянутыми губерніями; в) алфавитный указатель старинныхъ Бѣлорусскихъ словъ, заключающихся въ актахъ Западной Россіи, который онъ составилъ по порученію Отдѣленія [рускай мовы і славеснасці Імператарскай акадэміі навук (1865 г.) – *І. К.*]; г) Опытъ областнаго словаря Великорусскаго нарѣчія, въ который вошло нѣсколько небольшихъ сборниковъ словъ Бѣлорусского наречія; д) матеріалы, впрочемъ не многочисленные, Бѣлорусского наречія и словесности, напечатанные въ Извѣстіяхъ Императорской Академіи Наукъ по Отдѣленію Русскаго языка и словесности, в Трудахъ Московскаго общества любителей словесности, въ Этнографическомъ сборникѣ Императорскаго Русскаго географическаго общества, въ сборникахъ Чечета и Зенкевича [цыт.: Насовіч 1983: прадмова].

Этнаграфічныя кампаненты слоўніка выразна выяўляюцца не толькі ў відавочным пераліку матэрыялаў для рэестра, але і ў спісе скарачэнняў (адначасова і спіс стылістычных пазнак), што прыведзены складальнікам непасрэдна перад рэестрам. У гэтым спісе адсутны падзел на скарачэнні лінгвістычных тэрмінаў, этымалагічных і геаграфічных пазнак. Аднак у агульным пераліку вылучаюцца:

- абазначэнні геаграфічнага арэала распаўсюджання лексем: Брестский, Пинский, Пружанский уѣздъ, Виленская, Гродненская, Минская, Могилевская губернія;
- этымалогія слоў, як яе разумеў сам І. Насовіч: *Бѣлорусское, Греческое, древнее Славянское, Жидовское, Жидовско-Нѣмецкое, Латинское, Литовское, от Польскаго (слова)*;

- агульныя характарыстыкі паходжання слоў: *дѣтское слово, заимствовано, извѣстнаго значенія, областное (слово), отъ древняго слова, собственное отъ крещенія, старинное (слово), философическое (слово), церковное (слово), юридическое (слово)*;
- стылістычныя характарыстыкі слоў: *бранное (слово), иронически, ласкательное (слово), негодованія (междометіе), ругательное (слово), смягчительное (слово), увеличительное (слово), укорительное (слово), уменьшительное (слово), уничижительное (слово)*;
- характарыстыкі фальклорных крыніц: *волочебной (пѣсни), духовной (пѣсни), колыбельной (пѣсни), крестинной (пѣсни), поговорка, пословица, рекрутской (пѣсни), свадебной (пѣсни)*;
- характарыстыкі спецыфічнага ўжывання слоў: *въ нравственномъ отношеніи, желательный, отъ мало употребительнаго, неупотребительнаго (слова), употребляемое въ среднемъ классѣ (народа)* [Насовіч 1983: Объясненіе сокращенныхъ указаній въ *Словарѣ*].

Такая разгалінаваная сістэма аўтарскіх пазнак, падрабязная стылістычная дыферэнцыяцыя слоў, па-першае, сведчыць пра фарміраванне нацыянальнай беларускай лексікаграфічнай традыцыі; па-другое, паказвае сацыяльна-камунікатыўную разнастайнасць лексічных адзінак як адлюстраванне разнастайнасці побыту носьбітаў беларускай гаворкі.

## 4. Запазычаная лексіка ў *Слоўніку беларускай мовы* І. Насовіча

Указанне на паходжанне слова ў слоўніку даецца дастаткова паслядоўна. У прыватнасці, на польскамоўных запазычаннях у беларускай мове адмыслова засяроджана ўвага ў *Прадмове* да слоўніка:

> Въ составъ словаря г. Носовича вошло болѣе 30000 словъ; между ними встрѣчаются слова, заимствованныя изъ иностранныхъ языковъ, главнымъ же образомъ изъ Польскаго. Слова перешедшія изъ послѣдняго языка преимущественно употребляются мелкою шляхтою, мѣщанами, ремесленниками, экономами, прикащиками и пр. Количествомъ этихъ словъ и распространеніемъ употребленія ихъ въ народѣ опредѣляется наглядньмъ образомъ степень вліянія Польскаго языка на Бѣлорусское нарѣчіе (цыт.: Насовіч 1983: прадмова).

Паланізмы ў рэестравым складзе *Слоўніка беларускай мовы* І. Насовіча афармляюцца праз прамое ўказанне на запазычанне з польскай мовы або ўказанне на існаванне ў польскамоўным побыце. Часам пры відавочным польскамоўным уплыве паходжанне слова не ўказваецца:

> **Альваръ** Начальные основанія Латинскаго языка, составленныя іезуитомъ Альваресомъ, и бывшія въ употребленіи въ Польскихъ ксендзовскихъ училищахъ и даже въ православныхъ семинаріяхъ. (Слово ныне редко употребляемое.) Отъ Альвара просто до алтара. *Посл.* По альвару учився Лацины (5).
>
> **Войскій** 1) Слово, оставшееся еще в употребленіи отъ Польскихъ чиновъ. Полковникъ. Панъ покойный Войскій Голынскій, хоць старъ бывъ,

а ездивъ верхомъ хорошо. 2) Воинскій, военный. Вы войскіе людзи. Войская штука (63);

**Вонтпливосць** 1) Сомненіе. Пустая твоя вонтпливосць. 2) Пугливость. Заичча у цебе вонтпливосць. 3) Торопливость, неуместная поспешность. Черезъ вонтпливосць свою все дзѣло спорцивъ (66);

**Дэтоноваць** 1) Сбівать съ толку, съ тону, перебивать. Не дэтонуй его, нехай пеець. 2) Приводить въ замешательство. Дэтонуешъ, здэтоновавъ на первомъ слове хлопца (150).

**Зацненькій** смягч. от Польск. Зацный. Хорошенькій, пригоженькій. Зацненькій хлопчикъ (192).

**Продоляты** Проволочка, откладываніе на будущее. Пусцивъ на продоляты то, што треба дзелаць скоро. Ты мене усё продолятами кормишъ, т. е. кормишъ завтраками (Заимств. изъ Польскаго) (522).

Аднак, акрамя лінгвістычнага запазычання, часта выяўляецца і сацыяльны "маркер" слова, г. зн. складальнік тлумачыць крыніцу з'яўлення слова ў побыце і, адпаведна, у маўленні носьбітаў мовы:

**Авантура** заимствованное простолюдинами изъ высшаго класса. 1) Удивительное происшествіе. Во якая авантура! 2) Шалость. Надзѣлавъ авантуры. 3) Бѣда. Авантура съ тобою (2);

**Дыета** Діета. Слово употр. шляхтою и мѣщанами. Сѣдзиць на дыецѣ (149);

**Линованне** Графленіе, линеваніе. Линованне папери. (Слово употр. грамотными Бѣлоруссами) (268);

**Полирацыя** 1) Образованіе (слово употр. среднимъ класомъ народа и въ особенности шляхтою, мѣщанами и духовенствомъ). Ёнъ человѣк безъ полирацыи. 2) (между простолюдинами) Наказаніе. Давъ ему хорошую полирацыю, будзець помниць? (461);

**Привата** (употребляется горожанами). Посторонній доходъ, особенно за частные уроки. Привату маець опричь жалования. На привату ходзиць (497);

**Припонтистое** (употребляется грамотными, особенно духовными), перен. Заморское вино (от понтъ-море). Ромъ и всякое другое вино, прибавляемое къ чаю. А припонтистаго, съ припонтистымъ намъ не даси? (508);

**Семпитэрня** (отъ Лат. Sempiternus – всегдашній, заімствовано отъ школьниковъ). Задница, какъ бы всегдашняя, единственная отвѣтчица за проступки. Всыпали в семпитэрню (577).

Шматлікія запазычаныя словы пададзены з указаннем на іх паходжанне ў выглядзе стылістычнай пазнакі або ў якасці тлумачэння рэестравага слова. Аднак падрабязныя тлумачэнні складальніка пра нацыянальную прыналежнасць і ўмовы функцыянавання слова ўжо сведчаць пра шматэтнічную і шматканфесійную разнастайнасць насельніцтва Беларусі:

**Зелёные-святки** 1) Праздникъ Сошествія Св. Духа (отъ украшенія храмовъ и домовъ зелеными вѣтвями и отъ освященія въ день св. Троицы различныхъ, приносимыхъ въ храмъ травъ, которыя потомъ съ вѣрою употребляются простолюдинами въ болѣзняхъ. *Объ зеленыхъ святкахъ, зелеными святками приѣдзимъ*. 2) Еврейскій праздникъ Пуримъ, бывающій чрезъ 50 дней послѣ Еврейскаго Пэйсаха или праздника Опрѣсноковъ. *Жидовскіе зелёные святки* (207);

**Кляшторъ** Католическій монастырь. *Бернардынскій кляшторъ* (239);

**Цымборія** церк. Шкафъ или кивотъ съ дверцами, въ которомъ въ католическихъ и бывшихъ уніятскихъ церквахъ хранятся чаша и запасные дары; слово нынѣ уже не употребляемое (692);

**Читаная служба** Литургія, отличавшаяся отъ спѣваной и шептаной тѣмъ, что уніатскіе священники совершали ее не на распѣвъ и не съ пѣніемъ клироса, но читая все то, что относится къ священническому служенію; при этомъ стоящій при священникѣ прислужникъ читалъ все то, что долженъ былъ пѣть клиросъ (699).

Прыведзеныя прыклады стылістычных пазнак і дэфініцый да рэестравых слоў апелююць да пэўных побытавых і духоўна-культурных рэалій, далёкіх ад пераважна сялянскага беларускага бытавання, паказваюць насычанасць і разнастайнасць жыцця розных пластоў насельніцтва беларускіх тэрыторый. Гэтыя ілюстрацыі разбураюць стэрэатыпныя ўяўленні пра “сялянскасць” беларускай мовы, яе побытава-зніжаны характар і немагчымасць перадачы абстрактных і высокастылёвых паняццяў.

Такім чынам, фальклорная аснова рэестра слоўніка І. Насовіча тлумачыцца імкненнем складальніка раскрыць этнічную аўтэнтычнасць беларускага насельніцтва. Зацікаўленасць складальніка нацыянальнай культурай, выкліканая спачатку тэндэнцыямі славянскага рамантызму, паглыбляецца адначасова з развіццём этнаграфіі і дыялекталогіі, што і абумоўлівае этналінгвістычны складнік слоўніка ў рэестравым, тлумачальным і ілюстратыўным апаратах працы. І. Насовіч паказвае фальклорнае паходжанне крыніц, размяшчае ў рэестры найменні міфічных персанажаў, удзельнікаў народных рытуалаў, элементаў побыту розных канфесій і сацыяльных пластоў, не проста семантызуючы іх, але і падаючы гісторыка-этнаграфічныя звесткі пра іх паходжанне. Усё гэта дало магчымасць паказаць лексіка-фразеалагічнае багацце беларускай мовы, сцвердзіць этнічную даўніну і культурную самабытнасць насельніцтва Беларусі і надаць слоўніку гісторыка-культурную каштоўнасць.

## Бібліяграфія

Nasovìč Ì.Ì. 1983. *Sloŭnìk belaruskaj movy*. Mìnsk: Belarus. Sav. Èncyklapedyâ [Насовіч І.І. 1983. *Слоўнік беларускай мовы*. Мінск: Беларус. Сав. Энцыклапедыя].

Dzâdova A.S. 2019. *Ètnalìngvìstyka dlâ specyâl'nascì 1-21 05 01 Belaruskaâ filalogìâ (pa napramkah)*. Vìcebsk: VDU ìmâ P.M. Mašèrava. [Дзядова А.С. 2019. *Этна-*

*лінгвістыка для спецыяльнасці 1-21 05 01 Беларуская філалогія (па напрамках)*. Віцебск: ВДУ імя П.М. Машэрава].

Tokareva I.I. 2001. *Ètnolingvistika i ètnografiâ obŝeniâ*. Minsk: Minsk. gos. lingvist. un-t. [Токарева И.И. 2001. *Этнолингвистика и этнография общения*. Минск: Минск. гос. лингвист. ун-т].

Smalânčuk Ales'. *Lìcvìnstva, zahodnerusìzm ì belaruskaâ ìdèâ. XIX – pačatak XX st.* [Смалянчук Алесь. *Ліцвінства, заходнерусізм і беларуская ідэя. XIX – пачатак XX ст.*] [online] http://kamunikat.org/7983.html [доступ: 30.05.2020].

Savìckaâ Ìryna. 2014. *Gìstaryčny ì kul'turny skladnìkì ŭ belaruskìm ì pol'skìm sloŭnìkah nacyânal'naga značènnâ (na matèryâle sloŭnìkaŭ S.B. Lìndè ì Ì. Nasovìča)*. “Acta Albaruthenica” № 14: 205–216 [Савіцкая Ірына. 2014. *Гістарычны і культурны складнікі ў беларускім і польскім слоўніках нацыянальнага значэння (на матэрыяле слоўнікаў С.Б. Ліндэ і І. Насовіча)*. “Acta Albaruthenica” № 14: 205-216].

Korotkevič Irina. 2018. *Slovar' belaruskogo narečiâ I.I. Nosoviča v kontekste slavânskogo romantizma* [Короткевич Ирина. 2018. *Словарь беларуского наречия И.И. Носовича в контексте славянского романтизма*] [online] http://abcdar.com/magazine/XI/Korotkevich_1_1314-9067_XI.pdf [доступ: 30.05.2020].

Karatkevìč Ì.Ì., Važnìk S.A., Ulasevìč V.Ì., Karatkevìč V.Ì. 2018. *Belaruskaâ leksìka ì gramatyka: moŭnaâ styhìâ ì moŭnaâ norma*. Kìeŭ: Lìra-K. [Караткевіч І.І., Важнік С.А., Уласевіч В.І., Караткевіч В.І. 2018. *Беларуская лексіка і граматыка: моўная стыхія і моўная норма*. Кіеў: Ліра-К].

**ABSTRACT:** *The Dictionary of the Belarusian Language* by I.I. Nasovich (1870) is an important source of ethnolinguistic observations. In its register, it contains lexemes corresponding to the names of religious holidays and confessional realities, folk customs and rites. A significant layer of words has etymological information (not always accurate), including an indication of their foreign origin. The ethnolinguistic component consists not only of the selection of appropriate Belarusian and borrowed vocabulary, but also the design of stylistic labels for registry words that refer to certain everyday and spiritual-cultural realities, far from the predominantly peasant Belarusian life. These factors destroy the stereotypes about the "peasantry" of the Belarusian language, its reduced character and the impossibility of conveying abstract and high-style concepts.

**KEYWORDS**: ethnolinguistics, I.I. Nosovich, ethnography, folklore, loanwords.

**STRESZCZENIE:** *Słownik języka białoruskiego* I. Nasowicza (1870) jest ważnym źródłem do badań etnolingwistycznych. W swoim rejestrze zawiera leksemy-nazwy świąt religijnych i realiów wyznaniowych, zwyczajów i obrzędów ludowych. Znacząca warstwa słów zawiera informacje etymologiczne (nie zawsze dokładne), w tym również wskazanie na ich obce pochodzenie. Element etnolingwistyczny obejmuje nie tylko odpowiednie słownictwo białoruskie i zapożyczone, lecz także kwalifikatory stylistyczne do znajdujących się w rejestrze słów, które odnoszą się do zjawisk duchowych i kulturowych, dalekich od głównie chłopskiego życia na Białorusi. Wskazane czynniki burzą stereotypy o „chłopskim” pochodzeniu języka białoruskiego, za pomocą którego można informować jedynie o realiach życia codziennego, bez możliwości przekazywania pojęć abstrakcyjnych oraz cech wysokiego stylu.

**SŁOWA KLUCZOWE**: etnolingwistyka, I. Nosowicz, etnografia, folklor, zapożyczenia.

**РЭЗЮМЭ:** *Слоўнік беларускай мовы* І. Насовіча (1870 г.) з'яўляецца важнай крыніцай для этналінгвістычных назіранняў. У сваім словаспісе ён утрымлівае лексемы – назвы рэлігійных свят і канфесійных рэалій, народных звычаяў і абрадаў. Значны пласт слоў мае этымалагічныя звесткі (не заўсёды дакладныя), у тым ліку і ўказанне на іх іншамоўнае паходжанне. Этналінгвістычны складнік заключаецца не толькі ў падборы адпаведнай уласнабеларускай і іншамоўнай лексікі, але і ў афармленні стылістычных пазнак да рэестравых слоў, якія апелююць да пэўных побытавых і духоўна-культурных рэалій, далёкіх ад пераважна сялянскага беларускага жыцця. Названыя фактары разбураюць стэрэатыпныя ўяўленні пра "сялянскасць" беларускай мовы, яе побытава-зніжаны характар і немагчымасць перадачы абстрактных і высокастылёвых паняццяў.

**КЛЮЧАВЫЯ СЛОВЫ**: этналінгвістыка, І. Насовіч, этнаграфія, фальклор, запазычанні.

**ACTA ALBARUTHENICA 20: 2020**
DOI: 10.32612/uw.18988091.2020.20.pp.209–219

**Кацярына Любецкая** / Liubetskaya Katsiaryna
Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт / Belarusian State University
ORCID: https://orcid.org/0000-0002-7318-9583
e-mail: katerina_lingvo@mail.ru

# Станаўленне навуковага стылю беларускай мовы ў пачатку ХХ ст.

*The formation of the scientific style of the Belarusian language in the early twentieth century*
*Kształtowanie się stylu naukowego języka białoruskiego na początku XX wieku*

Функцыянальнай разнавіднасцю літаратурнай мовы, якая аб'ядноўвае мову розных галін навукі і служыць для перадачы аб'ектыўнай інфармацыі аб акаляючым асяроддзі, з'яўляецца навуковы стыль.

> Самымі агульнымі спецыфічнымі рысамі навуковага стылю, якія вынікаюць з паняційнасці і строгай лагічнасці мыслення, з'яўляюцца абстрактнасць, абагульненая падача матэрыялу, лагічнасць, дакладнасць у вызначэнні паняццяў, выразнасць выкладання [*Лексікалогія сучаснай беларускай літаратурнай мовы* 1994: 324].

Фармаванне навуковага стылю ў мовах свету адбываецца ў адрозных гістарычных умовах, што ў цэлым цесна звязана з агульным працэсам стварэння іншых моўных стыляў.

> У літаратурных мовах (англійскай, французскай, нямецкай, рускай), грамадскае функцыянаванне якіх гістарычна не абмяжоўвалася і не ўскладнялася якімі-небудзь стрымліваючымі ўплывамі, навуковы стыль ў асноўным фармаваўся паралельна са стылямі публіцыстычным, афіцыйна-справавым [Высоцкая 2013: 21].

Навуковы стыль беларускай мовы пачаў фармавацца значна пазней за іншыя стылі. Яго станаўлення цесна звязваецца з асаблівасцямі фармавання і функцыянавання беларускай мовы ў сацыяльна-гістарычным і культурна-палітычным кантэксце ў пачатку ХХ ст. і адбываецца перадусім практычным шляхам згодна з тым, як шырыцца друкаванне на беларускай мове, развіваецца нацыянальная школа, выходзяць працы навуковай тэматыкі.

> У пачатку ХХ ст. беларуская літаратурная мова некалькі пашырыла сферы свайго выкарыстання і ў сістэме яе моўна-выяўленчых сродкаў пачала фарміравацца тэрміналагічная лексіка [Красней 2011: 111].

Актуальныя працэсы развіцця навуковага стылю неаднаразова вывучаліся ў беларускай філалогіі. Разгляду гэтай функцыянальнай разнавіднасці беларускай мовы прысвяцілі свае працы такія навукоўцы, як Мікалай Абабурка, Уладзімір Анічэнка, Іван Лепешаў, Таццяна Старасценка, Міхаіл Цікоцкі, Алена Юрэвіч і інш. Комплексных даследаванняў, прысвечаных станаўленню навуковага стылю беларускай мовы ў пачатку ХХ ст., яшчэ не было праведзена, што робіць вывучэнне гэтага пытання актуальным. Мяркуем, што праз разгляд матэрыялаў навуковай тэматыкі 1900–1920 гг. зробіцца магчымым ахарактарызаваць асаблівасці моўна-стылістычнага афармлення гэтых тэкстаў, вылучыць адметныя рысы навуковага выкладу ў беларускай мове ў пачатку ХХ ст.

Першыя дваццаць гадоў ХХ ст. у беларускім мовазнаўстве прынята вылучаць у асобны перыяд, які разглядаюць як

> надзвычай змястоўны і ў параўнанні з папярэднімі перыядамі характарызуецца пэўнымі зрухамі як у самім падыходзе грамадскасці да беларускай мовы, так і ў яе навуковай распрацоўцы [Шакун 1996: 76].

Уздым нацыянальна-вызваленчага руху ў краіне абумоўлівае развіццё друку на нацыянальных (у тым ліку і беларускай) мовах, станаўленне школьніцтва на беларускай мове.

> Восенню 1915 г. у выніку ваенных дзеянняў паміж Германіяй і Расіяй тэрыторыя сучаснай Беларусі была падзелена: лінія фронту тады працягнулася ад Дзвінска ўздоўж возера Нарач праз Баранавічы да Пінска. Пад нямецкі кантроль трапілі заходнія губерні імперыі – Гродзенская, часткова Віленская і Мінская, а царскія войскі занялі Усходнюю Беларусь з гарадамі Мінск, Барысаў, Бабруйск, Мазыр. На тэрыторыі, занятай немцамі, быў створаны вайсковы адміністрацыйны абшар (т. зв. Обер Ост) пад кіраўніцтвам фельдмаршала Паўля фон Гіндэнбурга, улады якога апынуліся перад даволі складанай праблемай кіравання шматнацыянальным рэгіёнам [Любецкая 2002: 12].

Пастаўленыя перад неабходнасцю вырашэння моўнага пытання, акупацыйныя ўлады прынялі за прынцып аднолькавае стаўленне да ўсіх нацыянальнасцей. Ваенным адміністрацыйным рэжымам прадугледжвалася правядзенне культурнай дзейнасці, якая ўключала ў сябе стварэнне нацыянальных тэатраў, тэатральных труп, выданне газет на ўсіх нацыянальных мовах, а таксама абавязковае навучанне дзяцей у пачатковых школах на роднай мове.

> Prykazam z dnia 7 czerwienia 1916 h. vydany instrukcii ab sposabi ŭpraŭleńnia zaniatymi ziemlami. U instrukcijach asabliwa adznaczywajecca žadańnie, kab roznyje narody mieli-by roŭnyje prawy. Usio, czym naruszajecca zhodliwaje žyćcio narodaŭ, zabaraniajecca. Za naruszeńnia hetaho karacimuć sztrafam hraszmi da 10.000 marak abo wastroham da 5 hadoŭ. Oficyalnaj mowaj liczycca miž uładściami i nasialeńiem pazwolena ŭžywać biełaruskaj, łatyszskaj, litoŭskaj, polskaj i žydoŭskaj mowy [*Ab upraŭleńni ziemlami Ober Ost* 1916, №43: 3].

Ва ўмовах ажыўлення беларускага нацыянальнага руху на тэрыторыі Усходняй Беларусі ў 1917 г. утвараецца Беларускі нацыянальны камітэт, які пасля змен пераўтвараецца ў Вялікую Беларускую Раду.

> Важнай сферай дзейнасці народнага сакратарыята[1] было школьніцтва. Пры народным сакратарыяце асветы было створана бюро па справах распрацоўкі школьных падручнікаў і таварыства "Прасвета", якое занялося іх выданнем. Былі арганізаваны настаўніцкія курсы і школьная інспекцыя, пашырылася сетка пачатковых і сярэдніх школ. У Мінску быў створаны Беларускі педагагічны інстытут <...>. Рыхтавалася адкрыццё ўніверсітэта. Працавалі ў Мінску Беларускі тэатр, Таварыства драмы і камедыі і іншыя культурныя ўстановы. Пад кантролем народнага сакратарыята выходзіла больш дзясятка газет і часопісаў на беларускай мове [Туронак 1993: 22].

У гэты час арганізуецца праца беларускіх выдавецтваў[2]. "Галоўнымі асяродкамі выдавецтваў у тым часе былі Вільня, Мінск, Пецярбург і Масква" [Głogowska 1996: 55]. Беларускія тэксты рознага жанравастылявога характару рыхтуюцца ў Вільні ("Наша ніва", "Наша хата", "Беларускае выдавецкае таварыства"), у Мінску ("Мінчук"), у Пецярбурзе (выдавецтва А. Грыневіча, "Загляне сонца і ў наша аконца"), а таксама ў іншых гарадах краю, напрыклад: "Палачанін", "Вясёлкі", "Аграномічнае бюро К. Карповіча".

Менавіта на пераломе 1910–1920 гг., на думку беларускіх даследчыкаў, пачынаецца "інстытуцыялізванае даследаванне нацыянальнай мовы беларускага народа..." [Запрудскі 2003: 3]. У Вільні ствараецца Беларускае навуковае таварыства.

> У 1919 г. была створана Тэрміналагічная камісія з мінскіх настаўнікаў, якая распрацавала асноўныя тэрміны для беларускай школы, надрукаваныя потым у "Праграме беларускай пачатковай школы" на 1919/1920 навучальны год [Плотнікаў 2003: 360].

У гэты перыяд найбольшая ўвага скіроўваецца на распрацоўку беларускай літаратурнай мовы і яе ролі ў грамадскім жыцці. На думку беларускага палітычнага дзеяча, гісторыка Яўсея Канчара, што ў 1918 г. выказваў свае меркаванні пра беларускую мову,

> сярод беларусаў існуе некалькі меркаванняў на дэталі беларускага адраджэння. Але няма ўжо ніводнага Беларуса, калі ён сябе такім лічыць, які б не прызнаваў беларускага Пытання ў цэлым і пазбягаў бы працаваць над паляпшэннем гэтага Пытання. Затое такая падрабязнасць, як выпрацоўка літаратурнай беларускай мовы, выклікае шмат спрэчак і мае сваіх заўзятых праціўнікаў і абаронцаў [гл. Запрудскі 2003: 167].

Асобна пытанні станаўлення мовы беларускай навукі і навуковага стылю па аб'ектыўных прычынах яшчэ не могуць быць узнятыя. Разам

---

[1] Народны сакратарыят – выканаўчы орган Вялікай Беларускай Рады.

[2] Больш падрабязна пра дзейнасць выдавецтваў [гл. Głogowska 1996: 51–57; Гапоненка 2012: 21–25].

з тым гэты перыяд характарызуецца пэўнымі зрухамі ў развіцці беларускай мовы і яе функцыянальна-стылістычнай разгалінаванасці: у друку абмяркоўваюцца пытанні развіцця і ўдасканалення беларускай літаратурнай мовы, выпрацоўкі яе сродкаў, графікі, нацыянальнага правапісу.

Даследчыкамі заўважаецца, што ў першыя дзесяцігоддзі XX ст. "пытанні развіцця беларускай літаратурнай мовы, яе нармалізацыі, ролі ў грамадскім жыцці, у адраджэнні нацыянальнай культуры разглядаліся амаль выключна тагачаснай прэсай, як трэба было чакаць – галоўным чынам у публіцыстычным плане" [Шакун 1995: 80]. У газетах "Наша доля", "Наша ніва", "Гоман", "Дзянніца", "Светач", "Вольная Беларусь", "Biełarus" і інш., часопісах "Саха", "Раніца", "Лучынка", календарах, альманахах "Маладая Беларусь" публікуюцца артыкулы, прысвечаныя асвятленню пытанняў з розных сфер навукі, з'яўляюцца асобныя беларускія падручнікі па розных галінах ведаў, у прыватнасці беларускія граматыкі А. Луцкевіча, Р. Абіхта, Б. Пачобкі, Я. Станкевіча, А. Смоліч, К. Каганца, кнігі для чытання, задачнікі.

Практычная дзейнасць па выданні матэрыялаў навуковай тэматыкі ў пачатку XX ст. ставіць аўтараў тэкстаў перад неабходнасцю выбару тых або іншых моўных сродкаў для пабудовы навуковага маўлення. Відаць, у гэты перыяд яшчэ рана казаць пра сістэмны падыход да выпрацоўкі асноў навуковага выкладу ў беларускай мове. Пры выбары моўных сродкаў для складання тэксту навуковай тэматыкі аўтары кіруюцца пераважна ўласным бачаннем і меркаваннем адносна шляхоў фармавання беларускай мовы ў гэты перыяд. У гэтай сувязі можна пагадзіцца з меркаваннем, што

> хоць сур'ёзных прац па пытаннях нармалізацыі сродкаў беларускай літаратурнай мовы ў пачатку XX ст. яшчэ не паяўлялася, аднак паступова назапашваўся і абмяркоўваўся неабходны для гэтага матэрыял [Шакун 1995: 82].

У цэлым можна прадугледжваць, што ў першыя дзесяцігоддзі XX ст. падрыхтоўка і далейшая публікацыя беларускамоўных тэкставых матэрыялаў рознай тэматыкі, зместу і прызначэння спрыяла станаўленню працэсу дыферэнцыяцыі беларускай мовы ў функцыянальна-стылістычным плане, выпрацоўцы грамадска-ўсвядомленых норм ужывання моўных сродкаў у асобных стылях.

> Афіцыйнае становішча беларускай мовы вызначыла развіццё жанраў пісьменнасці, стылявую дыферэнцыяцыю і ступень літаратурнай апрацаванасці беларускай літаратурнай мовы [*Гісторыя беларускай літаратурнай мовы* 1968: 116].

У гэты час выдаецца арыгінальная і перакладная літаратура "даступная для ўсіх". У тэкстах навуковай тэматыкі рэалізуецца перадусім функцыя перадачы навуковай інфармацыі. Варта памятаць пры гэтым, што ў тагачаснай прэсе асноўнай аўтарскай задачай робіцца зацікавіць

чытача навуковай інфармацыяй і папулярна, у даступнай форме выкласці матэрыял. У сувязі з гэтым для інтэрпрэтацыі навуковай інфармацыі ва ўмовах фармавання навуковага стылю робіцца найбольш прымальнай папулярная форма. У вучэбна-педагагічных тэкстах і падручніках першых двух дзесяцігоддзяў XX ст. разглядаюцца зыходныя звесткі па мове з мэтай навучыць чытаць па-беларуску.

Станаўленне навуковага стылю беларускай мовы 1900–1920 гг. закладваецца ў некалькіх асноўных жанравых формах: у сродках масавай інфармацыі: артыкул навуковай тэматыкі, рэцэнзія, крытыка-біяграфічны нарыс, навуковая брашура, кніжны агляд, а вучэбна-педагагічнай літаратуры: граматыка, падручнік для пачатковай школы.

Ужо ў першых тэкстах можнаназіраць, што моўны матэрыял арганізуецца паводле пэўных структурна-кампазіцыйных прымет. Напрыклад, даследчыкамі заўважана, што некаторыя тэксты, што друкаваліся ў газетах, “пабудаваны наступным чынам: уводзіны да прадмета гаворкі, яго характэрныя прыкметы ці асаблівасці, якое дачыненне мае да чытача, заканчэнне” [Мова “Нашай Нівы” 2014: 330]. Да адметных характарыстык тэксту навуковай тэматыкі гэтага часу можна аднесці таксама ўвядзенне ў яго структуру г. зв. нямоўных знакаў: лічбаў, схем, табліц, чарцяжоў. У структуры граматыкі Браніслава Тарашкевіча з мэтай агульнай катэгарызацыі навуковага зместу, мяркуемага абдумвання навуковых звестак асноўны матэрыял размеркаваны па асобных раздзелах з адпаведнай нумарацыяй.

У гэты час падрыхтоўка матэрыялаў пэўнай жанравай формы абумоўлівае ўвядзенне ва ўжыванне аўтарамі новых сродкаў выражэння, спецыфічных для навуковых зносін слоў, словазлучэнняў, канструкцый.

У матэрыялах навуковага выкладу, надрукаваных у сродках масавай інфармацыі, звычайна назіраюцца адступленні ад нейтральнай танальнасці і выражаюцца адносіны асобы да рэчаіснасці, перадаецца аўтарская ацэнка. Эмацыянальнасць выкладу навуковай інфармацыі забяспечваецца ўжываннем слоў з памяншальна-ласкальнымі суфіксамі: *дрэўцо, сонейка*, *лясочэк, узгорачэк, паўнютынька*, эпітэтаў: *народнаго духа, у жывой мове, гразь культуры, злые здарэньня,* устойлівых спалучэнняў: *нічога кепскаго*, *нечаго негаданаго.*

Характарызуючы моўныя рысы тэкстаў навуковай тэматыкі гэтага часу, можна адзначыць пэўную адвольнасць у выбары моўных сродкаў пры падрыхтоўцы тэксту. Натуральна, у гэты час яшчэ рана весці гаворку пра сістэмнасць асобных функцыянальна-стылістычных разнавіднасцей беларускай мовы. Моўныя тэксты гэтага часу характарызуюцца спецыфічнай лексікай і своеасаблівым сінтаксічным ладам.

Паколькі навуковыя матэрыялы арыентуюцца перадусім на запатрабаванні простага чалавека, яны напісаныя жывой народнай мовай. Найбольшую групу ў тэкстах навуковага выкладу складаюць нейтральныя словы, без эмацыйна-экспрэсіўнай афарбоўкі, словы агульнаўжывальнай лексікі, што сустракаюцца ва ўсіх стылях мовы. Такія словы

з'яўляюцца найменнямі навакольнага свету, рэчываў, прасторы, часу і інш.: *вада, сонцэ, морэ, вйоска, вымогі, горад, гутаркі, малака, народам, prайdи, сем'я, чытач*.

Істотным элементам кампазіцыйнай будовы гэтых тэкстаў і вызначальным стылеўтваральным фактарам робіцца лексіка, выкарыстаная аўтарамі для передачы спецыяльнага значэння. Такая лексіка (шляхам яе паўтору ў тэкстах навуковай тэматыкі) выконвае важную архітэктанічную, кампазіцыйную функцыю. Дзякуючы выкарыстанню найменняў для передачы спецыяльных паняццяў, ужыванне якіх скіравана на забеспячэнне ўнутранага адзінства моўнай сістэмы тэксту, ствараецца г. зв. спецыяльны кантэкст. У гэты час у беларускай мове працэс выпрацоўкі тэрміналагічнай і абстрактнай лексікі і фразеалогіі толькі пачынаецца.

> Было яшчэ вельмі далёка да таго, каб беларуская мова атрымала шырокія правы ва ўсіх сферах грамадскага жыцця. Тым не менш тыя зачаткі навуковай тэрміналогіі, што былі ў гэты перыяд, паказваюць, што і ў гэтай сферы беларуская мова асаблівых, непераадоленых цяжкасцей не сустракала: яна папаўняла свой слоўнікавы запас з існуючых крыніц шляхам запазычанняў, калькавання і г. д. , інакш кажучы, магла ўзяць на сябе і гэту функцыю [*Гісторыя беларускай літаратурнай мовы* 1968: 150].

У тэкставых матэрыялах можна вылучыць лексічныя адзінкі, суадносныя з такімі галінамі ведаў, як грамадска-палітычныя навукі, астраномія, філасофія, правазнаўства, мовазнаўства, літаратуразнаўства, выдавецкая дзейнасць, мастацтва, матэматыка, эканоміка, ваенная справа. Канешне, характарызуючы пачаткі тэрмінатворчай дзейнасці 1900–1920 гг., можна казаць толькі пра першыя крокі ў справе вызначэння падыходаў да выпрацоўкі спецыяльнай лексікі ў беларускай мове. Даволі заўважнымі ў гэты час робяцца пурыстычныя тэндэнцыі ў галіне выпрацоўкі намінацый спецыяльнага значэння.

> Пры фармаванні намінатыўна-тэрміналагічнага фонду прынцып арыентацыі на іншамоўныя тэрміны інтэрнацыянальнага характару быў мінімальным, у адрозненне ад дамінуючага прынцыпу максімальнага выкарыстання ўласных моўных сродкаў [Любецкая 2017: 302].

У тэкстах навуковай тэматыкі для передачы спецыяльнага значэння ўжываліся перадусім словы ўласнабеларускія: *адусюль, бульбяны, галлё, гутарка, дагэтуль, жудасны, завіруха, імшар, колішні, надвор'е, падвячорак, ралля, спрадвеку, туляга, узмежак, хаўтуры, чутка, шанцаваць*. У навукова-папулярныя творы пачатку XX ст. уводзіліся словы дыялектныя: *тагды, можыць, пішыць, бываіць, караець, тхлань, харонга, цвікёль, пячкур, вогнік, бросьня.* Даволі часта ў якасці спецыяльнай лексікі выступаюць народныя найменні: *вар, бусел, груд, гуз, дзяцеліна, закелзаць, злыбеда, каліва, летась, сёлета*, апісальныя паняцці, параўн.: *раней тэрміну (дасрочны), пераварачыванне з адной*

*нацыі ў другую (асіміляцыя), лячэнне жывёлы (ветэрынарыя), падземная дарога – (тунель)*.

Робяцца звычайнымі словы і словазлучэнні, што ў далейшым замацаваліся як тэрміны з галін філалогіі: *бэлетрыстыка*, *літара*, *апавяданьня, мова, значэнне*, *шрыфт*, *філологічны,* правазнаўства: *абавязак, аб роўнасьці, вобыск, закон, забараняецца, конфіскацыя, прыгавор,* грамадазнаўства: *губэрнатар*, *ваеннаакружны*, *ідэалогія*, *інспэктар*, *конституція, рэволюцыйны, парлямэнт, земства, манаполія, палітыка, солідарнасьць, уполномочэны, правіцельство, школа, упраўленьне*, сельская гаспадарка: *аграном, гумно, збожжэ, да пасевоў, садаводаў, сена, зернятка, жыто, ураджай,* эканоміі: *крэдытар, коопэрація*, *эканаміст*, *акціонерны*, медыцына: *амбуляторыя*, *рэбры*, *ортопэдычны, псыхіатрычна*, філасофіі: *філёзаф, постулят, катэдра*, ваеннай справы: *тэатр военных змаганняў, армія, глаўнакамандаючы, партызанскі, пісталет, раскватэроўка, штаб.* Канкурэнтнымі ў спецыяльнай сферы выступаюць такія беларускія і запазычаныя намінацыі, як *дэкларацыя – праграма, урад – правіцельства, каморнік – землямер, установа – інстытуцыя, кан'юнктура – будоўля*.

Варта адзначыць, што падрыхтоўка прац навуковага характару ў гэты час спрыяе назапашванню неабходнага матэрыялу для далейшага вызначэння шляхоў і спосабаў фармавання айчыннага тэрмінафонду і выпрацоўкі мовы навукі.

Адной з крыніц фармавання мовы навукі стала запазычванне з суседніх моў. Пры намінаванні паняццяў, якія перадавалі спецыяльнае значэнне, аўтары звярталіся да запазычанняў з рускай мовы, напр.: *атчот, аружжа, вучылішча, гасударства, папячыцель, шчатаводства*, з польскай, напр.: *зыск, малатарня, натаваць, часопісь, ягомасць,* з украінскай, напр.: *надаслаць, напярэдадні, чытач.* "Сярод тыпова рускіх марфем <...> можна назваць суфікс –*цель*: *абвініцель, валадзецель, пісацель, прадсядацель, прадацель, попячыцель*" [Гапоненко 2018: 197].

Адным са спосабаў утварэння намінацый для перадачы спецыяльнага значэння стала калькаванне, напр.: *выразнік, вышэйпамянуты, канчатак, светагляд, творства.*

Беларускай навуковай мове гэтага часу ўласціва вялікая ступень сінанімічнасці. Ва ўмовах паскоранай распрацоўкі беларускай тэрміналогіі ўзнікалі ў г. зв. навукова-маўленчай практыцы дублетныя тэрміны, напрыклад: *памяшчэнне – ангар, рада – бюро, пазычка, павер – крэдыт, валасны – гмінны, художэственны – артыстычны, грошавы – фінансавы, абшчынны – супольны*, *хаўрус – кружок*.

Для абазначэння мерапрыемстваў і ўстаноў тэкстам навуковай тэматыкі ўласціва выкарыстанне назоўнікаў з суфіксам – *ацыя* (-*ізацыя*): *арганізацыя, дэпутацыя, цыркуляцыя, эміграцыя, дэнацыяналізацыя*, для абазначэння навуковых плыняў і вучэнняў ужываюцца назоўнікі з суфіксам –*ызм* (-*ізм*): *дэмакратызм, клерыкалізм, нігілізм, патрыятызм, сацыялізм, шавінізм*. Актыўным робіцца ўжыванне ў навуковых

тэкстах адцягненай лексікі з суфіксамі: -*асць* (-*осць*), -*нн*-, -*цыј*-, -*ств*- (-*зтв*-, -*цтв*-), -*шч*-, напр.: *граматнасць, забалочанасць, сьвядомасць, істнаванне, нічоганяробленне, цкаванне, сэлекцыя, эдукацыя, глупствы, чававечэства, лугаводзтва, судаводзтва, сьледзтва, множства, княжства, чэлавеканенавіснічэства, мінуўшчына*. Вядомыя таксама вытворныя спалучэнні, напрыклад: *маюць права, прыгожаго пісьменства, грамадзянскі догляд, зняць кару, стан пасядання, грамадская суполка, эканамічныя адносіны, прыватная ўласнасць, ашчадны хаўрус, асноўны капітал*.

У тэкстах навуковай тэматыкі пачынаюць выкарыстоўвацца дзеепрыметнікі і дзеепрыслоўі: *кніжачка, напісаная так цікава…, абавязываючые пастановы*, *аглучаючы ўзрыў, полк англіскай пяхоты, ідучый у атаку*, *мужыкі, падганяныя казацкімі нагайкамі.*

У пачатку XX стагоддзя пачынаецца афармленне сінтаксічнага ладу тэкстаў навуковага выкладу. Для перадачы значнага аб'ёму інфармацыі аўтары тэкстаў звяртаюцца да featureнага тыпу ўскладненняў структуры простага сказа, напрыклад, за кошт устаўных канструкцый: *Большая часьць умірае (каля 50 прац.), Kožnaje słowa – aprača čatyroch niazmiennych časciej mowy – składajecca z dzwiech čaśćiej: niazmiennaj asnowy i kančara, katory admieniajecca zaležnie ad taho, u jakich warunkach užywajecca słowa* [Luckevič 2017: 54]. Для сувязі з папярэднім кантэкстам у навуковых тэкстах ужываюцца пабочныя словы, напр.: *Pieršaje – heta toje, što dastać zahraničny pašpart doraha kaštuje – 15 rub. na pojhoda* [“Наша ніва” 1911, 2: 34]. Для выражэння складанага сэнсу аўтары звяртаюцца галоўным чынам да выкарыстання складаных сказаў. Пры гэтым складаныя сказы сустракаюцца часцей, чым простыя, і яны разнастайныя па сваёй структуры: складаназалежныя, складаназлучаныя: *Калі нельга друкаваць двума шрыфтамі, трэба выбраць адзін: рускі. Так пісалі ўсе свядомыя беларусы, апрача невялікай жмені* [“Наша ніва”, 1912. № 42]; *Беларускі народ гаварыў і гаворыць рознымі гутаркамі, каторыя мейсцамі блізкі да польскай мовы, мейсцамі – да украінскай, мейсцамі – да расейскай* [“Наша ніва”, 1912. № 14]. Сувязь паміж сказамі ў навуковай мове ажыццяўляецца пры дапамозе злучнікаў і злучальных словаў: *ня гледзячы на, перад тым як, прычым, з тым каб, у тым ліку, дзякуючы*.

Пачатак XX ст. – час закладвання асноў далейшай функцыянальнастылявой дыферэнцыі беларускай мовы. У гэты час аўтары намагаюцца не проста ствараць на беларускай мове тэксты рознай тэматыкі і featureнага функцыянальнага прызначэння, але пры іх складанні арыентавацца на сацыяльныя, індывідуальныя асаблівасці адрасатаў тэксту, улічваць грамадскую сферу зносін, мэты выказвання. Дзякуючы практычнай дзейнасці аўтараў па падрыхтоўцы беларускіх тэкстаў, розных па мэце і задачах, форме, зместу, паступова пачынаецца г. зв. стылістычная праца ў беларускай мове. Можна прадугледжваць, што ў аб'ектыўных умовах нераспрацаванасці не толькі функцыянальных стыляў,

але і самой нацыянальнай мовы ў пачатку XX ст. аўтары пры выбары моўнай формы ў сваіх тэкстах кіруюцца пераважна сваімі моўнымі густамі.

Такім чынам, можна адзначыць, што асновай фармавання навуковага выкладу і навуковага стылю ў беларускай мове ў 1900–1920 гг. стала выданне тэкставых матэрыялаў навуковай тэматыкі і развіццё беларускай пісьменнасці. Вывучэнне структуры, мовы і архітэктонікі тэкстаў навуковай тэматыкі першых дзесяцігоддзяў XX ст. дазваляе назапасіць нямала назіранняў адносна асаблівасцей фармавання навуковага стылю беларускай мовы. Натуральна, у гэты час яшчэ толькі закладваюцца асновы функцыянальнай дыферэнцыяцыі стыляў беларускай мовы. На дыферэнцыяцыю стыляў ў гэты перыяд у рознай ступені ўплываюць стан беларускай мовы, моўная практыка аўтараў тэкстаў. Менавіта ў гэты час адбываюцца пачатковыя спробы стварэння прыёмаў, стылістычных сродкаў і спосабаў нацыянальнага навуковага выкладу, выпрацоўваецца кампазіцыйна-структурная будова тэкстаў навуковай тэматыкі, пачынаецца развіццё правапісна-граматычных і лексіка-семантычных норм навуковага тэксту, яго характалагічных моўных і нямоўных элементаў.

## Бібліяграфія


*Ab upraŭleńni ziemlami Ober Ost.* 1916. „Homan". № 43.

*Anton Łuckiewič: Biełaruskaja hramatyka pawodłuh lekcij, čytanych na Biełaruskich Wučycielskich Kursach u Wilni – ŭ 1915-1916 hh.* 2017. Band I, II. Hrsg. von R. Grübel, G. Hentschel, G.-B. Kohler. Edition und Kommentar von H. Bieder unter Mitwirkung von K. Gutschmidt. Oldenburg: BIS-Verlag der Carl von Ossietzky Universität Oldenburg.

*Belaruskaâ mova. Lìngvìstyčny kampendyum.* 2003. Mìnsk: Ìntèrprèssèrvìs [*Беларуская мова. Лінгвістычны кампендыум.* 2003. Мінск: Інтэрпрэссэрвіс].

Gaponenka Ìryna. 2012. *Leksìka belaruskaj lìtaraturnaj movy XIX – pačatku XX st.:* asablìvascì stanaŭlennâ ì razvìccâ. Mìnsk: BDU [Гапоненка Ірына. 2012. *Лексіка беларускай літаратурнай мовы XIX – пачатку XX ст.: асаблівасці станаўлення і развіцця.* Мінск : БДУ].

Gaponenko Irina. 2018. *Vliânie vostočnoslavânskih âzykov nabelorusskij âzyk načala XX v.* "Studia białoruthenistyczne". № 12: 191–213 [Гапоненко Ирина. 2018. *Влияние восточнославянских языков на белорусский язык начала XX в.* "Studia białoruthenistyczne". № 12: 191–213].

*Gìstoryâ belaruskaj lìtaraturnaj movy.* Tom II. 1968. Rèd. A. Žuraŭskì. Mìnsk: Navuka ì tèhnìka [*Гісторыя беларускай літаратурнай мовы.* Том II. 1968. Рэд. А. Жураўскі. Мінск: Навука і тэхніка].

Głogowska Helena. 1996. *Białoruś 1914–1929. Kultura pod presją polityki.* Białystok: Orthdruk.

Krasnej Vìktar. 2011. *Belaruskaâ tèrmìnalogìâ.* Rèd. M. Prygodzìč. Mìnsk: BDU [Красней Віктар. 2011. *Беларуская тэрміналогія.* Рэд. М. Прыгодзіч. Мінск: БДУ].

*Leksìkalogìâ sučasnaj belaruskaj lìtaraturnaj movy.* 1994. Rèd. A. Bahan'koŭ. Mìnsk: Navuka ì tèhnìka [*Лексікалогія сучаснай беларускай літаратурнай мовы.* 1994. Рэд. А. Баханькоў. Мінск: Навука і тэхніка].

Lûbeckaâ Kacâryna. 2002. *Z gìstoryì nâmecka-belaruskaj, belaruska-nâmeckaj leksìkagrafìì ì tèrmìnagrafìì*. Rèd. G. Cyhun. Mìnsk: Belaruskì knìgazbor [Любецкая Кацярына. 2002. *З гісторыі нямецка-беларускай, беларуска-нямецкай лексікаграфіі і тэрмінаграфіі*. Рэд. Г. Цыхун. Мінск: Беларускі кнігазбор].

Lûbeckaâ Kacâryna. 2017. *Osobennosti formirovaniâ belorusskogo naučnogo âzyka v načale XX v.* "Zapiski z ukraïns'kogo movoznavstva". Vip. 24. U 2-h tomah. T. 1. Odessa: Poliprint: 299–306 [Любецкая Екатерина. 2017. *Особенности формирования белорусского научного языка в начале XX в.* "Записки з українського мовознавства". Вип. 24. У 2-х томах. Том 1. Одесса: ПолиПринт: 299–306].

*Mova "Našaj nìvy". Semantyka. Stylìstyka*. 2014. Rèd. V. Lemcûgova. Mìnsk: Belaruskaâ navuka [*Мова "Нашай нівы". Семантыка. Стылістыка*. 2014. Рэд. В. Лемцюгова. Мінск: Беларуская навука].

"Naša nìva". 1911; 1912 ["Наша ніва". 1911; 1912].

Šakun Leŭ. 1995. *Gìstoryâ belaruskaga movaznaŭstva*. Mìnsk: Unìversìtèckae [Шакун Леў. 1995. *Гісторыя беларускага мовазнаўства*. Мінск: Універсітэцкае].

Turonak Ûry. 1993. *Belarus' pad nâmeckaj akupacyâj*. 1993. Mìnsk: Belarus' [Туронак Юры. 1993. *Беларусь пад нямецкай акупацыяй*. Мінск: Беларусь].

Vysockaâ Zorâna. 2013. *Razvitie naučnogo stilâ ukrainskogo literaturnogo âzyka konca XIX – načala XX vv*. "Vestnik Tomskogo gosudarstvennogo universiteta". № 375, 21–25 [Высоцкая Зоряна. 2013. *Развитие научного стиля украинского литературного языка конца XIX – начала XX в.* "Вестник Томского государственного университета". № 375, 21–25].

Zaprudskì Sârgej. 2013. *Belaruskae movaznaŭstva ì razvìccë belaruskaj lìtaraturnaj movy: 1920–1930-â gady*. Mìnsk: BDU [Запрудскі Сяргей. 2013. *Беларускае мовазнаўства і развіццё беларускай мовы: 1920–1930-я гады*. Мінск: БДУ].

**ABSTRACT**: The article analyzes the conditions and formation features of the scientific style of the Belarusian literary language of the early XX century (1900–1920), which came to be the basis for the formation of the scientific style in its further development in modern language. Emphasis is placed on the socio-historical and cultural-political context of the formation of the Belarusian scientific language in the early XX century, the role of scientific institutions of that time, popular science and scientific-educational works presented in certain fields under relevant names in the development of the scientific style of the Belarusian language in that period. The issues of Belarusian terminology formation are actualized, lexical, morphological and syntactic features of the language of science are outlined. The characteristic linguistic and stylistic features of scientific works, as well as their genre affiliation and structure are identified.

**KEYWORDS**: Belarusian language, literary language, scientific language, scientific style, terminology, linguistic and stylistic features.

**STRESZCZENIE**: W artykule przeanalizowano warunki i zbadano cechy kształtowania się stylu naukowego białoruskiego języka literackiego na początku XX wieku (1900–1920), który stał się podstawą kształtowania stylu naukowego w dalszym jego rozwoju we współczesnym języku białoruskim. Nacisk kładziony jest na społeczno-historyczny i kulturowo-polityczny kontekst kształtowania się białoruskiego języka naukowego na początku XX w., rolę instytucji naukowych tamtych czasów, prac popularnonaukowych i naukowo-dydaktycznych prezentowanych w poszczególnych gałęziach przemysłu, w rozwoju stylu naukowego języka białoruskiego omawianego okresu. Zaktualizowano zagadnienia dotyczące powstawania białoruskiej terminologii, zarysowano leksykalne, morfologiczne

i składniowe cechy języka nauki. Wyróżniono charakterystyczne cechy językowe prac naukowych, a także ich przynależność gatunkową i strukturę.

**SŁOWA KLUCZOWE**: język białoruski, język literacki, język naukowy, styl naukowy, terminologia, cechy językowo-stylistyczne

**РЭЗЮМЭ**: У артыкуле прааналізаваны ўмовы і разгледжаны асаблівасці фармавання навуковага стылю беларускай літаратурнай мовы пачатку XX ст. (1900–1920 гг.), якія сталі асновай для станаўлення навуковага стылю ў сучаснай мове. Акцэнтавана ўвага на сацыяльна-гістарычным і культурна-палітычным кантэксце фармавання беларускай навуковай мовы ў пачатку XX ст., ролі навуковых устаноў таго часу, навукова-папулярных і навукова-вучэбных прац, прадстаўленых па асобных галінах назвамі, у развіцці навуковага стылю беларускай мовы адзначанага перыяду. Актуалізаваны пытанні станаўлення беларускай тэрміналогіі, акрэслены лексічныя, марфалагічныя і сінтаксічныя адметнасці мовы навукі. Адзначаны характэрныя лінгвастылістычныя асаблівасці навуковых прац, а таксама іх жанравая прыналежнасць і структура.

**КЛЮЧАВЫЯ СЛОВЫ**: беларуская мова, літаратурная мова, навуковая мова, навуковы стыль, тэрміналогія, моўна-стылістычныя асаблівасці.

**ACTA ALBARUTHENICA 20: 2020**
DOI: 10.32612/uw.18988091.2020.20.pp.221–228

**Юрый Маліцкі / Yury Malitski**
Нацыянальная акадэмія навук Беларусі /
National Academy of Sciences of Belarus
ORCID: https://orcid.org/0000-0003-1315-5178
e-mail: sp-sm@mail.ru

# Актуалізацыя прагматычнай інтэнцыі моўцы ў гутарковым маўленні (на матэрыяле гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча)

*Actualization of the pragmatic intent of speaker in colloquial speech (based on the speech of north-western Belarus and its border)*
*Aktualizacja pragmatycznej intencji mówcy w mowie potocznej (na materiale gwar północno-zachodniej Białorusi i jej pogranicza)*

Пытанні даследавання моўнага феномена прагматыкі моўных адзінак у апошнія некалькі дзесяцігоддзяў трывала занялі месца сярод найбольш актуальных праблем сучаснай лінгвістыкі і сумежных дысцыплін. Актуальнасць такіх даследаванняў выклікана як тэарэтычна-навуковай, так і практычнай значнасцю пытання. Асабліва зараз, у эпоху інфармацыйнага грамадства, вывучэнне моўных адзінак, здольных не толькі перадаваць інфармацыю, але і перадаваць неабходныя эмоцыі адрасанта маўлення адрасату (ці адрасатам) маўлення, уплываючы на іх уласныя эмоцыі і пачуцці і фарміруючы або карэктуючы такім чынам іх карціну свету, мае асаблівае значэнне.

Калі разглядаць выключна навуковы аспект, то прагматыка як феномен увасаблення эмоцый, пачуццяў, а таксама вынікаў суб’ектыўнай кваліфікатыўнай дзейнасці чалавека ў канкрэтных моўных формах, вывучаецца на самых розных узроўнях моўнай сістэмы. На этапе зараджэння тэорыі прагматычнай намінацыі, у апошнія дзесяцігоддзі XX ст., пераважная большасць падыходаў да вызначэння і апісання праблемы прагматыкі адзінак маўлення характарызаваліся выключна экстралінгвістычным пунктам погляду на прыроду адпаведнага зместу: з’ява экспрэсіўнасці ўспрымалася як вынік уздзеяння псіхалагічных, сацыяльных і іншых фактараў, што спадарожнічаюць працэсу маўлення. Між тым, акалічнасці камунікатыўнага працэсу выступаюць толькі перадумовай узнікнення экспрэсіўнасці, і яны ніяк не могуць разглядацца ў якасці аб’ектыўных моўных крытэрыяў наяўнасці прагматычнай маркіраванасці выказвання.

Варта адзначыць, што да апошняга часу разгляд сродкаў эксплікацыі прагматычнага значэння (у тых рэдкіх выпадках, калі ён усё ж праводзіўся) абмяжоўваўся толькі апісаннем фармальных асаблівасцей у межах уласна слова. Аднак, як паказваюць нашы назіранні, экспрэсіўны змест валодае настолькі арыгінальным характарам, што яго знешні моўны бок часам можа рэалізоўвацца і на іншым узроўні – узроўні спалучальнасных магчымасцей слова.

Лінгвістычная літаратура, прысвечаная вывучэнню феномена прагматыкі, як правіла, звязвае фармальныя паказчыкі адпаведнага зместу пераважна з лексічным і семантычным узроўнямі мовы. Паводле даследчыкаў, на лексічным узроўні прагматычная семантыка слова фармалізуецца за кошт словаўтваральных элементаў. На семантычным – за кошт зместавай матываванасці, якая знаходзіць адлюстраванне ў рознага кшталту пераносах значэння. Фактычна, сцвярджаецца, што формы рэалізацыі прагматыкі лексічнай адзінкі сканцэнтраваны ў межах уласна слова. Гэта цалкам справядліва, але пры адной умове: калі прагмема разглядаецца непасрэдна – як слоўнікавая адзінка па-за межамі камунікатыўнага працэсу. Між тым, аналіз аспектаў прагматычнага словаўжывання з улікам яго камунікатыўных мэт дае падставы гаварыць пра больш шырокае кола сродкаў, якія афармляюць прагматычную інтэнцыю моўцы, а таксама ствараюць прагматычны кантэкст выказвання.

У сувязі з феноменам моўнай прагматыкі ў навуковай літаратуры выкарыстоўваецца тэрмін экспрэсія. Пры гэтым паняцці “прагматыка” і “экспрэсія” часта ўжываюцца ў якасці абсалютных сінонімаў, што з’яўляецца прынцыповай памылкай. З’ява моўнай экспрэсіі выступае ў якасці аднаго са складнікаў прагматычнага зместу, але не атаясамліваецца з ім. Разуменне экспрэсіі звязана з паняццем інтэнсіўнасці. На ўвазе маецца вельмі высокая альбо, наадварот, вельмі нізкая ступень праяўлення пэўнай рэальнай прыкметы. Найбольш распаўсюджаным з’яўляецца выпадак, калі рэалізуецца значэнне менавіта высокай ступені праяўлення з’явы. Менавіта ў такім значэнні мы і будзем выкарыстоўваць тэрміны “экспрэсія” і “экспрэсіўнасць” у артыкуле. Другі складнік феномена моўнай прагматыкі – з’ява эмацыйнай ацэнкі – у сваю чаргу звязана з каштоўнасным стаўленнем моўцы да аб’екта намінацыі.

> На экстралінгвістычным узроўні эмацыянальная ацэнка прадстаўляе сабой меркаванне суб’екта (індывідуальнага або калектыўнага) аб каштоўнасці аб’екта, якое праяўляецца не як лагічнае суджэнне, а як адчуванне, пачуццё, эмоцыя моўцы [Лукьянова 1986: 45].

Дыялектнае маўленне ў поўнай меры належыць да неафіцыйна-гутарковай сферы і знаходзіцца па-за межамі моўнага стандарту. Як паказваюць назіранні, такія ўмовы спрыяюць актывізацыі шырокага кола нерэгулярных фармальных сродкаў, да якіх звяртаецца моўца, рэалізуючы свае камунікатыўныя мэты. Аналіз спосабаў актуалізацыі

прагматычнай інтэнцыі моўцы падаецца асабліва цікавым і плённым ва ўмовах складанай моўнай сітуацыі, у акалічнасцях якой, акрамя рэгулярных для дадзенай камунікатыўнай сістэмы сродкаў, у працэсе зносін актыўна задзейнічаны сродкі сумежных моў. У гэтай сувязі тэрыторыя паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча, дзе сумежнічаюць арэалы распаўсюджання беларускай, польскай і літоўскай моў, з'яўляецца надзвычай цікавай з даследчыцкага пункту погляду. У якасці крыніцы матэрыялу мы абралі *Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча* [*Слоўнік*… 1979–1986, I–IV] (СПЗБ) як найбольш поўнае і грунтоўнае лексікаграфічнае выданне, прысвечанае гэтаму рэгіёну.

Умовы неафіцыйнай камунікацыі, а таксама пазамоўныя – побытавыя, міжасабовыя і сацыяльныя – акалічнасці зносін падштурхоўваюць моўцу шукаць дзейсныя (новыя, арыгінальныя) сродкі ўвасаблення кваліфікатыўнай або эмацыйнай інтэнцыі. Такі пастаянны пошук новых форм лагічна "выводзіць" моўную свядомасць за межы ўласна слова. Пры такім падыходзе фармальная рэалізацыя суб'ектыўнага фактару маўлення адбываецца ў іншым аспекце – на ўзроўні спалучальнасных магчымасцей слова.

> Як унутраны (псіхічны) стан чалавека выяўляецца фізіялагічна, так і "ўнутраныя станы" (значэнні) элементаў тэксту выяўляюцца ў іх сінтаксічных паводзінах [Колшанский 1980: 24–25].

Увага да механізмаў актуалізацыі прагматычнага зместу лексічных адзінак падаецца цалкам лагічнай з улікам меркавання знакамітага швейцарскага лінгвіста Шарля Балі, які сцвярджаў, што слова без актуалізатара існуе ў абстракцыі, а ў маўленчай плыні, у зносінах паміж людзьмі, яно нязменна суправаджаецца актуалізуючымі сродкамі [Балли 1961]. Выявіць іх склад і характар, вызначыць іх актуальную камунікатыўную спецыфіку ў абставінах складанай моўнай сітуацыі – мэта нашай работы.

Актуалізуючымі сродкамі (актуалізатарамі) мы называем моўныя формы, якія аб'ектывуюць змест, узмацняюць і падкрэсліваюць семантычны патэнцыял слоў і выразаў. Агульны прынцып іх функцыянавання заключаецца ў тым, што ў складзе выказвання прагматычная адзінка выкарыстоўваецца ў комплексе з пэўным словам або канструкцыяй. Іх задача – узмацніць, падкрэсліць або вылучыць змест названай прагмемы. Паводле назіранняў, у межах гэтага комплекса актуалізуючая канструкцыя можа быць звязана або са знешнім бокам прагмемы – яе гукавой абалонкай, або з унутраным бокам – зместавымі характарыстыкамі слова.

Сувязь актуалізатара са знешняй формай прагматычна маркіраванага слова, як правіла, засноўваецца на прыёме паўтору. У маўленчай практыцы гэты прыём найбольш пашыраны і ўніверсальны. Самы распаўсюджаны выпадак гэта падваенне аднолькавых ці сугучных

каранёвых марфем, якое фармалізуецца праз розныя адзінкі выказвання – найчасцей, назоўнікі і дзеясловы ў межах іх сінтаксічных функцый. Напрыклад, *Ляйда ты, што ты ляйдзіш!* (*ляйда* 'пляткар, балбатун'); *Махлак махлячыў* (*махлак* 'ашуканец'); *Марматун мармоча ў нос* (*марматун* 'мармытун') і г. д. Універсальнасць паўтору як сродку актуалізацыі прагматычнага зместу можа рэалізоўвацца як у дачыненні да самой прагмемы, так і ў межах актуалізатара: *Баба сакоча і сакоча, такая ўжо сакатуха!* (*сакатаць* 'балбатаць'); *Во клунда гэта – клундзіць і клундзіць* (*клунда* 'хто сварлівы і бурклівы') і г. д. Падваенне моўнага знака павышае эмацыйны патэнцыял канструкцыі "прагмема+актуалізатар" – па-першае, за кошт паўтору пэўных гукаспалучэнняў, што на ўзроўні моўнага пачуцця ўспрымаюцца як прагматычны маркер (*ляйда* – *ляйдзіш*, *махлак* – *махлячыў* і інш.), па-другое, за кошт указання на працягласць, шматразовасць дзеяння і, адпаведна, на яго суб'ектыўную надакучлівасць і, як вынік, непажаданасць. Разнавіднасцю прыёма паўтору, заснаванага на сувязі са знешняй формай прагмемы, з'яўляецца выкарыстанне актуалізатара анаматапеічнага паходжання, часам таксама падвоенага: *Дылда ідзе – дыл-дыл* (*дылда* 'касалапы, крываногі чалавек'). Варта адзначыць, што шматлікія сугучныя эмацыйна-ацэначныя адзінкі з гукаспалучэннем *ды-* (*дылда*, *дымба*, *дында* і пад.), паводле *СПЗБ*, маюць літоўскае паходжанне. Гэтае і іншыя падобныя гукаспалучэнні моўная свядомасць носьбіта беларускай мовы інтуітыўна ўспрымае як эмацыйна маркіраваныя, у выніку чаго яны з'яўляюцца запатрабаванымі ў эмацыйна афарбаваным дыскурсе. У сувязі з вышэйсказаным дарэчы будзе згадаць выпадкі моўнай гульні, заснаванай на сугучнасці запазычанага слова (каранёвай марфемы) і актуалізатараў беларускага паходжання: *Мална ты, дос табе малоць языком*; *Прышла гэто мална, малола, малола столькі часу адабрала*; *От мална, і меліш языком* (*мална* 'той, хто многа гаворыць'; malna літ. 'той, хто многа гаворыць'). Дадзены прыклад ілюструе выпадак узаемадзеяння запазычанага моўнага элемента з мясцовым. Дзейнічаючы ў рамках апісанай парадыгмы пошуку сугучнага элемента выказвання, моўца інтуітыўна шукае адпаведную мясцовую моўную форму для актуалізацыі прагматычнага зместу адзінкі з цьмянай этымалогіяй, але выразным ацэначным зместам. У выніку, узнікае актуалізуючая канструкцыя, якая за кошт гукавога паўтору падкрэслівае прагматычную нагрузку адпаведнай лексічнай адзінкі і ўсяго выказвання. Такі прынцып фарміравання прагматычнага выказвання з'яўляецца характэрным для дадзенага рэгіёна як памежнага і шматмоўнага. Адзначым, што актуалізацыя прагматычнага зместу з апорай на знешнюю форму слова характэрная пераважна для адзінак з эмацыйна-ацэначным значэннем.

Актуалізацыя прагматычнага зместу, заснаваная на сувязі з унутранай формай прагмемы, мае адносіны да зместавых характарыстык адзінкі. Пры гэтым сэнсавыя адносіны паміж актуалізатарам і адпавед-

ным прагматычным словам можа выражацца ў межах наступных значэнняў.

➢ ***Супрацьпастаўленне***. Яго прынцып заключаецца ў прамым супастаўленні аб'екта намінацыі (рэальнай з'явы або дзеяння) з вобразам гэтай самай з'явы (або дзеяння) у яе адпаведнасці пэўнаму стандарту. У дачыненні да дзеяння гэта можа выглядаць наступным чынам: *Ёрзаць, а не рабіць можаш* (*ёрзаць* 'рабіць абы-як'); *Кот скварку куцая, куцая, а не есь, а куцая, скуцоў скварку* (*куцаць* 'доўга перажоўваць што-н.'); *Парасяты не ядуць, а пурзоляцца* (*пурзоліцца* 'неахвотна есці') і г. д. У дачыненні да з'явы (у дадзеным выпадку – асобы): *Пубуўня ты, а не чалавек!* (*пубуўня* 'гультай'). Такі спосаб актуалізацыі прагматычнага зместу характэрны для эмацыйна-ацэначных слоў. У пераважнай большасці яны рэалізуюць значэнне дэфектнасці дзеяння або з'явы, якія так ці інакш не адпавядаюць пэўнай суб'ектыўнай або аб'ектыўнай норме. У моўным аспекце актуалізатар, як правіла, звязваецца з прагмемай пры дапамозе сінтаксічнай канструкцыі са злучнікам *а* і часціцай *не*.

➢ ***Тлумачэнне***. Яго прынцып заключаецца ў тым, што актуалізатар непасрэдна раскрывае змест прагмемы, называючы падставы кваліфікатыўнага меркавання моўцы: *Ах ты пустыня, брэшаш абы-што!* (*пустыня* 'ілгун'); *Смэрда ты – бакі грязныя!* (*смэрда* 'хто неахайны'); *Усё піхтэляць дзіцям: і ежнае, і адзежнае, і грошы* (*піхтэліць* 'аддаваць усё'); *От пумпара якая – усё ёй не так* (*пумпара* 'хто бурклівы') і інш. У большай ступені такі тып сувязі актуалізатара з прагмемай характэрны для эмацыйна-ацэначных назоўнікаў. У асобных выпадках такім спосабам у маўленні можа актуалізавацца экспрэсіўнае значэнне: *Во зліў, так зліў. Пераліў наскрозь* (*зліць* 'моцна прамачыць (пра дождж)') і інш. Апошні прыклад прадстаўляе асаблівую цікавасць: па-першае, ён ілюструе выпадак актуалізацыі названым спосабам дзеяслова-экспрэсіва, што з'яўляецца дастаткова рэдкай з'явай; па-другое, ён дэманструе выпадак падваення самой прагмемы, побач з выкарыстаннем актуалізатара; па-трэцяе, мы можам назіраць, як у ролі актуалізатара экспрэсіўнага дзеяслова можа выступаць асобны сказ.

➢ ***Выніковасць***. Прынцып сувязі актуалізатара з прагмемай у дадзеным выпадку заключаецца ў падкрэсліванні высокай выніковай значнасці дзеяння. Часам яна выражаецца непасрэдна: *Ён ей так зажверыў – нос разбіў* (*зажверыць* 'ударыць, стукнуць'); *І калі збабаню калом па пасцелі, аш рэха ідзець, а чорт і ня ўцякаіць, толька блішчыць* (*збабаніць* 'ударыць, стукнуць'); *Перавёў дзягай, аш след астаўся* (*перавесці* 'моцна ўдарыць чым-н.') і інш. Часам – апасродкавана, праз эмоцыю, якая можа перадавацца пры дапамозе вобразнага ўстойлівага звароту ці слова з адпаведным значэннем: *Столькі людзей нашышкаецца ў аўтобус – не прадыхнеш* (*нашышкацца* 'набіцца'); *Грат садануў, хоць грабі лапатай* (*садануць* 'раптоўна выпасці ў вялікай колькасці') і інш.

➢ ***Вылучэнне***. Яго прынцып заключаецца ў фарміраванні моўнымі сродкамі вылучальных адносін да аб'екта намінацыі. Такое вылучэнне, як правіла, носіць негатыўнае адценне, што фарміруецца за кошт рэалізацыі значэння грэбавання, знявагі і г. д., што дасягаецца фарміраваннем вобраза зборнасці і, як вынік, адчужанасці (займеннікі кшталту *нейкі*, *гэткі* і г. д.): *Прышоў да іх некі кадаўбянік* (*кадаўбянік* 'няўдалы чалавек, які мае загану'); *Наварыла ты нейкай кісляціны* (*кісляціна* 'надта кіслая страва'); *Выбралі гэткую дзяндзеру!* (*дзяндзера* 'няўклюда, недарэка, расцяпа') і інш. Да вылучальных адносін, з пэўным дапушчэннем, можна аднесці і пашыраныя выпадкі актуалізацыі прагматычнага зместу за кошт лексічных формул, у аснове якіх ляжыць інверсія: *Манюка ён*. *От жа ж і манюка ты!*; *Навалач ты, прэч адсюль!*; *Напузырылася я, цяпер магу ня есці да раніцы*, а таксама *От крывежына нішчасная, некуды папёрся!* (*крывежына* 'хто крывы') і інш.

У якасці найбольш пашыранага сродку актуалізацыі прагматыкі лексічных адзінак у гутарковым маўленні можна вылучыць прыём паўтору ў разнастайных яго варыяцыях. Ён можа выступаць як у якасці самастойнага сродку падкрэслівання і ўзмацнення адпаведнага зместу, так і ў якасці дапаможнага сродку ў межах актуалізуючай канструкцыі. Найбольш арыгінальнымі варыянтамі гутарковай рэалізацыі гэтага прыёму, на наш погляд, падаюцца выпадкі спалучэння беларускіх і запазычаных моўных элементаў на падставе іх сугучнасці: *Прышла гэто мална, малола, малола столькі часу адабрала*; *От мална, і меліш языком* (*мална* 'той, хто многа гаворыць'; malna літ. 'той, хто многа гаворыць'). А таксама нешматлікія выпадкі дывергентнай рэдуплікацыі, калі моўца з мэтай актуалізацыі прагматыкі выказвання нібыта рыфмуе асобныя словы, змяняючы знешняе аблічча слова ці слоў з захаваннем яго/іх значэння: *Усё піхтэляць дзіцям: і ежнае, і адзежнае, і грошы* (*піхтэліць* 'аддаваць усё').

Варта адзначыць, што "паводзіны" прагматычнага слова на ўзроўні спалучальнасных магчымасцей з'яўляюцца бадай адзіным аб'ектыўным сродкам праверкі таго, наколькі лексема валодае прагматычным зместам. Асабліва гэта актуальна для рэгіянальных камунікатыўных сістэм, у межах якіх незвычайная, парадаксальная знешняя форма слова не заўсёды з'яўляецца паказчыкам наяўнасці прагматычнага зместу, як гэта адбываецца ў літаратурнай мове.

> Экзатычная, а таму экспрэсіўная на слых носьбіта літаратурнай мовы дыялектная лексіка асэнсоўваецца як незвычайная менавіта на фоне літаратурнай мовы, г. зн. па-за той рэальнай сістэмай лексічных сувязей, адносін, у якіх жыве рэальнае дыялектнае слова [Куликова 1985: 13].

У рэгіянальных лексікаграфічных выданнях слоўнікавая дэфініцыя, а таксама прынятая сістэма сэнсава-стылістычных памет не заўсёды адэкватна адлюстроўваюць наяўнасць і характар прагматычнага зместу ў семантыцы слова. Так, напрыклад, дзеяслоў *мадзгануць*, па-

водле *СПЗБ*, згодна з адпаведнай паметай, валодае экспрэсіўным значэннем (*мадзгануць* экспр. 'моцна ўдарыць'). Аднак прыведзены ілюстрацыйны прыклад – *Паставіла нагу, ён не хацеў, але мадзгануў шчоткай добра* – кажа аб адваротным. Відавочна, што дзеяслоў *мадзгануць*, зыходзячы з прыведзенай слоўнікавай ілюстрацыі, рэалізуе значэнне звычайнага ўдару, без семантычных прыкмет інтэнсіўнасці, энергетычнай насычанасці і да т. п. Іншымі словамі, ён абазначае звычайны ўдар, а не моцны, як гэта заяўлена ў дэфініцыі. На гэта ўказвае прыслоўе *добра* (у значэнні 'моцна'), ужытае з мэтай узмацнення намінальнага сэнсу адзінкі, які, паводле суб'ектыўнага адчування носьбіта гаворкі, не рэалізуе зместу, адпаведнага яго камунікатыўным мэтам.

Такім чынам, рэгіянальныя гаворкі з'яўляюцца прыдатнай сферай для фарміравання сістэмы спосабаў моўнай рэалізацыі экспрэсіўнага і эмацыйна-ацэначнага зместу як на ўзроўні ўласна лексемы, так і на ўзроўні ўсяго выказвання. Назіранні дазваляюць вылучыць кола сродкаў актуалізацыі прагматычнага значэння, якія падкрэсліваюць яго і ствараюць такім чынам адпаведны кантэкст выказвання. Асобныя з гэтых спосабаў з'яўляюцца арыгінальнымі і характэрныя толькі для дадзенай камунікатыўнай сістэмы. Іх матывацыя і асаблівасці ўжывання абумоўлены ў тым ліку і міжмоўнымі кантактамі носьбітаў гаворак, што, паводле назіранняў, істотна пашырае арсенал моўных форм, якія выконваюць названую функцыю ў штодзённай камунікацыі. Найбольш запатрабаванымі варыянтамі актуалізацыі прагматычнай інтэнцыі моўцы, паводле прааналізаванага матэрыялу, з'яўляюцца прыёмы каранёвага паўтору, а таксама выпадкі моўнай гульні, заснаваныя на знешнім падабенстве разнамоўных лексічных элементаў. Пашыраны таксама спосаб актуалізацыі прагматыкі выказвання за кошт спецыяльных сінтаксічных канструкцый, якія ў тым ці іншым выглядзе аб'ектывуюць сэнс канкрэтнай прагматычнай лексемы.

## Бібліяграфія

Balli Šarl'. 1961. *Francuzskaâ stilistika*. Per. s franc. Moskva: Izd-vo inostr. lit. [Балли Шарль. 1961. *Французская стилистика*. Пер. с франц. Москва: Изд-во иностр. лит.].

Kolšanskij Gennadij. 1980. *Kontekstnaâ semantika*. Moskva: Nauka [Колшанский Геннадий. 1980. *Контекстная семантика*. Москва: Наука].

Kulikova Irina. 1985. *Èkspressivnoe i èmocional'noe v dialektnom slove (na materiale Slovarâ brânskih govorov)*. V: *Brânskie govory: Dialektnoe slovo i aspekty ego izučeniâ: Sbornik statej*: 12–21 [Куликова Ирина. 1985. *Экспрессивное и эмоциональное в диалектном слове (на материале Словаря брянских говоров)*. В: *Брянские говоры: Диалектное слово и аспекты его изучения: Сборник статей*: 12 – 21].

Luk'ânova Nina. 1986. *Èkspressivnaâ leksika razgovornogo upotrebleniâ (problemy semantiki)*. Novosibirsk: Nauka [Лукьянова Нина. 1986. *Экспрессивная лексика разговорного употребления (проблемы семантики)*. Новосибирск: Наука].

*Sloŭnìk belaruskìh gavorak paŭnočna-zahodnâj Belarusì ì âe pagranìčča u pâcì tamah*. 1979–1986. Red. Û.F. Mackevìč. Mìnsk: Navuka ì tèhnìka [*Слоўнік беларускіх*

*гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча ў пяці тамах*. 1979–1986. Рэд. Ю.Ф. Мацкевіч. Мінск: Навука і тэхніка].

**ABSTRACT**: Until recently, in the study of the pragmatic means of language, linguists' research interest has been focused mainly on units of the lexical level. Meanwhile, in the real flow of speech (in communication between people in everyday and professional situations) the word is invariably accompanied by means that actualize its content, emphasize and strengthen it, highlighting it against other contents. Thus, there are important elements beyond the actual lexical level of language. Exploring ways to actualize pragmatic content in conversational communication is a new and promising area of linguistic research. The analysis of the formal side of the actualization of the corresponding intention of the speaker seems especially interesting and fruitful in a multilingual situation, so the dialects of North-Western Belarus and its border are extremely interesting from a research point of view.

**KEYWORDS:** linguistic pragmatics, expressive meaning, emotional and evaluative meaning, colloquial speech, dialectal speech.

**STRESZCZENIE:** Do niedawna w badaniach nad pragmatycznymi środkami języka zainteresowanie lingwistów koncentrowało się głównie na jednostkach poziomu leksykalnego. Tymczasem w realnej konwersacji (w komunikacji między ludźmi w sytuacjach codziennych i zawodowych) słowu niezmiennie towarzyszą środki, które aktualizują jego treść, podkreślają i wzmacniają, wyróżniając na tle innych treści oraz powodując wykraczanie poza rzeczywisty poziom leksykalny języka. Badanie sposobów aktualizacji treści pragmatycznych w komunikacji konwersacyjnej jest nowym i obiecującym obszarem badań językowych. Analiza formalnej strony aktualizacji odpowiedniej intencji mówcy wydaje się szczególnie interesująca i owocna w sytuacji wielojęzycznej, więc gwary północno-zachodniej Białorusi i jej pogranicza są niezwykle interesujące z naukowego punktu widzenia.

**SŁOWA KLUCZOWE:** pragmatyka językowa, znaczenie ekspresyjne, znaczenie emocjonalne i oceniające, mowa potoczna, mowa dialektalna.

**РЭЗЮМЭ:** Да апошняга часу пры вывучэнні прагматычных сродкаў мовы даследчыцкая цікавасць лінгвістаў была скіраваная пераважна на адзінкі лексічнага ўзроўню. Між тым, у рэальнай маўленчай плыні (у зносінах паміж людзьмі ў побытавых і прафесійных сітуацыях) слова нязменна суправаджаецца сродкамі, што актуалізуюць яго змест, падкрэсліваюць і ўзмацняюць яго, вылучаючы на фоне іншых зместаў. Такім чынам, адбываецца выхад за межы ўласна лексічнага ўроўню мовы. Вывучэнне спосабаў актуалізацыі прагматычнага зместу ва ўмовах гутарковай камунікацыі з'яўляецца новым і перспектыўным напрамкам лінгвістычных даследаванняў. Аналіз фармальнага боку актуалізацыі адпаведнай інтэнцыі моўцы падаецца асабліва цікавым і плённым ва ўмовах шматмоўнай сітуацыі, таму гаворкі паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча з'яўляюцца надзвычай цікавымі з даследчыцкага пункту погляду.

**КЛЮЧАВЫЯ СЛОВЫ:** моўная прагматыка, экспрэсіўнае значэнне, эмацыйна-ацэначнае значэнне, гутарковае маўленне, дыялектнае маўленне.

**ACTA ALBARUTHENICA 20: 2020**
DOI: 10.32612/uw.18988091.2020.20.pp.229–238

**Алена Пісарэнка / Alena Pisarenka**
Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў /
Belarusian State University of Culture and Arts
ORCID: https: //orcid. org/0000-0002-5550-5060
e-mail: irma13@tut.by

# *Размова… …сусветаў*: Інтэрпрэтацыя стылеўтваральных вобразных сродкаў і арыгінальных вобразаў паэтычнага маўлення Яна Чыквіна

*CONVERSATION OF THE… UNIVERSES: Interpretation of the fundamental stylistic methods and the author's imagery in Yan Chikvin's poetic speech*

*ROZMOWA… …WSZECHŚWIATÓW: Interpretacja obrazowych środków kształtujących styl oraz oryginalnych obrazów języka poetyckiego Jana Czykwina*

Паэзія Яна Чыквіна характарызуецца незвычайнасцю маўлення на ўсіх узроўнях мовы, што дазваляе нам гаварыць пра ідыястыль паэта, прадуктыўныя маўленчыя з'явы. Сусвет аўтара, яго лёс, творчасць не існуюць без сусвету чытача-аматара, чытача-прафесіянала – літаратуразнаўцы, лінгвіста. Сусветы аўтара і чытача заўсёды ўзаемадзейнічаюць, узаемапранікаюць, і гэта адбываецца праз тэкст, праз гэтак званы "бярмудскі трохвугольнік філалогіі – гэта ланцужок Аўтар – Тэкст – Чытач" [Кайда 2005: 3]. Сусвет аўтара раскрываецца праз арыгінальнасць словаўжывання, словагучання, спецыфіку сказабудавання і тэкстаўтварэння, праз адметнасць літаратурных вобразаў.

Стылеўтваральным вобразным сродкам паэтычнага маўлення Я. Чыквіна з'яўляецца метафара – троп, які, як сцвярджае даследчык полісеміі Васіль Старычонак, звязаны "з пазнавальнай дзейнасцю чалавека, абагульненнем вопыту яго жыцця, з працэсамі вобразнага мыслення, з імкненнем адначасовай і ўсебаковай характарыстыкі прадмета і вызначэння яго адметных рыс. Працэс канструявання метафары – своеасаблівы ключ да разумення таго, як ствараецца бачанне свету, яго ўніверсальны вобраз, як ажыццяўляецца пазнанне і разуменне свету прыроды і ідэальнага свету [Старычонак 2017: 57–58]. Назоўнікавая разнавіднасць тропа, уласцівая мове прааналізаваных вершаў, уяўляе спалучэнне двух назоўнікаў, адзін з якіх ужыты ў назоўным, а другі –

у родным склоне, прычым адзін кампанент мае прамое значэнне, а другі – пераноснае: *пылінка часу, клавіятура шпалаў, далікатнасць дыхання, крышталі дажджу, срэбныя струны ветру, ценяў вострыя нажы, душа свячы, лоб каменя* і інш. Нават у вузкім кантэксце-словазлучэнні відаць арыгінальнасць метафарычнага перастварэння рэчаіснасці, у той час як больш шырокі кантэкст дазваляе ўявіць глыбіню пачуццяў аўтара / лірычнага героя ці ўбачыць тую панараму вобразаў, якія ўзаемадзейнічаюць паміж сабой, нібы нанізваюцца на паэтычную нітку асацыяцый паэта, ствараючы адметныя малюнкі, завершаныя мініяцюры: *Без злачынства / Так калісьці пераліваліся гадзіны / У* ***вядро юнацтва*** *з* ***возера дзяцінства****; І ўсё. Стаіць вякамі памяць гэта. / На* ***сценах памяці*** */ Вісяць твае партрэты; Ты вочы вяжаш мне* ***тугой самоты****; У хаце* ***завалы*** *зрудзелай* ***бяды****. / Душа зыходзіць кругамі шматліха. / Туды, дзе* ***жменямі*** *чыстай* ***вады*** */ Зіму разбурае адліга; ...****слядоў шматкроп'е*** *на прыпынках...; А там ужо толькі* ***асколкі*** */ Разбітай* ***вясны****.* ***Руіны*** */ Адцвіўшага* ***бэзу*** *стаяць толькі / І* ***свечкі каштанаў*** *наіўных; Перахрысціла маці рот / І пачала ні то малітву паўтараць, / Ні то развязваць* ***вузельчыкі*** *свайго* ***жыцця*** */ Пры дапамозе ціхамірных нараканняў.* Вядома, чым меншая ступень спаянасці кампанентаў у такіх назоўнікавых метафарах ці іншых тропах, тым больш незвычайныя вобразы, тым больш арыгінальнае словаўжыванне, а значыць, ідыястыль аўтара. Прадуктыўнасць аказіянальнай разнавіднасці вобразных сродкаў у мастацкім радку – прамое сведчанне таленту пісьменніка. Прыведзены фактычны маўленчы матэрыял пацвярджае філасофска-вобразную выснову беларускага паэта Алеся Разанава пра дадзены моўны сродак:

> У сваіх крайніх – самавольных – праявах метафара выкарыстоўвае прыём чорнай магіі: сілком "сшывае" адно з адным тое, што само не жадае "сшывацца", "шлюбуе" адно з адным тое, што само не жадае "шлюбавацца"; метафара занадта наўмысная, каб быць ісцінай, занадта ўмелая, каб быць шчырай [Разанаў 2009: 6].

Аднак метафара Я. Чыквіна шчырая ў адлюстраванні эмацыянальнага стану, у апісанні яго творчых, адметных асацыяцый і яго светасузіранняў.

Дзеяслоўная метафара, структура якой уяўляе спалучэнне назоўніка з прамым і дзеяслова з праносным значэннем, не менш прадуктыўная за ахарактарызаваную вышэй разнавіднасць. Прызначэнне гэтых тропаў аднолькавае: стварэнне мастацкіх вобразаў, аднак мініфункцыя адрозніваецца. Дзеяслоў, метафарызуючыся, дапамагае паказаць зменлівасць стану, разнастайнасць працэсаў, стварыць малюнкі рухомыя, "жывыя", таму дзеяслоўная метафара часам становіцца асновай для стварэння празапапеі (увасаблення): *І* ***смерць хаваецца*** *за небакраем;* ***смерць адзелася*** *ў вохкую ціш / і побач* ***сядзіць*** *ды* ***глядзіць****, /* ***паці-***

***раючы рукі*** *– ёй непатрэбныя, нам невідочныя; Па вуліцах* ***танцуе*** *басаножк / **Яна*** [зіма] *пад зыкі ветранае скрыпкі;* ***Сняжынкі*** *ў гурбы* ***падаюць з разбегу****, / І* ***не падняцца*** *ім ніколі ўгору*.

Адметнасцю паэтычнай манеры Я. Чыквіна з'яўляецца менавіта ўзаемадзеянне вобразных сродкаў, калі адзін з тропаў з'яўляецца кампанентам другога. Думаецца, у выніку гэтага ўзнікаюць такія сэнсавыя наслаенні ў адным-двух паэтычных радках, якія патрабуюць паступовага / шматступеньчатага прачытання, асэнсавання. Напрыклад, частым кампанентам метафары ў паэтычным радку Я. Чыквіна з'яўляецца эпітэт: ***Дзень стары*** (эпітэт) ***кладзе*** (метафара) *перада мною /* ***Ценяў вострыя*** (эпітэт) ***нажы*** (метафара)*; У* ***крышталях дажджу*** (метафара) */* ***срэбныя*** (эпітэт) ***струны ветру*** (метафара) *і далёкі* ***грукат нябёс*** (метафара) – */ хутка* ***народзіцца бура*** (метафара)*: і юная прыгажуня / сваімі вачыма ўбачыць / сваю ж* ***разбуральную*** (эпітэт) ***радасць****.*

Творы, у якіх праз спалучэнне аказіянальных тропаў, ствараюцца вобразы, найбольш ярка дэманструюць маўленчыя, у тым ліку выяўленчыя рысы аўтарскай манеры, неардынарнасць светаўспрымання. Кампанентам метафары можа быць, напрыклад, перыфраза: ***Дзень – залачоная птушка*** *– /* ***Выспеліў*** *яблык чырвоны / Для дзяўчат найпрыгожых. /* ***Вечар – зялёнае дрэва*** *– /* ***Вырасціў грушу надзеі*** */ Для маладосці п'янай. /* ***Ноч – чарадзейнае яйка*** *– /* ***Ляжыць*** *на гасцінцы-дарозе /* ***Чакае бабу*** *і* ***дзеда****.* У трох строфах, кожная з якіх па тры радкі, паэт адлюстраваў дзякуючы метафарызацыі, жыццё чалавека. Вобразна і па-мастацку дакладна арыгінальныя перыфразы характарызуюць ***дзень*** (*залачоная птушка*), ***вечар*** (*зялёнае дрэва*) і ***ноч*** (*чарадзейнае яйка*). І калі дзень выспельвае яблык спакусы (метафара дзеяслоўная іназоўнікавая), то вечар вырошчвае грушу надзеі (метафара дзеяслоўная і назоўнікавая) для маладосці п'янай (эпітэт); у сваю чаргу, ноч не выспельвае, не вырошчвае (рух жыцця маладога спыняецца, запавольваецца), а *ляжыць* і *чакае* бабу і дзеда. Аўтар нібы хоча сказаць, што старасць для ўспамінаў, самасузірання, для спакою. Усё мінае – такая логіка жыцця, і ўспрымаць гэта трэба лёгка, не трымаючы ні за крысо, ні за крыло ні дзень, ні вечар. Не ўтрымаеш, толькі можаш працягнуць, прадоўжыць, але тут кожны будуе свой шлях, ладзіць уласны тэмп, рух… а кругазварот не спыняецца: *трэцца і б'ецца / быт аб нябыт* (дадзеная аўтарская метафара аздобленая гукапісам – у паўторы звонкага [б] праяўляецца рашучая рухомасць, якую нельга аспрэчыць, адмяніць. Трэба зазначыць, што аўтар змяняе, удакладняе традыцыйнае ўяўленне пра сімвал раніцы як пачатку жыцця, юнацтва, дзень – сталасць, вечар – старасць, ноч – забыццё, смерць. На яго думку, і ноч для жыцця, што можа быць мудрэйшым за выснову: жыццё вечнае. Экстралінгвістычныя каментарыі да паэтычных радкоў Я. Чыквіна сведчаць пра глыбокі падтэкст, філасофскую накіраванасць твораў.

Як прадуктыўны кампанент, які ўзаемадзейнічае з іншымі тропамі, метафара стварае “вобраз у вобразе”, такое незвычайнае выкарыстанне слова з пераносным значэннем таксама робіць ідыястыль непаўторным.

Метафара як сродак апісання навакольнага асяроддзя па сэнсава-функцыянальных характарыстыках можа быць падзелена на дзве групы: першая, якая заключае ў сабе станоўчую эмацыянальна-экспрэсіўную ацэнку; яна стварае вясковы пейзаж, у тым ліку забяспечвае апісанне прыроды: *Мокрая сцежка ў гарод. / Па ёй* ***віхляецца восень****...;* ***Смарагды раслін выносяць вохравасць лета****;* ***Бліскавіца неба раз’ярыла / Званочкамі жаўрук*** *ўсё* ***намагаецца звінець*** */ Свой* ***гімн жыццю*** *і роднаму* ***аселлю****;* ***Хрушч*** *у траве* ***агонь*** *зялёны* ***крэша****;* ***Расце, расце цяпло раслін*** *і прагна* ***сокі п’е ўсё жывое*** *– /* ***Старэча дуб*** *і* ***хлапчанё жасмін****, / І мокрыя* ***лілей галоўкі*** *над вадою;* ***Ветру*** *зялёнага* ***рэчка****, / Дзень – поўны збан медуніцы;* ***Каштаны адзелі хітоны****, /* ***Стаяць*** *ганароваю* ***вартай****; Мне сніцца* ***карал арабіны*** */ І як з вады* ***выплываюць лілеі****; Гэта* ***плошча ільну*** */* ***З душой сіняй агню****; А з боку – /* ***Крыніцы вядзёрка вады.*** Другі від тропа найчасцей характарызуе гарадскі пейзаж, і, як правіла, дэманструе негатыўную плынь асацыяцыяй, з чаго можна зрабіць выснову, што менавіта ў горадзе лірычны герой адчувае сябе няўтульна: ***Вечар*** *вандроўны* ***на дрэвах павіс****, /* ***Морак сабачыцца*** *ў* ***чэраве вуліц****; Нізка, нізка – на асфальце /* ***Дасквараваліся дажджынак заморышы****; Але па* ***жылах вуліц пайшла каламута****;* ***Траншэі вуліц*** *з* ***танкамі трамваяў****; Вужэе сцежка, дзічэе сад. / І* ***лапушыцца*** *ў гародзе* ***адчай****...; У* ***казырку захаду*** */* ***Бухаў пейзаж агню****, / Як мільённае пажаданне – / Не ведаючы ні сваіх крыніц, / Ні* ***парогаў*** *свайго катастрафічнага* ***расчаравання****.*

Паэт выкарыстоўвае метафарызацыю з мэтай выяўлення пачуццяў, характарыстыкі стану душы, яго зменлівасці: *З вачэй* ***злятае*** *белы* ***голуб плачу****;* ***Голас гарыць****;* ***Б’ецца сэрца самоты****; Драўляны* ***смутак*** *ізумруднай* ***плямай*** */* ***Вылазіў*** *з закуткаў і* ***цвіў*** *буяна / І* ***варушыў жытло*** *пячэры; Недапітая* ***шклянка паветра*** *стаяла; Няма чым дыхаць. Лістапад. /* ***Вязнуць словы*** *ў горле; Ды побач навакольных сцен /* ***Нянавісць*** *стромкая* ***расце*** */ І гонкія* ***слупы бязвер’я*** */ У самым цэнтры перыферый; Ты* ***ствараеш свет*** *і* ***ночы*** */* ***Нараджэння, пахавання****; Праз* ***губ*** *вільготных* ***мост*** */ Мы* ***вярнуліся ў маладосць****. / А праз* ***вачэй*** *высокую* ***дугу*** */ Недаснёныя* ***радасці бягуць****. /* ***Вабнасць*** *нашых* ***крылаўрук*** */ Нас* ***выносіць угару****, / Там, дзе душам – светлыня, / І дзе целы прамяняць;* ***Датла згарым мы ад самоты ў самоце****; З высокіх* ***дахаў неба свеціць сонца*** *закаханых; Я той, хто* ***сэрцам памяці помніў*** */* ***Голас твой****.*

Паэтычная метафара Я. Чыквіна, акрамя структурна-граматычных і функцыянальных, мае пэўныя сэнсава-кампанентныя адметнасці; для таго, каб узмацніць характарыстыку, падкрэсліць інтэнсіўнасць якасці, дзеяння, моц пачуцця, аўтар спалучае ў структуры дадзенага тропа

аднакаранёвыя словы ці словы з сінанімічным значэннем: *Чытаю сцежак кволенькі сюжэт, / дзе паабапал сум пасеяны і мітусня / і дзе, **рассеўшыся**, **сядзяць** усе відовішчы жыцця*; *дзе неба нам дазволіць **полымем** маім / яе **агонь** абняць*; *Як хочацца душэўнага цяпла і **шчасце шчасцем** затрымаць*; *І **ночы штоночы жыццё** вышывалі / **жывою** мярэжкай без майго намагання*; *Пасеяная мною з **болю** кветка **болю***; *Плыву праз **ночы ноч**, аслеплены самотай лета*; *Покуль у невады вечнае дзённае **сонца** / Не злоўлена **сонцам** счарнелым*; ***Жыццём к жыццю*** *пакліканы*; *Сваім **жыццём** маё **жыццё** / Не адкладай на потым*; *Яно* [жыццё] *сталася тут, на гэтай планеце, знічам / у парыве **таемным** чагосьці да нечага **таямнічага***. Часам у структуры аднаго верша з аналагічнай мэтай паэт выкарыстоўвае рэдкі стылістычны прыём – кіклас [Москвин 2006: 430], сутнасць якога ў паўторным выкарыстанні сказаў /радкоў/строф у відазмененым выглядзе, параўнаем: *Не камень я, не векавечны – / Таму **згартаю святло** да **святла**, / Таму **збіраю цяпло** да **цяпла*** – пачатак верша і *Наводдаль спеўна змяркаецца вечнасць. / А я – **аскепкі цяпла** да **цяпла**, / А я – **агніцы святла** да **святла*** – завяршэнне.

Аўтар нібы разважае над зместам першай страфы – сэнсам жыцця і прыходзіць да высновы, якая адлюстравана ў зменены структуры і ў "падкарэктаваных" жыццём кампанентах экспрэсіўнай фігуры. Думаецца, што паўтор такога тыпу

> дэманструе развіццё сюжэта па спіралі, а таксама само дзеянне, рух жыцця. Мы вяртаемся да ўжо пражытага ў думках ці ў рэальнасці, аднак глядзім на гэта па-новаму, адчуваем інакш. Пражытае аднойчы не паўторыцца таксама [Пісарэнка 2017: 80-81],

не вернецца ў тым самым выглядзе: нават калі мы не мяняемся, мяняецца свет і абставіны.

Паэтычная прастора Я. Чыквіна напоўнена самымі разнастайнымі вобразамі, пры характарыстыцы якіх асаблівае месца належыць эпітэтам. Дадзены троп мае розныя структурна-граматычныя характарыстыкі і, як правіла, асаблівы аўтарскі змест: ён можа быць выражаны якаснымі ці адноснымі прыметнікамі, простымі і складанымі (злітны – двайны/ трайны від тропа), дзеепрыметнікамі, прыметнікавымі/ дзеепрыметнікавымі словазлучэннямі ці назоўнікамі (эпітэт-прыдатак): *Маё **раскрытае неба** / Плыве над табой у нябыт / **Набраклаю кнігай тугі***; *Нібы **навечна куплены білет** – твой пацалунак на пероне*; *...за **развітальнае** маё **слаўцо**, якое капнула ў **разараную** намі / **глебу суму**-вечара*; *І з яе **спакойна-светлага аблічча** / Капнула слязіна*; *...неба сыпле **сіні дождж надзей***; ***Меднавалосая Ніке*** *ішла прада мной*; *...ёсць іншы свет / недзе там, за сёмай ракой: / **Рухліва-прынадны** і **першасна-боска-напеўны**, / Дзе ў **жывых кругах нагрэтага святла** / **Расхінутыя свету па-дзіцячы душы***; ***Рыжы**, **пахучы мёдам агародчык**, / **Геаметрычны спакой**, **летні одум**. / Але **пыл***

***смутку***, ***трывожна-пякучы***, / *За сэрца сціскае* / ***Зялёным вянком прахалоды***; ***Дождж*** *ідзе на маю галаву* ***пахмурна-навесны***, / ***Дождж-напамін*** *пра хуткаплыннасць* ***светлаблакітнай песні***. / *Дождж ідзе. На маю галаву*. ***Дождж серабрыставалосы***; *Толькі мне ўжо не бачыць* ***вясны салаўіна-шчаслівай***; ***Смерць непазбежная*** *будзе калісьці* ***пазбежнай; Рукой дрыжачай*** *я кладу*, *Айчына*, / *На твар твой* ***свята-светлыя крыжы***. Эпітэт заключае ў сабе дэталь-характарыстыку, без якой вобраз не будзе мецъ завершанасць і тую мастацкую іншасказальнасць, якая вылучае прадмет з шэрагу падобных ці аднародных і трансфармуе яго ў эстэтычна вартасны аб'ект мастацкага маўлення: лёгка ўяўляецца чытачу перапоўненая тугою кніга жыцця – ***набраклая***; і дождж гадоў, які сыплецца на галаву паэта, безумоўна, ***серабравалосы*** (кантэкстуальны сінонім да лексемы сівы), і ***геаметрычны*** спакой з яго выверанымі дакладнымі, акрэсленымі межамі; і вялікая любоў аўтара да Айчыны, якая праяўляецца праз ***дрыжачую*** руку, якая ***свята-светлымі*** крыжамі жагнае Яе.

Асаблівасцю паэтычнай манеры аўтара з'яўляюцца маўленчыя эксперыменты фанетычнага ўзроўню мовы, у выніку якіх праз сугуччы розных ці блізкіх па значэнні слоў, праз складападзел [4], даўжыню радка [5], перастаноўку складоў і інш. ствараюцца алітэрацыя, асананс, каламбуры, метатэза (анаграмы) [Романова 2006: 200], анаматапеі і інш. слоўныя вынаходніцтвы-штукарствы, аўтарскія прыёмы экспрэсіўнасці: ***Вокамысль*** / ***вочыць*** / ***вокамнгенна*** / ***вечную вечнасць***; *У царстве* ***Вострых Кос*** / ***каса*** / ***сказала*** / ***казе*** / ***касінае*** / ***вострае*** / *слова* / *Прарока*; *І хтосьці даў мне разуменне сябе і свету*, / *і патрэбу будавання сэнсу для* ***вя****лога і* ***ма****лікага*; ***Ляц****яць ж****ураўлі ў*** *цёплыя* ***краі*** / *Праз* ***Крым***: / ***Крум-крам***, / ***Крум-крым***, / *Праз* ***Крым*** / ***Клю****чамі ад****лят****аю****ць*. / *То* ***ў*** *Па****к****істан, то над* ***Ніл*** / *Праз* ***Крым***: / ***Крум-крам***, / ***Кугіл***, ***ку-гіл***. / ***Клі****нам пра****лят****аюць*. Відавочна, што ўсе прыёмы маюць аказіянальную маўленчую адметнасць: напрыклад, у выніку перастаноўкі складоў атрымаліся анаграмы-неалагізмы з празрыстым сэнсам: вялікае і малое, духоўнае і матэрыяльнае, добрае і дрэннае часам падмяняюцца і зблытваюцца. Як жураўлі развітваюцца з радзімаю, пераклікаюцца, так і гукі ў словах нібы вядуць пераклічку. Гукавобраз жураўлёў сумны; тужлівасць, працягласць палёту птушак увасобілася ў паўторы кораня *ляц'*- (ляцяць), -*лят*- (адлятаюць, пралятаюць), выдзеленых гуках, некаторыя з якіх рэхам адгукаюцца ключавому слову-назве ***жураўлі*** – [***у***, ***ў***, ***а***, ***р***, ***л***, ***і***]. Ужыванне аднакаранёвых слоў з мэтай паказаць працягласць, інтэнсіўнасць дзеяння ўласціва ідыястылю Я. Чыквіна (напрыклад, неалагізм ***вяз****уць-ад****воз****яць-****воз****яць у непамяць*). Пачуццёвая гама аўтара адлюстроўваецца, узмацняецца праз гукавую гаму твораў – гэта адна з адметнасцяў яго паэтычнага маўлення.

Узаемадзеянне графічных, фанетычных, лексічных сродкаў выразнасці, гарманічнае спалучэнне формы і зместу таксама дапамагае аўтару стварыць іншыя арыгінальныя вобразы. Такі адметны мастацкі

вобраз створаны паэтам у вершы *Размова сусветаў*; адзін з аспектаў гэтага вобраза ўжо быў прааналізаваны Людмілаю Зарэмбай [Зарембо 2017: 109–117]. У названым вершы паэт звяртаецца да сродкаў графічнай выразнасці: з дапамогай такіх сродкаў

> можна надаць другі (фонавы, ілюстратыўна-сімвалічны) план як тэксту, так і асобнаму слову, асобнаму радку. Адным з такіх сродкаў з'яўляецца фігурны тэкст, форма якога ўтварае ўзор, ці адпаведны зместу дадзенага тэксту малюнак [Москвин 2006: 529].

Для таго, каб “убачыць” вобраз, сэнс якога ў назве *Размова сусветаў*, дастаткова паглядзець на форму твора: у адным слупку размешчаны галосныя, у другім – зычныя; яны, зблытаныя і падзеленыя прабеламі, радкамі, строфамі і знакамі прыпынку – коскамі, кропкамі, пазбаўленыя канкрэтных сэнсаў. Вобраз графічны, можна сказаць, літарны, толькі тады будзе мець сэнсавае напаўненне, будзе ўяўлены поўнасцю і ўспрыняты чытачом, калі паміж Сусветамі адбудзецца дыялог, калі галосныя і зычныя гукі накладуцца адзін на другі і ўтворацца словы, а ўжо праз словы паэт ідзе да канчатковага стварэння вобраза, як мастак праз фарбы:

| **Размова…** | **…сусветаў** |
|---|---|
| Ы ыы я. А еы яя. | Мжвз плнт змл, |
| Ы оеа і эы у аоы. | Мснчн сстм дх здрв |
| У аао, еаа і аа, | Нсгн, пвтр, вд |
| І іуа. А ыо ыо. | Мрнс в хт хтв. |
| Ае, оі аі яы уаа. | Шчсц шт мж нм лжц пстт, |
| У аоі ойы оэы -- ойы оэы. | Встлк внпт, внпт. |
| Ы ааы, а эа аа | В врвр вс трбпргн |
| У аае ыя а уі уеаў. | Ндлш звлк ссвт. |

Такім чынам, каб даведацца, аб чым гавораць Сусветы ў вершы, трэба, як адзначалася, правесці лінгвістычны эксперымент: скласці словы з галосных і зычных. У выніку атрымаецца верш: *Мы* ***жывыя*** *з планеты зямля. / Мы* ***сонечна дух здаровы****. / У нас* ***агонь, паветра і вада****, / І* ***мір*** *у нас. А вы хто, хто вы. / Шчасце, што між намі* ***ляжыць пустата****. / У вас толькі* ***войны паэты – войны паэты****. / Вы* ***варвары****, вас трэба прагнаць / У найдалейшыя* ***завулкі сусветаў****.* Гэты лінгвістычны эксперымент аказаўся няпростым, спатрэбіўся час, каб азбука, графічныя малюнкі галосных і зычных, загаварыла гукасэнсамі, лексемамі. Аднак азбука жыцця яшчэ больш складаная, і каб сустрэліся сусветы душ, часам патрэбны цэлыя жыцці. Вобразныя сродкі верша сціплыя, але пры такой арыгінальнай форме гэта тая мера, тая дастатковая вобразнасць, якая стварае гармонію літаратурнага твора. Асноўная метафара верша – графічная, сам ён будуецца на антытэзе: Сусвет зямны, дзе сонечна здаровы дух, дзе агонь, паветра, вада і мір ствараюць падмурак жыцця, супрацьпастаўляецца войнам, зямляне – варварам. Сэнс жыцця – у абароне, у тым, каб прагнаць заваёўнікаў за пустату, як мага далей, у іншыя завулкі сусветаў: эпітэт – *жывыя* (мы),

*сонечна здаровы* (дух), метафары – *ляжыць пустата*, *завулкі сусветаў*. А. Разанаў – сучасны аўтар-вынаходнік новых формаў – слушна сцвярджае, што "змест і форма ў творы не супадаюць, а ўзаемадзейнічаюць", "каб тэкст «запрацаваў», неабходна надаць яму такое становішча, такі нахіл, каб ён меў патрэбу ў руху, у развіцці, у выйсці" [Разанаў 2009: 15]. Я. Чыквін знаходзіць адпаведны нахіл для гукаў і лексем, і яны пачынаюць гаварыць, прычым інфармацыя яўная (экспліцытная) не меншая за імпліцытную (схаваную паміж радкоў). Глыбіня падтэксту не выклікае сумнення: уяўленне чытача ідзе далей, малюе падзеленыя часам і прасторай жыцці / лёсы мужчыны і жанчыны, бацькоў і дзяцей, сяброў, сваякоў... Каб душы (Сусветы) сустрэліся, трэба знайсці, адшукаць кропкі дотыкаў, каб шляхі перасякліся, трэба знайсці сцежкі да душ, да сэрцаў; і гэта незвычайная, няпростая – духоўная праца. Думкі, якія дапісвае чытач, вынікаюць не са зместу твора, а з яго формы, але, у любым выпадку, гэта тая імпліцытная інфармацыя, якая ўяўляе сабой падтэкст, які недаступны непасрэднаму назіранню, ён выслізвае пры першым прачытанні і пачынае праступаць праз зместава-фактуальную інфармацыю пры паўторным, неаднаразовым прачытанні [Гальперин 2006: 44]. З улікам сказанага можна сцвярджаць, што дадзены верш арыгінальнай структуры мае трохступеннае ўспрыманне: 1. Зрокавае асэнсаванне малюнка – формы верша, 2. Канструяванне слоў, у выніку чаго адбываецца паслядоўнае аднаўленне фактаў, паслядоўнасць падзей у змесце тэксту, 3. Аналіз аўтарскага і магчымага чытацкага падтэкстаў як выніковы этап сатворчасці дыялогу аўтара і чытача, можна сказаць, – размова сусветаў.

Такім чынам, паэтычнае маўленне Я Чыквіна – цэласная сістэма, складнікі якой узаемадзейнічаюць, выяўляюць адметнасць аўтарскіх асацыяцый і ў кантэксце кожнага твора ствараюць арыгінальныя вобразы на лексічным, фанетычным, графічным і інш. узроўнях. Відавочна, што гармонія вынікае таксама з адпаведнасці формы і зместу. Правёўшы лінгвістычнае апісанне прадуктыўных тропаў, арыгінальных вобразаў ідыястылю паэта, можна адказаць на эпіграф-пытанне: паэзія, шчырая, эстэтычна вартасная, што ўласціва і прааналізаваным тэкстам, з'яўляецца пазачасавай, вечнай, зразумелай розным пакаленням чытачоў розных краін.

## Бібліяграфія

Gal'perin Il'â. 2006. *Tekst kak ob"ekt lingvističeskogo issledovaniâ*. Izd. 4-e, stereotipnoe Moskva: KomKniga [Гальперин Илья. 2006. *Текст как объект лингвистического исследования.* Изд. 4-е, стереотипное. Москва: КомКнига].

Kajda Lûdmila. 2005. *Stilistika teksta: ot teorii – k dekodirovaniû: učeb. posobie* 2-e izd., ispr. Moskva: Flinta: Nauka [Кайда Людмила. 2005 *Стилистика текста: от теории – к декодированию*: учеб. пособие 2-е изд., испр. Москва: Флинта: Наука].

Moskvin Vasilij. 2006. *Stilistika russkogo âzyka. Teoretičeskij kurs*. Izd. 4-e, pererab. i dop. Rostov n/D.: Feniks [Москвин Василий. 2006. *Стилистика русского языка. Теоретический курс*. Изд. 4-е, перераб. и доп. Ростов н/Д.: Феникс].

Pìsarènka Alena. 2018 *Gukavaâ garmonìâ DAŽDŽU Alesâ Razanava ì RÈŠATA Âna Čykvìna*. U: *Actual problems of the theory and practice of philologikal researches: materials of the VIII international scientific conference on March 25–26*, 2018. Prague: Vedecko vydavatelske centrum «Sociosfera CZ» [Пісарэнка Алена. 2018. *Гукавая гармонія ДАЖДЖУ Алеся Разанава і РЭШАТА Яна Чыквіна*. У: *Actual problems of the theory and practice of philologikal researches: materials of the VIII international scientific conference on March 25–26, 2018*. Prague: Vedecko vydavatelske centrum «Sociosfera CZ»].

Pìsarènka Alena. 2013. *Supastaŭlâl'nae stylìstyčnae dèkadzìravanne veršaŭ Rygora Baradulìna AL'BOMNAE ì Âna Čykvìna FLÌRTUS'*. U: *Belaruska-ruska-pol'skae supastaŭlâl'nae movaznaŭstva ì lìtaraturaznaŭstva, kul'turalogìâ: zb. navuk. artykulaŭ*, pad rèd. G. Mezenka. Vìcebsk: VDU [Пісарэнка Алена. 2013. *Супастаўляльнае стылістычнае дэкадзіраванне вершаў Рыгора Барадуліна АЛЬБОМНАЕ і Яна Чыквіна ФЛІРТУСЬ*. У: *Беларуска-руска-польскае супастаўляльнае мовазнаўства і літаратуразнаўства, культуралогія: зб. навук. артыкулаў*, пад рэд. Г. Мезенка. Віцебск: ВДУ].

Pìsarènka Alena. 2017. *Fìlalagìčny analìz mastackaga tèkstu: vučèb. dapam*. Mìnsk: Narodnaâ asveta [Пісарэнка Алена. 2017. *Філалагічны аналіз мастацкага тэксту: вучэб. дапам.* Мінск: Народная асвета].

Razanaŭ Ales'. 2009. *Suma nemagčymascâŭ: znomy*. Mìnsk: Ì. P. Logvìnaŭ [Разанаў Алесь. 2009. *Сума немагчымасцяў: зномы*. Мінск: І. П. Логвінаў].

Romanova Natal'â. 2006. *Stilistika i stili: učebnoe posobie; slovar'*. Moskva: Flinta: MPSI [Романова Наталья. 2006. *Стилистика и стили: учебное пособие; словарь*. Москва: Флинта: МПСИ].

Staryčonak Vasil'. 2017. *Mnagaznačnasc' slova ŭ belaruskaj move*. U 3-h kn. Kn. 1. *Asnoŭnyâ typy polìsemìì, kìrunkì semantyčnaj dèryvacyì*. Mìnsk: Kolorgrad] [Старычонак Васіль. 2017. *Мнагазначнасць слова ў беларускай мове*. У 3-х кн. Кн. 1. *Асноўныя тыпы полісеміі, кірункі семантычнай дэрывацыі*. Мінск: Колорград].

Zarembo Lûdmila. 2017. *Ob "èksperimental'nom" stihotvorenii Âna Čikvina RAZMOVA... ...SUSVETAŬ": idei vremeni i formy vremeni* [Зарембо Людмила. 2017. *Об «экспериментальном» стихотворении Яна Чиквина РАЗМОВА... ...СУСВЕТАЎ: идеи времени и формы времени*] [online] https://repozytorium.uwb.edu.pl/jspui/bitstream/11320/6374/1/BB_9_2017_Л_Зарэмбо_Об_экспериментальном_стихотворении_Яна_Чиквина_Размова_сусветау.pdf [доступ: 17.08.2020].

**ABSTRACT:** The specific character of Yan Chikvin's poetic speech vividly manifests itself on the lexical and phonetic levels. The productive tropes he uses in the analyzed texts are the noun-and-verb type of metaphor and epithets characterized by structural and grammatical diversity and the author's vision. His fundamental stylistic method is euphony: the author manages to create original images with its help. In his poem Conversation of the Universes, the poet turns to the means of graphic expression: the graphic image acquires semantic content and makes its way to the reader – when vowels and consonants are superimposed on one another and words are formed, a dialogue between the Universes takes place. Yan Chikvin's poetic speech is an integral holistic system, with its components interacting with each other, demonstrating the uniqueness of the author's associations, and, as a result, transforming reality into a figurative artistic space.

**KEYWORDS:** Poetic speech, stylistic methods, metaphor, epithet, euphony, graphic image.

**STRESZCZENIE:** Specyfika języka poetyckiego Jana Czykwina wyraźnie występuje na poziomie leksykalnym i fonetycznym. W przebadanych tekstach produktywnymi środkami poetyckimi są metafory (rzeczownikowe i czasownikowe) oraz epitety, które charakteryzują się różnorodnością pod względem struktury, gramatyki i nasycone są treścią autorską. Środkiem kształtującym styl jest instrumentacja głoskowa, za pomocą której autor stwarza oryginalne obrazy. W wierszu *Rozmowa wszechświatów* poeta korzysta z graficznych środków wyrazu. Obraz graficzny napełnia się sensem i jest łatwiejszy w odbiorze przez czytelnika, gdy samogłoski i spółgłoski nakładają się na siebie, tworząc słowa. Wtedy między wszechświatami odbywa się dialog. Język poetycki J. Czykwina stanowi całościowy system, składniki którego wzajemnie na siebie oddziałują, wyrażają indywidualne skojarzenia autora, skutkiem czego jest przekształcenie rzeczywistości w poetycki obraz przestrzeni.

**WYRAZY KLUCZOWE:** język poetycki, środki kształtujące styl, metafora, epitet, instrumentacja głoskowa, obraz graficzny

**РЭЗЮМЭ**: Спецыфіка паэтычнага маўлення Я. Чыквіна выразна выяўляецца на лексічным і фанетычным узроўнях. Прадуктыўным тропам у прааналізаваных тэкстах з'яўляюцца метафара – назоўнікавая і дзеяслоўная разнавіднасць, а таксама эпітэт; ён характарызуецца структурна-граматычнай разнастайнасцю і аўтарскім зместам. Стылеўтваральным сродкам з'яўляецца гукапіс: з яго дапамогай аўтар стварае арыгінальныя вобразы. У вершы *Размова сусветаў* паэт звяртаецца да сродкаў графічнай выразнасці: графічны вобраз набудзе сэнсавае напаўненне і ўспрымецца чытачом, калі галосныя і зычныя гукі накладуцца адзін на другі і ўтворацца словы, тады паміж Сусветамі адбудзецца дыялог. Паэтычнае маўленне Я. Чыквіна – цэласная сістэма, складнікі якой узаемадзейнічаюць, дэманструюць адметнасць аўтарскіх асацыяцый і ў выніку рэчаіснасць ператвараецца ў вобразную мастацкую прастору.

**КЛЮЧАВЫЯ СЛОВЫ:** паэтычнае маўленне, стылеўтваральныя сродкі, метафара, эпітэт, гукавобраз, графічны вобраз.

**ACTA ALBARUTHENICA 20: 2020**
DOI: 10.32612/uw.18988091.2020.20.pp.239–253

**Марына Свістунова / Maryna Svistunova**
Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт / Belarusian State University
ORCID: https://orcid.org/0000-0001-8856-9530
e-mail: svistunovami@bsu.by

# Да праблемы пераемнасці беларускай літаратурнай мовы: лацінаграфічныя тэксты XVIII стагоддзя

*On the problem of continuity of the Belarusian literary language: Latin graphic texts of the XVIII century*

*Do problemu ciągłości białoruskiego języka literackiego: teksty XVIII wieku napisane alfabetem łacińskim*

## 1. Праблема пераемнасці беларускай мовы ў навуковай літаратуры

Да праблемы пераемнасці паміж старабеларускай і новай беларускай літаратурнай мовай айчынныя навукоўцы звярталіся не аднойчы і вырашалі яе па-рознаму. І калі на пачатку ХХ ст. Яўхім Карскі, Осіп Воўк-Левановіч, а пазней – Кандрат Крапіва, Аркадзь Жураўскі, Іван Крамко, Леў Шакун і інш. сцвярджалі наяўнасць перарыву пісьмовай традыцыі і, адпаведна, адсутнасць пераемнасці, то Уладзімір Анічэнка і Арцём Баханькоў адзначалі бесперапыннасць і эвалюцыйны характар гэтага працэсу. Агульнапрыняты погляд на праблему, падмацаваны аўтарытэтам вядучых у гэтай галіне навукоўцаў, доўгі час не падлягаў перагляду і нават крытычнаму аналізу. Аднак развіццё ўласна гістарычнай навукі, стварэнне і прыманне канцэпцыі шматмоўнай літаратуры Беларусі, больш грунтоўнае вывучэнне існуючых, а таксама выяўленне невядомых у савецкім гістарычным моваэнаўстве помнікаў пісьменства вельмі павольна, але вядуць да неабходнасці перагляду або, як мінімум, верыфікацыі традыцыйнага вырашэння гэтай праблемы. У апошнія дзесяцігоддзі Ірына Будзько, Ірына Гапоненка, Ганна Кулеш, Валянціна Мароз, Святлана Струкава, Галіна Ціванова і інш. непасрэдна ці ўскосным чынам у сваіх публікацыях разглядалі існуючыя і выказвалі ўласныя меркаванні адносна таго, быў ці не перарыў у пісьмовай традыцыі беларускай мовы, прымаючы пад увагу пры гэтым розныя аспекты яе рэалізацыі ў дыяпазоне ад літаратурных стыляў і жанраў да народна-гутарковага і дыялектнага маўлення.

Асобна трэба адзначыць актыўную навуковую дзейнасць у апошняе дзесяцігоддзе ў межах акрэсленай праблематыкі польскай даследчыцы Яанны Геткі, аўтара артыкулаў *U progu modernizacji. Ruskojęzyczne drukarstwo bazyliańskie XVIII wieku* (2017), *Ruskojęzyczne wydania drukarni supraskiej o charakterze religijnym (XVIII wiek) – pominięty element w badaniach nad historią kultury białoruskiej* (2018), *Белорусский язык XVIII в. – исследовательские постулаты* (2018) і інш. [Getka 2017; Getka 2018; Гетка 2018]. Нават апярэджваючы многім беларускае гістарычнае мовазнаўства, Я. Гетка спрабуе аргументаваць адсутнасць перарыву ў пісьмовай традыцыі беларускай мовы, абапіраючыся на найбольш кансерватыўны ў справе адлюстравання рыс жывой народнай гаворкі стыль – рэлігійны. Яшчэ раней гісторык Юры Гардзееў адзначыў і апісаў беларускі ўплыў на польскую мову афіцыйна-справавога пісьменства XVIII ст. на прыкладзе канцылярскіх кніг Гародні [Гардзееў 2003; Gordziejew 2004a: 129–130; Gordziejew 2004b; Гардзееў 2007]. Абапіраючыся на аналіз мовы ананімнага сатырычнага твора 1642 г. (!), Марыля Хаўстовіч прапаноўвае “сцвердзіць пераемнасць паміж старой і новай беларускай літаратурнай мовамі, мовай статуту Вялікага Княства Літоўскага, мовай інтэрмедый і мовай Францішка Багушэвіча” [Хаўстовіч 2018: 279].

Вынікі і высновы даследаванняў, праведзеных названымі і іншымі польскімі калегамі, выступаюць каталізатарам і для беларускіх мовазнаўцаў.

Як справядліва заўважыла І. Гапоненка, “устанаўленне навуковых вывадаў па пытанні пераемнасці асабліва прынцыповым з’яўляецца для тых моў, якія зазналі неспрыяльнае ўмяшанне ў натуральныя эвалюцыйныя працэсы свайго развіцця” [Гапоненка 2010: 52]. І дададзім – мае выключна важнае значэнне не толькі для фарміравання канцэпцыі гісторыі беларускай мовы, але і – больш шырока – для стварэння беларускай нацыянальнай прасторы.

Праблема пераемнасці непарыўна звязана з праблемай перыядызацыі гісторыі беларускай літаратурнай мовы. Падзел на часавыя перыяды і вызначэнне іх храналагічных межаў у аспекце ўласна гісторыі, культуралогіі, гістарычнага літаратуразнаўства і мовазнаўства абапіраецца на розныя крытэрыі і факты, а таму не можа быць якасна і колькасна ідэнтычным. Аб’яднаныя наяўнасцю пісьмовай традыцыі і таму карэлятыўныя перыядызацыі гісторыі літаратурнай мовы і гісторыі літаратуры, у “беларускім” выпадку маюць шэраг прынцыповых разыходжанняў. Напрыклад, праблемы перарыву ў сучасным беларускім літаратуразнаўчым дыскурсе не існуе. Праілюструем гэтыя словы цытатамі з фундаментальнай працы *Гісторыя беларускай літаратуры XI–XIX стагоддзяў*:

> Пераход ад даўняй да новай літаратуры, заняпад старой сістэмы літаратурных жанраў і працэс фарміравання новай жанравай сістэмы, выпрацоўка новых мастацкіх прынцыпаў і творчых метадаў адбываліся на

> беларускіх землях вельмі марудна і расцягнуліся на стагоддзі. Той уздым і росквіт, тыя станоўчыя тэндэнцыі, што назіраліся ў літаратуры эпохі Рэнесансу і ранняга барока, у надзвычай неспрыяльных гістарычных умовах другой паловы XVII–XVIII ст. не атрымалі далейшага развіцця. Амаль пагалоўная паланізацыя адукаваных колаў тагачаснага грамадства Беларусі, адсутнасць сваёй дзяржавы моцна стрымлівалі працэс станаўлення нацыянальна-гістарычнай самасвядомасці беларускага народа і не спрыялі развіццю беларускамоўнай літаратурнай творчасці, якая ледзь цеплілася ў пераходны перыяд. Спатрэбілася яшчэ амаль цэлае XIX ст. складанага беларуска-польска-рускага ўзаемадзеяння ва ўмовах самадзяржаўнай Расійскай імперыі, цяжкай, самаахвярнай, сапраўды гераічнай працы пачынальнікаў, каб у рэшце рэшт дайсці да Беларусі і падрыхтаваць глебу для новага, нацыянальнага Адраджэння і для з'яўлення вялікай беларускай літаратуры XX ст. [*Гісторыя*… 2006, I: 14].
>
> **Літаратура позняга барока.** Беларуская літаратура другой паловы XVII – першай паловы XVIII ст. мела пераходны характар [*Гісторыя*… 2006, I: 824]. У развіцці беларускай літаратуры пераходнага перыяду выразна выдзяляюцца два этапы. У другой палове XVII – першай трэці XVIII ст. яна развіваецца пераважна ў рэчышчы барока. З 30–60-х гадоў XVIII ст., у эпоху Асветніцтва, у беларускай літаратуры сталі праяўляцца класіцысцкія і (у меншай ступені) сентыментальныя тэндэнцыі [*Гісторыя*… 2006, I: 826].
>
> **Пачатак станаўлення новай літаратуры.** Беларуская літаратура другой паловы XVIII ст. у адрозненне ад папярэдняга перыяду была ўжо прынцыпова іншай. <…> Завяршаецца пераходнасць ад старой літаратуры да новай, пра гэта сведчаць лепшыя творы другой паловы XVIII ст. <…> Старабеларуская і лацінская моўныя традыцыі ўтрымліваліся ў беларускай літаратуры да сярэдзіны XVIII ст. Рост адраджэнскіх тэндэнцый уласна беларускай літаратуры супаў з распаўсюджаннем польскай пісьмовай традыцыі. Адрыў беларускага пісьменства ад беларускай (часта сімбіёзу стараславянскай і беларускай) кніжнай мовы і зварот да народна-гутарковых пластоў здзяйсняўся перш за ўсё (як дапускала эстэтыка класіцызму) у "нізкіх" жанрах. Білінгвальная традыцыя, якая склалася ў пераходны перыяд, не дала выпасці беларускаму слову з пісьмовай традыцыі і перайшла з XVIII у XIX ст. [*Гісторыя*… 2006, II: 8].

Як вынікае з прыведзеных выказванняў, XVIII ст. характарызуецца як перыяд "надзвычай неспрыяльных гістарычных умоў", падчас якога працэс развіцця беларускамоўнай літаратуры "ледзь цепліўся". Аднак, заўважым, што нават раздробленае і суаднесенае з рознымі перыядамі XVIII ст. тым не менш не выключаецца з перыядызацыі, як гэта часткова мае месца ў гісторыі беларускай літаратурнай мовы, а сам працэс развіцця беларускай літаратуры ўяўляецца эвалюцыйным, няхай сабе і значна замаруджаным у акрэслены перыяд. Больш за тое, у апошняй цытаце сцвярджаецца пэўная лагічнасць адрыву ад кніжнай і зварот да народна-гутарковай мовы і адсутнасць перарыву пісьмовай традыцыі.

Аналагічны прынятаму ў гэтым выданні падзел на перыяды і вызначэнне іх храналагічных межаў знаходзім і ў іншых сучасных выданнях па гісторыі беларускай літаратуры, дзе першая палова XVIII ст.

адносіцца яшчэ да перыяду старабеларускай, а другая палова XVIII ст. – да перыяду новай беларускай літаратуры.

Яшчэ адно прынцыповае адрозненне ўжо не паміж перыядызацыямі, але паміж самімі канцэпцыямі гісторыі беларускай літаратуры і гісторыі беларускай літаратурнай мовы палягае ў тым, што аб’ектамі першай цалкам натуральна выступаюць старажытныя творы, напісаныя не толькі на беларускай, але і на лацінскай, і на польскай мовах. Гэта дазваляе, у сваю чаргу, гаварыць пра шматмоўную літаратуру Беларусі як пра своеасаблівы культурны і літаратурны феномен. Да аб’ектаў жа гісторыі беларускай літаратурнай мовы бясспрэчна адносяцца тэксты, запісаныя кірыліцай, на перыферыі згадваюцца лацінаграфічныя тэксты[1] і зрэдку, у якасці экзатычнага элемента, – арабаграфічныя. Аднак, ролю і значэнне дадзеных тэкстаў нельга ацэньваць паводле колькасці, аб’ёму ці зместу напісанага і неабходна прызнаваць раўнапраўнымі аб’ектамі гісторыі беларускай літаратурнай мовы старажытнага перыяду, а само існаванне беларускай літаратурнай мовы ў розных графічных сістэмах – яе перманентнай характарыстыкай, нармальным станам, калі гаворка ідзе пра данацыянальныя перыяды.

Зыходзячы з актуальнасці і важнасці ўсяго вышэй адзначанага, у дадзеным артыкуле ўвага будзе засяроджана на даследаванні ролі лацінаграфічных тэкстаў XVIII ст. пры вырашэнні праблемы пераемнасці беларускай літаратурнай мовы.

### 2. Адсутнасць беларускамоўных пісьмовых сведчанняў XVIII ст.

Самым відавочным і моцным аргументам у абгрунтаванні наяўнасці перарыву ў пісьмовай традыцыі беларускай мовы з’яўляецца стэрэатыпнае меркаванне пра малалікасць як друкаваных, так і рукапісных помнікаў ад канца XVII і да пачатку XIX ст., пры гэтым XVIII ст. выглядае амаль цалкам запусцелым, праўда, **апошнім** друкаваным кірыліцай на старабеларускай мове творам прынята лічыць тэкст якраз першай чвэрці XVIII ст. – *Собраніе прыпадковъ краткое*… 1722 г. [*Гісторыя*… 1967, I: 356; Суша 2009: 108; Гетка 2018: 182] аўтарства супрасльскага архімандрыта (1709–1728) і грэка-каталіцкага мітрапаліта (1714–1728) Льва Кішкі. Большасць гісторыкаў мовы згодна, што **першым** творам на новай беларускай літаратурнай мове трэба лічыць *Камедыю* Каятана Марашэўскага 1787 г. [Жураўскі, Крамко 1973: 14; Анічэнка 1978: 52]. Такім чынам, 65 гадоў без пісьмовых сведчанняў на беларускай мове і сталі самым важным абгрунтаваннем існавання перарыву ў яе пісьмовай традыцыі і адсутнасці непасрэднай сувязі паміж

---

[1] Не можам пагадзіцца з выказаным Ганнай Жураўлёвай на старонках часопіса “Acta Albaruthenica” меркаваннем пра тое, што “асноўным алфавітам для беларускай мовы XVI–XVII стагоддзяў была лацінка” [Жураўлёва 2018: 254]. Патрабуе ўдакладнення і назіранне даследчыцы пра тое, што “ў XVIII стагоддзі ў некаторых творах на беларускай мове паралельна з лацінкай ужывалася кірыліца” [Жураўлёва 2018: 254].

двума суседнімі перыядамі – старабеларускай і перыядам новай беларускай літаратурнай мовы. Аднак такі падыход, нягледзячы на яго відавочную абгрунтаванасць, па сваёй сутнасці з'яўляецца вельмі фармальным і не ўлічвае асаблівасці функцыянавання беларускай мовы ў XVIII ст. і абумоўленае гэтым звужэнне сферы яе выкарыстання. Калі сучасная Няміга працякае пад горадам у жалезабетоннай трубе, то ці можам мы гаварыць, што яе няма?

Разам з тым існуюць і іншыя ацэнкі мовы названых “памежных” твораў. Так, Я. Гетка пра *Собраніе прыпадковъ краткое*… піша, што яго нельга разглядаць як адназначна беларускі твор і што ў такой самай пісьмовай традыцыі ў Супраслі былі надрукаваны і некаторыя больш познія творы 1759 і 1788 гг. [Гетка 2018: 182]. А аўтар дысертацыйнага даследавання *Асаблівасці мовы беларускай пісьменнасці XVIII стагоддзя* (1989) Г. Ціванова ў адным са сваіх пазнейшых артыкулаў выказваецца наступным чынам:

> нельга лічыць мову гэтых твораў [інтэрмедый XVIII ст. – *М. С.*] прыналежнасцю беларускай нацыянальнай мовы: беларуская нацыя сфарміравалася ў XIX ст. Нацыянальная мова – мова стандартная; яе нормы кадыфікаваныя. Разам з тым мова твораў XVIII ст. адрозніваецца ад старабеларускай, паколькі апошняя эвалюцыянавала ад кніжна-славянскай традыцыі ў бок жывой мовы, так і не наблізіўшыся да яе ўшчыльную. Лёс прапанаваў нашай мове варыянт рэвалюцыйнага развіцця. У гэтым сэнсе адмаўляць наяўнасць перарыву ў развіцці мовы немагчыма [Ціванова 2010: 62].

Менавіта XVIII ст. “стаіць на стыку старой і новай эпох”, а “творы новых літаратурных жанраў, якія нараджаліся ў гэты час, вобразна кажучы, можна лічыць перакідным мастом у новую беларускую літаратуру” [Шакун 1984: 174]. Аднак, нягледзячы на такую важную ў гістарычным плане ролю, XVIII ст. з’яўляецца найменш асэнсаваным і даследаваным перыядам у гісторыі беларускай мовы.

Як нам уяўляецца, дыяметральныя азначэнні ў адносінах да беларускай мовы твораў XVIII ст., роўна як і супрацьлеглыя погляды на праблему перарыву пісьмовай традыцыі ў суме з рознымі інтэрпрэтацыямі гэтых поглядаў узніклі з-за розных крытэрыяў, пакладзеных у аснову агульнай перыядызацыі беларускай літаратурнай мовы. На важнасць якасці такіх крытэрыяў указвае ў сваім артыкуле *Дыскусійныя праблемы перыядызацыі гісторыі беларускай літаратурнай мовы* (2019) прафесар Г. Кулеш: “Уяўленне аб развіцці літаратурнай мовы на працягу ўсёй гісторыі яе функцыянавання будзе дакладным толькі ў тым выпадку, калі яно сфарміруецца на дакладна пабудаванай схеме” [Кулеш 2019: 26]. Сама па сабе думка слушная і даўняя – аўтар названага артыкула згадвае, што “важнасць дастаткова абгрунтаваных прынцыпаў перыядызацыі падкрэсліваў Л. Шакун” [Кулеш 2019: 26].

Такім чынам, канстатуем існаванне тэзіса пра малалікасць помнікаў беларускага пісьменства XVIII ст., а таксама існаванне розных

інтэрпрэтацый значэння нешматлікіх наяўных ад гэтага часу твораў – інтэрпрэтацый, звязаных з рознымі крытэрыямі, пакладзенымі ў аснову перыядызацыі беларускай літаратурнай мовы.

### 3. Беларускамоўныя лацінаграфічныя тэксты XVIII ст.

Наступным лагічным ходам з'яўляецца верыфікацыя існуючага стэрэатыпнага меркавання пра малалікасць помнікаў беларускага пісьменства XVIII ст. Разумеючы глабальнасць і працаёмістасць дадзенай задачы, засяродзімся толькі на лацінаграфічных тэкстах, маючы на ўвазе пры гэтым, што акрамя іх існуюць яшчэ кірылічныя і арабаграфічныя. Уяўленне пра арабаграфічныя беларускамоўныя тэксты можна скласці, напрыклад, абапіраючыся на даследаванні М. Тарэлкі, А. Цітавец, а таксама на складзеныя імі каталогі [*Рукапісы татараў*… 2011; *Рукапісы татараў*… 2015]. У колькасных адносінах кірылічных тэкстаў XVIII ст., верагодна, менш, чым лацінаграфічных. Абапіраючыся на той факт, што Канкарданс беларускай мовы XIX ст. (2015) фіксуе 309 тэкстаў, напісаных / надрукаваных лацінкай, і 188 – кірыліцай [Канкарданс 2015], можна выказаць меркаванне, што тэндэнцыя да пашырэння лацінскай графічнай сістэмы для пісьмовай перадачы беларускага маўлення была актуальнай і ў папярэднім XVIII ст.

Адзначым, што выкарыстанне лацінаграфічнай сістэмы для перадачы славянскага маўлення на пісьме вядома яшчэ з VIII–IX стст. Так, створаная Кірылам і Мяфодзіем адметная славянская азбука прыйшла на замену чужой (грэчаскай) мове першых пісьмовых тэкстаў славян (надпісы балгарскіх уладароў канца VIII – першай паловы IX ст.) і спробам транслітараваць славянскае маўленне грэчаскім або лацінскім пісьмом (VIII–IX стст.) [Флоря 1997, I: 97–98].

Гаворачы пра беларускае лацінаграфічнае пісьменства старажытнай пары, часцей за ўсё ўзгадваюць творы, якія могуць быць аднесены да мастацкай літаратуры: а) інтэрмедыі і інтэрлюдыі пад умоўнымі назвамі (*Селянін у касцёле*, *Селянін на споведзі*, *Інтэрмедыя*, *Мужык і гарбар* і інш.) і вядомыя яшчэ з канца XVI ст. [Ціванова 1989: 29–30], росквіт якіх як жанру можна бачыць у п'есах *Камедыя* (1787) Каятана Марашэўскага і *Лекар па прымусу* (к. XVIII ст.) Міхала Цяцерскага; б) сатырычныя празаічныя творы *Ад Макарыя* і *Грамата, пісаная да Святога Пятра* (п. XVII ст.), *Сенька Налівайка*… (1642), *Прамова Мялешкі* (п. п. XVII ст.), *Ліст да Абуховіча* (1655), *Прамова русіна* (п. п. XVIII ст.), *Другая прамова Русіна аб нараджэнні Хрыста* (п. п. XVIII ст.); в) асобныя ананімныя рэлігійныя і свецкія вершы-песні і творы школьнага вершапісання. Другую значную частку старажытных беларускамоўных лацінаграфічных тэкстаў складаюць летапісныя творы: *Хроніка Быхаўца* (1542–1543 гг.), *Альшэўскі летапіс* (1550), а таксама *Хроніка Панцырнага і Аверкі*, *Магілёўская хроніка* (абедзве датуюцца XVII–XIX стст.). Нельга не ўзгадаць тут і пра знакаміты Моладаўскі звон 1583 г., надпіс

на якім зроблены лацінскай графікай (в. Моладава знаходзіцца ў Іванаўскім раёне Брэсцкай вобласці).

Заўважым, што ў публікацыях Георгія Галенчанкі, Сяргея Гараніна, Ігара Клімава, Дзяніса Лісейчыкава, Алены Рудэнка, Алены Сурковай, Алеся Сушы і іншых сучасных даследчыкаў можна знайсці звесткі і пра цікавыя ў межах акрэсленай тэмы беларускамоўныя творы.

Лічым, што ў дадзенай публікацыі мэтазгодна не паўтараць агульнавядомую інфармацыю, а засяродзіцца на малавядомых беларускамоўных лацінаграфічных творах і на тых, што няўдаўна ўведзены ў навуковы зварот.

**Літаратурныя творы**

У сакавіцкім нумары часопіса "Роднае слова" за гэты год апублікаваны надзвычай важны для нашай тэмы і праблемы артыкул Антона Францішка Брыля *Барунскія святочныя маналогі. Беларускія вершы сярэдзіны XVIII ст. у базыльянскім рукапісе* [Брыль 2020]. У артыкуле паведамляецца пра тры выяўленыя аўтарам у бібліятэцы Акадэміі навук Літвы імя Урублеўскіх рукапісы Нікадзіма Грыневіча, базыльянскага святара і выкладчыка рыторыкі ў Барунах. У адным томе сярод іншага змешчаны невялікія вершы 1751–1752 гадоў, запісаныя лацінкай, але з кірылічнымі загалоўкамі. Як адзначае аўтар, "мова многіх вершаў – выразна беларуская, хоць і з дамешкам паланізмаў і ўкраінізмаў" [Брыль 2020: 11]. Вершы ўяўляюць сабой камічныя маналогі стральца, селяніна, купца рыбы, кухты – і адначасова гэта – фрагменты, якія "мусілі быць часткаю каляднага прадстаўлення, дзе акцёры чаргавалі жартоўныя промовы-інтэрмедыі з тэматычнымі пабожнымі вершамі, напісанымі да свята" [Брыль 2020: 11].

Цікавыя звесткі трапіліся нам у *Описании рукописного отделения Виленской публичной библиотеки* (1906), дзе ў раздзеле III *Описание рукописных сборников на польском и латинском языках* пад № 13 значыцца *Сборник гимнов и песней религиозного содержания, так называемых kolęd на день Рождества Христова, на польском, латинском и русском языках*. У зборніку № 13 на с. 68 і 74 змешчаны "два (песнопения – *М. С.*) на белорусском наречии, писанные, впрочем, польскими буквами" [*Описаніе*… 1906: 105], а ў самім *Описании…* прыводзяцца цалкам тэксты гэтых калядак, праўда, ужо ў кірылічным запісе [*Описаніе*… 1906: 105–106]. На жаль, нічога не паведамляецца пра час стварэння зборніка; невядома нам і пра яго лёс. Атрыбуцыі гэтых твораў можа дапамагчы філалагічнае вывучэнне тэкстаў.

У 1760-х гг., прыкладна на дзесяцігоддзе пазней за *Барунскія святочныя маналогі*, узніклі сатырычныя творы *Ukaz goraczy polkot rossyiskim…* і *Projekt … woysku Rossyiskomu…*, выяўленыя Адамам Мальдзісам у фондах Цэнтральнай бібліятэкі АН Літоўскай ССР і апісаныя ім яшчэ ў 1970-я гады. Аднак, як заўважае Вячаслаў Мартысюк, яны не былі

апублікаваны з-за дзвюх прычын: “Першая: яны ўтрымліваюць абсцэнізмы, а другая – маюць яўна антырасійскі характар” [Мартысюк 2016а: 307]. Зразумела, што з-за гэтых жа прычын творы фактычна так і не сталі аб’ектам навуковага даследавання.

Няпросты лёс напаткаў і верш пад назвай *Piesnia biełaruskich źaunierou* (1794), пра які ўпершыню загаварылі ў 1935 г. і арыгінал якога быў выяўлены таксама А. Мальдзісам у фондах Цэнтральнай бібліятэкі АН Літоўскай ССР на пачатку 1970-х гадоў. Аднак гэты верш мае ўжо не сатырычны, як папярэдне названыя, а востры палітычны характар і ўяўляе сабой “першы ў беларускай літаратуры непасрэдны заклік да народных мас узяць у рукі зброю, «косы ды янчаркі», каб самім вырашыць лёс Радзімы, «гордыя гнуць каркі» знешніх ворагаў і ўнутраных здраднікаў” [*Гісторыя*... 2006, II: 19]. Невыпадкова Анатоль Трафімчык, які даследаваў *Piesniu*... і яе ролю ў літаратурным працэсе, называе гэты верш “індыкатарам беларускай мадэрнасці” [Трафімчык 2016].

Заўважым, што рэлігійнае і свецкае беларускамоўнае вершапісанне XVIII – пачатку XIX ст. наогул рэдка выступае (?) аб’ектам мовазнаўчага даследавання. Не ў апошнюю чаргу гэта звязана з тым, што ў літаратуразнаўчых крыніцах, як правіла, прыводзіцца адаптаваны, малапрыдатны для мовазнаўчага вывучэння тэкст, і нават не паведамляецца пра тое, кірыліцай ці лацінкай ён напісаны ў арыгінале (гл., напр. [*Гісторыя*... 1967, I: 416–421; *Гісторыя*... 2006, I] і інш.). Адным з нямногіх выключэннем з’яўляецца падрыхтаванае Алесем Бразгуновым выданне *Славянамоўная паэзія Вялікага Княства Літоўскага XVI–XVIII стст.* (2011), у якім змешчаны арыгінальныя тэксты старажытных твораў і іх пераклады на сучасную беларускую мову [*Славянамоўная паэзія*... 2011]. Цяжкадаступнасць арыгіналаў твораў, раскіданасць іх па розных зборніках і крыніцах вядуць да таго, што яны так і застаюцца на перыферыі навуковага даследавання. А мовазнаўчае вывучэнне твораў менавіта гэтых літаратурных жанраў магло б многае даць для высвятлення дынамікі працэсаў, што адбываліся ў тагачаснай беларускай літаратурнай мове на шляху яе станаўлення на народнагутарковай аснове і ў сувязі з папярэдняй пісьмовай традыцыяй.

### Афіцыйна-справавыя дакументы

Прафесар Ягелонскага ўніверсітэта ў Кракаве гісторык Юры Гардзееў, пішучы ў адной са сваіх прац пра XVIII ст., паведамляе:

> Не з’яўляецца сакрэтам факт, што ў канцылярыях таго часу старабеларускія тэксты XVI–XVIII стст. не перакладаліся на польскую, а **перапісваліся на мове арыгіналу лацінкай** (вылучана намі – *М. С.*). Гэта паказвае на тое, што пісары гарадскіх рад і лаў, земскіх і гродскіх судоў нароўні з польскай ведалі беларускую мову – чыталі і перапісвалі старабеларускія дакументы [Гардзееў 2007: 101].

Справядлівасць гэтага выказвання падмацоўвае, напрыклад, змест артыкула *Старабеларускія граматы XV ст. з Archiwum Głównego Akt*

*Dawnych у Варшаве* [Ліцкевіч 2009], аўтар якога, Алег Ліцкевіч, паведамляе пра 23 старабеларускія арыгінальныя дакументы і яшчэ адзін, вядомы ў некалькіх пазнейшых копіях. Якраз два варыянты копій граматы князя Аляксандра Уладзіміравіча касцёлу св. Міхаіла ў Слуцку (01.09.1444–28.02.1445, Кіеў) і захаваліся ў лацінаграфічных запісах 1696 і 1717 гг. [Ліцкевіч 2009: 13–15]. Пра першы варыянт копіі паведамляецца, што ў ім ёсць "шматлікія скажэнні, выкліканыя кепскім разуменнем кірылічнага пратографа" [Ліцкевіч 2009: 13].

Лацінская графіка для запісу старабеларускай мовы была выкарыстана ў выключна арыгінальным дакуменце, пра які паведаміў Д. Лісейчыкаў у артыкуле, змешчаным у зборніку "Архіварыус" (2016). Гаворка пра сфальсіфікаваную візітацыю ўніяцкай царквы ў в. Дзмітравічы Аршанскага павета. Візітацыя датавана 1621 г., але на самай справе, як лічыць і абгрунтавана даказвае Д. Лісейчыкаў, "найбольш верагодны час стварэння падробкі – другая палова 1760-х гадоў" [Лісейчыкаў 2016: 165 і інш.], яна была зроблена адміністратарам царквы Іосіфам Карніловічам [Лісейчыкаў 2016: 167 і інш.]. Візіта ўяўляе сабой транслітарацыю лацінкай з нібыта арыгінальнага кірылічнага дакумента [Лісейчыкаў 2016: 167]. Вельмі каштоўная для нашага даследавання наступная інфармацыя, змешчаная ў артыкуле Д. Лісейчыкава:

> Увагу таксама не мог не прыцягнуць той факт, што "візіту 1621 года" Іосіф Карніловіч стварыў на "рускай" (старабеларускай) мове. Гэта пры тым, што **да нашага часу не дайшло ніводнай візіты, складзенай "па-руску"** (вылучана намі – *М. С.*). Пачынаючы ад самага ранняга вядомага пісьмовага пратакола генеральнай візітацыі 1676 г. да канца XVIII ст., усе яны складаліся па-польску, і толькі ў часы Расійскай імперыі асобныя пратаколы генеральных візітацый на беларуска-літоўскіх землях складаліся на рускай (тут у значэнні *"расійскай"*) мове [Лісейчыкаў 2016: 170].

Такім чынам, гэты фальсіфікат – адзіны ў сваім родзе – сведчыць, што 1) па ўяўленнях фальсіфікатара візітацыі ў канцы XVI – на пачатку XVII ст. складаліся на старабеларускай мове; 2) у другой палове 1760-х гадоў пісаць лацінкай для фальсіфікатара было больш натуральна, чым кірыліцай; трэба мець на ўвазе і тое, што сфальсіфікаваная візітацыя падчас легалізацыі ў XVIII ст. выступала разам з іншымі датычнымі яе дакументамі, напісанымі па-польску.

Хочацца спадзявацца, што пералік гістарычных дакументаў ад канца XVII – XVIII і да пачатку XIX стст., напісаных па-беларуску лацінкай, якія трапілі ў поле ўвагі навукоўцаў нядаўна, у хуткім часе можна будзе працягнуць.

Да ліку дакументальных неабходна далучыць і літаратурныя адкрыцці, якія адносяцца, што праўда, да пачатку – першай паловы XIX ст. Так, вельмі цікавую і важную знаходку зрабіў у 2014 г. у аддзеле рукапісаў бібліятэкі князёў Чартарыйскіх у Кракаве Лявон Баршчэўскі. У архіўных матэрыялах князёў Друцкіх-Любецкіх са Шчучына яму пашчасціла знайсці запісаныя лацінкай па-беларуску самастойны твор

*Wiersz Ruski o Religii i Obyczajności* і верш *Jasno czerwony raczek po obłoku skacze…*, якія могуць быць датаваны другой паловай 1810 – 1824 гг., пра што аўтар знаходкі і Язэп Янушкевіч паведамілі ў сумеснай публікацыі 2016 г., змешчанай у 16-м томе "Acta Albaruthenica" [Баршчэўскі 2016: 316]. Усё гэта сведчыць пра тое, што ў шляхецкіх архівах могуць знаходзіцца і іншыя пакуль не адшуканыя беларускамоўныя сведчанні з папярэдняга XVIII ст.

У гэтым жа томе В. Мартысюк паведаміў і ўпершыню апублікаваў лацінаграфічны прывітальны верш пад назвай *Barys*, які датуецца першай паловай XIX ст. і знаходзіцца ў рукапісных зборах Яна Чачота ў Вільні [Мартысюк 2016b], а Мікола Хаўстовіч прааналізаваў і апублікаваў верш *Fantazya biało-ruska*, упершыню апублікаваны ў 1859 г. (а значыць, створаны раней) і шырока вядомы амаль дэтэктыўнай гісторыяй свайго ўваходжання ў навуковы і літаратурны дыскурс [Хаўстовіч 2016].

### Канфесійнае пісьменства

Ёсць падставы меркаваць, што раней невядомыя беларускамоўныя (найперш лацінаграфічныя) тэксты XVIII ст. будуць выяўленыя сярод пісьмовай спадчыны ўніяцкай царквы. І гэта могуць быць як дакументы, так і розныя зборнікі рэлігійнага зместу – разнародныя ў жанравых адносінах творы. Так, напрыклад, як асобны і абсалютна недаследаваны літаратурны жанр разглядаюцца апавяданні пра цудоўныя здарэнні (што адбываліся пры цудадзейных іконах) у выступленні Сяргея Гараніна на XVI Міжнародных кнігазнаўчых чытаннях, прымеркаваных да 500-годдзя Жыровіцкага манастыра і бібліятэкі [Гаранін 2020]. Цікавыя звесткі на гэты конт знаходзяцца таксама ў артыкуле Алеся Сушы, які выявіў у фондах Львоўскай нацыянальнай навуковай бібліятэкі Украіны імя В. Стэфаніка вялікі фрагмент трэцяй часткі гэтак званага Жыровіцкага рукапісу з такімі запісамі аб цудоўным ацаленні [Суша 2009].

### Высновы

Разважанні над характарам вядомых у сучаснасці беларускамоўных лацінаграфічных тэкстаў XVIII ст., акрамя спадзяванняў на новыя знаходкі, дазваляе выказаць абагульненні адносна наступных крытэрыяў:

**1. Прычыны стварэння.** Аўтары, якія валодалі польскай і беларускай мовамі, звярталіся да лацінаграфічнай сістэмы пісьма галоўным чынам з-за яе натуральнасці для іх, зручнасці выкарыстання для адукаванага чалавека, які засвоіў лацінаграфічнае і не засвоіў кірылічнае пісьмо. Уласная маўленчая практыка і арыентацыя на рэцыпіента вымагала ўжывання беларускай мовы, а існаваўшая на той час пісьмовая традыцыя спрыяла выкарыстанню агульнапашыранай і агульнавядомай лацінскай графікі.

**2. Мэты выкарыстання.** Тут неабходна гаварыць не столькі пра мэты выкарыстання лацінскай графікі для запісу беларускага маўлення (зразумела, што асноўная мэта – перадача беларускага маўлення), колькі пра сам факт звароту да яго запісу. Як нам бачыцца, асноўныя мэты такога звароту – парадыйна-стылістычная ў шэрагу вершаў, інтэрмедыях і інтэрлюдыях, а таксама – і гэта намнога больш важна! – уласна камунікатыўная і інспіратыўная ў асобных нешматлікіх творах, колькасць якіх будзе паступова ўзрастаць у XIX ст., што ў сваю чаргу забяспечыць пераход да якасна новага стану беларускай літаратуры і беларускай літаратурнай мовы.

**3. Пошукі новых крыніц.** Далейшае плённае даследаванне беларускай мовы XVIII ст. цяжка ўявіць без увядзення ў навуковы зварот раней невядомых або малавядомых тэкстаў. Іх пошукі не павінны абмяжоўвацца сферай мастацкай літаратуры і публіцыстыкі; да гэтага павінна быць прыцягнутая афіцыйна-справавое пісьменства, прадстаўленае – ці не найперш – дакументамі, якія адносяцца да дзейнасці ўніяцкай царквы: візітацыі, інвентары, кнігі запісаў, спісы прыхаджан і пад. Тое ж самае можна сказаць пра мемуарыстыку – асабістыя і сямейныя запісы, мемуары, дзённікі-дыярыушы, зборнікі “silva rerum”, салонныя альбомы і пад. могуць аказацца адной з тых крыніц, што дапамогуць узнавіць больш поўную карціну функцыянавання беларускай мовы ў XVIII ст. У працэсе напаўнення фактапагічнай базы варта зыходзіць з таго, што самастойны закончаны твор або дакумент на беларускай мове можна выявіць у складзе больш аб’ёмнага твора або дакумента на польскай мове.

У заключэнне можна зрабіць выснову аб тым, што ў сучасным навуковым дыскурсе праблемы, звязаныя з функцыянаваннем беларускай мовы на працягу XVIII ст., наяўнасцю перарыву ў яе літаратурна-пісьмовай традыцыі і пераемнасцю паміж старабеларускім перыядам і перыядам новай беларускай літаратурнай мовы павінны падвяргацца крытычнаму пераасэнсаванню, а таксама верыфікавацца з улікам раней невядомых або малавывучаных фактаў – беларускамоўных лацінаграфічных твораў XVIII ст., якія часткова запаўняюць “беспісьмовую” лакуну ў яе гісторыі.

## Бібліяграфія

Aničenko Vladimir. 1978. *Razvitie belorusskogo literaturnogo âzyka v XVIII v.* “Voprosy âzykoznaniâ” № 4: 47–57. [Аниченко Владимир. 1978. *Развитие белорусского литературного языка в XVIII в.* “Вопросы языкознания” № 4: 47–57].

Barščèŭskì Lâvon, Ânuškevìč Âzèp. 2016. *Dva novyâ tèksty belaruskaj lìtaratury XIX st.: Žanravaâ prynaležnasc', moŭnyâ asablìvascì, prablemy atrybucyì*. “Acta Albaruthenica” 16: 311–322. [Баршчэўскі Лявон, Янушкевіч Язэп. 2016. *Два новыя тэксты беларускай літаратуры XIX ст.: Жанравая прыналежнасць, моўныя асаблівасці, праблемы атрыбуцыі.* “Acta Albaruthenica” 16: 311–322].

Bryl' Anton Francìšak. 2020. *Barunskìâ svâtočnyâ manalogì. Belaruskìâ veršy sârèdzìny XVIII st. u bazyl'ânskìm rukapìse*. “Rodnae slova” № 3: 11–13. [Брыль Антон

Францішак. 2020. *Барунскія святочныя маналогі. Беларускія вершы сярэдзіны XVIII ст. у базыльянскім рукапісе*. "Роднае слова" № 3: 11–13].
Cìvanova Galìna. 2007. *Prablema peraemnascì pamìž starym ì novym belaruskìm pìs'menstvam*. U: *Mova – Lìtaratura – Kul'tura: Matèr. V mìžnar. navuk kanf. (da 80-goddzâ praf. L.M.Šakuna)* (16–17.11.2006). Mìnsk: Prava ì èkanomìka [Ціванова Галіна. 2007. *Праблема пераемнасці паміж старым і новым беларускім пісьменствам*. У: *Мова – Літаратура – Культура: Матэр. V міжнар. навук канф. (да 80-годдзя праф. Л.М. Шакуна)* (16–17.11.2006). Мінск: Права і эканоміка].
Cìvanova Galìna. 2010. *Vyrašènne A.Ì.Žuraŭskìm prablemy peraemnascì pamìž staroj ì novaj belaruskaj lìtaraturnaj movaj*. U: *Belaruskae slova: gìstoryâ ì sučasnasc': zb. artyk. pa matèr. navuk. čytannâŭ, prysv. pamâcì praf. A.Ì. Žuraŭskaga* (Mìnsk, 27.10.2009). Mìnsk: Prava ì èkanomìka [Ціванова Галіна. 2010. *Вырашэнне А.І. Жураўскім праблемы пераемнасці паміж старой і новай беларускай літаратурнай мовай*. У: *Беларускае слова: гісторыя і сучаснасць: зб. артык. па матэр. навук. чытанняў, прысв. памяці праф. А.І. Жураўскага* (Мінск, 27.10.2009). Мінск: Права і эканоміка].
Florâ Boris. 1997. *Vozniknovenie slavânskoj pis'mennosti*. V: *Istoriâ literatur zapadnyh i ûžnyh slavân v treh tomah*. Moskva: Indrik [Флоря Борис. 1997. *Возникновение славянской письменности*. В: *История литератур западных и южных славян в трех томах*. Москва: Индрик].
Gaponenka Ìryna. 2010. *Pytannì moŭnaj peraemnascì ŭ pracah belaruskìh ìŭkraìnskìh lìngvìstaŭ*. U: *Belaruskae slova: gìstoryâ ì sučasnasc': zb. artyk. pa matèr. navuk. čytannâŭ, prysveč. pamâcì praf. A.Ì. Žuraŭskaga* (Mìnsk, 27.10.2009). Mìnsk: Prava ì èkanomìka [Гапоненка Ірына. 2010. *Пытанні моўнай пераемнасці ў працах беларускіх і ўкраінскіх лінгвістаў*. У: *Беларускае слова: гісторыя і сучаснасць: зб. артык. па матэр. навук. чытанняў, прысвеч. памяці праф. А.І. Жураўскага* (Мінск, 27.10.2009). Мінск: Права і эканоміка].
Garanìn Sârgej. 2020. *Žyrovìckìâ kazannì ŭ kantèksce rèlìgìjnaj kul'tury staražytnaj Belarusì* [Гаранін Сяргей. 2020. *Жыровіцкія казанні ў кантэксце рэлігійнай культуры старажытнай Беларусі* [online] https://www.youtube.com/watch?v=bg4WrekmWOg&list=PL57KirTlkkGUVSrOrsvxdm60EgCLnAApv&index=6&t=316s [доступ: 19.05.2020]].
Gardzeeŭ Ûry. 2003. *Da moŭnaj prablematykì garadskìh knìg navačasnaj Goradnì*. "Belaruskì gìstaryčny aglâd" t. 10, sš. 1–2: 121–142 [Гардзееў Юры. 2003. *Да моўнай праблематыкі гарадскіх кніг навачаснай Горадні*. "Беларускі гістарычны агляд" т. 10, сш. 1–2: 121–142].
Gardzeeŭ Ûry. 2007. *Gìstoryâ belaruskaj movy ŭ 18 st. (krynìcaznaŭčy aspekt)*. U: *Mova – Lìtaratura – Kul'tura: Matèr. V mìžnar. navuk. kanf. (da 80-goddzâ praf. L.M. Šakuna)* (Mìnsk, 16–17.11.2006). Mìnsk: Prava ì èkanomìka [Гардзееў Юры. 2007. *Гісторыя беларускай мовы ў 18 ст. (крыніцазнаўчы аспект)*. У: *Мова – Літаратура – Культура: Матэр. V міжнар. навук. канф. (да 80-годдзя праф. Л.М. Шакуна)* (Мінск, 16–17.11.2006). Мінск: Права і эканоміка].
Getka Ioanna. 2018. *Belorusskij âzyk XVIII v. – issledovatel'skie postulaty*. "Studia Białorutenistyczne" 12: 177–190 [Гетка Иоанна. 2018. *Белорусский язык XVIII в. – исследовательские постулаты*. "Studia Białorutenistyczne" 12: 177–190].
Getka Joanna. 2017. *U progu modernizacji. Ruskojęzyczne drukarstwo bazyliańskie XVIII wieku*. Warszawa: Katedra Studiów Interkulturowych Europy Środkowo-Wschodniej.
Getka Joanna. 2018. *Ruskojęzyczne wydania drukarni supraskiej o charakterze religijnym (XVIII wiek) – pominięty element w badaniach nad historią kultury białoruskiej*. W: „Z Polskich Studiów Slawistycznych", seria 13, t. 1: 45–54.

*Gìstoryâ belaruskaj lìtaraturnaj movy u dvuh tamah.* 1967. Sklad. A.Ì. Žuraŭskì, Ì.Ì. Kramko, A.K. Ûrèvìč, A.Ì. Ânovìč. Mìnsk: Navuka ì tèhnìka. [*Гісторыя беларускай літаратурнай мовы ў двух тамах*. 1967. Склад. А.І. Жураўскі, І.І. Крамко, А.К. Юрэвіч, А.І. Яновіч. Мінск: Навука і тэхніка].

*Gìstoryâ belaruskaj lìtaratury XI–XIX stagoddzâŭ u dvuh tamah.* 2006. Red. U. Marhel', V. Čamârckì. Mìnsk: Belaruskaâ navuka [*Гісторыя беларускай літаратуры XI–XIX стагоддзяў у двух тамах.* 2007. Рэд. У. Мархель, В. Чамярцкі. Мінск: Беларуская навука].

Gordziejew Jerzy. 2004a. *Materiały źródłowe do dziejów Wielkiego Księstwa Litewskiego. Cz. 2. Z zagadnień skarbowości w dobie Stanisławowskiej*. "Rocznik Biblioteki Naukowej PAU i PAN w Krakowie", rok XLIX: 127–166.

Gordziejew Jerzy. 2004b. *Uwagi o białorusko-polskich kontaktach językowych w miastach Wielkiego Księstwa Litewskiego*. "Studia Slavica Hung." t. 49, nr. 3–4: 281–294.

Haŭstovìč Marylâ. 2018. *Seńko Nálewáyko pouczyćiełowi sáskiemu pouczenie o hreczyśie...: Starabelaruskaâ mova ŭ ezuìckaj satyry XVII st.* "Acta Albaruthenica" 18: 271–279 [Хаўстовіч Марыля. 2018. *Seńko Nálewáyko pouczyćiełowi sáskiemu pouczenie o hreczyśie...*: *Старабеларуская мова ў езуіцкай сатыры XVII ст.* "Acta Albaruthenica" 18: 271–279].

Haŭstovìč Mìkola. 2016. *Nevâdomy verš Âna Čačota?* "Acta Albaruthenica" 16: 335–338 [Хаўстовіч Мікола. 2016. *Невядомы верш Яна Чачота?* "Acta Albaruthenica" 16: 335–338].

*Kankardans belaruskaj movy XIX stagoddzâ*. 2015. Aŭtar-sklad. N.M. Sânkevìč [Èlektronny rèsurs]. Mìnsk: Belaruskaâ navuka [*Канкарданс беларускай мовы XIX стагоддзя.* 2015. Аўтар-склад. Н.М. Сянкевіч [Электронны рэсурс]. Мінск: Беларуская навука].

Kuleš Ganna. 2019. *Dyskusìjnyâ prablemy peryâdyzacyì gìstoryì belaruskaj lìtaraturnaj movy*. "Rodnae slova" № 8: 26–29 [Кулеш Ганна. 2019. *Дыскусійныя праблемы перыядызацыі гісторыі беларускай літаратурнай мовы*. "Роднае слова" № 8: 26–29].

Lìckevìč Aleg. 2009. *Starabelaruskìâ gramaty XV st. z Archiwum Głównego Akt Dawnych u Varšave*. U: "Zdabytkì: dakumental'nyâ pomnìkì na Belarusì" vyp. 11: 6–41 [Ліцкевіч Алег. 2009. *Старабеларускія граматы XV ст. з Archiwum Głównego Akt Dawnych у Варшаве*. У: "*Здабыткі: дакументальныя помнікі на Беларусі*" вып. 11: 6–41].

Lìsejčykaŭ Dzânìs. 2016. *"Poneże Swiaty Sobor Zamoyski krypko poweliwait…": sfal'sìfikavanaâ vìzìta carkvy ŭ v. Dzmìtravìčy Aršanskaga paveta Vâlìkaga Knâstva Lìtoŭskaga 1621 g.* "Arhìvaryus" vyp. 14: 158–174 [Лісейчыкаў Дзяніс. 2016. "*Poneże Swiaty Sobor Zamoyski krypko poweliwait…": сфальсіфікаваная візіта царквы ў в. Дзмітравічы Аршанскага павета Вялікага Княства Літоўскага 1621 г.* "Архіварыус" вып. 14: 158–174].

Martysûk Vâčaslaŭ. 2016a. *Dzve veršavanyâ satyry z XIII st.* "Acta Albaruthenica" 16: 307–309 [Мартысюк Вячаслаў. 2016a. *Дзве вершаваныя сатыры з XIII ст.* "Acta Albaruthenica" 16: 307–309].

Martysûk Vâčaslaŭ. 2016b. *Nedrukavany belaruskì vìnšaval'ny verš z peršaj palovy XIX stagoddzâ ŭ zborah Âna Čačota*. "Acta Albaruthenica" 16: 331–334 [Мартысюк Вячаслаў. 2016b. *Недрукаваны беларускі віншавальны верш з першай паловы XIX стагоддзя ў зборах Яна Чачота.* "Acta Albaruthenica" 16: 331–334].

*Opisanie rukopisnogo otdeleniâ Vilenskoj publičnoj biblioteki*. 1906. Vyp. 5, č. 2: 105–106 [*Описание рукописного отделения Виленской публичной библиотеки*. 1906. Вып. 5, ч. 2: 105–106].

*Rukapìsy tataraŭ Belarusì kanca XVII – pačatku XX st. z dzâržaŭnyh knìgazboraŭ kraìny*: *katalog*. 2011. Sklad. M. U. Tarèlka, A. Ì. Cìtavec. Mìnsk: Belaruskaâ navuka

[*Рукапісы татараў Беларусі канца XVII – пачатку XX ст. з дзяржаўных кнігазбораў краіны: каталог*. 2011. Склад. М. У. Тарэлка, А. І. Цітавец. Мінск: Беларуская навука].

*Rukapìsy tataraŭ Belarusì XVIII – pačatku XXI stagoddzâ z dzâržaŭnyh ì gramadskìh knìgazboraŭ kraìny: katalog*. 2015. Sklad. M.U.Tarèlka. Mìnsk: Belaruskaâ navuka [*Рукапісы татараў Беларусі XVIII – пачатку XXI стагоддзя з дзяржаўных і грамадскіх кнігазбораў краіны: каталог*. 2015. Склад. М.У.Тарэлка. Мінск: Беларуская навука].

Šakun Leŭ. 1984. *Gìstoryâ belaruskaj lìtaraturnaj movy*. Vyd-ne 2-e, peraprac. Mìnsk: Unìversìtèckae [Шакун Леў. 1984. *Гісторыя беларускай літаратурнай мовы.* Выд-не 2-е, перапрац. Мінск: Універсітэцкае].

*Slavânamoŭnaâ paèzìâ Vâlìkaga Knâstva Lìtoŭskaga XVI–XVIII stst.* 2011. Uklad. pradm. ì kament. A.U. Brazgunova. Mìnsk: Belaruskaâ navuka [*Славянамоўная паэзія Вялікага Княства Літоўскага XVI–XVIII стст.* 2011. Уклад. прадм. і камент. А.У. Бразгунова. Мінск: Беларуская навука].

Suša Ales'. 2009. *Lës kul'turnaj spadčyny grèka-katalìckaj carkvy ŭ Belarusì: novyâ znahodkì ŭ l'voŭskìh zborah*. U: “Zdabytkì: dakumental'nyâ pomnìkì na Belarusì” vyp. 11: 88–130 [Суша Алесь. 2009. *Лёс культурнай спадчыны грэка-каталіцкай царквы ў Беларусі: новыя знаходкі ў львоўскіх зборах*. У: “*Здабыткі: дакументальныя помнікі на Беларусі*” вып. 11: 88–130].

Tivanova Galina. 1989. *Osobennosti âzyka belorusskoj pis'mennosti XVIII veka: avtoref. dis. kand. filol. nauk.* Minsk [Тиванова Галина. 1989. *Особенности языка белорусской письменности XVIII века*: *автореф. дис. канд. филол. наук.* Минск].

Trafìmčyk Anatol'. 2016. *“Pesnâ belaruskìh žaŭneraŭ 1794 goda” âk ìndykatar zaradžènnâ madèrnaj belaruskascì: да 270-годдзя Тадэвуша Касцюшкі*. “Роднае слова” № 2: 73–77 [Трафімчык Анатоль. 2016. *“Песня беларускіх жаўнераў 1794 года” як індыкатар зараджэння мадэрнай беларускасці: да 270-годдзя Тадэвуша Касцюшкі*. “Роднае слова” № 2: 73–77].

Žuraŭlëva Ganna. 2018. *Užyvanne lacinskaga alfavitu ŭ sučasnaj belaruskaj move.* “Acta Albaruthenica” 18: 254–259 [Жураўлёва Ганна. 2018. *Ужыванне лацінскага алфавіту ў сучаснай беларускай мове.* “Acta Albaruthenica” 18: 254–259].

Žuraŭskì Arkadz', Kramko Ìvan. 1973. *Haraktar znešnìh uzaemaadnosìn belaruskaj lìtaraturnaj movy z ìnšymì slavânskìmì movamì ŭ pačatkovy peryâd âe farmìravannâ*. Mìnsk: Navuka ì tèhnìka [Жураўскі Аркадзь, Крамко Іван. 1973. *Характар знешніх узаемаадносін беларускай літаратурнай мовы з іншымі славянскімі мовамі ў пачатковы перыяд яе фарміравання*. Мінск: Навука і тэхніка].

**ABSTRACT:** The article is devoted to the problem of continuity between the old Belarusian period and the period of the new Belarusian literary language, as well as to Latin graphic texts of the 18th century. The most widespread opinion about the existence of a break in the written tradition of the Belarusian literary language was not the only one before, but now it is being critically analyzed. The article considers the linkages between the continuity of the Belarusian literary language and the problem of its periodization, the concept of Belarusian language history and the history of Belarusian literature. An attempt has been made to refute the stereotypical opinion about the small number of texts of the 18th century Belarusian literature by addressing the little known and recently discovered Latin graphic texts. Conclusions have been made concerning the reasons and aims of using the Latin graphic system for writing in the Belarusian language in the 18th century. An opinion concerning such research directions of the Belarusian texts of that time as memoirs, confessional and official writings has been given as well.

**KEYWORDS:** Belarusian language, periodization, continuity, Latin alphabet, 18th century.

**STRESZCZENIE:** Artykuł jest poświęcony problemowi ciągłości między okresem staro-białoruskim a okresem nowego białoruskiego języka literackiego. Szeroko rozpowszechniony pogląd o istnieniu przerwy w tradycji pisemnej w rozwoju białoruskiego języka literackiego nie był jedyny wcześniej, a teraź jest poddawany analizie krytycznej. Artykuł omawia związek między ciągłością białoruskiego języka literackiego a problemem jego periodyzacji, koncepcją historii języka białoruskiego i historii literatury białoruskiej. Podjęto próbę obalenia stereotypowej opinii o niewielkiej liczbie zabytków literatury białoruskiej XVIII wieku przez odwołanie do mało znanych i niedawno odnalezionych tekstów napisanych alfabetem łacińskim. Sformułowano wnioski na temat przyczyn i celów stosowania w języku białoruskim w XVIII wieku łacińskiego systemu graficznego, zwrócono również uwagę na potrzeby eksploracji ówczesnych tekstów białoruskich w takich obszarach, jak pamiętnikarstwo, piśmiennictwo religijne i urzędowe.

**SŁOWA KLUCZOWE:** język białoruski, periodyzacja, ciągłość, alfabet łaciński, XVIII wiek.

**РЭЗЮМЭ**: Артыкул прысвечаны праблеме пераемнасці паміж старабеларускай і новай беларускай літаратурнай мовай, а таксама лацінаграфічным тэкстам XVIII ст. Пашыранае меркаванне аб існаванні перарыву пісьмовай традыцыі ў развіцці беларускай літаратурнай мовы не было адзіным і раней, а ў сучаснасці падлягае крытычнаму аналізу. У артыкуле разглядаецца сувязь праблемы пераемнасці беларускай літаратурнай мовы з праблемай яе перыядызацыі, канцэпцыі гісторыі беларускай мовы і гісторыі беларускай літаратуры. Робіцца спроба абвергнуць стэрэатыпнае меркаванне пра малалікасць помнікаў беларускага пісьменства XVIII ст. праз апеляцыю да малавядомых і нядаўна адшуканых лацінаграфічных тэкстаў. Прыводзяцца высновы аб прычынах і мэтах выкарыстання ў XVIII ст. лацінскай графічнай сістэмы для пісьма па-беларуску, а таксама выказваюцца меркаванні адносна такіх напрамкаў для пошуку тагачасных беларускамоўных тэкстаў, як мемуарыстыка, канфесійнае і афіцыйна-справавое пісьменства.

**КЛЮЧАВЫЯ СЛОВЫ:** беларуская мова, перыядызацыя, пераемнасць, лацінская графіка, XVIII стагоддзе.

**ACTA ALBARUTHENICA 20: 2020**
DOI: 10.32612/uw.18988091.2020.20.pp.255–270

**Цімур Буйко / Tsimur Buiko**
Нацыянальная акадэмія навук Беларусі /
National Academy of Sciences of Belarus
ORCID: https://orcid.org/0000-0002-3560-0175
e-mail: tsimurbelarus@gmail.com

# Праславянская "грушавая" лексіка ў беларускай і польскай мовах

*Proto-Slavic "pear" vocabulary in Belarusian and Polish*
*Prasłowiańska leksyka "gruszowa" w języku białoruskim i polskim*

## Арэал распаўсюджання

Распаўсюджанне роднасных бел. *груша (ігруша)* лексем абмежавана балта-славянскім моўным арэалам. Сярод балцкіх адпаведнікаў трэба згадаць літ. *kriáušė* 'груша (дрэва і плод)' ('груша' ў *ЭССЯ*), *kráušė*, лат. *kraûsis* 'груша (дрэва і плод)' (дыял. *grauše*), прус. *crausy* 'груша (дрэва)' [SP 2001, VIII–8: 256; ЭССЯ 1980, VII–7: 156]. Разам з тым, паводле Уладзіміра Тапарова, літ. *kriáušė* запазычана з прускай мовы, а лат. дыял. *grauše* (куранізм) можа быць вынікам кантамінацыі [Топоров 1984, IV–4: 168–169]. Інакш кажучы, большая частка балцкіх намінацый грушы мае карані ў заходнебалцкім моўным арэале.

Сітуацыя са славянскімі назвамі выглядае наступным чынам. Згодна з *Этымалагічным слоўнікам славянскіх моў* (далей – *ЭССЯ*), кантынуанты прасл. *gruša з семантыкай 'груша' прадстаўлены ў заходне- (пол. *grusza*, чэш. рэдк. *hruše*, славац. *hruša*) і ўсходнеславянскіх мовах [ст.-рус., царк.-слав. (пры наяўнасці варыянта *хруша*), бел., укр., рус. *гру́ша*] [*ЭССЯ* 1980, VII–7: 156]. *Праславянскі слоўнік* (далей – *SP*) увогуле ўказвае на адсутнасць паўднёваславянскіх кантынуантаў прасл. **gruša*, але згадвае наступныя карэляты праславянскай лексемы са значэннем 'груша': заходнеславянскія [пол. (у тым ліку дыял.) *grusza*, чэш. *hruše*] і ўсходнеславянскія [ст.-рус., бел., укр. (у тым ліку дыял.), рус. *гру́ша*] [*SP* 2001, VIII–8: 255]. Разам з тым, у *Балгарскім этымалагічным слоўніку* маецца ўказанне на тое, што балг. *кру́ша* < прасл. **grušā / *krušā* [*БЕР* 1979, II–2: 31–32], але прасл. **grušā* падаецца тут выключна для ілюстрацыі варыятыўнасці ў анлаўце. Таксама нельга не звярнуць увагу на славен. *grûška* 'Pyrus communis' і некаторыя славенскія тапонімы (напр. *Grušova*) [Bezlaj 1977, I–1: 184], што сведчыць пра наяўнасць у мінулым прамога славенскага кантынуанта прасл. **gruša*, а значыць, прасл. **gruša* наяўная ва ўсіх трох славянскіх дыялектных зонах. Яшчэ адзін

важны момант, прадстаўлены ў *ЭССЯ*, заключаецца ў суаднясенні ст.-рус. *хруша* ‘груша’ менавіта з прасл. **gruša*, адкуль вынікае пытанне пра першасны анлаўт у праформе (падрабязней гл. ніжэй). Таму меркаванне Войцэха Смачыньскага і Веслава Борыся аб прасл. **gruša* як паўночнаславянскім феномене [Smoczyński 2007: 313; Boryś 2005: 182] не можа лічыцца дакладным.

Трэба дадаць, што і дэрыват **grušьka* захаваў у многіх сваіх кантынуантах семантыку прасл. **gruša* ‘груша’: гэта датычыцца заходне- (пол. *gruszka*, чэш., славац. *hruška*), паўднёва- (сербахарв. *hruška*, славен. *grȗška, hrȗška*, *hrúška*) і ўсходнеславянскіх (рус.-царк.-слав., укр. *грушка*, бел. *ігрушка*) адпаведнікаў, што ўсё-такі даказвае агульнаславянскі характар прасл. **gruša*.

Таксама звяртаюць на сябе ўвагу наступныя прыклады, прыведзеныя ў *ЭССЯ*: сербахарв. *гру́ша* ‘першае малако пасля ацёлу, малодзіва’ і славен. *grȕša* ‘буйны пясок, жвір’. У. Тапароў звязваў наяўнасць такіх прыкладаў у тым ліку з міграцыяй “культурных” слоў [Топоров 1984, IV–4: 170]. Трэба сказаць, што абодва яны ніяк не звязаны з назвай грушы. Славенская намінацыя, паводле Аляксандра Анікіна, родная прасл. **grušiti* ‘руйнаваць, разбіваць, драбіць’ [Аникин 2019, XII–12: 163–164]. Што да сербахарв. *гру́ша*, то дадзеная лексема можа быць звязана з ням. *Grütze* ‘крупы’, ‘каша’ (адкуль рус. смал., пск. *груца* ‘пярловыя крупы, страва з іх’; рус. смал. *грюца* ‘страва з грэчневых круп’ праз польскае пасярэдніцтва [Аникин 2019, XII–12: 161–162]) у выніку наступных семантычных пераходаў: ‘каша’ → ‘страва на малацэ’ → ‘малако’ → ‘першае малако пасля ацёлу, малодзіва’. Дарэчы, ням. *Grieß* ‘манныя крупы’, ‘буйны пясок, жвір’, роднаснае ням. *Grütze* (дакладней, ідэнтычнасць семантыкі), прымушае задумацца над правільнасцю сувязі славен. *grȕša* з прасл. **grušiti*.

Прасл. **kruša* ‘груша’, паводле *ЭССЯ*, адлюстравана ў паўднёва- (балг. *кру́ша*, макед. *круша*, сербахарв. стар. *kruša*), заходне- (пол. дыял. *krusza*, славін. *krëša*, н.-луж. *kšuša*) і ўсходнеславянскай (ст.-рус., рус.-царк.-слав. *круша*) дыялектнай зонах [*ЭССЯ* 1987, XIII–13: 47]. Што да *SP*, то тут прасл. **kruša* ў значэнні ‘груша’ таксама прадстаўлена прыкладамі з паўднёвай (сербахарв. стар. *kruša*, балг. *кру́ша*, мак. *круша*), заходняй (пол. дыял. *krusza*) і ўсходняй (ст.-рус. круша) дыялектных зон Славіі [*SP* 2001, VIII–8: 255; *СРЯ* XI–XVII 1981, VIII–8: 91–92].

Безумоўна, што карэляты прасл. **kruša* маюцца пераважна на поўдні славянскага моўнага кантынууму. Але ст.-рус., рус.-царк.-слав. *круша* ‘груша (плод і дрэва)’ тлумачацца кніжным уплывам, таму аб прысутнасці кантынуантаў прасл. **kruša* ва ўсходнеславянскай дыялектнай зоне гаварыць не даводзіцца. Таму, на першы погляд, большае права называцца агульнаславянскай назвай грушы мае прасл. **gruša*. Разам з тым, наяўнасць рэфлексаў прасл. **kruša* ў перыферыі славянскага

свету (славін. *krëša* 'груша', н.-луж. *kšuša* 'груша') не дазваляе выключаць тое, што дадзеная лексема з'яўляецца першапачатковай назвай грушы.

Кантынуанты адразу некалькіх дэрыватаў ад прасл. **kruša* маюць семантыку ўтваральнага слова 'груша': прасл. **krušica* (рус. *крушича*), прасл. **krušьka* (пол. *kruszka*, славін. *krãškă*, н.-луж. *kšuška*; сербахарв. *krȕška*, балг., мак. *крушка*) [*ЭССЯ* 1987, XIII–13: 48; *SP* 2001, VIII–8: 256]. Відавочна, што колькасць дэрыватаў ад прасл. **gruša* з семантыкай 'груша' значна меншая, але іх кантынуанты больш-менш раўнамерна размеркаваны па Славіі. Таму можна сказаць, што сетка дэрыватаў ад прасл. **kruša* развілася раней, чым у выпадку з прасл. **gruša*, а значыць, і прасл. **kruša* 'груша' паўстала, хутчэй за ўсё, раней.

Трэба звярнуць увагу яшчэ на тое, што тыя ж балцкія адпаведнікі фармальна адрозніваюцца паміж сабой пачатковым зычным. Але пры перавазе ініцыяльнага *k* у балцкіх формах лат. дыял. *grauše*, магчыма, з'яўляецца вынікам іншамоўнага ўплыву (*SP* адзначае ўсходнеславянскі ўплыў [*SP* 2001, VIII–8: 257]). Трэба ўлічыць пры гэтым указанне У. Тапарова на кантамінацыю (магчыма, куршскага і ўсходнеславянскага элементаў). Гэты факт таксама ўскосна сведчыць пра першаснасць **kruša*.

Цікава звярнуць увагу на распаўсюджанне семемы 'плод грушы', якая, відавочна, з'яўляецца другаснай. Дадзеная семема ўласціва толькі ўсходнеславянскім кантынуантам прасл. **gruša*, а таксама ўсходне- і паўднёваславянскім карэлятам прасл. **kruša*. Але, як гаварылася вышэй, усходнеславянскія адпаведнікі прасл. **kruša* маюць кніжнае паходжанне і, такім чынам, з'яўляюцца працягам паўднёваславянскіх. Тады ўзнікае пытанне: ці было значэнне прасл. **gruša* і **kruša* 'плод грушы' агульнаславянскай спадчынай, страчанай у заходнім дыялекце праславянскай мовы, або новаўвядзеннем на базе ўсходняга дыялекту? Гэтае пытанне, як і пытанне першаснага абазначэння плода грушы, патрабуюць ужо асобнага даследавання.

### Адносная храналогія формаў з ініцыяльнымі **g*, **k*, **x*

Абазначаная вышэй праблема варыятыўнасці ініцыяльных гукаў **g-* і **k-* размешчана ў розных плоскасцях. Па-першае, крыніца гэтай варыятыўнасці тлумачыцца па-рознаму. Па-другое, існуюць розныя версіі аб моўных працэсах, якія выклікалі варыятыўнасць.

З аднаго боку, гэта з'ява можа быць чыста славянская. У такім выпадку яна можа тлумачыцца адным з наступных фанетычных працэсаў: 1) санарызацыя спалучэння **kr-* у **gr-* паводле В. Смачыньскага [Smoczyński 2007: 313] (ці нерэгулярнае азванчэнне ў тэрміналогіі Вітольда Маньчака [Mańczak 2017: 60]); 2) міжскладовая асіміляцыя **k-* у лексеме **grušьka* і пераход у **krušьka* (версія Паўла Чарныха) [Черных 1999, I–1: 223–224]. Безумоўна, гэтыя тлумачэнні наўпрост залежаць ад пазіцыі навукоўцаў наконт адноснай храналогіі назваў грушы **gruša*

і **kruša*. Што праўда, другое тлумачэнне, хоць і выглядае праўдападобна з пункту гледжання фанетыкі, абапіраецца на дэрываты, а не іх прататыпы. Таму больш пераканаўчай выглядае версія азванчэння.

У сваю чаргу старaславянскія, руска-царкоўнаславянскія і старaрускія формы ўказваюць не на парную (**gruša* / **kruša*), а на трайную апазіцыю кантынуантаў (**gruša* / **kruša* / **xruša*). Пацвярджэннем гэтаму наяўнасць ст.-сл., рус.-царк.-слав., ст.-рус. *хруша* 'груша' [Miklosich 1862–1865: 1098; Старчевский 1899: 910; Срезневский 1912, III–3: 1408], хаця ў *ЭССЯ* дадзенае слова, як ужо было адзначана, з'яўляецца працягам прасл. **gruša*. Варта яшчэ заўважыць, што ў *Хроніцы* Георгія Амартала сустракаецца малазразумелая па паходжанні лексема *хуша* [*СРЯ* XI–XVII 1981, VIII–8: 91–92], дзе, магчыма, мае месца быць памылка (апіска) збіральніка ці перапісчыка. Указанне на трохчленную апазіцыю дае і *Słownik etymologiczny kaszubszczyzny* [*SEK* 1999, III–3: 93].

Каб зразумець паходжанне гэтай з'явы, варта прыгадаць падобную варыятыўнасць пры змене анлаўта, якая назіраецца, напрыклад, у гісторыі ўзнікнення пол. *grzbiet*. На думку В. Борыся, яна праходзіла наступным чынам: *chrzbiet* > *krzbiet* > *grzbiet*. Апошні варыянт паўстаў, паводле этымолага, пад уплывам асіміляцыі па звонкасці [Boryś 2005: 184]. Гэты аргумент яшчэ раз сведчыць пра магчымае азванчэнне **kr-* у лексеме **kruša*, але на фоне прасл. **xruša* яе першаснасць усё ж такі пад сумневам.

Тут трэба звярнуцца непасрэдна да карэлятаў прасл. **xrъbьtъ* (вылучэнне прасл. **grъbьtъ* пад пытаннем [*ЭССЯ* 1980, VII–7: 162]; *SP* указвае на другаснасць формы [*SP* 2001, VIII–8: 263]). Згодна з *ЭССЯ*, іх большыня захавала ініцыяльны *x*. Да варыянтаў на *k* належаць толькі некаторыя заходнеславянскія кантынуанты: в.-луж. *křebt* (*khribjet*), н.-луж. *kšebjat*, славін. *křìebjĕt* (*křìe̯pt*, *křebt*, *krzebt*) [ЭССЯ 1981, VIII–8: 107–108]. Прасл. **grъbьtъ* таксама адлюстравана толькі ў заходняй дыялектнай зоне: ст.-пол. *grzebiet*, *grzebt*, пол. *grzbiet*, палаб. *grėb'åt*, чэш. *hřbet* [*ЭССЯ* 1980, VII–7: 162]. Відавочна, што дадзеная сітуацыя рэзка адрозніваецца ад таго, што можна назіраць у выпадку з кантынуантамі **gruša* / **kruša* / **xruša*: гэта тычыцца як суадносін колькасці формаў з тым ці іншым анлаўтам, так і малаверагоднай наяўнасці дзвюх праформаў (пра сумневы наконт існавання прасл. **xruša* гл. ніжэй).

Падобныя заходнеславянскія рэфлексы **xr-* можна заўважыць у кантынуантах многіх праславянскіх лексем з палатальным *ŕ* (як **xrъbьtъ*). Значна радзей, але сустракаюцца яны і пры велярным **r* (як **xruša*): **xromiti* (в.-луж. *khromić*), **xromъ(jь)* (в.-луж. *khromy*), **xrǫdьna* (н.-луж. *kšuna*), **xrǫščь* (чэш. дыял. *křųść*), **xrupati (křoupati, křupati)* і г. д.

Такім чынам, меркаванне В. Борыся аб эвалюцыі *chrzbiet* > *krzbiet* > *grzbiet* магло б служыць ускосным доказам версіі В. Смачыньскага аб санарызацыі, калі першапачатковай была б форма **xruša*. Але пры ўліку аднаго толькі факту шырокага распаўсюджання кантынуантаў прасл.

**xrьbьtъ* на *xr-* першаснасць формы **xruša*, у выпадку з якой існуе адваротная сітуацыя, цалкам сумнеўная.

Ускосна гэта пацвярджаюць і трансфармацыі пачатковага зычнага ў назвах грушы, зафіксаваныя ў паўднёваславянскім дыялектным матэрыяле. Адбываліся наступныя фанетычныя пераходы: *kr* > *hr* (*hruška*; паўночна-заходнія харвацка-кайкаўскія гаворкі, Водзіцэ ў Харватыі) > *r* (*ruska*), а таксама *hr* > *fr* (*fruška*; Водзіцэ) [Skok 1972, II–2: 215–216]. Для славенскага матэрыялу таксама актуальны пераход *kr* > *hr*, які адбыўся ў мясцовых гаворках. Формы на *gr-* узніклі там пад уплывам рускай і чэшскай моў [Snoj 2016: 241].

З улікам лакальнасці гэтых пераходаў можна сцвярджаць, што на паўднёваславянскай тэрыторыі *xr-* з'яўляецца вынікам фанетычных змен (адсюль ст.-сл. *хриша* як варыянт лексемы, якая ўзыходзіць да прасл. **kruša*). Гэта, у сваю чаргу, пакуль гаворыць пра адсутнасць прасл. **xruša* ўвогуле. Іншамоўнае паходжанне формаў на *gr-* у славенскіх гаворках яшчэ раз даказвае пастуліраваную раней адсутнасць карэлятаў прасл. **gruša* ў паўднёваславянскай дыялектнай зоне.

З іншага боку, варыянтнасць можа быць прыўнесена дзякуючы магчымаму запазычанню назвы грушы (магчымыя крыніцы запазычвання гл. ніжэй).

### Скланенне на -*ā* і на зычны

Яшчэ адно пытанне паўстае, калі звярнуць увагу на такія фіксацыі, як ст.-сл. *хришва* ‘груша’ [Miklosich 1862–1865: 1098; Старчевский 1899: 910], славен. і сербахарв. дыял. *hrùšva* [Bańkowski 2000, I–1: 488–489]: да якога тыпу скланення першапачаткова належала назва грушы? Бо відавочна, што пашырэнне ў прыведзеным прыкладзе сведчыць пра скланенне на -*ū*. Калі ст.-сл. *хруша* ‘груша’ фіксуецца ў *Хроніцы* Георгія Амартала (перакладзена на старaславянскую мову ў XI ст.; Ф. Міклашыч не ўдакладніў спіс *Хронікі*), а ст.-рус. *хруша* ‘груша’ натуецца ў помніку 1193 г., то ст.-сл. *хрушва* ‘груша’ знойдзена ў глагалічным помніку (адзіныя звесткі – пазнака Ф. Міклашыча glag-saec.[1]).

Але пашырэнне асновы ўласціва не толькі форме з ініцыяльным **x*. Анджэй Банькоўскі падае рэканструкцыю **grušjy (*grušjъve) / *krušjy*, прыводзячы ў доказ в.-луж. *krušej, krušwa* і палаб. *grausói* [Bańkowski 2000, I–1: 488–489]. Багуміл Астроўскі і Францішак Слаўскі інтэрпрэтуюць назву грушы ў выглядзе **gruši / *kruši*. Наяўнасць першай праформы яны даказваюць з дапамогай палаб. *grausåi / grousåi* ‘плод грушы’, а другой – дзякуючы в.-луж. *krušej / krušeẃ* ‘плод грушы’ і сербахарв. чак. *krušva* / *krũšva* ‘плод грушы’. Але польскі тапонім *Kruszwica*, на

[1] Сімптаматычнай трэба лічыць адсутнасць намінацыі ў буйнейшым зборы старaславянскай лексікі X–XI стст., у якім занатавана лексіка з 12-ці найбольш старажытных глагалічных помнікаў гэтага часу: *Старославянский словарь* (по *рукописям X–XI веков*). Под ред. Р.М. Цетлин, Р. Вечерки и Э. Благовой. Москва: Русский язык, 1999.

думку даследчыкаў, указвае на большую тэрыторыю распаўсюджання лексем са скланеннем на зычны [*SP* 2001, VIII–8: 255]. Верагодна, ён узыходзіць да прасл. **krušьvica* (н.-луж. *kšušwica*, сербахарв. *кра̊швица*) [*ЭССЯ* 1987, XIII–13: 50]. *ЭССЯ*, маючы на ўвазе тыя ж палабскія лексемы (*groisåi* замест *grousåi*), а таксама палаб. *groisvă*, рэканструюе прасл. **gruši*, адзначаючы другаснасць формы са скланеннем на зычны [*ЭССЯ* 1980, VII–7: 157], і прасл. **kruši* [*ЭССЯ* 1987, XIII–13: 48].

На першы погляд, нешматлікі матэрыял, звязаны з формамі на -*ū*, наўрад ці дазваляе гаварыць пра іх першаснасць. Але аднесенасць прыведзеных лексем да перыферыі славянскага моўнага кантынууму можа ўскосна сведчыць аб большай старажытнасці **gruši* / **kruši* / **xruši* ў параўнанні з **gruša* / **kruša* / **xruša*. Тады адсутнасць даных пра формы са скланеннем на зычны на ўсходнеславянскай тэрыторыі можа гаварыць пра паступовае выцясненне гэтых формаў як архаічных яшчэ ў праславянскі перыяд.

### Версіі этымалогіі

Да праблем першаснасці пачатковага зычнага і тыпу асновы прымыкае пытанне этымалогіі назвы грушы. Яе вывядзенне складае асаблівую цяжкасць, бо пакуль не ўяўляецца магчымым дакладна вызначыць, з якой крыніцы яна патрапіла ў праславянскую мову. Ёсць сведчанне, што назва грушы магла быць запазычана апасродкавана [Bezlaj 1977, I–1: 184]. Існуе шэраг этымалагічных версій, заснаваных на праславянскай, індаеўрапейскай і нават неіндаеўрапейскай глебе, якія варта разгледзець у адпаведным парадку.

Сярод версій узнікнення лексемы **gruša* на праславянскай аснове найбольш распаўсюджаная, выказаная А. Трубачовым, гаворыць пра сувязь лексемы з дзеясловамі **grušiti*, **krušiti* 'драбіць, крышыць'. Тады першапачаткова назва грушы выглядала як **gruxja*. Сувязь даказвалася мяккасцю, крохкасцю плода грушы [ЭССЯ 1980, VII–7: 156]. Калі разглядаць варыянт А. Трубачова **gruxja* (< **gruxъ*), то навуковец у якасці доказу прыводзіў палаб. *grauk* 'грушавае дрэва' (< **grukъ* < **gruxъ*). Пры гэтым прасл. **gruxъ* далей не этымалагізуецца. Зрэшты, як справядліва адзначыў Ф. Слаўскі, адной палабскай намінацыі недастаткова для праславянскай рэканструкцыі [*SP* 2001, VIII–8: 253], таму пераход **gruxъ* > **gruxja* пакуль уяўляецца магчымым толькі тэарэтычна. Акрамя ўсяго, у дадзеным выпадку нельга выключаць і фактар народнай этымалогіі, на што, напрыклад, указваў У. Тапароў. Супраць версіі з **grušiti*, **krušiti* ўскосна сведчыць і той факт, што назвы некаторых культурных раслін у балцкіх і славянскіх мовах не маюць падобнай матывацыі [Топоров 1984, IV–4: 171–172].

Са сказанага вынікае пытанне аб прататыпе прасл. **š* у назве грушы. Здавалася б, пры наяўнасці афрыкаты ў літоўскім найменні *kriaušė* 'груша' недапушчальна выводзіць яе з фанетычных змен у праславянскай мове, але трэба звярнуць увагу на сібілянт на месцы

афрыкаты ў латышскай і прускай намінацыях. Гэтыя даныя ідэальна ўкладваюцца ў протабалцкі сібілянт **s* або афрыкату **š*. І першы, і другі варыянты адпавядаюць прасл. **s*, тады прасл. **š* < **s* у выніку фанетычных змен. Тут трэба звярнуць увагу на рэканструкцыю прасл. **grousja* / **krousja* [ЕСУМ 1982, I–1: 607] (**grousjā-* падаецца як індаеўрапеізм у значэнні 'крупчатая' [Шапошников 2010, I–1: 201]).

На праіндаеўрапейскае мінулае назвы паказваў Казімір Машыньскі. Ён узводзіў назву грушы да лексемы **oguša/* **aguša*. Яны ў сваю чаргу звязваліся з індаеўрапейскім коранем **ăg-* 'ядомы; плод, ягада' і шэрагам лексем, сярод якіх прасл. **(j)agoda*, **(j)agla*, літ. *úga* 'ягада, вішня', *úgis* '(малады) расток' [Moszyński 1957: 281–282]. Сяргей Нікалаеў сапраўды адзначае такі корань (варыянт **ōg-*) з семантыкай 'плод, корань' і прыводзіць праславянскі дэрыват **(j)agoda* [*Вавилонская башня*, online], але не падае ніякіх згадак пра грушу. Незразумелае ў дадзеным выпадку і паходжанне далейшага пашырэння *-r-* ў корані **ăg(r)-*.

У сваю чаргу Эрых Бернэкер выказваў дагэтуль папулярнае меркаванне аб тым, што праславянская лексема **gruša* з'яўляецца даўнім запазычаннем з нейкай усходняй мовы, магчыма, курдскай, дзе прадстаўлены лексемы *korêši*, *kurêši* [Berneker 1908–1913: 358]. Хаця выказваліся сумненні наконт наяўнасці такіх намінацый у курдскай мове [Черных 1999, I–1: 224], аднак адмысловы слоўнік фіксуе курд. *korêšî* 'невылечная хвароба' [Курдоев 1960: 448], што, зразумела, цалкам выключае курдскую крыніцу назвы *груша*. Даказваецца "ўсходняя" этымалогія і тым, што назвы некаторых пладовых дрэў маюць неіндаеўрапейскія карані [Mańczak 2017: 60]. У сваю чаргу, Павел Чарных сведчыў адваротнае: курдскае слова было само запазычана (магчыма, што і з рускай мовы) [Черных 1999, I–1: 224].

Версіі, заснаваныя на супастаўленні з і.-е. **ăg-* ці курд. *korêši*, *kurêši*, не могуць сведчыць пра іх сувязь са славянскай назвай грушы ў сувязі з адсутнасцю прамых доказаў такой роднаснасці. Пакуль не можа быць прынятай і версія ўзнікнення назвы грушы на праславянскім грунце, прапанаваная А. Трубачовым. Разам з тым, варта сказаць, што прататып прабалцкай і праславянскай назваў грушы павінен адпавядаць тром крытэрам: 1) ініцыяльнае **k*; 2) наяўнасць дыфтонга з нескладовым *u̯* (што вынікае з балцкіх формаў) і 3) сібілянта **s*.

**Праславянскія дэрываты**

У праславянскім фондзе існуе 7 лексем з коранем **gruš-*, звязаных з грушай (не беручы пад увагу варыянтаў з ініцыяльным **k-*). Толькі 3 з іх маюць кантынуанты ў беларускай і/ці польскай мове.

1) **gruša* / **kruša* (бел. *груша*, *ігруша*, пол. *grusza, krusza*)

Ст.-бел. *груша* 'груша, пладовае дрэва; плод грушавага дрэва' фіксуецца з XVI стагоддзя [*ГСБМ* 1986, VII–7: 184–185]. У дыялектах існуюць рознанаціскныя формы *гру́ша* і *груша́*. Першая сустракаецца ў бальшыні гаворак, а другая ўласціва Шчучынскаму, Мастоўскаму,

Ляхавіцкаму, Баранавіцкаму і Ганцавіцкаму раёнам [*СлПЗБ* 1979, I–1: 488]. Трэба адзначыць, што варыянтныя формы з націскам на флексіі ўласцівы і назвам іншых дэндронімаў, напр. *асі́на* / *асіна́*, *вольха* / *вальха́*, *лі́па* / *ліпа́*, *рабі́на* / *рабіна́* і г. д. Як і ў выпадку з варыянтамі назвы грушы, яны, як правіла, распаўсюджаны на захадзе Беларусі. Форма з пратэтычным *і-*, абумоўленым пачатковым збегам зычных, занатавана ў асноўным масіве гаворак і на Смаленшчыне [Кунцэвіч, Крывіцкі 2001: 17]. Што да сучаснай дэфініцыі бел. *груша* (*ігруша*), то, акрамя абазначэння дрэва і яго плода, існуе значэнне ‘выраб, які нагадвае плод гэтага дрэва [грушы – *Ц. Б.*]’ [Капылоў 2016: 200]. Гэтае пашырэнне семантычнага аб’ёму слова *груша* за кошт прыведзенага значэння сведчыць пра актуалізацыю вобраза грушы ў беларускамоўнай прасторы.

У польскай мове лексемы *grusza, krusza* ў значэнні ‘груша’, ‘грушавае дрэва’ фіксуюцца пазней, з XIX стагоддзя [Linde 1855, I–1: 136; Zdanowicz 1861, I–1: 377; *Warsz*. 1900, I–1: 923]. У такім выглядзе дэфініцыя слова *grusza* захоўваецца ў слоўніку Вітольда Дарашэўскага [Doroszewski 1960, II–2: 1333]. Тая самая сітуацыя прадстаўлена і ў дыялектах. Але электронны *Wielki słownik języka polskiego* падае шырэйшую семантыку слова *grusza*: акрамя таго, фіксуюцца значэнні ‘драўніна’, ‘плод’ (з пазнакай “кніжн.”) і ‘колер’ [*Wielki Słownik Języka Polskiego*, online]. Прычына позняй актуалізацыі польскіх лексем можа быць у тым, што да XIX ст. у значэнні ‘грушавае дрэва’ яны былі замешчаны намінацыямі *gruszka*, *kruszka* (пра якія гл. ніжэй). Пры ўліку гістарычных рэалій (знаходжанне Польшчы ў межах Расійскай імперыі) не выключаны ўплыў рус. *груша*. Важным фактам з’яўляецца выхад *krusza* з ужытку, што можа ўскосна ўказваць на архаічнасць гэтай лексемы. Што да пашырэння семантыкі *grusza*, то значэнне ‘плод’ магло паўстаць пад тым жа ўплывам рускай мовы ў другой палове XX ст., а абазначэннем колеру слова абавязана шырокаму развіццю вытворчасці з дрэва.

2) **grušьka* / **krušьka* (бел. *грушка*, *ігрушка*, пол. *gruszka*, *kruszka*)

У адрозненне ад *SP*, *ЭССЯ* падае толькі варыянт **krušьka*. Магчыма, гэтым падкрэсліваецца ўзнікненне *k*-суфіксальных дэрыватаў ужо на базе карэлятаў прасл. **gruša*.

Беларускі кантынуант *грушка* / *игрушка* ‘дэмінутыў ад груша’ ўпершыню занатаваны ў XVI стагоддзі [*ГСБМ* 1986, VII–7: 184–185]. Дыялекты падаюць больш шырокую семантыку: ‘груша’ (Столінскі, Жыткавіцкі раёны) [Клундук 2010: 56; *ТС* 1982, I–1: 230], ‘плод грушы’ (Столінскі раён) [Клундук 2010: 56], а таксама ‘пакаёвая кветка’ (Лельчыцкі раён) [Кучук, Малюк 2000: 30]. Прычым варыянт з прыстаўным *і-* прадстаўлены толькі на Магілёўшчыне і Міншчыне.

У польскай мове абодва варыянты ў значэнні ‘груша’ фіксуюцца ўпершыню даўно: *gruszka* – у XIV стагоддзі, *kruszka* – у XV стагоддзі [*SP* 2001, VIII–8: 256]. У XVI стагоддзі іхняя семантыка пашыраецца: маецца таксама абазначэнне ядомага плода грушы і назіраецца метафарычны перанос пры намінацыі кулона ў форме грушы. Акрамя таго, лексема

фіксуецца як кампанент назвы расліны *wycza gruszka* 'расліна Helianthus tuberosus, тапінамбур' [*SP* XVI 1974, VIII–8: 180–181]. Важна згадаць рускую назву тапінамбура *земляная груша*. Існуе некалькі версій яе матывацыі. Паводле адной версіі, праз падабенства клубняў расліны да пладоў грушы [SB, online]. Згодна з іншай версіяй, гаворка ідзе пра падабенства смаку [*Про ферму*, online].

У XIX стагоддзі семантыка намінацыі *gruszka* значна ўзбагачаецца: фіксуецца шэраг дадатковых "раслінных" значэнняў. Па-першае, гэта паслёнавыя расліны ('від паслёна', 'расліна Solanum melongena, баклажан', 'від бульбы') [Zdanowicz 1861, I–1: 377; *Warsz*. 1900, I–1: 923–924]. Па-другое, бабовая 'расліна Apios, апіёс' (мае корань у форме плода грушы) [Zdanowicz 1861, I–1: 377]. Па-трэцяе, адбыўся метафарычны перанос на прадметы паводле знешняга падабенства да плода грушы: завушніцу, гіру, элемент пакрою, цвёрдае ўтварэнне каля селязёнкі і гузак. Апошняя дэфініцыя магла паслужыць матывацыяй для значэння 'ўдар (асабліва ў галаву)' [*Warsz*. 1900, I–1: 923–924]. Разам з тым этымалагічна яна не звязана з грушай, пра што гл. ніжэй.

У XX стагоддзі В. Дарашэўскі сфармуляваў адно са значэнняў *gruszka* як 'прадмет, падобны паводле формы да плода грушы'. Акрамя таго, ён дадаў метафарычныя значэнні, прадыктаваныя сучаснасцю: 'скураны мяшок для баксёрскіх практыкаванняў, напоўнены валоссем', 'сталёвая ці драўляная калода для выраўнання сціснутых труб у буравой скважыне' [Doroszewski 1960, II–2: 1333]. Сюды належыць і словазлучэнне *gruszka żarowa* 'частка рухавіка ўнутранага згарання; звычайна мае форму блізкую да шарападобнай' [Doroszewski 1960, II–2: 1333].

Яшчэ ў XV стагоддзі фіксуецца назоўнік *kruszki* 'цялячыя кішкі' [Старчевский 1899: 408]. З XVI стагоддзя яна абазначае не кішкі, а брыжэйку, што прымацоўвае кішкі да задняй сценкі брушной поласці. Тут мы маем справу з запазычаннем з сярэдневерхненямецкай мовы слова *krœse*, *krœs* 'кішкі, брыжэйка, складкі брушыны' [*SP* 1966–1969, III–3: 183]. У XIX стагоддзі дадаецца і абазначэнне каровы, але са сказанага пра лексему *krusza* з тым жа значэннем вынікае, што яна не звязана з грушай.

У дыялектах варыянты *gruszka* і *kruszka* блізкія па семантычным аб'ёме. Акрамя дрэва, яны абазначаюць плод грушы. Што да варыянта *kruszka*, то назіраецца перанос назвы на іншую расліну паводле падабенства: пра гэта сведчыць кашуб. *krëška* 'разгалінаванае, сукаватае дрэва, асабліва карлікавая сасна, якая нагадвае грушу' [*SEK* 1999, III–3: 93]. У дадзеным выпадку маецца і метафарычны перанос на лямпачку, што таксама вынікае са знешняга падабенства да плода грушы.

Незвычайна шырокая семантычная дэрывацыя, якая назіраецца ў выпадку з пол. *gruszka*, *kruszka*, сведчыць пра сур'ёзную актуалізацыю грушы (у першую чаргу, плода грушы) у этналінгвістычнай свядомасці носьбітаў польскай мовы, у параўнанні з сітуацыяй у беларускай мове. Доказам гэтаму служаць шматлікія "раслінныя" найменні, характэрныя

і для беларускіх гаворак. Зрэшты, мадэль з *k*-суфіксацыяй распаўсюджана ў дыялектах пры ўтварэнні новых фітонімаў: пар. пол. *brzozka* 'пакаёвая расліна'; бел. *ліпка* 'герань', пол. *lipka* 'баркун', 'маруна', 'ваўчук', 'рутвіца'.

3) **grušica* / **krušica* (бел. *грушыца*, *ігрушыца*, пол. *gruszyca*)

Паралельна з **krušьka*, у адрозненне ад *SP*, *ЭССЯ* падае толькі варыянт **krušica*. Польскія адпаведнікі ў першым слоўніку адносяцца да лексемы **grušica*, у другім – да **krušica*. Разам з тым, у ніводным з двух слоўнікаў не падаюцца беларускія адпаведнікі. Гэтая блытаніна пры падачы моўнага матэрыялу прымушае сумнявацца ў наяўнасці аднаго з двух прапанаваных польскіх варыянтаў.

Беларускі кантынуант не фіксуецца ў помніках XIV–XVIII стагоддзяў. Адпаведны дыялектызм сустракаецца толькі ў Смаленскім раёне (*грушыца*) [РС 2001: 17] і, верагодна, Бранскай вобласці Расіі (*ігрушыца*) [Станкевіч 1989: 234]. У абодвух выпадках мы маем справу з дэмінутывамі ад *груша* (*ігруша*). Пры адсутнасці кантынуанта ў асноўным масіве беларускіх гаворак, а таксама ўкраінскага адпаведніка тут можна казаць пра рускі ўплыў (рус. цвяр. *грушица* 'памянш.-ласк. ад *груша*' [*SP* 2001, VIII–8: 256]), дзякуючы якому лексемы *грушыца* і *ігрушыца* захаваліся ў вышэйпазначаных гаворках.

Польскі адпаведнік *gruszyca* фіксуе толькі *Słownik polszczyzny XVI w.* у значэнні 'расліна Pyrola minor' [SP XVI 1974, VIII–8: 180–181]. Інакш расліна называецца малой грушанкай. Паходжанне назвы звязана з падабенствам лісця грушанкі да лісця грушы [ЕСУМ 1982, I–1: 607]. Далей сляды назвы знікаюць, і слоўнікі лексікі пазнейшых часоў адзначаюць лексему *gruszyczka* (*kruszyczka*), дзе, відавочна, утваральнай базай паслужыла *gruszyca* (незафіксаваная *kruszyca*). Менавіта яна валодае як знаёмым значэннем 'расліна Pyrola', так і "грушавымі" значэннямі ('груша', 'плод грушы'), якія, відаць, здаўна былі ўласцівы і слову *gruszyca*.

**Фразеалогія**

Устойлівыя адзінкі (фразеалагізмы, параўнанні, парэміі) з кампанентамі 'груша', 'грушавае дрэва' дазваляюць скласці комплекснае ўяўленне пра грушу ў этнакультурным рэчышчы. Груша як пладовае дрэва магло мець шэраг уласцівасцей, датычных яе абрадавага выкарыстання, а таксама сувязь з забаронамі. Але неабходна таксама прыглядзецца і да адметнасцей, якімі надзялялася груша ў народнай культуры беларусаў і палякаў.

Першым чынам варта прыгадаць вядомы беларускі фразеалагізм *грушы (грушкі) на вярбе* 'недарэчнасць, несусвеціца' [Лепешаў 2008, I–1: 328]. Ён уласцівы таксама польскай і ўкраінскай мовам: пол. *gruszki na wierzbie,* укр. *на вербі груші*. Паходжанне дадзенага фразеалагізма Іван Лепешаў тлумачыў толькі "плёнам народнай фантазіі" [Лепешаў, online]. Але калі гаворка ідзе пра вялікі арэал бытавання дадзенай

адзінкі, то няможна спасылацца на фактар народнай фантазіі, якая павінна базавацца на пэўных уяўленнях. З’яўленне саміх абсурдных формул кшталту *грушы (грушкі) на вярбе*, на думку Таццяны Агапкінай, тлумачыцца дуальнасцю ўяўлення пра вярбу як дрэва, што характарызуецца і даволі частым бясплоддзем, і адначасова актыўным ростам [Агапкина 2019: 191].

Як адзначае навуковец, “в ритуалах и магических практиках верба начинала играть ту роль, которая обычно отводилась плодовым деревьям” [Агапкина 2019: 187]. У прыватнасці, ва ўсходніх славян гэта праявілася ў традыцыі з’ядання вербных коцікаў у Вербную нядзелю. Таксама даследчыца звяртае ўвагу на кашубскае слова *v́eřba* ‘любое дрэва, асабліва пладовае’ [Агапкина 2019: 187]. Што праўда, у аспекце згаданых рытуалаў і практык Т. Агапкіна не падае сведчанняў канкрэтна пра грушу. Калі гаварыць пра сувязь семантыкі фразеалагізма з вышэйзгаданым тлумачэннем, то яна можа быць угледжана ў неактуальнасці падобнага кшталту практык.

Сюды ж, паводле Аліцыі Навакоўскай, адносіцца польскі фразеалагізм *objawiła się fajka na gruszy*. Выкарыстанне назвы грушы ў падобных адзінках тлумачыць “звычайнасць дрэва, якая палягчае расчытанне намеру адрасанта” (“pospolitość drzewa, ułatwiająca odczytanie intencji nadawcy”) [Nowakowska 2005: 106]. Але няясна, у чым палягае г. зв. “звычайнасць”. Магчыма, гаворка ідзе пра грушу як распаўсюджаны від пладовага дрэва ў Польшчы. Тады незразумелы выбар менавіта грушы. Трэба выказаць меркаванне, што калі тэзіс Т. Агапкінай пра дуальнасць уяўленняў пра вярбу ў выпадку з бел. *грушы (грушкі) на вярбе* і г. д. і мае месца быць, то толькі як дадатковы фактар. Асноўным жа чыннікам магло служыць знешняе падабенства – коціка вярбы да маленькага плода грушы (калі гаварыць пра бел. *грушы (грушкі) на вярбе* і пад.) ці падабенства плода грушы да трубкі дзякуючы свайму згібу (у дачыненні да пол. *objawiła się fajka na gruszy*) і г. д.

Беларускі фразеалагізм *уросшы як груша ў мяжу* ‘пра моцнае трыманне за якое-небудзь месца, прывязанасць да роднага куточка’ [Макіенка 2011: 121] мае свае вытокі ў традыцыі, згодна з якой груша служыла межавым знакам паміж суседнімі надзеламі. Напрыклад, палякі лічылі, што вялікая бяда чакае таго, хто ссячэ такую грушу. Маецца і польская фразеалагічная адзінка, звязаная з дадзенай традыцыяй – *procesować się o cień gruszy* ‘датычыць звады дробнай шляхты’. Наогул жа, “груша стала агульным сімвалам вёскі” [Nowakowska 2005: 105]. Пацвярджэннем гэтаму можа быць польскі фразеалагізм *wczasy pod gruszą*, адно са значэнняў якога – ‘адпачынак у вёсцы’ [*Wielki Słownik Języka Polskiego*, online].

Нягледзячы на пашану да грушы, у народнай традыцыі славян яна звязвалася і з д’яблам. Гэтае дрэва лічылася месцам знаходжання нячыстай сілы. Дадзеная сувязь адлюстравана ў такіх беларускіх параўнаннях, як *улюбіцца (утрэскацца) як чорт у сухую грушу* ‘пра чалавека,

які моцна закахаўся’, *прывязацца як чорт да старой ігрушы* ‘пра чалавека, які да нечага моцна прывязаўся, прывык’ [Макіенка 2011: 463]. Трэба зазначыць, што ў першым выпадку на месцы грушы можа выступаць і асіна, якая таксама з’яўляецца месцам д’ябла. У адным з параўнанняў нават падаецца тлумачэнне сувязі з д’яблам: *як чорт у сухую грушу: засуша, засуша, а тады і любіць* ‘пра жорсткае каханне некага’ [Макіенка 2011: 463].

Як бачым, у прадстаўленых прыкладах груша называецца сухой, старой, і гэтыя азначэнні таксама раскрываюць ідэю прысутнасці нечысці ў дадзеным дрэве. Трэба адзначыць, што ўяўленне пра сухую, старую грушу яшчэ захоўвае некаторую актуальнасць. У беларускай мастацкай літаратуры сустракаюцца такія азначэнні грушы, як *засохлая*, *старая* [Гаўрош 1998: 121]. Корпус беларускай мовы таксама падае намінацыі *сухая*, *старая* [*Беларускі N-корпус*, online]. Найменне *pół uschła* сустракаецца ў польскім корпусе [*Narodowy Korpus Języka Polskiego*, online].

У польскай фразеалогіі праз грушу раскрываецца і падабенства дзяцей да бацькоў: *jaka grusza, taka gruszka*; *jaka gruszka, taka juszka* (прыкладам той жа рыфмаванай парэміі можа служыць пол. *ni z gruszki ni z pietruszki* ‘раптам, неспадзявана і невядома чаму’ [*Wielki Słownik Języka Polskiego*, online]). Для параўнання згадаем беларускую прымаўку *яблык ад яблыні недалёка адкочваецца (падае)* (існуе польскі эквівалент). Зрэшты, палякі нярэдка ставяць побач вобразы грушы і яблыка. Калі няма паразумення паміж суразмоўцамі, яны кажуць: *ja o jabłkach, a on o gruszkach*.

Варта дадаць, што з пэўнай прычыны плод грушы цаніўся больш, чым яблык, што бачна на прыкладзе фразеалагізма *nie wszystkim gruszki, drugim jabłka*, а таксама парэміі *ktoś nie zasypia (zasypuje) gruszek w popiele* ‘нехта не застаецца бяздзейным у дадзенай сітуацыі і дзейнічае, не пакідаючы важныя справы, што патрабуюць вырашэння’ [*Wielki Słownik Języka Polskiego*, online]. Тым не менш, яго “значнасць” можа дэвальвіравацца, сведчаннем чаму пол. *czapka gruszek* ‘тое, што не мае чаканай вартасці, хаця ў дадзенай сітуацыі яе трэба было б чакаць’ [*Wielki Słownik Języka Polskiego*, online].

Сярод эпітэтаў грушы ў беларускай мастацкай літаратуры сустракаюцца і такія, як *стройная*, *танклявая*, *тонкая* [Гаўрош 1998: 121]. Уяўленне пра тонкую грушу ўласціва і палякам, што вынікае з параўнання *wysmukły jak grusza Maćkowa*. Праўда, у корпусе беларускай мовы на першыя 200 выпадкаў маецца адзіны эквівалент – *стройная* [*Беларускі N-корпус*, online], у польскім жа – ніводнага. Такім чынам, не даводзіцца казаць пра актуальнасць зграбнасці грушы ў этнічнай свядомасці палякаў.

Можна зазначыць малую актуальнасць такіх уяўленняў пра грушу, якія вынікаюць са знешніх характарыстык. Феномен вялікай распаўсю-

джанасці адзінак кшталту *грушы (грушкі) на вярбе* (прынамсі, у беларускім варыянце) крыецца, магчыма, у попыце на як мага большую мастацкую выразнасць устойлівых спалучэнняў як прыкладаў народнай творчасці і творчасці ўвогуле.

Нанова звяртаючыся да спецыфікі праславянскіх абазначэнняў грушы, трэба сцвердзіць першапачатковасць формаў **kruša* / **kruši* (**krušjy*). У пытанні пра спрадвечны характар асновы няма адназначнага рашэння, але больш верагодная архаічная форма са скланеннем на зычны. Беларускія і асабліва польскія кантынуанты праславянскай "грушавай" лексікі дэманструюць вялікую ролю лексіка-семантычнай дэрывацыі, што падкрэслівае трываласць моўнага вобраза грушы ў свядомасці носьбітаў моў. Этнакультурная значнасць гэтага вобраза праяўляецца ў многіх лексічных і фразеалагічных адзінках. У той час як беларуская мова валодае багаццем азначэнняў для грушы, польская мае вялікую фразеалагічную базу з кампанентамі 'груша', 'плод грушы'.

## Бібліяграфія


Agapkina Tat'âna. 2019. *Derev'â v slavânskoj narodnoj tradicii: Očerki*. Moskva: Indrik [Агапкина Татьяна. 2019. *Деревья в славянской народной традиции: Очерки*. Москва: Индрик].

Anikin Aleksandr. 2018. *Russkij ètimologičeskij slovar'*. Vyp. 12. Moskva: Institut russkogo âzyka im. V.V. Vinogradova; Novosibirsk: Institut filologii Sibirskogo Otdeleniâ RAN; Sankt-Peterburg: "Nestor-Istoriâ" [Аникин Александр. 2018. *Русский этимологический словарь*. Вып. 12. Москва: Институт русского языка им. В.В. Виноградова; Новосибирск: Институт филологии Сибирского отделения РАН; Санкт-Петербург: "Нестор-История"].

Bańkowski Andrzej. 2000. *Etymologiczny słownik języka polskiego*. T. 1. Warszawa: Wydawnictwo Naukowe PAN.

*Belaruskì N-korpus* [*Беларускі N-корпус*] [online] https://bnkorpus.info [доступ: 13.05.2020].

Berneker Erich. 1908–1913. *Slavisches etymologisches Wörterbuch*. Heidelberg: Carl Winter's Universitätsbuchhandlung.

Bezlaj France. 1977. *Etimološki slovar slovenskega jezika*. Knj. 1. Ljubljana: Mladinska knjiga.

*B"lgarski etimologičen rečnik*. T. 2. 1979. Red. V. Georgiev. Sofiâ: Izdatelstvo na B"lgarskata Akademiâ na Naukite [*Български етимологичен речник*. Т. 2. 1979. Ред. В. Георгиев. София: Издателство на Българската Академия на Науките].

Boryś Wiesław, Popowska-Taborska Hanna. 1999. *Słownik etymologiczny kaszubszczyzny*. T. 3. Warszawa: Slawistyczny Ośrodek Wydawniczy.

Boryś Wiesław. 2005. *Etymologiczny słownik języka polskiego*. Kraków: Wydawnictwo Literackie.

Černyh Pavel. 1999. *Istoriko-ètimologičeskij slovar' sovremennogo russkogo âzyka*. T. 1. Moskva: Russkij âzyk [Черных Павел. 1999. *Историко-этимологический словарь современного русского языка*. Т. 1. Москва: Русский язык].

*Ètimologičeskij slovar' slavânskih âzykov*. 1987. Vyp. 13. Red. O. Trubačëv. Moskva: Nauka [*Этимологический словарь славянских языков*. 1987. Вып. 13. Ред. О. Трубачёв. Москва: Наука].

